

✂ ✂ ✂

выдатнае асяроддзе для праверкі здольнасцяў маладога мастака. Таму мы, Сцяпан і я, прыехалі ў Маскву. Мы малявалі крэмль, стоячы пасярод Чырвонай плошчы. Малявалі сабор Базыля Бажаволка. Малявалі цэрквы без крыжоў і кляштары, перарobленыя ў склады. Мы малявалі і малявалі чужую Маскву, шукаючы сваё беларускае месца. Мы жылі побач са станцыяй метро "Сокал", у інтэрнаце мастацкай вучэльні графа Строганава. Таго Строганава, які адчыніў цэлую вучэльню для мастакоў, каб яны аздобілі храм Хрыста Выратавальніка. Мы ўставалі рана-рана, ішлі маляваць Маскву і вярталіся позна-позна. Два месяцы мы прамалявлі з раніцы да ночы. Мы знайшлі сваё беларускае месца ў Маскве. Дапамог нам гісторык Абэцэдарскі, аўтар танюткай кніжачкі "Беларусы ў Маскве". У той кніжцы распавядалася пра майстроў з Магілёва і Мсціслаўя, якія ў сямнаццатым стагоддзі збудавалі і аздобілі Круціцкае падвор'е. Малюючы Круціцкі церамок, я адчуў упэўненасць, вока набыло яснасць бачання, а рука пачала праводзіць дакладныя рысы і абрысы. Цяпер я ведаў, як трэба маляваць сваю беларускую адметную Маскву. Пасля малявання ў Круціцкім падвор'і нам стала лёгка і проста жыць ды працаваць не толькі ў Маскве, а і ў Расеі наогул.

**1994. Падзея і чорныя курткі**

Мы пілі. Ёсць падзеі, якія абавязкова трэба адзначаць. Мы пілі ўтрох: Сцяпан, Максім і я. Сядзелі на маленечкай кухні і пілі каньяк. Котка Буська была чацьвёртай, яна хлябтала малачко, але падзею не адзначала. У коткі быў кепскі настрой. Буська адчувала, што днямі яе аддадуць у іншы дом, бо Сцяпанава жонка нарадзіла дачку.



Немаўля і котка ў адной невялікай кватэры жыць не могуць, бо рызыкоўна. Сцёпа рызыкаваць не хацеў. Лёс Буські быў вырашаны. Мы пілі, віншавалі Сцёпу, напіліся і пасварыліся. Ёсць падзеі, калі цяжка не панапівацца. А ёсць яшчэ стан ап'янення, калі цяжка разысціся мірна. Сцяпан сказаў, што больш не будзе працаваць у маім выдавецтве, што ён, разам з Максімам, сыходзіць у іншую кнігагандлёвую структуру. Мне зрабілася кепска. Зрабілася кепска на душы, а не ў страўніку. Каб мне зрабілася кепска ў страўніку, было б лягчэй. Пэўна. Я мог бы сапсаваць свята, але не сапсаваў. Сышоў. Сыходзіў я з цяжкімі думкамі, бо Сцяпан з Максімам знеслі з нашага выдавецтва камерцыйную таямніцу. Яны знеслі сакрэт, як са старога амерыканскага дэтэктыва зрабіць новы рускі дэтэктыў, як усіх гэтых Хэметаў, Чандлераў і Стаўтаў перарабіць у Ганчаровых, Сакаловых і Вароніных. Я сыходзіў, а Максімка і Сцёпка глядзелі на маю спіну ў чорнай скураной куртцы. Такі быў тагачасны стыль: мужчыны хадзілі ў чорных скуранках. Жорсткі быў стыль, але мы не застрэлілі адзін аднога за камерцыйную таямніцу, якая прыносіла мільённыя прыбыткі кнігагандлю. Маглі пастраляцца, а не пастраляліся. Іншыя стралялі канкурэнтаў, такі быў тагачасны спосаб барацьбы за рынак. Мы пераждылі разрыў узаемаадносінаў мужна. Мы доўгі час не пілі разам. Потым пачалі здарацца новыя падзеі, якія трэба было адзначаць. Мы зноў разам пілі каньяк, са Сцяпанам, але без Максіма.

**2009-1986. Касцёл у Вілейцы**

Краіна ў нас невялікая, таленавітых людзей – мала, таму здольнаму чалавеку даводзіцца працаваць у некалькіх месцах. Бо і тое трэба зрабіць, і гэтае неабходна падтрымаць, і тут варта паспрыяць, і там… Цяжка жыць таленавітаму, бо яшчэ і крытыкі навокал лютуюць. Крытыкаў у нас процьма. Як ні зрабі, адразу пачуеш, што зрабіў не так, не з тым, не там і несвоечасова. Крытыкі раздражняюць, але не замінаюць, бо баязлівыя, як нізкарослыя сучкі. Тупні – і ўцякуць, пахаваюцца, як вожыкі ў мох. Апошнім часам крытыкі брэшуць на будынкі, што стаяць на рэстаўрацыі. Добра, што я своечасова сышоў з рэстаўрацыйных майстэрняў, а то б наслухаўся пра сябе зласлівага некампетэнтнага брэху. Перажываў бы за касцёл у Вілейцы. А так не перажываю. Чаму менавіта за касцёл у Вілейцы? А таму, што яго намерваліся аддаць мне. У далёкім 1986 годзе рэстаўратар Ракіцкі прапанаваў: “Давайце запросім Адамчыка і прапануем яму займацца рэстаўрацыяй касцёла ў Вілейцы!” Каб запрасілі, каб настойвалі, мне б цяжка было адмовіцца. Пэўна ж, я ўзяў бы аб'ект. Ёсць прапановы, ад якіх нельга адмаўляцца. І дваццаць пяць гадоў я б займаўся касцёлам у Вілейцы і слухаў бы брэх крытыкаў. Але мяне не запрасілі, бо рэстаўратар Залатуха сказаў рэстаўратару Ракіцкаму: “Можа, нам запрасіць не толькі Адамчыка, а запрасіць яго разам са Сцяпанам?” Нас не запрасілі. Нашы таленты рэстаўратараў так і не рэалізаваліся. Не шкадую ні кроплі, але касцёл у Вілейцы згадваю з вялікай цеплынёю. Касцёл у Вілейцы… Цуд!

**2010-1989. Ірка і амбіцыі**

Ірка – апантаная. За што ні возмецца, усё пачынае гарэць, палымнець і перагараць у яе руках. Я памятаю, як Ірка закахалася ў Сцёпу. Як яна тады ўсіх навокал заманала! Прывалачэ да нас у майстэрню літровы слоік з салатаю аліўе і прымушае з'есці. “Сцёпааа, мая бабуляяяааа рабіла салату выключна для цябе! Ты не мо-



жаш не пакаштаваць! Ты павінен з’есці ўсё! Ну хай табе Глёбусік дапаможаааа!” Мы елі салату, прыгатаваную бабуляю выключна для Сцёпы. Мы спадзяваліся, што Ірка хутка адчэпіцца. Яна не адчэплівалася. “Сцёпа, ды трахні ты Ірку! Можа, ёй не спадабаецца, як ты трахаешся, і яна нарэшце адчэпіцца!” – “А калі спадабаецца?” – “Ты зрабі так, мой мілы таварыш, каб ёй не спадабалася. Ты, Сцёпа, пастарайся. Ты пастарайся трахнуць Ірку так, каб ёй не спадабалася і каб яна ад цябе, ад мяне і ад усіх нас адчапілася!!!” Ці мая парада спрацавала, ці які іншы фактар падзейнічаў, але праз некаторы час Сцёпа сказаў, што Ірка зусім не ўмее трахацца. Ён гэта сказаў, і яна ад нас адляпілася. Божа, як нам стала добра, вольна і прасторна! Апантаная пераключылася на іншых мужыкоў... Цяпер Ірка суне свайго чарговага мужыка ў палітыку! Касіць не скасіць!!! Яна суне яго на пасаду прэзідэнта. Касіць-малаціць! А каб тады Сцёпе спадабалася трахацца з Іркаю? Гэта б Сцёпу зараз сунулі на прэзідэнтства? Малаціць не перамалаціць! Так атрымліваецца? Толькі ў Сцёпы такіх палітычных амбіцый няма. Салату з’есці? Так! Грошы пазычыць і пазыку не вярнуць? Ягоны стыль! А на прэзідэнтства ён бы не пайшоў. Ірка падбівала і падбівала б, але Сцёпа не пайшоў бы. Таму ў іх і не страхалася, і не зраслося…

**2011. Бла-бла-бла**

“Грант – ваша ўсё! І не трэба бла-бла-бла пра Беларусь”, – напісаў Уладзімір Сцяпан пра грантасмактальнікаў. Варта дадаць: і не трэба бла-бла-бла пра дэмакратыю і правы чалавека.

**2013-1980. Партрэты істотаў і з’яў**

Ён быў здатны намаляваць партрэт рыбіны, яна нібыта глыбока ўсярэдзіне ачалавечвалася, але знешняя форма заставалася падобнай да звычайнай соннай рыбіны. Чаратовыя таўкачыкі з іх шакаладнай аксамітнасцю пад ягонымі пэндзлямі гэтаксама набывалі рысы гуртавых партрэтаў. Аеравыя пёры на ягоных кардонах нагадвалі рамантыкаў паэтаў, якія чытаюць вершы вялікавокім русалкам. Светлаводнае, засланае легкадумным туманам возера ён пісаў тэмпераю на кардоне ў форме інтымнага партрэта. Зрабіць партрэт лёгкалётнай хмаркі для яго гэтаксама не ўяўляла аніякай цяжкасці. Ён пісаў партрэты беларускай прыроды, партрэты істотаў і з’яў такой жа ж лёгкай рукою, як і партрэты сваіх сяброў і любімых жанчын.






## ГЕРБЭРТ ЎЭЛС, ЗАСЛУЖАНЫ НАСТАЎНІК БССР

У старой, дабальшавіцкай яшчэ Расейскай імпэрыі – а большасьць з нас нашчадкі яе вернападданых – кожны заможны патэр фаміліяс лічыў сваім абавязкам запрашаць для дзяцей хатніх настаўнікаў з-за мяжы. Натуральна, ня толькі дзеля вывучэньня замежных моваў – хаця авалодаць мовамі такім чынам было, вядома ж, непараўнальна лягчэй, чым гадамі наведваючы інʼяз і здаючы іспыты змрочнай МарʼІваньне. Дзеткам прышчаплялася эўрапейская культура, перавагу якой падданыя імпэрыі адчувалі вельмі востра і няхай з уздыхам, але прызнавалі. Выхаваньне ж у малодшага пакаленьня патрыятызму ўскладалася на плечы дабрадушнага *papá*, барадатага папа і мілых бярозак. Але што такое бацька, поп і гэтыя panылыя бярозкі ў параўнаньні з бледным настаўнікам, нядаўнім рамантычным студыёзусам з Парыжу, Лёндану ці Бэрліну, які жыве пад бокам і нават сьнедае за адным сталом з табой! Менавіта ён, замежны настаўнік зь ягонымі кніжкамі, фармаваў у маленькіх падданых імпэрыі першыя ўяўленьні пра дарослае жыцьцё, пра чалавечыя каштоўнасьці і правілы прыстойнасьці, менавіта ён дэманстраваў атожылкам арыстакратаў, дзецям памешчыкаў і капіталістаў эўрапейскую мадэль сьвету, даваў ім першыя ўрокі таго, якім мусіць быць сучасны чалавек, першыя ўрокі паводзінаў, адэкватнага ўспрыманьня рэчаіснасьці і сябе ў ёй. І менавіта ён, гэты хатні "француз", спакваля пранікнуўшы ў кожны каменны дом, разбурыў урэшце анахранічную імпэрыю, а зусім ня нейкая купка рэвалюцынэраў, што загіпнатызавала ў 1917 статак мядзьведзяў пад назваю "народ".

Калі я чытаў пра гэтых замежнікаў, гэтых хатніх настаўнікаў канца XIX-пачатку XX стагодзьдзя, мяне заўжды апаноўвала зайздрасьць да іхных выхаванцаў. Пакуль я не зразумеў, што і мы, савецкія дзеці, мелі з пэўнага часу дома, у суседнім пакоі, такіх жа "пранцузаў". Іхныя імёны нам і цяпер лёгка ўспомніць. Аднаго зь іх звалі Гербэрт Уэлс.

Я вельмі сэнтымэнтальны чалавек, і словы "настаўніца першая мая" не выклікаюць у мяне нічога, апрача ўдзячнасьці і настальгіі па дзяцінстве. Аднак мне зразумела, што містар Уэлс паўплываў на маё выхаваньне значна больш за ўсіх настаўніц. Гэтаксама як містар Дойл, містар Стывэнсан, містар Скот, мусью Дзюма і Вэрн. Гербэрт Уэлс быў, аднак, самым строгім з гэтых пэдагогаў. Памятаеш яго? Гербэрт Уэлс, які дагэтуль жыве ў тым самым, зь дзяцінства знаёмым расейскім перакладзе, нібы настаўнік-замежнік у флігелі памешчыцкага дома. Гербэрт Уэлс, падданы імпэрыі, над якой не заходзіць сонца, і разнастайных вялікасьцяў: ад славутай каралевы Вікторыі да чарады Джорджаў і Эдуардаў... Нядаўна я сустрэў яго ў бібліятэцы; ён не пазнаў мяне. "Містар Уэлс!"

"– Гэта гіпноз... Вы, відаць, унушылі мне, што вас нельга ўбачыць...

– Лухта! – сказаў Голас.

– Толькі сёньня я прывёў неаспрэчныя доказы таго, што нябачнасьць...

– Плюньце на ўсе доказы, – перапыніў яго Голас."

Я наважыўся і запрасіў містара Уэлса ў госьці на дзень-другі – ён не адмовіўся.

Часам бывае вельмі сумна назіраць, як пісьменьнікі, якія калісьці лічыліся вельмі сур'ёзнымі, зь цягам часу трапляюць у разрад "літаратуры для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту". Нібыта яны неўпрыкмет зьдзяцініліся і нашчадкі адправілі іх дажываць у дом састарэлых. Так, містар Уэлс зь ягонымі "Нябачным чалавекам", "Машынай часу", "Востравам доктара Мора" і "Вайной сусьветаў" быў калісьці нашым фаварытам. Пры гэтым відавочна, што ні дзіцячым, ні падлеткавым пісьменьнікам назваць яго нельга. Ён не заляцаўся да нас, ён рабіў сваю справу, не апускаючыся да нашага бесклапотнага, поўнага простых ліняў сьвету – не, ён патрабаваў ад кожнага падняцца на ягоную вышыню. Фактычна, адзіная саступка, якую ён зрабіў, была ў тым, што містар Уэлс не пазбаўляў нас права на прыгоды, на ліхаманкавы пульс, на ўспацелыя ад перажываньняў далоні. Лябірынты прыдуманых ім прыгодаў ніколі не паўтараліся, і мы ахвотна беглі ўсьлед за містарам Уэлсам паўсюль, куды б ён ні пайшоў.

**«Для людзей ягонай эпохі творчым чалавекам быў перадусім навуковец»**

Галоўныя героі ягоных кніг зазвычай абсалютна непадрыхтаваныя да імі ж ініцыяваных авантураў – мы былі такімі ж. Успомнім Вандроўніка па Часе, які выпраўляецца ў сваё жахлівае падарожжа, не прыхапіўшы з сабой ня тое што рэвальвэра, а нават фотаапарата. Ці Нябачнага Чалавека, які спачатку становіцца нябачным, а ўжо потым думае, што яму ў такім стане рабіць. Наогул, героі містара Уэлса часта дзейнічаюць, падпарадкоўваючыся імгненнаму імпульсу, яны змагаюцца з наступствамі ўласных не абдуманых як сьлед учынкаў, яны нецярплівыя, як недасьведчаныя чытачы – а недасьведчаныя чытачы любяць пазнаваць сябе на старонках кніжак. Можа, у гэтым адзін з сакрэтаў містара Уэлса; у гэтым і адзін зь ягоных урокаў: там, дзе ёсьць добры плян, дзе ўсё падрыхтаванае і выверанае, ніколі ня будзе яркага сюжэту – а нам так хацелася апынуцца ў добрым сюжэце, так хацелася дынамікі і галавакружэньня, так хацелася пабачыць у парку Горкага амэрыканскія горкі! З вамі ніколі не адбудзецца нічога цікавага, калі вы будзеце прадумваць усё наперад, папярэджваў нас містар Уэлс, у вас папросту ня будзе ўласнага сюжэту – і гэта было нешта кшталту запавету на ўсё астатняе жыцьцё. Частка яго філязофіі, якую прыдумалі мы самі. А далей – далей мы ня слухалі.

Аднак калі б нашыя дачыненьні з паняткам “філязофія” гэтым і абмежаваліся! Ён ставіў перад намі зусім не падлеткавыя пытаньні: хто мы і навошта мы тут, ён бязьлітасна ўводзіў панятак “чужога” – у ягоным анталягічным сэньсе, ён першым, задоўга да прышчавых дацэнтаў, распавёў нам пра матэрыю і дух, ён напоўніў для нас нечаканым зьместам звычнае, простае слова “час”, якое тады было бразгатлівым, бы школьны званок, “вр-р-р-р-е-е-менем”. Містар Уэлс даў нам высакароднае веданьне таго, што таленавітаму чалавеку наканаваны нешчасьлівы лёс, ён пераканаў нас, што варта кінуць выклік большасьці, каб загінуць ад яе рук: у імя творчасьці, чаго ж яшчэ, бо ўсё той жа містар Уэлс стварыў вакол творчага чалавека такі арэол, які не пабляк і дагэтуль – што б там ні казалі бацькі пра няўдачнікаў і лайдакоў. Бо талент і таворчасьць апраўдваюць усё. Ці не пра пісьменьніка, пра музыку, пра мастака вось гэты заклён, з “Вострава доктара Мора”:

“Яму належыць Дом пакуты.

Яго рука творыць.

Яго рука забівае.

Яго рука лечыць”.

Трэба сказаць, што пісьменьнікаў містар Уэлс ня надта любіў – для людзей ягонай эпохі творчым чалавекам быў перадусім навуковец. Дзякуючы містару Уэлсу многія з нас павярнуліся тварам да фізыкі, біялёгіі, псыхалёгіі, матэматыкі – у празе зрабіць Вялікае Адкрыцьцё і загінуць пад ягонымі аскепкамі. Але ж не хто іншы, як містар Уэлс паказаў нам, што такое наступны ўзровень Чытаньня, як зробленая сур’ёзная проза, з чаго і якое паліва прымушае яе працаваць. Ён навучыў нас з пагардлівай усьмешкай пазіраць на кнігі, дзе галоўнага героя няма чым папракнуць: овсянка, сэр! А яшчэ наш агліцкі настаўнік даў нам першы ўрок стылю – і ад чытаньня тых радкоў дагэтуль становіцца амаль фізычна прыемна:

“На нагах у яго не было нічога, акрамя рваных шкарпэтак; вялікія пальцы, шырокія і прыўзьнятыя, вылезьлі зь дзірак і нагадвалі вушы насьцярожанага сабакі. Нетаропка – ён усё рабіў не сьпяшаючыся – містар Марвэл разглядваў чаравікі, якія хацеў прымерыць. Гэта былі крэпкія чаравікі, якія яму яшчэ не траплялiся, але яны былі яму завялікія; між тым старыя чаравікі, цалкам прыдатныя для сухога надвор’я, не падыходзілі для вільготнага, бо мелі занадта тонкую падэшву. Містар Марвэл не цярпеў прасторнага абутку, але ён не цярпеў і вільгаці. Уласна, ён яшчэ ня высьветліў, што для яго больш непрыемна – прасторны абутак або вільгаць, але дзень быў пагодны, іншых справаў не прадбачылася, і ён вырашыў паразважаць. Таму ён апусьціў на зямлю ўсе чатыры чаравікі, расставіўшы іх у выглядзе маляўнічай групы, і стаў глядзець на іх. Пазіраючы, як яны стаяць сярод разрослага дзядоўніка, ён раптам вырашыў, што абедзьве пары выглядаюць вельмі брыдка”.

Гэта пра Томаса Марвэла, якога Нябачны Чалавек хацеў зрабіць сваім слугой. Паспрабуйце, прачытаўшы гэты пасаж, сказаць, што Гербэрт Уэлс – дзіцячы пісьменьнік, для якога галоўнае – сплесьці немудрагелісты сюжэт на пацеху юным рамантыкам. Зусім ня кожны аўтар з Пантэону Вялікіх Пісьменьнікаў можа пахваліцца такой увагай, назіральнасьцю, чуласьцю і тонкім, прыхаваным гумарам. Ужо тады мы адчувалі гэта, але не цанілі, не маглі ацаніць; тым ня менш мы, хоць нам і карцела пераскочыць праз такія абзацы, ведалі, што сапраўдная літаратура мусіць іх

мець. Гісторыі без такіх "апісаньняў" падаваліся нам байкамі для малых, ня вартымі нашай увагі. Мы ж былі лепшым, што змагла выгадаваць са сваіх дзяцей савецкая сыстэма: мы мелі павагу да ведаў, схільнасьць да справядлівасьці, шанавалі талент, прагнулі спачуваць і абараняць. Любоў да твораў містара Уэлса была знакам далучанасьці да вялікіх, дарослых тэкстаў, дзякуючы ёй – натуральна, не ўвадначасьсе – мы разьвіталіся з тымі меркамі, якімі мералі літаратуру раней. Наш настаўнік-англічанін ухваляў гузакі і фінгалы, непазьбежныя пры знаёмстве зь ягонымі кнігамі, але ж ён адказваў за нас – і таму сапраўдных, цяжкіх траўмаў мы, чытаючы містара Уэлса, атрымаць не маглі: мы атрымаем іх пазьней, калі забудземся на Нябачнага Чалавека, на доктара Мора і на Вандроўніка па Часе і знойдзем сабе іншых, значна больш цынічных і здольных на любую жорсткасьць герояў, якія скажуць нам непрыстойную праўду пра ўратаваны ад марсіянаў сьвет.

Неяк мы запыталіся: "Кім быў ваш бацька, містар Уэлс?" "Ён гуляў у крыкет", – адказаў настаўнік даволі неахвотна. "Так, ён быў прафэсыйным крыкетыстам". Мы адразу ж усё пераблыталі, крыкет з кракетам, Лінэкера і Хонэкера; мы палезьлі ў бацькоўскія энцыкляпэдыі і пастараліся даведацца пра кракет як мага больш – чамусьці мы былі ўпэўненыя, што містар Уэлс мусіць файна гуляць у гэтую сваю загадкавую гульню, і калі ён выходзіў з дому і шыбаваў да аўтобуснага прыпынку, нехта з нас з павагай казаў: "Паехаў на кракет", і ўсе спрабавалі сабе ўявіць містара Уэлса з кракетным малаточкам у руках і закасанымі нагавіцамі.

У тэкстах містара Уэлса мы бачылі тое, што хацелі бачыць; як і ўсе юныя тварыны, мы не даслухвалі нашага настаўніка да канца. Я ўжо прыгадваў тут пра запавет наконт сюжэту: маўляў, ніколі не прадумвайце сваіх учынкаў, інакш будзе нецікава… На гэтым мы затыкалі вушы, нам цалкам хапала такіх указаньняў. Нам не было справы да ягонага фабіянства, між тым наш настаўнік працягваў казаць, і нам нудна было глядзець на ягоныя вусны, што варушыліся пад густымі вусамі: мы баяліся расчаравацца. І толькі цяпер мы разумеем сэнс таго, што ён тады гаварыў, нібы гук дайшоў да нас з затрымкай: "Неабдуманасьць, жаданьне атрымаць, высьветліць і адчуць усё адразу нясе ў сабе вялікую небясьпеку для вас і для іншых! Не сьпяшайцеся! Усё мусіць ісьці паволі і зьмяняцца як мага больш марудна! Нельга садзіцца на ровар з двума коламі, пакуль не навучысься езьдзіць спачатку на трохколавым!" Мы ня слухалі яго; ён ішоў гуляць у свой кракет, мы – у піянэрбол.

Ён разбэшчваў нас, даючы нам дэманічны зрок і д'ябальскую свабоду перамяшчэньняў: дзякуючы містару Уэлсу мы маглі пабачыць краявіды паўднёвай Ангельшчыны, шпацыраваць па Лёндане; мясьціны, дзе пачалі свой шлях марсіянска-фашысцкія акупанты, мы ведалі лепш за родны горад: Ўокінг, Сэнбэры, Лезэрфорд, Чобхэм, Чэртсы, Ўэйбрыдж, Пірфорд, Сэнд… Для гэтага ня трэба было пасылаць у камандзіроўку па савецкай Прыбалтыцы маскоўскіх кінематаграфістаў. Ён быў найвялікшы легалізаваны антысаветчык, гэты містар Уэлс зь ягонымі клюшкамі-малаточкамі для кракету. Дзякуючы яму сонца над той, колішняй Брытанскай імпэрыяй ужо ніколі не схаваецца. God save the Queen і яе пісьменьнікаў.

Аднойчы падчас заняткаў ён неяк дзіўна зірнуў на нашыя рукі, што ніяк не маглі знайсьці сабе месца на парце. Зірнуў і задумаўся, спыніўшы на паўслове свае тлумачэньні. Цяперака, бавячы паўдня за камputарам, мы ведаем, што гэта містар Уэлс быў аўтарам аднаго займальнага футуралягічнага дасьледваньня, дзе прагназуецца адміраньне ў далёкім будучым усіх органаў чалавечага цела, апрача мозга і рук, якія служаць яму інструмэнтам.

Містар Уэлс мала казаў пра этыку, мы перанялі ў яго гэтую вельмі мудрую насьцярожанасьць: кажучы пра этыку, вельмі лёгка спаткнуцца і скаціцца ў маралізатарства, у выніку пляснуўшыся пысаю ў брудную лужыну пошласьці. Аднак і нашая цяперашняя парэпаная, але на дзіва трывалая мараль таксама ідзе ад нашага настаўніка: гэта ён навучыў нас, насуперак нашаму рабскаму паходжаньню, быць лэдзі і джэнтльмэнамі, навучыў нас абараняць слабых і не прасіць за гэта ўзнагароды, навучыў нас рэагаваць на ўсё стрымана і пазьбягаць балбатні.

"Добрая ж гэта вера, калі яна ня можа вытрываць няшчасьце. Чаму Гасподзь мусіў зрабіць выключэньне для Ўэйбрыджу? Бог жа не страхавы агент".

А галоўнае: містар Уэлс адкрыў нам, што годнасьць, яе пачуцьцё ў сабе, павінна быць ня доблесьцю, а інстынктам і праяўляцца без прынукі, сама сабой, і ў кожным выпадку, калі яе закрануць, – твая гэта годнасьць або чужая, неістотна. І яшчэ: ён разьвіў у нас здольнасьць




заўжды бачыць далей за ўласны нос, якім бы цэнтрам сусьвету ён, гэты нос, ні здаваўся, якую б апошнюю інстанцыю зь сябе ні курчыў. Ён кампэнсаваў нам адсутнасьць школьнага прадмету пад назвай "лёгіка" і ўбоства сярэднеадукацыйнага "грамадазнаўства", якое выкладалася нам, нібы праслвуты Закон зьвералюдзям:

"Не хадзіць на чатырох лапах – гэта Закон. Хіба мы ня людзі?

Не лакаць ваду языком – гэта Закон. Хіба мы ня людзі?

Не абдзіраць кіпцюрамі кару з дрэваў – гэта Закон. Хіба мы ня людзі?

Не паляваць на іншых людзей – гэта Закон. Хіба мы ня людзі?"

Паглядзім на сябе ўважліва. Вось адкрыцьцё, пад аскепкамі якога можна з радасьцю загінуць. Вялікая частка таго, што мы на дадзены момант зь сябе ўяўляем, ёсьць плёнам і наступствам тых даўніх урокаў містара Уэлса. Яно пачыналася там, у сьвятле вандроўных таршэраў і ў велічнасьці кніжных паліцаў, у партфэлях з успацелымі падручнікамі і ў смаку мятных цукерак за шчакой, пад якія так файна чыталася ўсё непраграмнае. Потым усё гэта перамяшалася з нашым уласным жыцьцёвым досьведам, які радасна супярэчыў усяму, усяму, чаму вучыў нас падзабыты містар Уэлс. І ў выніку атрымаліся мы, цяперашнія, зьбітыя з тропу. Што б там ні казаў пастарэлы *papá*, пра што б ні гундосіў поп, як бы ні шумелі бярозкі.

Містар Уэлс злуецца на нашую разгубленасьць і ідзе гуляць у свой кракет. Ці ў крыкет? Ніхто й падумаць ня мог, што, сышоўшы ў той вечар з нашага дому, настаўнік больш ужо ня вернецца. Я ня памятаю, я ўжо нічога ня памятаю, мая галава баліць, я п'ю і куру, я бедны як царкоўная мыш, мне трыццаць чатыры і горад, дзе я жыву, страшэнна мне надакучыў. Але я бачу, я цудоўна бачу: вялікі імпэрыяліст містар Уэлс размахваецца клюшкай і б'е па кракетным шары. І той коціцца, бясконца доўга, праз пераможаныя ім брамкі, нібы вандроўнік па часе праз дзесяцігодзьдзі, і насьцігае нас, і ўсе імпэрыі разьлятаюцца на шматкі.

І нам усё адно, што ў крыкета іншыя правілы.

*2009*




## МАКУЛАТУРА

*(Працяг, пачатак у нумары 3 – Без Галавы)*

7

Такім чынам, я зноў у сваім габінэце.

Пара за працу. Я ўзяў тэлефон і набраў майго букмекера.

– Тоні, “Піца дадому”, – адказаў ён, – да вашых паслуг.

Я назваў яму свае кодавае імя.

– Гэта містар Сьмерць.

– Білейн, – сказаў ён, – за табой чатырыста семдзесят пяць даляраў, стаўку ў цябе не прыму. Перш расплаціся з пазыкамі.

– Я пастаўлю дваццаць пяць, і яны прывязуць мне палову куска. А прайграю – усё аддам, клянуся гонарам мамы.

– Білейн, за тваёй мамай дзьвесьце трыццаць даляраў.

– Га? А ў тваёй бародаўкі на задніцы!

– Што? Паслухай, Білейн, гэта быў ты?..

– Не, не. Гэта быў іншы. Ён сказаў мне.

– Тады ладна.

– Добра, запішы: дваццаць пяць на Белага Матыля ў шостым заезьдзе.

– Прыняў. Жадаю ўдачы. А то яна, здаецца, цябе запамятавала.

Я павесіў слухаўку. Брыдота. Чалавек нараджаецца, каб змагацца за кожную цалю зямлі. Нараджаецца, каб змагацца, нараджаецца, каб памерці.

Я падумаў над гэтым. І падумаў над гэтым.

Потым адкінуўся ў крэсьле, добранька зацягнуўся й выдзьмуў амаль ідэальнае кола.

8

Пасьля абеду я вырашыў вярнуцца ў габінэт. Я адчыніў дзьверы, за маім сталом сядзеў чалавек. Не Маккелві. Я ня ведаў яго. Людзі любілі садзіцца за мой стол. І акрамя чалавека, які сядзеў, быў яшчэ адзін, той стаяў. Выгляд у абодвух нядобры, спакойны, але нядобры.

– Мяне клічуць Дантэ, – сказаў той, што сядзеў.

– А я Фантэ, – сказаў той, што стаяў.

Я нічога не сказаў. Блукаў у поцемках. Па сьпіне ў мяне прабег халадок і вылецеў у столь.

– Нас паслаў Тоні, – сказаў той, што сядзеў.

– Ня ведаю Тоні. Вы, джэнтльмены, не памыліліся адрасам?

– Ну прама, – прамовіў той, што стаяў.

Дантэ сказаў:

– Белы Матыль сышоў.

– Скінуў жакея на старце, – сказаў Фантэ.

– Вы жартуеце.

– Не жартую. Спытай у пылу.

– Не задаліся твае скачкі, – сказаў Дантэ.

– І Тоні кажа, ты вінен нам палову куска, – сказаў Фантэ.

– А-а, гэта, – сказаў я, – яны ў мяне тут.

Я накіраваўся да стала.

– Ня тузайся, лох, – засьмяяўся Дантэ. – Мы канфіскавалі тваю пукалку.

Я адступіў.

– Цяпер ты зразумеў, – сказаў Фантэ, – што мы не дазволім табе прыемна дыхаць паветрам, пакуль не аддасі Тоні паўкуска?

– Дайце мне тры дні...

– У цябе тры хвіліны, – сказаў Дантэ.

– Ну чаму? – спытаў я. – Чаму вы, хлопцы, кажаце па чарзе? То Дантэ, то Фантэ, то адзін, то другі – і ніколі не саб’ецеся?

– Мы тут сёе-тое іншае саб’ем, – адгукнуліся яны хорам. – Цябе.

– Гэта было нядрэнна, – сказаў я. – Мне падабаецца. Дуэт.

– Заткніся, – сказаў Дантэ. Ён узяў цыгарэту. – Хм, здаецца, я забыўся запальнічку. Хадзіка, мудзіла, дай агеньчыку.

– “Мудзіла”? Ты з сабой размаўляў?

– Не, з табой, мудзіла, хадзі сюды. Дай агню! Хутчэй!

Я адшукаў запальніцу, падышоў, спыніўся перад адной з самых брыдкіх мардасаў, якія бачыў у жыцьці, пстрыкнуў запальнічкай, паднёс агонь да яго цыгарэты.

– Малайца, – сказаў Дантэ, – цяпер вазьмі гэтую цыгарэту з майго рота й сунь у свой гарачым канцом наперад і трымай, пакуль не скажу выняць.

– Ну прама, – сказаў я.

– А не, – сказаў Фантэ, – мы праробім у табе такую дзірку, што эльфы з Дыснэйлэнда там змогуць танцаваць.

– Пачакайце хвіліну...

– У цябе пятнаццаць сэкунд, – сказаў Дантэ й выняў сэкундамер. Пусьціў яго й сказаў: – Паехалі. Чатырнаццаць, трынаццаць, дванаццаць, адзінаццаць...

– Вы сур’ёзна?

– Дзесяць, дзевяць, восем, сем, шэсьць, пяць, чатыры, тры...

Я пачуў пстрычку засьцерагальніка.

Я вырваў цыгарэту ў Дантэ з рота й сунуў сабе, падпаленым канцом. Я спрабаваў вылучыць пабольш сьліны й прыбраць язык далей, але дарэмна – мяне дастала, дастала як сьлед, БАЛЮЧА!!! Гэта было нізка й балюча! Я закашляўся й мімаволі выплюнуў гэтую штуку.

– Гіцаль! – сказаў Дантэ. – Я загадаў табе трымаць, пакуль не скажу. Зараз прыйдзецца пачаць спачатку.

– Сволач, – сказаў я. – Забі мяне!

– Добра, – сказаў Дантэ.

Але ў гэтую сэкунду адчыніліся дзьверы й увайшла Лэдзі Сьмерць. І як запакаваная! Я ледзь не забыўся пра свой язык.

– Ого, – сказаў Дантэ, – вось гэта краля! Ты ведаеш яе, Білейн?

– Сустракаліся.

Яна падышла да крэсла, села, закінула нагу на нагу, і спадніца задралася яшчэ вышэй. Мы літаральна асьлеплі ад гэтых ног. Нават я – а я іх ужо бачыў.

– Што за пудзілы гарохавыя? – спытала яна мяне.

– Эмісары чалавека зь імем Тоні.

– Вытуры іх, твой кліент – я.

– Ну ўсё, хлопцы, – сказаў я. – Пара йсьці.

– Ды ну? – сказаў Дантэ.

– Ды ну? – сказаў Фантэ.

І пачалі сьмяяцца. Потым раптам перасталі.

– Ну ты комік, – сказаў Фантэ.

– Так, – сказаў Дантэ.

– Я іх справаджу, – сказала Лэдзі Сьмерць.

І стала глядзець на Дантэ. А ён адразу стаў асядаць у крэсьле. Ён зрабіўся бледным.

– Ой, – сказаў ён, – я дрэнна пачуваюся...

Ён стаў белым, потым стаў жоўтым.

– Мне нядобра, – сказаў ён, – ой, як нядобра...

– Можа, гэта ад рыбных палачак, – сказаў Фантэ.

– Палачак, шмалачак, трэбаваліць адсюль! Мне патрэбен лекар ці хто-небудзь такі...

Тады яна стала глядзець на Фантэ. І Фантэ сказаў:

– Галава закружылася... Што такое?.. Сьвятло мільгае... Ракеты ўспыхваюць... Дзе я?

Ён пайшоў да дзьвярэй, Дантэ за ім. Яны адчынілі дзьверы й папляліся да ліфта. Я выйшаў паглядзець, як яны паедуць. Назіраў за імі, пакуль не зачыніліся дзьверы. Яны выглядалі жудасна. Жудасна.

Я вярнуўся ў пакой.

– Дзякуй, – сказаў я, – вы мяне вызвалілі...

Я агледзеўся. Яе не было. Зазірнуў пад стол. Нікога. Зазірнуў у ванную. Нікога. Адкрыў акно й выглянуў на вуліцу. Нікога. То бок народу процьма, але яе не было. Магла хаця б разьвітацца. І ўсё ж гэта быў мілы візыт. Я зноў сеў за стол. Потым узяў слухаўку й набраў нумар Тоні.

– Так? – сказаў ён. – Гэта...

– Тоні, на сувязі містар Скананьне.

– Што? Ты яшчэ можаш размаўляць?

– Выдатна магу, Тоні. У жыцьці не адчуваў сябе лепш.

– Не разумею, як...

– Тут былі твае хлопчыкі, Тоні...

– Ну? Ну?

– На гэты раз яны лёгка абышліся. Прышлеш іх яшчэ раз – яны да цябе ня вернуцца.

Я чуў у слухаўцы яго дыханьне. Ён вельмі зьбянтэжана дыхаў. Потым даў адбой.

Зь левай ніжняй шуфляды я дастаў бутэльку шатляндзкага ўіскі, адкруціў корак і ўмазаў.

Наедзеш на Білейна – будзеш мець непрыемнасьці. Вельмі проста.

Я закаркаваў бутэльку, паклаў яе ў шуфляду й задумаўся, што рабіць далей. У добрага дэтэктыва заўсёды знойдзецца справа. Вы бачылі гэта ў кіно.

9

У дзьверы пагрукалі. Пяць разоў, хутка, гучна, настойліва.

Я заўсёды вызначаю па груку. Вызначу, што грук дрэнны, – не адчыняю.

Гэты быў напалову дрэнны.

– Заходзьце, – сказаў я.

Дзьверы расчыніліся. Мужчына, пяцідзесяці з гакам, збольшага багаты, часткова нэрвовы, ногі завялікія, зьлева на ілбе барадаўка, вочы карыя, гальштук, 2 аўтамабілі, 2 дамы, бязьдзетны. Басэйн вады, гуляе на біржы, даволі дурны.

Ён стаяў, зьлёгку пацеў і глядзеў на мяне.

– Сядайце, – сказаў я.

– Я Джэк Бас, – сказаў ён, – і...

– Ведаю.

– Што?

– Вы думаеце, што ваша жонка спарваецца з кімсьці або зь некалькімі.

– Так.

– Ёй дваццаць зь нечым.

– Я хачу атрымаць доказы, а потым хачу атрымаць развод.

– Навошта гэтыя клопаты, Бас? Разьвядзіцеся, і ўсё.

– Мне патрэбны доказы, што яна... яна...

– Плюньце. І так і гэтак яна атрымае свае грошы. На дварэ Новая Эра.

– Гэта як зразумець?

– Называецца: развод без прэтэнзій. Ня важна, хто што нарабіў.

– Як гэта?

– Паскарае зьдзяйсьненьне правасудзьдзя – у судах не такая таўкучка.

– Але якое ж гэта правасудзьдзе?

– Там лічаць інакш.

Бас сядзеў у крэсьле, дыхаў ды глядзеў на мяне. Мне трэба разблытаць справу Сэліна, адшукаць Чырвонага Вераб'я, а тут гэты друзлы пухір, заклапочаны тым, што хтосьці прэ ягоную жонку.

Нарэшце ён загаварыў.

– Я проста хачу высьветліць. Хачу высьветліць для сябе.

– Мае паслугі каштуюць нятанна.

– Колькі?

– Шэсьць зялёных у гадзіну.

– Па-мойму, гэта ня так шмат.

– А па-мойму, у самы раз. У вас ёсьць фатаграфія жонкі?

Ён залез у бумажнік, выняў картку, даў мне. Я паглядзеў.

– Ух ты! Яна сапраўды так выглядае?

– Так.

– У мяне ад аднаго яе выгляду ўстае.

– Што яшчэ за жарты?

– Ах, прашу прабачэньня... Але фатаграфія застанецца ў мяне. Я вярну яе, калі скончу.

Я паклаў фатаграфію ў гаманец.

– Яна яшчэ жыве з вамі?

– Так.

– І вы сыходзіце на працу?

– Так.

– І тады, здараецца, яна...

– Так.

– І што ж прымушае вас думаць, быццам яна...

– Прыкметы, тэлефонныя званкі, галасы ў мяне ў вушах, зьмены ў яе паводзінах, самыя розныя рэчы.

Я пасунуў да яго блакнот.

– Напішыце ваш адрас, хатні й працоўны; тэлефон, хатні й працоўны. З гэтага й пачнём. Я яе вазьму за сраку. Я ўсё выкрыю.

– Што?

– Я бяруся за гэтую справу, містар Бас. Аб увянчаньні яе вам будзе абвешчана.

– Увянчаньні? – перапытаў ён. – Слухайце, вы ў парадку?

– Вычварэньнямі не пакутую. А вы?

– О так, я таксама.

– Тады не хвалюйцеся, я той, хто вам патрэбны, я вазьму яе за сраку!

Бас павольна падняўся з крэсла. Пайшоў да дзьвярэй, потым павярнуўся.

– Вас рэкамэндаваў Бартан.

– Ага, ізноў! Усяго добрага, містар Бас.

Дзьверы зачыніліся, і ён пайшоў. Малайчына Бартан. Я дастаў яе фота з гаманца й сядзеў, глядзеў. Ну сука, думаў я, ну сука.

Я ўстаў, замкнуў дзьверы, зьняў слухаўку з тэлефона. Я сядзеў за сталом і глядзеў на фота. Ну сука, думаў я, я цябе прышчучу! Я цябе злаўлю на гарачым! Не чакай літасьці! Я цябе ў хапку злаўлю! Я цябе накрыю! Ну шлюндра, ну трымайся! Ну шлюндра!

Я пачаў цяжка дыхаць, я расшпіліў маланку. Тут пачаўся землятрус. Я выпусьціў фота й нырнуў пад стол. Трэсла як сьлед, балаў шэсьць. Працягвалася гэта хвіліны дзьве. Потым скончылася. Я вылез з-пад стала ўсё яшчэ расшпілены. Знайшоў фатаграфію, засунуў у гаманец, зашпіліў. Любошчы – гэта пастка, засада. Гэта для жывёл. Я не такі дурань, каб на гэта кляваць. Я паклаў слухаўку на тэлефон, адкрыў дзьверы, выйшаў, замкнуў дзьверы й накіраваўся да ліфта.

Мяне чакала праца. Я быў лепшым дэтэктывам Лос-Анджэлеса й Галівуда. Націснуў кнопку й стаў чакаць, калі пад'едзе блядзкая кабіна.

10

Рэшткі дня й ноч прапускаю – ніякіх дзеяньняў, якія б заслугоўвалі апавяданьня.

11

Наступным ранкам у 8 гадзін я сядзеў у сваім "фольксвагене" насупраць дома Джэка Баса. Трухцела галава з пахмельля, і я чытаў "Лос-Анджэлес таймс". Сёе-тое я пасьпеў высьветліць. Жонку Баса звалі Сіндзі. Сіндзі Бас, у дзявоцтве Сіндзі Мэйбэл. З газэтных выразак вынікала, што яна была пераможцай невялічкага конкурсу прыгажосьці, Міс Чылі-На-Вынас 1990 года. Мадэль, актрыса на выхадах, любіць лыжы, навучаецца ігры на фартэпіяна, любіць бейсбол і воднае пола. Любімы колер – чырвоны. Любімая садавіна – банан. Любіць паспаць днём. Любіць дзяцей. Любіць джаз. Чытае Канта. Ага. Спадзяецца, што аднойчы ўвойдзе ў бар, і г.д. і г.д. Пазнаёмілася з Джэкам Басам за рулеткай у Лас-Вегасе. Празь дзьве ночы яны ажаніліся.

Каля 8.30 Джэк Бас заднім ходам выехаў на сваім "мэрсэдэсе" і адправіўся на свой адміністрацыйны пост у Ацтэк Петроліум Карпарэйшн. Засталіся я ды Сіндзі. Я меў намер яе раскалоць. Яна была ў маёй уладзе. Я яшчэ раз праверыў фота. Я пачаў пацець. Я апусьціў брыль у кабіне. Курва, яна гуляе ад Джэка Баса.

Я зноў засунуў фота ў гаманец. У мяне ўзьнікла забабоннае пачуцьцё. Што са мной? Запаў на гэтую кабету? У яе кішачнік як ва ўсіх. Валасы ў ноздрах. Сера ў вушах. Вось яшчэ. З чаго гэта ветравое шкло перада мной пайшло хвалямі? Мабыць, з пахмельля. Гарэлка з прычэпамі. Даводзіцца расплачвацца. Але што добра, калі ты п'яніца, – у цябе не бывае запору. Я часам прыслухоўваўся да сваіх вантробаў, але мае вантробы маўчалі, яны ні разу не сказалі: "Спыніся, ты забіваеш нас, а мы заб'ем цябе!" Калі б у нас былі гаворачыя вантробы, нам не спатрэбілася б Суполка ананімных алькаголікаў.

Я сядзеў у машыне й чакаў, калі выйдзе Сіндзі.

Была душная раніца.

Я, мабыць, заснуў у машыне. Ня ведаю, што мяне абудзіла.

Але цяпер яе “мэрсэдэс” заднім ходам выяжджаў на вуліцу. Яна разьвярнулася, паехала на поўдзень, і я прыстроіўся ззаду. Чырвоны “мэрсэдэс”. Я ўвязаўся за ёй да шашы на Сан-Дыега; яна ўстала ў левы шэраг і дала па газах. Семдзесят пяць міль у гадзіну. Здаецца, ёй не цярпелася. Ёй прысьпічыла. Нешта варухнулася ў мяне паміж ног. Лоб пакрыўся плёнкай поту. Яна разагналася да васьмідзесяці. Як яе дрэнчыць, суку! Сіндзі, Сіндзі! Я трымаўся ў чатырох карпусах за ёй. Я яе прышчучу, так прышчучу, як яе ніхто не прышчучваў! Вось так! Нагнаць і аформіць! Я Нік Білейн. Я пакажу ёй, дзе ракі зімуюць! У люстэрку задняга агляду замільгаў чырвоны агонь.

Бля!

Я збочыў у правы шэраг, спыніўся на абочыне, вылез. Паліцыянты спыніліся ў пяці карпусах ад мяне.

Вылезьлі й сталі па абодва бакі ад сваёй машыны. Я накіраваўся да іх, палез па гаманец. Высокі выхапіў з кабуры рэвальвэр, навёў на мяне.

– Стаяць!

Я спыніўся.

– Якога д’ябла – ты застрэліць мяне хочаш? Ну давай, давай, застрэль мяне!

Нізенькі зайшоў ззаду, закруціў мне руку, падвёў мяне да паліцэйскай машыны й кінуў тварам на капоту.

– Гаўнюк! – сказаў ён. – Ведаеш, што мы робім з такімі засранцамі?

– Ды ўжо як ня ведаць.

– Глядзі, які разумны засранец! – сказаў нізенькі.

– Спакайней, Луі, – сказаў высокі, – у каго-небудзь можа аказацца відэакамэра. Тут ня месца.

– Цярпець не магу разумных, Біл!

– Мы яго аформім, Луіс. Аформім па ўсіх правілах, але пазьней.

Я быў прыціснуты да капоты. Аўтамабілі на шашы прытармажвалі. Разепы вытарэшчваліся.

– Годзе, хлопцы, – сказаў я, – з-за нас затор на шашы.

– Ты думаеш, нам не насраць? – спытаў Біл.

– Ты пагражаў нам, ты бег да нас і лез рукой за пояс! – залямантаваў Луі.

– Я палез за гаманцом. Я хацеў паказаць вам пасьведчаньне. Я дэтэктыў з лос-анджэлескай ліцэнзіяй. Я вёў назіраньне за падазраваным.

Луі выпусьціў маю руку зь мёртвага захопу.

– Устань.

– Зараз.

– А цяпер павольна дастань гаманец і вынь кіроўчыя правы.

Я падаў яму складзены лісток.

– Гэта што яшчэ такое? – спытаў ён. І вярнуў мне. – Разгарні ды аддай назад.

Я разгарнуў і сказаў:

– Гэта як бы часовыя правы. Старыя ў мяне забралі – я зноў ня здаў іспыт, пісьмовы. А з гэтымі я магу езьдзіць на працягу тыдня, да наступнага іспыту.

– Ты што ж, экзамен ня здаў?

– Так.

– Чуеш, Біл, гэты чал ня здолеў здаць на правы!

– Ды ну? Рэальна?

– Галава была занята іншым...

– Здаецца, яна ў цябе нічым не занятая, – фыркнуў Луі.

– Ну сьмех, – сказаў Біл.

– І ты, значыць, зарэгістраваны дэтэктыў? – спытаў Луі.

– Так.

– Ня верыцца.

– Я перасьледваў падазраванага, калі вы мяне спынілі. Яшчэ ледзь-ледзь, і я б узяў яе за сраку.



Яўген Шадко

Я падаў Луі фатаграфію.

– Мама родная! – сказаў ён.

Ён утаропіўся на картку. Фатаграфія была ў рост. Сіндзі была ў міні ды ў адкрытай блузцы, вельмі адкрытай.

– Гэй, Біл, глянь-ка!

– Я сядзеў у яе на хвасьце, Біл, яшчэ ледзь-ледзь, і я б узяў яе за сраку.

Біл ня зводзіў вачэй з карткі.

– Ух-х, ух-х, ух-х, – цьвярдзіў ён.

– Вярніце мне фатаграфію. Рэчыўны доказ.

– А, ну вядома, – сказаў ён і зь неахвотай аддаў.

– І ўсё ж такі мы павінны цябе аформіць, – сказаў Луі.

– Але не аформім, – сказаў Біл, – запішам, што ты ехаў 75, хоць ты ехаў 80. Але фатаграфію мы павінны канфіскаваць.

– Што?

– Ня чуў?

– Але гэта вымагальніцтва! – сказаў я.

Біл дакрануўся да рэвальвэра.

– Што ты сказаў?

– Я сказаў – лады.

Я вярнуў фатаграфію Білу. Ён стаў выпісваць квітанцыю. Я стаяў і чакаў. Ён даў мне квітанцыю.

– Расьпішыцеся.

Я расьпісаўся. Ён вырваў яе й падаў мне.

– Выплаціць на працягу дзесяці дзён. А калі не прызнаеш сябе вінаватым, зьявіся ў суд у пазначаны дзень.

– Дзякую вам, сэр.

– І едзь асьцярожна, – сказаў Луі.

– І ты таксама, прыяцель.

– Што?

– Я сказаў – добра.

Яны пайшлі да сваёй машыны. Я пайшоў да сваёй. Улез, завёў матор. Яны працягвалі сядзець. Я скіраваў на палатно й паехаў, трымаючы 60.

Сіндзі, думаў я, ты мне за гэта заплаціш! Я цябе так прышчучу, як ніхто цябе не прышчучваў!

Даехаўшы да павароту на Партовую шашу, я павярнуў ды паехаў па 110-ай, сам ня ведаю навошта.

## 12

Я праехаў па Партовай шашы да канца. Гэта быў Сан-Пэдра. Я праехаў па Гафі, збочыў налева на 7-ю, праехаў некалькі кварталаў, павярнуў направа на Пацыфік, праехаў яшчэ, убачыў бар “Піцейны кабанчык”, спыніў машыну, увайшоў. Усярэдзіне было цёмна. Тэлевізар не працаваў. Бармэн быў старэйшы за восемдзесят, увесь белы – белыя валасы, белая скура, белыя вусны. І сядзелі яшчэ два старыя, белыя як крэйда. Як быццам з усіх траіх выпусьцілі кроў. Яны нагадалі мне высушаных мух у павуціне. Напояў бачна не было. Ніхто не варушыўся. Белае бязмоўе.

Я стаяў у дзьвярах і глядзеў на іх. Нарэшце бармэн выдаў гук:

– Га?..

– Тут ніхто ня бачыў Сіндзі, Сэліна або Чырвонага Вераб’я? – спытаў я.

Яны толькі глядзелі на мяне. Вусны аднаго з наведвальнікаў скlaліся ў маленькае мокранькае “о”. Ён спрабаваў загаварыць. Другі наведвальнік апусьціў руку й пачухаў яйцы. Або тое месца, дзе яны калісьці былі. Бармэн застаўся нерухомым. Ён нагадваў фігуру, выразаную з кардона. І старую. Я раптам адчуў сябе маладым.

Я прайшоў наперад і сеў на зэдлік.

– Што-небудзь выпіць знойдзецца? – спытаў я.

– Га... – сказаў бармэн.

– Гарэлка – “Сэвэн ап”, цытрыны ня трэба.

А зараз выкіньце на сьметнік чатыры з паловай хвіліны й забудзьцеся на іх. Вось колькі спатрэбілася бармэну, каб прынесьці мне шклянку.

– Дзякую, – сказаў я, – і, калі ласка, зрабі яшчэ адзін, калі ўжо ты пачаў рухацца.

Я накаціў. Выйшла няблага. Ён, відаць, набіў руку.

Два старыканы сядзелі й глядзелі.

– Добры дзянёк, га, хлопцы? – спытаў я.

Яны не адказалі. У мяне ўзьнікла такое пачуцьцё, што яны ня дыхаюць. Хіба мёртвых ня трэба хаваць?

– Слухайце, хлопцы, калі хто-небудзь з вас у апошні раз сьцягваў трусікі з жанчыны?

Адзін са старых адазваўся:

– Хе-хе-хе-хе!

– А-а, учора ўначы?

– Хе-хе-хе-хе!

– Падабалася?

– Хе-хе-хе-хе!

У мяне сапсаваўся настрой. Жыцьцё маё йдзе сабаку пад хвост. Мне трэба нешта – зіхаценьне агнёў, бляск, чорт, ды што-небудзь гэтакае. А я тут плявузгаю зь нябожчыкамі. Я прыкончыў першую шклянку. Другая ўжо была гатова. У дзьверы ўвайшлі двое з панчохамі на тварах.

Я асушыў другую шклянку.

– ЦІХА! БЯЗ ГЛУПСТВАЎ! ГАМАНЦЫ, ПЯРСЬЦЁНКІ ДЫ ГАДЗІНЬНІКІ – НА СТОЙКУ! ХУТЧЭЙ! – зароў адзін.

Другі пераскочыў праз стойку й падбег да касы. Трэснуў па ёй кулаком.

– ГЭЙ! ЯК АДЧЫНЯЕЦЦА ГЭТАЯ ХЕРОВІНА?

Ён агледзеўся, убачыў бармэна.

– ГЭЙ, ДЗЕД! ХАДЗІ АДКРЫЙ ГЭТУЮ ШТУКУ! – ён навёў на старога пісталет. І той раптам навучыўся рухацца. Імгненьне – і ён ужо ля касы, і яна адкрытая.

А першы складаў у мяшок тое, што мы выклалі на стойку.

– ВАЗЬМІ СКРЫНКУ З-ПАД ЦЫГАР! ПАД СТОЙКАЙ! – крыкнуў ён напарніку.

Той перакладваў у мяшок грошы з касы. Ён знайшоў скрынку з-пад цыгар. У ёй былі грошы. Ён кінуў яе ў мяшок і пераскочыў праз стойку. Яны пастаялі яшчэ некалькі сэкунд.

– Мяне дрэнчыць! – сказаў той, які скакаў праз стойку.

– Годзе, выходзім! – сказаў іншы.

– МЯНЕ ДРЭНЧЫЦЬ! – закрычаў першы. Ён прыцэліўся ў бармэна. Выпусьціў тры кулі. Усе ў жывот. Стары тры разы тузануўся й упаў.

– МУДЗІЛА! НАВОШТА ТЫ ГЭТА ЗРАБІЎ? – зароў ягоны калега.

– НЕ НАЗЫВАЙ МЯНЕ МУДЗІЛАМ! Я ЦЯБЕ ТАКСАМА ЗАБ'Ю! – Ён павярнуўся й навёў пісталет на партнёра.

Але спазьніўся. Куля трапіла яму ў нос і выйшла з патыліцы. Ён упаў, паваліўшы зэдлік. Другі выбег празь дзьверы. Я далічыў да пяці. Потым выбег за ім. Абодва старыканы яшчэ былі жывыя, калі я ўцякаў. Здаецца.

Я хутка сеў у машыну. Ірвануў ад крайка, праехаў квартал, павярнуў направа, у завулак. Потым зьменшыў хуткасьць, паехаў не сьпяшаючыся. Тут пачулася сірэна. Я запаліў цыгарэту ад прыпальвальніка, уключыў радыё. Перадавалі рэп. Я ня мог разабраць, што ён там рэпае. Я ня мог вырашыць, ехаць мне дадому або ў кантору.

Скончылася ж гэта ўсё супермаркетам, дзе я пагрузіў у каляску пяць грэйпфрутаў, смажаную курыцу й бульбяную салату. Так, і яшчэ 0,75 гарэлкі й туалетную паперу.

***Пераклаў з ангельскае мовы Віталь Латыш.***
***Паводле: Pulp. Copyright © 1994 by Charles Bukowski. HarperCollins e-books. Adobe Acrobat eBook Reader. August 2007. ISBN 978-0-06-149262-4.***




## КОНТРПАРТНЁР, АБО ПАСТАЎНІК ШЧАСЦЯ

Самае непрыемнае, што можа здарыцца, – гэта неабходнасць прымаць рашэнне, скажам нават больш ультыматыўна – неабходнасць зрабіць выбар. З гэтага сказу можа скласціся няправільнае ўражанне – быццам апісаны (паднесены) стан уяўляе з сябе пэўную кропку на такой простай лініі бесклапотнага існавання, купіну ці наадварот яр, што спыняе ці, прынамсі, затрымлівае рух па прыемна акрэсленай простай. Але гэта не зусім так. І першае, што звяртае на сябе ўвагу, – распадзенне ў самім разуменні выбару як такога. Можна думаць пра яго як пра яблык[1], і тады выбар робіцца субстанцыяй, аб'ектам, і чаму так адбываецца, вельмі проста зразумець: гэта маніякальнае жаданне мыслення ўпісаць усё ў двайковую сістэму, бінарнасць, дыхатамію, і каб гэта зрабіць, патрэбна візуалізацыя, аб'ектыванне.

---

[1] *Можна так думаць у тым сэнсе, што мне так зручна думаць. І я ўжо выкарыстоўвала гэты вобраз раней. Напрыклад тут: "Бог пакарала чалавека тым, што дала свабоду выбару. Няма большай пакуты за тую, якая звальваецца ў дзве рукі трыма яблыкамі. Якое пакінуць? а можа зрабіць кампот? І пакуль ты так думаеш, нехта мяняе немаўляці памперс, нехта будуе на галаве прыгажуні пізанскую вежу, шкада, што на раніцу ад намаганняў цырульніка застануцца толькі руіны, нехта прызнаецца, што ў яго ніколі не было высокіх дзяўчат, і гэта праблема, а нехта, укладаючы ўвесь свой боль і расчараванне, кажа, што была зусім не ў сяброўкі. А ты стаіш і выбіраеш свой яблык. Як ты хочаш, каб гэта было? З'есці адзін, але да канца, ці адкусіць па кавалачку ад усіх. Ад усіх патрошку. Ад сябе – усё".*

А і Б (бясспрэчна, можа быць яшчэ і С, і Д, і Х, і г. д.), што, аднак, не мяняе сутнасці, бо ўсе гэтыя *с, д, х* можна звесці да А і Б, і так яно і адбываецца ў рэшце рэшт. Ці быў у сімоны выбар? Больш слушна паставіць пытанне інакш: тое, што прапанаваў ёй жан-поль, – ці было гэта выбарам? Ці стварала ягоная прапанова для яе выбар? Хутчэй, яна стварала вакуум. І можна думаць, што каб не патрапіць у "буржуазнае павуціннe сям'і", лепш пагадзіцца на свабодны саюз, аднак ці было гэта выбарам? Калі думаць пра яблыкі – так, гэта былі розныя яблыкі, але сутнасць у тым, што гэта былі яблыкі, толькі яблыкі, і таму выбар par excellence не мог адбыцца. Гэта было выбарам у тым сэнсе, што прысутнічала опцыя, аднак кардынальна гэты выбар не змяняў, не рашаў нічога. І каб зразумець гэта – трэба паспрабаваць выйсці за межы, прыўзняцца (накшталт Гегелеўскага Aufhebung)[2] , і ўсё б нічога, але, знаходзячыся *тут* і *цяпер*, стаць *там* і *па-за* – недасягальная мара, якая, аднак, спакушальна выкідвае белы сцяг, падманваючы нашу свядомасць, – і нам падаецца, што ўсё атрымалася, і мы проста назіральнікі, але пакінем пакуль сябе ў гэтым шчаслівым няведанні, дазволім сабе ў ім застацца. І прыўзняўшыся, мы пабачым, што сімона сядзела ў яблыневым садзе і людзі, якія атачалі яе, прыносілі ёй розныя яблыкі, і яна сама падбірала і вывучала розныя яблыкі, думаючы, спадзеючыся, што вось яно, можа яно. Але справа была не ў яблыках, дакладней, у яблыках, канечне, але не зусім. Справа была ў садзе і ў тым, што гэта быў яблыневы сад і іншых дрэваў там быць не магло, але не значыць, што іх не магло быць увогуле. І думаецца (інтуітыўна, вельмі так інтуітыўна адчуваецца), што сімона магла здагадвацца пра гэта, што недзе павінны быць яшчэ і грушы, і слівы, і шмат чаго. Але вакол былі адны яблыкі. Цяпер падумаем пра выбар як пра працэс. І для гэтага звернемся да дыспазіцыі, якая дапаможа сваёй семантыкай растлумачыць пэўную структуру (архітэктоніку) выбару ў ягонай працэсуальнай інтэрпрэтацыі. Калі дапусціць, памысліць выбар не як аб'ект, а як якасць, што вызначае пэўнае існаванне, тады стане бачная капілярная сетка і стане зразумелым, што менавіта такую фактуру мае выбар, кожная драбнейшая дэталь, момант чалавечага жыцця – гэта выбар, настолькі, што толькі дапусціўшы гэту думку і пачаўшы яе разварочваць (пачаўшы гэты шлях дэканструкцыі), робіцца вусцішна за свае межы, наколькі далёка можна яе прасачыць? Кожнае імгненне – гэта выбар: сядзець ці ўзняцца, чытаць далей ці спыніцца, павярнуць галаву ўбок ці пацiснуць плячыма – і гэтак усё жыццё. Менавіта таму так небяспечна думаць пра выбар як пра аб'ект (яблык), бо тады жыццё робіцца скрыняй, над якой сядзіш і перабіраеш яблыкі, ператвараючыся ў раба выбару. Менавіта таму трэба пайсці іншым шляхам і дазволіць сабе думаць пра выбар як пра крывяносную сістэму.

* * *

Што можна адказаць на гульню скрайнасцей, гульню межаў? Контрпартнёр, сам таго не ведаючы, выступае ў ролі пастаўніка шчасця, скіраваўшыся ў бок трыганаметрычный метафорыкі. Прадчуванне разгортвання драмы расце. Перасцярогай прасякнуты ягоныя словы: *бойся апраксімацыі, занадта шмат пераменных, невядомая велічыня каэфіцыенту*. Але ўсё па парадку. Думка пра апраксімацыю прагучала першай, потым было пытанне сублімацыі, і для кагосьці гэта не будзе мець ніякага значэння і прывязкі, але я спалучу іх, бо пры такім іх *побачстаянні* робіцца заўважнай пэўная люстэркавасць. Ці не ёсць апраксімацыя перагорнутай сублімацыяй? Зірнем на другое. Хтось скажа: *сублімацыя – гэта адсутнасць партнёраў*. І будзе ў чымсьці мець рацыю, адзінае, што можна падправіць – гэта ўдакладніць "адсутнасць", бо яна небяспечная сваім прачытаннем у значэнні "адсутнасці фізічнай, адсутнасці наяўнасці тут і побач". Таму трэба адчуць, што адсутнасць можа быць і пры прысутнасці партнёра. І вось тут намацваецца тое, што прымушае нас выйсці з такой трактоўкі сублімацыі. Але нехта (але ўсё той жа хтось) паспрабуе затрымаць вас: *ну добра, можна пайсці не ад адмаўлення-адсутнасці, а з пазіцыі прысутнасці чагосьці*. І зноў пара: адсутнасць/прысутнасць. Не. Калі і думаць пра

[2] *Як бы ні хацелася, гэтая спроба (жаданне стацца знешнім назіральнікам) так і застанецца спробай (канечне, якая заслугоўвае інтэлектуальных апладысментаў), хаця часта можна злавіць сябе на думцы (адчуванні), што знаходзішся акурат у такім стане (назіральніка).*

іх, то толькі як пра паралельныя, як рэйкі, па якіх едзе цягнік жадання, і па адной з іх ён ехаць не зможа. Але навошта так ускладняць, калі можна падумаць пра сублімацыю менавіта як пра скіраванасць, перанакіроўванне. Так і падумаем. І яшчэ, сублімацыя – як спроба пазбегнуць траўмы. У такім вызначэнні губляецца непатрэбны элемент сацыяльнай дэтэрмінаванасці і ўраўноўвання[3]. Калі сільвія пекла пірагі, замяшчаючы імі вершы, – гэта была сублімацыя, хаця выпяканне пірагоў з пункту гледжання соцыуму значна больш апраўдана за напісанне вершаў. І ў пэўнай ступені звязка з апраксімацыяй тут магчымая. Я гатую абед замест таго, каб пісаць верш, – сублімацыя, бо пісаць верш для мяне прасцей (але ёсць небяспека траўмы: верш не атрымаецца і гэта падарве маю веру ў сябе як паэтку, паставіць пад сумнеў тую ідэнтыфікацыю, якая для мяне ёсць важнай), гатаваць абед складаней і больш энерга- і часазатратна (але я іду на гэта, бо нават у выпадку няўдачы, ганьбаванні ў мой бок як кухара не будуць несці небяспекі, бо такой ідэнтыфікацыі ў мяне няма). Але на паверхні гэта выглядае апраксімацыяй. Існаванню патрэбна апраўданне – і прыгатаванне абеду як найлепш пасуе верыфікацыі сябе: гэта дзеянне, плён ягоны матэрыяльны, і гэта проста. Своеасаблівы парадокс: напісаць верш – гэта і прасцей, і цяжэй, чым прыгатаваць абед. Праблема ў тым, што прычынай сублімацыі выступае ўсё тое ж жаданне наталення (атрыманне асалоды), але як ахіл ніколі не можа дагнаць чарапаху, так і я ніколі не магу спазнаць наталення, я магу толькі *перагнаць* сваю чарапаху або *не дагнаць*, быць у працэсе пагоні за ёй. Але кропка “разам” не ўтрымліваецца, яна з’язджае, аддаляецца, як толькі я дасягаю яе. Таму сублімацыя – такая спроба падмануць навакольных, але “не-сублімацыя” (калі я не буду тут нічога выдумваць, а пайду займуся мастурбацыяй) – гэта спроба падмануць сябе ўсё з той жа прычыны ахіла і чарапахі. І што я раблю? Я ўтойваю частку інфармацыі, правяраю, ці актуальная мая пагоня для чарапахі, ці рэлевантнае маё азначальнае для контрпартнёра: і я дабіваюся таго, што чарапаха абарочваецца. Цяпер яна правярае – ці тут я? ці бягу за ёй? Таму што яна прывязана да свайго ахіла. І мая мастурбацыя прывязваецца толькі да мяне, у той час як контрпартнёр імкнецца прывязаць яе да адсутнасці коітуса, што і нараджае пытанне: *чаму мастурбацыя – гэта спроба падмануць сябе*? Праяснім. Мастурбацыя – гэта самападман, таму што атрыманне наталення – само па сабе падман: дасягнуць яго (у скончаным варыянце, у метафізічным значэнні) немагчыма, і таму з тым жа поспехам можна напісаць, што коітус таксама – самападман (у якім удзельнічаюць двое, і таму сюды дадаецца яшчэ і падман партнёра/кі), гэта як гарызонт, які аддаляецца кожным разам, як мы да яго падыходзім. Тут аднак можа быць заключана свая чароўнасць, чароўнасць моманту адцягвання.

Звернемся да другога моманту, які патрабуе ўвагі, *да пераменных*. Гэтыя арыштанты хаваюць сваю ідэнтычнасць пад уніформай азначальных X, Y, Z. Рашэнне задачы робіцца непасільным, калі няма за што зачапіцца. Такая вялікая колькасць пераменных блізкая да знака (ці слова), самотна замкнутага ў вакууме. І тут мы нарэшце супадаем, контрпартнёр і я: ён са сваімі пераменнымі і я са сваім словам без кантэксту.

* * *

Для контрпартнёра аб’ектыўнасць не нясе каштоўнаснай вагі, істотная суб’ектыўнасць. Але пункт, дзе мы сутыкаемся, – увага да сітуацыі, аднак сутыкненне гэтае адбываецца толькі на ўзроўні азначальнага, на ўзроўні слова, а далей мы зноў разыходзімся як сцябліны ў жмуце. *Сітуацыя, выбар* упіраюцца ў дэтэрмінізм, з якім неабходна лічыцца ці хаця б звярнуць на яго ўвагу, прадумаць яго. І мы думаем: усё *мае* прычыну, прычына стварае эфект невяртання. Калі ўсё павязана і пабудавана па дадзенай схеме – выбар, пра які ўжо пачалася гаворка вышэй, тым больш выглядае сумнеўным. Будучыня настолькі робіцца немагчымай, наколькі яна павязваецца з мінулым, а ў такім рэчышчы яна не проста павязаная, яна вызначаецца, *дэтэрмінуецца* мінулым: мы ведаем, што гэта здарыцца, на падставе таго, што гэта здаралася раней. І тут ёсць элемент надзеі: на тое, што ўсё паўторыцца. І прычына, з якой нешта не паўтараецца, палягае ў тым, што мяняюцца ўмовы, пераменныя, а не ў тым, што мінулы досвед быў няслушным

[3] *Калі разглядаць сублімацыю ў звыклым разуменні, як механізм звароту лібідыяльнай энергіі ў больш прыймальны соцыумам від энергіі.*

ці будучыня "адмовілася" ўзнавіць мінулае. Універсальная схема *дзеянне – рэакцыя* цікавіць тут пытаннем: чаму на некаторыя дзеянні ўзнікае рэакцыя з непамерна большым выхлапам энергіі, такая не-эканомія, лішак? І далей: як разглядаць, як ставіцца да гэтага лішку? Пра што ён кажа мне: што памяняліся ўмовы? што яны *могуць* памяняцца? што ў гэтых умовах "мой выбар" (варыянт С, выбраны са шматлікіх магчымых, – памятаем пры гэтым пра ілюзорнасць гэтай *шматлікасці*) можа падацца мне няправільным, таму што яго выкананне будзе павязана з перашкодамі, якіх не было раней пры іншых умовах? Гэта вяртае да сістэмы знакаў і да таго, што сітуацыя сама можа быць не толькі дыскурсам, але і знакам, які мы будзем чытаць, і тое, як мы станем яго чытаць, будзе залежыць ад выбранай сістэмы коду. І калі я думаю пра вонкавасць, контрпартнёр думае пра ўнутранасць. Я прапаноўваю два варыянты тлумачэння, ніводзін з якіх ім не прымаецца, што пазначае выкарыстанне намі розных сістэмаў кодаў. Контрпартнёр хоча ствараць сітуацыю, ён думае, што стварае, і стварае яе, тым часам як я назіраю за сітуацыяй, яна даецца мне, і я ўваходжу ці не ўваходжу туды. Для яго сітуацыя – тое, што мусіць быць створана ці разбурана, для мяне сітуацыя – тое, што мусіць быць прачытана ці праігнаравана. І таму, апроч вялікай колькасці пераменных у выпадку контрпартнёра і вакуума парадыгматыкі і сінтагматыкі ў мяне, нашае несупадзенне абумоўліваецца розным тэмпам, які зыходзіць з таго, што для стварэння сітуацыі і для прачытання сітуацыі патрэбны розныя рытмы. Мне ніколі не бывае зашмат сітуацый, тым часам як у контпартнёра ёсць абмежаванні. І апроч несупадзення гэта прыносіць гарманічны[4] разлад, які не можа не адчувацца, і з прызнаннем контрпартёнра ў перанасычанасці ягонага быцця маімі сітуацыямі здараецца адкат. Я спыняю камунікацыю, але гэта вонкавае спыненне, бо ўнутры працягвае адбывацца накідванне сітуацыі, бо яны множацца ўва мне з кожным быццёвым імгненнем. Тут можна дапусціць разлом, які можа адбыцца, які ўжо пачаў адбывацца, але ход ягонага разварочвання, ці больш трапна – "месца разлому", краявід гэтага *месца* пакуль застаецца па-за бачнасцю. І ўласнае адчуванне ці ўласнае цела я б параўнала са складзенай шахматнай дошкай, якую контрпартнёр нясе пад пахай. Мяне зручна несці, у мяне прыемная роўная паверхня, але сітуацыя, якая пачне разварочвацца, калі адамкнецца зашчэпка, што злучае дзве складзеныя паловы, – цалкам непрадказальная і непадуладная. Справа ў тым, што зашчэпка можа разамкнуцца не тады, калі контрпартнёр запланаваў гэта, або, разамкнуўшы дошку, ён заўважыць, што там не стае адной фігуры, ці трох, ці іх там няма ўвогуле. І я не ведаю, ці пужае яго такая непрадказальнасць, ці здолее ён управіцца з маёй сітуацыяй (якую, не без іроніі адзначу, я абавязкова навяжу яму), і таму я прыпыняю (але не прыпыняюся ўнутрана), і прычынай майго прыпынення ёсць клопат, этычны момант, які выратоўвае (здольны выратаваць) контрпартнёра, але ці ратуе гэта мяне? Ці ратуе гэта контрпартнёра *на-пасля*? Бо магчыма гамлет меў рацыю і трэба дзейнічаць згодна з ягонымі словамі *I have to be cruel just to be kind*.

І дзейнічаць цяпер, а не зараз.

[4] *"Гарманічны" ўжыты ў кампазіцыйна-тэхнічным разуменні, г. зн. той, што пабудаваны на аснове законаў гармоніі.*




## ПРАКТЫЧНЫ ДАПАМОЖНІК ПА МЭНТАЛЬНЫМ САМАЗАДАВАЛЬНЕНЬНІ

Марцін прачнуўся ад іх галасоў, а потым было яшчэ тупаньне, абтрасаньне сьнегу зь цяжкіх ботаў. Дзьверы са скрыгатам прыадчыніліся, потым глуха пляснулі, з вуліцы патыхнула танным тытунём, перамяшаным з марозным паветрам.

Марцін адчуў нічым не абумоўлены прыступ утульнасьці. Вадкасьці, якія атачалі яго цела, былі цёплымі, быццам гарачы душ. Зрэшты, доўжыўся гэты стан зусім нядоўга, якія пару імгненьняў.

– Вой, а гразі тут пананесьлі! – усклікнула пухнатая цётка са сьцятымі ў сноп пэргідролевымі валасамі. – Давайце, кладзеце касьцюмы ў шафу і да дзьвюх вы свабодныя.

Марцін ляжаў галавой на згорнутай дывановай дарожцы, накрыўшыся плякатам з надпісам “Вечар адпачынку для тых, каму за...”. Шыя, якой, мабыць, празьмерна доўга давялося быць выкручанай на 90 градусаў, цяпер адчувальна балела.

Яна ўсё яшчэ наводзіла марафэт перад люстэркам. Марцін быў вельмі ўдзячны гэтай жанчыне, удзячны амаль як маці, хаця і не зусім разумеў, за што менавіта. Аднекуль ён ведаў, што яе завуць цёця Галя, а на ейных пазногцях можна ўбачыць рэшткі ярка-пунсовага манікюру.

Мужыкі тым часам важдаліся каля шафы. Проста на галаву Марціну ўпала нешта шурпатае. Рукі намацалі колкую салому. Пальцы шарганулі па ёй, неўзабаве па-шпіёнску паведаміўшы галаўному мозгу, што яны мелі справу з капелюшом.

– У гэтым баяне дык зусім ужо клавіша прадавілася, яшчэ раз сажмёш сільна, і лясьне ўсё нахер, – падаў голас адзін з мужыкоў. – А безь яе дык хера мажорам сыграеш. Во, паслухай!

– А ты ня жмі, гэта табе ня жончына цыцка, – парыравала цётка Галя. – Бо як ні пачыніш, дык...

Канец фразы Марцін не даслухаў. Ён зь цяжкасьцю ўзьняўся, прамінуў невялічкі калідор ды, пацепваючыся, выйшаў на ганак службовага ўваходу.

Дзянёк быў ветраны ды марозны. Суставы натужлівым шэптам распавядалі Марціну пра тое, што ладную частку ночы ён правёў у скурчанай і ненатуральнай паставе: як паклалі, так і ляжаў. На сьнежнай белі раптам утварылася зялёная мыльная бурбалка, потым яна стала імкліва ўздымацца, ажно за дымок, што сачыўся з коміна хаты.

Марцін пацёр скроні рукамі. Галюцынацыі прайшлі, але ж у галаве адразу загудзела. Фарбы падаваліся ненатуральна яркімі.

Марцін спусьціўся зь нізенькага ганку, расшпіліў прарэх сваіх нагавіцаў з блёсткамі ды зрабіў сюсю проста на парэпаны мур. Сонейка, што акурат у гэты момант выпаўзла з-пад воблачка, гарэзьліва яму падміргнула. Ад сьнегу пайшла шматабяцальная пара.

– Свабода і догмы – гэта супярэчнасьць сама па сабе, – падумаў Марцін. – І няма межаў на шляху ўнутранага вызваленьня сваёй натуры – сацыяльнай, сэксуальнай, мэнтальнай… Урэшце, толькі табе вырашаць, толькі ты сам маеш гэтую свабоду выбару.

Ён зашпіліў маланку, сплюнуў ды адразу ж страпянуўся. Струмені халоднага паветра траплялі ва ўсе шчыліны ягонай піжонскай скуранкі Prada.

Мужык у аблавушцы, што выкачваў гной з-пад сваёй шпакоўні на суседнім падворку, смачна вылаяўся, убачыўшы ў роднай вёсцы чалавека з залацістымі валасамі і вялізнай завушніцай. Марцін тым часам углядаўся ў малаўцямны кірылічны надпіс “Рием телоары” на паржаўленай шыльдзе, што красавалася насупраць.

Марцін чамусьці згадаў пра Гюнтара:

– Гэта табе не па клюбах на Кройцбэргу тусавацца.

Згадка прынесла толькі часовую палёгку. Неўзабаве Марцін прыкметна змаркатнеў. З Гюнтарам яны рассталіся амаль месяц таму. Той надарма час не губляў ды неўзабаве павесіў на “Фэйсбуку” сваю фотку ў абдымках зь нейкім дрэдзістым мулатам.

– Іваныч, ды ідзі ты ваабшчэ ў дупу, – дзьверы службовага ўваходу ненадоўга прыадчыніліся.

Усьлед за воклікам цёці Галі на ганак выйшаў няздарны баяніст, а потым і яго таварыш. Абодва адразу запалілі па астрыне.

– Я ж гавару гэтай бабёнцы, а яна...

– Ды хуля з тым баянам...

Яны пайшлі, пакідаючы за сабою дзьве няроўныя лініі густых сьлядоў. Аддаляліся па сьнежнай роўнядзі – паціху, але няўхільна. Адзін усё яшчэ матляў рукамі, нібыта дэманструючы працэс граньня на баяне.

Пальцы ўжо зьмерзьлі да болю. Марцін ледзь чутна прамовіў “scheisse” ды рушыў назад. Нягеглая і вельмі бюджэтная цеплыня ненадоўга вярнула яму пачуцьцё шчасьця.

На стэндзе з надпісам “Народнае аматарскае аб’яднаньне “Журавінка” запрашае” ўжо пасьпеў адклеіцца правы куточак.

Марцін выцягнуў з кішэні свой айфон. Цуду ня здарылася. Экран упарта не хацеў запальвацца, даводзячы зьбітую ісьціну пра тое, што вечных крыніц энэргіі не бывае.

Ён мог хіба вельмі прыблізна ўявіць, колькі цяпер часу, але цалкам разумеў, што сёньняшні самалёт на Бэрлін даўно ўзьляцеў у марознае неба, і хвалявацца на гэты конт было ізноў ужо запозна. Зрэшты, далёка не ўпершыню.

– Ну а ты, сынок, чаго сноўдаесься тут? – запытала яго цётка Галя, адзінаасобная гаспадыня гэтай ратавальнай цеплыні.

Марцін усё зразумеў безь перакладу, але палічыў за лепшае толькі дэбілоідна пасьміхнуцца.

– На во пахмяліся, ці што? А тое цяжка ж табе, мусіць, мой саколік.

Наліваючы ў шклянку нейкую не зусім празрыстую вадкасьць, яна нахілілася проста пе-

рад ім (Марцін цяпер сядзеў за імправізаваным сталом). Ён адчуў сакавіты і бадай прыемны пах ейных падмышак.

– Во агурчыкам, агурчыкам давай, а! – вучыла яго цёця Галя. – Зразу лепей стане.

Лепей сапраўды стала, але Марцін усё ж званітаваў. Прыблізна на тое ж самае месца, што і ўчора. Цёця Галя цярпліва прыбрала, пакінуўшы толькі мокрую пляму.

– Зара во яшчэ ў магазін зьбегаю, а потым ужо і пара, – сказала яна.

Марцін сядзеў як сядзеў, абапершыся аб стол. Перад вачыма плыло. Потым ён хмыкнуў сам сабе ды адкінуўся назад, на сьпінку крэсла.

Атрымаўся нейкі разрыў. Марцін трызьніў наяве. Яму падавалася, быццам яны з Рудзі адпачываюць на Мальце. А потым ён чамусьці ўжо чытаў даклад на канфэрэнцыі супраць дыскрымінацыі. Дыскусіі адносна мэтодыкі камінг-аўту чакаліся асабліва бурлівыя.

Потым Рудзі... ці не, усё ж гэта быў Марцін... альбо, можа быць, Гюнтар, альбо Штэфан? Не, усё ж такі Марцін. Напэўна, гэта быў Марцін. Ён абапёрся лакцямі на пакрыты раёнкай стол, зь цяжкасьцю разарваў змоўніцкую повязь зьліплых губ і ледзь чутна прамовіў:

– Свабода... самадастатковасьць... цела... падзелы... умоўная рэакцыя на раздражняльнікі... тонкія нацягнутыя ніткі, за якія варта толькі паторгаць...

Ён быў амаль перакананы ў тым, што нэрвовыя канчаткі маюць нейкі мэтафізычны працяг. Па-за межамі цела яны пераўтвараюцца ў нябачныя нематэрыяльныя ніткі, і калі той, хто трымае іх за канец, зьлёгку цягне на сябе, чалавек амаль мэханічна робіць патрэбны гэтаму таму рух. Быццам лялька ў тэатры.

Марцін заплюшчыў вочы, спадзеючыся ўзгадаць пару-тройку вельмі важных для свайго жыцьця каштоўнасных установак ды іншых акалічнасьцяў. Пасьля правалу апэрацыі пацягнуўся да бутэлькі з-пад “Дзюшэсу”, каб наліць сабе яшчэ паўшклянкі вадкасьці. Гэтым разам яна была прынятая, бы чаканы госьць.

– Так, быццам лялька ў тэатры...

Празь нейкі час дзьверы адчыніліся. Цёця Галя дыхала задаволена й глыбока, нібы падчас сэксу.

– Ну ўсё, пара ўжо, немчык ты мой дарагі. Давай, адзявайся хутчэй. Цераз пятнаццаць хвілін пачынаем.

Кашуля-вышыванка прапахла прыемным водарам мужчынскага поту. Марцін нават крыху ўзбудзіўся, даўшы волю фантазіі пра тое цела – мабыць, валасатае ды мускулістае, – да якога яна калісь усутыч дакранался. Потым нацягнуў кашулю адразу на скуранку. Балазе, памер гэтай апранахі дазваляў Марціну выкарыстоўваць яе ў якасьці паліто.

Ён зірнуў на сябе ў прымацаванае да шафы люстэрка. Няголенасьць і пачырванеласьць выдатна дапаўнялі ягоны сцэнічны вобраз.

Цёця Галя ў гэты момант начапіла на галаву маску мядзьведзя. Потым зьняла сукенку і засталася ў адных рэйтузах і бюстгальтары. І ўжо толькі затым пачала ўлазіць у мядзьведзева тулава, зробленае з фарбаванай штучнай воўны.

– Ролю ты хаця б памятаеш? – пацікавілася яна ў Марціна. – Калі гэты алкаш пачне свой баян дзерці, ты во так во цюкнеш, і яшчэ во так во ножкай прытопнуць, зразумеў? На словах “Самая белая, самая чыстая”.

Марцінківаў галавой, быццам паяц, думаючы ў гэты час пра нешта іншае.

* * *

Робэрт Блёўджобс-малодшы. *Практычны дапаможнік па мэнтальным самазадавальненьні.* Кошт 16.99, у мяккай вокладцы.

Калі адным цудоўным ранкам вы прачнуліся і адразу зразумелі, што вам няма чаго тут рабіць, калі вашых жыцьцёвых матывацыяў ня хопіць нават на тое, каб дапаўзьці да лазенкі, пачысьціць зубы ды раструшчыць пазногцямі прышчык на носе, не адчайвацеся. Доктар ведае, чым вам можна дапамагчы. Дакладна кіруйцеся прыведзенымі намі парадамі – і ўжо падчас другога сэансу вы дасягнеце пэўнага плёну.

Такім чынам… Падумайце пра сваё месца ў актуальным мастацкім дыскурсе (калектыве фэрмы, арніталёгіі, стральбе з лука і г. д.), хвіліны празь дзьве ваша думка павінна крыху зацьвярдзець. Калі ж не, працягвайце пяшчотна і нясьпешна ўсьведамляць, наколькі значны ваш даробак у абранай галіне. Важную ролю тут грае фантазія. Уявіце, як вы сядзіце зь Мішэлем Уэльбэкам на тэрасе невялічкага парыскага рэстаранчыка, і раптам ён ляпае вас па плячы і кажа: “Ну, Вася Пупкін, ты раскрыў мне вочы, і цяпер я разумею, наколькі бязьлітасным сапраўдны пісьменьнік мусіць быць да сябе самога”.

Калі ваша фантазія запатрабуе разнастайнасьці, можаце ўнурыцца ў мэтафізычны, анталягічны, касьмічны аспэкт сваёй дзейнасьці. Калі ж і гэта ўжо перастане вас узбуджаць, уявіце сябе непрызнаным геніем, адрынутым чалавецтвам. Галоўнае цяпер – не спыняць рухаў пальцаў. У тым выпадку, калі задуманае атрымаецца на славу, вам гарантавана пару імгненьняў самаўпэўненай радасьці. Дажыць да вечара ў такім разе будзе значна прасьцей. Калі ж не – паўтарыце практыкаваньне. А раптам пашчасьціць?

* * *

Чалавек, які купляе цыгарэты, стоячы ля прылаўка сельскай крамы, з усімі ўласьцівымі для яе пахамі ды атрыбутыкай, чамусьці выклікае нематываваны прыступ шкадобы. Гэта няголены мужчына сярэдняга веку, трохі лысаваты. Яго вусы ўжо абрасьлі бязладнай шчэцьцю, што вытыркаецца і сям і там. На ім кашуля наросхрыст, праз якую праглядаюцца валасатыя грудзі, і зашмальцаваныя спартыўныя порткі. За сьпінай – хатулёк зь яблыкамі.

Мужчына доўга разглядае асартымэнт тытунёвых вырабаў. Росту ён невысокага, і таму даводзіцца задзерці галаву ўгару ды яшчэ і прымружыць адно вока.

Шэры верасьнёўскі дзень, які пануе над вёскай, дымкі з комінаў, пакамечаны кодаб ад жыгулёў насупраць крамы ды роўная чарада гусей, што перакрыла сваімі целамі дарогу ў райцэнтар, толькі паглыбляюць адчуваньне ўсеагульнага трагізму існаваньня.

Мужчына дастае з кішэні грошы, пачынае іх лічыць. Пачэсвае вус, зь цяжкасьцю робячы выбар.

– Пачак “Дамінанты”, – кажа ён. – Не, лепей “Туп-туп”. А якія ўвогуле лепей?

– Бяруць “Дамінанту”, – адказвае прадавачка.

– Добра, давайце “Дамінанту”.

Ён працягвае грошы і запіхвае ў кішэню рэшту.

Міма праехаў матаблёк з прычэпам. Расканцэнтраваная энэргія яго матора прымусіла здрыгануцца шыбы ў вокнах.

Мужчына дакрануўся да сваіх засаленых валасоў. Нешта непакоіла яго дзесьці акурат па-над ілбом.

– Во, ужо прывезьлі, – кажа прадавачка, адрываючыся ад свайго чытва.

Грукат ботаў. Двое хлапцоў увайшлі праз службовы ўваход, схіляючыся пад цяжкай ношай, абцягнутай непразрыстым поліэтыленам.

– Кладзіце сюды, – загадала ім прадавачка.

Затым яна расьпісалася ў працягнутым ёй кандуіце. Хлопцы адразу ж сышлі, тупаючы гумовымі ботамі.

Мужчына непарушна стаіць на месцы. Відавочна, што далёка ня ўсе ягоныя жаданьні спатоленыя, і ён аніяк ня можа даць сабе з гэтым рады.

Прадавачка прыадкрывае поліэтылен, бярэ мясны нож і адразае кавалак. Спрабуе на смак, закрывае поліэтылен.

Затым адкрывае зноў, адразае яшчэ адзін кавалак і працягвае яго мужчыну:

– Пакаштуй.

Ён есьць. Нейкая тлустая вадкасьць сьцякае па ягоным падбародзьдзі. Вусінкі зьліпаюцца.

Аліцыя ў гэты момант спажывае кавалак кавуна. Яе чырвоныя вусны раз-пораз утвараюць прыгожы авальны прагал. У ім адзін за адным зьнікаюць згусткі чырвонай мякаці. Цьвёрдыя выспачкі сілай паветраных плыняў знутры трапляюць у маленькі сподачак. Затым вусны змыкаюцца – каб ізноў разамкнуцца літаральна празь некалькі сэкундаў.

Я назіраю за ёй закаханым позіркам. Аліцыя раптам папярхнулася ды па-панібрацку засьмяялася.

Раптам цэляфан пачынае варушыцца.

Мужчыну патрапіла невялічкая костачка або нават храсток. Мужчына дастае яго з рота і заціскае ў кулаку.

– Яны яшчэ не распусьціліся, – кажа прадавачка. – Яшчэ ня час зьбіраць ураджай.

Па вуліцы ў напрамку крамы рушыць матацыкл дзеда Хвядоса. Найсьмялейшая гусь кідаецца да яго напярэймы, цюкаецца дзюбай у гумовую пакрышку і раптам ламаецца. Хвядос паркуе матацыкл і дастае з каша патрэбны інструмэнт.

Мужчына маўкліва стаіць перад прылаўкам. За вакном брэша сабака. Пачынаецца дробны дождж. На асфальтавы лапік каля крамы лянотна выпаўзаюць чарвякі.

– У мяне ёсьць дачка, – кажа прадавачка. – Яе клічуць Сьвятлана.

Хвілін празь пятнацаць яго ўжо падвешваюць да бэлькі, цудам ацалелай пад прагнілым дахам закінутай фэрмы. Тапак з правай нагі звальваецца долу. Мужчына скручвае вусны трубачкай і ціхенька прысьвіствае. Пабачыўшы ягоны выраз твару, бывалы рыбак, мусіць, падумаў бы, што ў гэтага дзядзькі клюе.

* * *

Летняя раніца ў невялічкім гарадку памерам прыкладна з Чавусы або Бягомлю. Хатняй гаспадаркі ніхто зь яго жыхароў ня мае, і таму ў якасьці “пеўня” даводзіцца выступаць камару, які ў тваёй напоўненай перасьпелымі, ужо “ранішнімі” відзежамі сьвядомасьці пераўтвараецца ў істоту бадай “міталягічную”.

Ня могучы ўмомант адрынуць іх як “несапраўдныя”, ты пачынаеш варушыцца пад коўдрай. Сонца ўжо прыпякае, і валаскі на скуры пакрываюцца мікраскапічнымі кропелькамі ранішняе “расы”. Тым часам расплюшчанае вока даткліва “вывучае” фактуру ільняной прасьціны, на якой, калі прыгледзецца, можна ўбачыць незмывальныя “сьляды” былых наведвальнікаў гэтага гатэлю.

Акно прыадчыненае, і хоцькі-няхоцькі ты становісься сьведкам ранішняга местачковага жыцьця, якое віруе ўжо напоўніцу. Мужчына цягне ўздоўж ходніка ровар, ён гучна крычыць нейкаму свайму “знаёмцу”, сустрэтаму на вуліцы. Ты чуеш толькі дзіўны выраз “авойхуёй”. Зразумела, што “рыбалка”, зь якой вяртаецца дзядзька, была для яго ўдалай, нават не зважаючы на “ўлоў”.

На нейкі момант, але зусім ненадоўга, гэты “эпізод” прыцягвае маю ўвагу. Я міжволі задумваюся пра тое, наколькі ўзровень гарадзкога жыцьця адпавядае тут ім пры дадзеных сацыякультурных варунках, навошта і як іх параўноўваць. Потым мае думкі набываюць звыклы ход, і я ізноў вырашаю “задачку”: колькі “жарэ” джып “Хітачы”, калі “Нісан” з аб’ёмам 2.0 на сотню “бярэ” толькі восем з паловай літраў.

Тым часам раніца няўхільна працягваецца. З цэнтральнай плошчы даносяцца гукі музыкі. Відаць, там адбываецца “нейкае” мясцовае “сьвята”, думаеш ты. А мужык на ровары ўжо скончыў сваю гучную і бязладную гамонку і “разьвітаўся” з суразмоўцам, запрасіўшы яго “на юшку”. Потым ты чуеш шорганьне колаў аб асфальт, і яно спакваля аддаляецца. Ты прыслухоўваесься, намагаючыся распазнаць яго ў “сымфоніі” іншых гукаў, і часам нават здаецца, што гэта атрымліваецца.

Ты працягваеш “услухоўвацца” нават тады, калі роў матору грузавой машыны дашчэнту “заглушыў” гэтую “далікатную” крыніцу гуку.

Потым у дзяўчыны, што праходзіла акурат пад “тваімі” вокнамі, раптам “устрапянуўся” мабільнік. Мэлёдыі састарэлага “шлягеру” наступствуе імпэтная гамана з калярытным “пранонсам”.

Я “адторгваю” коўдру і павольна ссоўваю нагу з канапы. Позірк на якое імгненьне “раптам” спыняецца на чырвонай “кропачцы” прышчыку, заўважанага мною ў гэтых “сонечных” промнях на ўласнай лытцы. Потым, трохі “пачухаўшы” яе сваімі даўно ня стрыжанымі “пазногцямі”, я ўрэшце апынаюся на “цьвёрдай зямлі”.

“Намацаўшы” тапкі, рушу да “прыбіральні”. “Сьвядомасьць” у гэты “час” актыўна “фармуе” новы маршрут “падарожжа” па “Італіі”, ставячы перад “сабой” пытаньні, дзе можна знайсьці бясплатную прыбіральню ў “Вэнэцыі”. Такія “думкі” выкрышталізоўваюцца ў “нешчасьлівага” неўладальніка шэнгенскай візы зусім “нязмушана”, напаўняючы гэты наскрозь “айчынны” “ранак” непазбыўнай “тугою” па “новых” “даляглядах”. Толькі “фізыялягічныя” “задавальненьні” “здатныя” прынесьці “доўгачаканую”, хай і вельмі “часовую”, “палёгку”.

“Жоўты” “струмень”, які “імкліва” “праносіўся” па “сьценцы” “ўнітазу”, “здаваўся” “неаспрэчным” “аргумэнтам” у “праўдзівасьці” “навакольнага сьвету”. “Уласнае” “існаваньне” “неспадзеўкі” “стала” “неабвержным” “фактам”. Потымсловысталізьліпаццапаміжсабоюбыраз марожаныяпяльменівантробынаросхрыстіяшчэтамтраплялісяхрасткіабрысысырэчаўгубляліцэл ьнасьцыіхпаліэтыленаваяабалонкаірваласяўтвараючысуцэльнаемесівалтіаырмяянілясемсацмі.




## ТРЫ ВЫПРАБАВАНЬНІ ЛЁНДАНАМ

Калі бываю сам з сабою я,
прыглядваю адразу за абодвума.
*Станіслаў Ежы Лец*

**Beginning**

Калі пачынаюцца такія падарожжы, як гэтае, то абавязкова па вяртаньні пачынаеш моцна сумаваць, скардзіцца на сваё жыцьцё, зьнікае жаданьне нешта рабіць, дзейнічаць… жыць… а потым ахоплівае цяжкая дэпрэсія, якая цягнецца… цягнецца… зьядаючы знутры.

Але калі жывеш у Лёндане, як жа кожны дзень хочацца дадому, як сумуецца па родным Менску… Аднак і культурны шок, зьдзіўленьне й эйфарыя з пахмельлем праходзяць. Тады пачынаеш адчайна сумаваць па сям'і, ведаючы, што наперадзе – яшчэ больш за восем тыдняў вучобы ў "Акадэміі Тоні і Гай".

Не сумаваць альбо забывацца на Менск дапамагаюць толькі падзеі, якія хутка пралятаюць праз цябе, падарожжы, прыгоды, архітэктура, мастацтва, вучоба, літаратурнае ўзбагачэньне, пачынаючы ад бясплатных ангельскіх паштовах і сканчваючы апошнімі сьвежымі анталёгіямі кароткай прозы Англіі, знойдзенымі на пыльных паліцах старых кнігарняў гораду… і, час ад

часу, паранаідальная шызафрэнія, што ты – гэта быццам бы ня ты, што не з табою ўсё адбываецца, што гэта ня ты пакінуў столькі цяжару ад апошніх жыцьцёвых падзеяў дома; а яшчэ ты – гэта той самы малады чалавек, які пазірае на цябе зь люстэрка ў пабе пад гаўбцом твайго новага ангельскага жытла; і ёсьць трэці ты, які на ўсё гэта пазірае звонку і разумее, што яшчэ імгненьне – і гэтая танюткая мяжа між вамі разарвецца і цябе возьме ў палон вынішчальна-ачышчальнае шаленства.

Быў 2008 год, зіма, я тады пісаў злыя й брудныя апавяданьні, марыў пра сваю першую кнігу й захапляўся самотай… Бо перад тым як патрапіць у краіну сваіх мар, я пры вельмі дзіўных і жахлівых абставінах разышоўся зь дзяўчынай, зь якой жыў разам два гады, аточаны сабакамі й брудным адзеньнем. У Лёндан я прыляцеў з разьбітым ілбом праз лазаньні па Кальварыйскіх могілках ноччу, зьбягаючы ад аўчарак і аховы… У Менску я пакінуў не сваю кватэру ў стане руінаў: паўсюль засталіся раскіданыя кнігі й адзежа, бітыя шклянкі й талеркі, зацягнуты цінай акварыюм з афрыканскімі жабамі, па лесьвічным пралёце былі раскіданыя паламаныя рэчы ад шафы, камода й колькі парваных кніг з маёй бібліятэкі. Я сядзеў у ангельскім бары, памяты, сьмярдзючы, баяўся зазірнуць у вочы маім спадарожніцам і інвэстару, нам падалі піва й вараную бульбяную кашу разам з ангельскай сасіскаю й салатаю, я накінуўся на куфаль піва й асушыў яго за імгненьне… За тры тыдні беспрабуднага пітва мой твар азыз, як у прафесійнага алькаголіка… І самае істотнае – маё шчасьце, мой боль – я пакінуў ў Менску любімую маму, якой толькі-толькі зрабілі апэрацыю, і яна знаходзілася на хатнім лячэньні… І, нягледзячы на ўсё тое, што падрывала маё здароўе, як фізычнае, так і, асабліва, маральнае, я ведаў, што ў Менску самотнаю засталася мая палюбоўніца зь вялікімі аксамітавымі грудзямі й доўгімі чорнымі пухнатымі валасамі. І вось яно, пытаньне: “Які Лёндан, калі ў жыцьці вэрхал?! Калі праз сваё падарожжа ты губляеш яшчэ й цэлы год навучаньня ва ўнівэрсытэце?!”



Але я марыў пабачыць Лёндан, марыў яшчэ з тых часоў, калі дзіцём апынуўся ў Шатляндыі, і мне нарэсьце пашанцавала! Калі дакладна, то я, здаўшы патрэбныя іспыты, выйграў конкурс на вучобу й пражываньне ў казачным горадзе цягам ажно васьмі тыдняў. Такім чынам, я падпісаў дамову, паводле якой быў абавязаны па заканчэньні навучаньня вярнуцца ў Менск і два гады адпрацаваць у франшызе "Тоні і Гай", а таксама атрымліваў аплочанымі навучаньне, здымную кватэру, квіткі на самалёт і безьлімітную картку Амэрыкэн Экспрэс.

І вось ён я, у найгоршым стане ў жыцьці, з такой колькасьцю праблем на плячах, што лягчэй застраліцца, чым іх вырашыць, вось ён я, разам зь яшчэ дзьвюма дзяўчынамі, паляцеў у Англію і пасяліўся на вуліцы ў двух кроках ад Нацыянальнага Брытанскага музэя, насупраць "літаратурнай вуліцы", і кожную раніцу, калі я прачынаюся зь цяжкою галавою, быццам бы ў ёй адбыліся адразу некалькі выбухаў, я п'ю моцную каву, палю й шпацырую праз сквэр Расэла, дзе ўжо кружляюць спартоваю хадою жанчыны й мужчыны, вавёркі й сабакі… Я іду, трымаючыся за галаву, дзівячыся, адкуль столькі здароўя ў гэтых англіках, каб так выдатна насіцца па сквэрыку ў шортах, калі на календары – люты… Потым праходжу Музэй па вуліцы Блумсбэры й на скрыжаваньні збочваю ўлева, праходжу паўз краму ангельскіх парасонаў і цыліндраў, потым збочваю ўправа, на Нью Оксфард стрыт, завітваю ў "Старбакс", замаўляю вялікі кубак моцнай кавы, закрываю яго кардоннай накрыўкай і пераходжу дарогу на другі бок вуліцы, далучаюся да астатніх студэнтаў, якія паляць "самакруткі", а я, як сапраўдны беларус, прывёзшы з сабою некалькі блёкаў "Ўінстана", дастаю цыгарэту, якая тут па коштах прыроўніваецца да паўграма золата, запальваю яе, расплюшчваю нарэсьце вочы, п'ю каву, кашляю. Спрабую ўсьміхацца гэтаму натоўпу добразычлівых людзей, але атрымліваецца кепска…

Усё толькі пачынаецца, у мяне яшчэ ёсьць нармальныя цыгарэты, і я пакуль не перайшоў на табаку і табачныя паперкі… Са студэнтамі я яшчэ не знаёмы, для іх я, напэўна, выглядаю менавіта так, як яны сабе ўяўляюць Усходнюю Эўропу – кудлатая заплыўшая пыса, перагар, у вачах злосьць і нявыкрутка… Вэлкам, Сяргею, Лёндан пачынае свае выпрабаваньні, каб ты змог пераключыць увесь цяжар уласных праблем пакуль што на ангельскае асяродзьдзе, забыцца, хаця б часова, што недзе там, у далёкім Менску любая маці пасьля апэрацыі, разьбітыя жыцьці й сэрцы, кінутыя кватэры й сабутыльнікі, каханкі й сябры, надзеі й няскончаны ўнівэрсытэт, ты стаіш, можа быць і ня надта трывала, на гэтым ходніку, але ты стаіш на Туманным Альбіёне, на старой брукаванцы, і ўсё толькі пачынаецца!

**London**

Як мы прыехалі? О, як мы прыехалі!! Самалёт быў захоплены ў палон алькаголем, крыкамі Сэкс Пісталс, неадэкватнымі вачыма, храпам і нахабствам… Мы прызямліліся амаль так, як і ўзьляталі, з трэскам і скавытаньнем, бо па-іншаму самалёты ТУ-134 ад Белавіі ня лётаюць.

Паўгадзіны выдаткавалі на бадзяньні па агромністым аэрапорце Гэтвік, і вось мы ўжо стаім на гумовай дарожцы, якая рухаецца й вязе нас з валізамі па доўгім калідоры да сьвятла наперадзе… Потым блуканьні між незнаёмымі й варожымі пакоямі й лесьвіцамі і выпадкова знойдзены выхад. Гэта заўсёды так, у любым аэрапорце, які б ён ні быў велізарны, блукальны, усё роўна выйдзеш куды трэба…

Натоўп. Усе кагосьці чакаюць, усьміхаюцца, плачуць, радуюцца, мы грымім напаўпустымі бутэлькамі ў плястыкавым пакеце, цягнем за сабою валізы на колах. З натоўпу нас выхоплівае высокі малады мужчына з позіркам, як у ваўка, – гэта наш інвэстар, чалавек, які ня толькі наш кашалёк, але й страхоўка, дах над галавою й адзіны знаёмы ў гэтай краіне. Мы паравозікам за ім, да чырвонага бэ-эм-вэ, у салёне якога я выяўлю адзіную цікавую рэч – агромністага вожыка, зробленага зь недапалкаў у попельніцы – інвэстар курыць па чатыры пачакі моцнага Мальбара на дзень… Нэрвовая гэта справа – інвэстыцыі.

Едзем па левым баку, дзіўнае адчуваньне, едзем доўга па аўтабане, потым па двухпавярховым аўтабане, потым блукаем вузкімі вуліцамі, а потым спыняемся… ямо ангельскую страву: бульбяная каша, стэйк, паўсюль кетчуп Хайнц розных колераў, смакаў, пахаў і спэцый… паўсюль эль, паўсюль пах Лёндана, але я пакуль не ўсьведамляю сваю фізычную прысутнасьць у горадзе.

Пасьля таго як брудныя талеркі прыбраныя і мы ўжо п'ем трэці куфаль эля, расчырванелыя, захмялелыя й сонныя, лянотна ўсьміхаемся й скоса паглядваем на інвэстара, баючыся нават запытацца пра грошы й кватэру, ён моўчкі кладзе на стол плястыкавую картку Амэрыкэн Экспрэс, ключы, піша адрэсу, гэта амаль суседні дом ад паба, дзе мы сядзім, разьвітваецца й сыходзіць. Да заўтра, пан С.!

Першы дзень, раніца, мы ледзь знайшлі Акадэмію.

Але ад самага пачатку: па-першае, мы ледзь знайшліся самі па сабе ў кватэры, у якой панаваў вэрхал і бруд, потым ледзь знайшлі бойлер і нагрэлі вады, ледзь знайшлі сілы памыцца, потым павячэралі й ізноў выпілі, і вось, на наступны дзень ледзь прачнуўшыся й ледзь апрануўшыся ў пакамечаную ў валізе адзежу, мы ўтрох выскачылі на вуліцу, бо па часе ўжо спазьняліся на першы занятак… бегам, бегам, бегам.

Першы дзень. Акадэмія. Спазьненьне на дзьве гадзіны, прайшла першая лекцыя, знаёмства, і я разам зь дзьвюма сваімі спадарожніцамі й суседкамі адразу апынуўся на лекцыі па бясьпецы, якую чытае мужчына са Скотланд Ярда, падобны да Жэрара Дэпардзьё. Распавядае ён пра тое, што ўсе мы тут замежнікі, маладыя людзі з разнастайных месцаў, краін і кантынэнтаў… і менавіта ў гэты час мы заходзім у залю, перарываем лектара, доўга шукаем вольных месцаў і знаходзім толькі на самым перадзе, акурат перад лектарам… Пяціхвілінка сораму й нянавісьці, і мы ўжо сядзім, а над намі ўзвышаецца паліцэйскі, які спрабуе патлумачыць, што нам, прыежджым, трэба абавязкова быць уважлівымі на вуліцы, бо мы сьвецімся іншаземшчынаю, якую так лёгка абрабаваць, узяць у палон, згвалціць. І першае, на што варта зьвярнуць увагу, кажа капітан, гэта нашыя паклажы, торбы, заплечнікі й кайстры, а менавіта – ніколі, ані ў якім разе не ўтрымліваць грошы й дакуманты ў кішэньках торбаў, якія лёгка расшпіліць альбо парэзаць тонкім лязом. І вось вам прыклад, кажа паліцэйскі і, апусціўшы голаў, заўважае мой заплечнік, бярэ яго й падымае ўгору ўсім на агляд:

– Вось тут, як вы можаце ўсе бачыць, адразу кідаецца ў вочы першая кішэнька заплечніка, маленькая, пукатая, чырвоная, і тут людзі бесклапотныя часта ўтрымліваюць каштоўнасьці, лічачы, што калі ім самім зручна й хутка дабірацца, то астатнім гэта ня прыйдзе да галавы, – і капітан расшпільвае з усьмешкаю кішэньку і, нават сам не чакаючы, выяўляе там мой пашпарт, паміж старонак якога схаваная наміналам па сто фунтаў цэлая тысяча.

Паліцэйскі сам у шоку, бо такая недарэчнасьць! Уся аўдыторыя сьмяецца, рагоча, пляскае ў ладкі. Мяне запытваюць, адкуль я, я кажу:

– Belarus.

– What?

– Belarus.

– Aha, OK.

Што тут казаць, ня надта файнае першае знаёмства, ня самыя лепшыя ўражаньні ад нас… Капітан яшчэ ўвесь дзень будзе паказваць розныя кішэнныя сігналізацыі, спэцыяльная званкі й сьвісткі на вулічнае здарэньне, мы будзем піць гарбату, есьці пячэнькі, я буду штохвіліны перакладаць сваім спадарожніцам лекцыю… На нас будуць пазіраць з усмьешкаю, але з усмешкаю такою, ня злоснаю, усьмешкаю, якую дораць блазнам, дзецям, сьмешным сабачкам… Мы атрымаем стос раздрукоўвак, нейкія дурныя саколкі й кепкі ад паліцэйскага аддзелу, капітан пацісьне мне руку, скажа штосьці незразумелае, але сьмешнае для астатніх, і настане вечар, і да нас прыедуць замоўленыя інвэстарам перакладчыкі.

Першы вечар – гэта Піца Хат разам зь перакладчыцаю й яе бойфрэндам, як гэта тут гучыць. Першы вечар – гэта ўпершыню пакаштаваны сідр, вялікая, неверагодна вялікая піца, сум, жарты пра нашае лахаўства, успаміны пра былое жыцьцё ў Менску й Полацку ад нашых новых знаёмых, пітво, пітво, пітво і доўгі, марудны, насычаны рамантыкаю й няўлоўным сьвежым новым пахам шпацыр па лёнданскіх вуліцах і цяжкі кароткі сон, забыцьцё, спроба запамятаваць сваё беларускае жыцьцё.

Пералічыць студэнтаў-аднагрупнікаў складана, складана нават назваць усе краіны, прадстаўленыя ў адным вучэбным пакоі, які месьціцца на трэцім паверсе й мае сваёю мэтаю навучаць прасунутых студэнтаў для сваёй сэткі салёнаў – “Vardering Stuff Course”: Грэцыя, Італія, Гішпанія, Ірландыя, Францыя, Алжыр, Кювэйт, Японія, Кітай і мы – Беларусь. Нічога новага, акрамя нас. Вось.

А назаўтра быў вечар барбэкю… Мы доўга ехалі зь сябрамі-перакладчыкамі да іх у госьці, яны жывуць у дамку, дакладней у пакоі ў дамку, які напампаваны мігрантамі, у трэцяй зоне Лёндана… Што такое Трэцяя зона, растлумачыць складана, тое самае як распавесьці, колькі станцыяў мае ангельская падземка… Трэцяя зона Лёндану – гэта, вядома, ня цэнтар, але й ня ўскраіна, гэта як паехаць з праспэкта Незалежнасьці ва Ўручча, але статус Трэцяй зоны – збольшага эміграны, людзі ненадзейныя… Увесь раён уяўляе сабою вуліцы, забудаваныя двух-трохпавярховымі дамкамі часоў разьвіцьця манаполіі… гэта як вуліцы, дзе жывуць працаўнікі з прамысловай часткі Манхэтану, вуліцы-дэкарацыі з фільмаў “Монці Пайтана” альбо з фільму “Чамаданы Тульса Люпэра”… Ехалі мы паўтары гадзіны… потым ішлі пехатою дваццаць хвілін… было яшчэ сьветла, таму больш-менш бясьпечна… барбэкю ў двары за домам, ангельскі эль, беларуская гарэлка, шатляндзкі ўіскі, печанае мяса, кетчуп Хайнц, высьвятленьне, што адзін з нашых новасьпечаных сяброў – гей, пра гэта ня ведалі нават ягоныя старыя сябры дзяцінства, расповеды пра Менск, высьвятленьне, што нашая перакладчыца піша вершы… а потым высьвятленьняў было так багата, яны былі такія вясёлыя й шчырыя, каляровыя й п’яныя, што зьнiклі ў дробязях, але засталіся як агульны цёплы вечар. Нягледзячы на люты – месяц, мы сядзелі ў пледах… І толькі позьні вечар адбіваўся сваім неспакоем, калі мы крочылі да начнога аўтобуса, каб дабрацца да Расэл Скўэар – крыкі, бег нейкіх людзей, адзін зь іх абарочваецца… потым чутны стрэл… потым мы ў краме, шнапсы, запакаваныя ў папяровыя пакеты, паніка, вусьціш, прыгоды. Да свайго канцавога прыпынку мы не даехалі, бо было вырашана тэрмінова ехаць дапіваць у Сэнт-Джэймс парк недалёка ад Трафальгарскай плошчы, у парк, дзе днём плавалі качкі й гулялі дзеткі, а газоны былі падстрыжаныя й засаджаныя жоўтымі нарцысамі… Мы пілі на палянцы, таптал нарцысы, хадзілі ссаць пад старажытны ангельскі вяз… Нам было выдатна, і паліцыя, якая, патрулюючы, праяжджала празь нас разоў пяць, назірала за намі здалёк, але не адважвалася падысьці – бо мы былі ня мы, а нейкія іншыя… дзіўныя, шалёныя прывіды, бо хто яшчэ, як не прывіды, будзе ў цэнтры Лёндана ў парку раскладваць на газэтку на сьвежападстрыжаным газоне закуску й мяць кветкі, толькі прывіды – зялёныя ўпыры з Усходняй Эўропы.

Што казаць пра музэі, сорам, вялікі сорам нам, бо я бачыў, як шмат Шагала прадаецца, як шмат карцін утрымлівае той жа Тэйт Мадэрн альбо Нацыянальны Музэй… Адно тое, калі стаіш перад Сланечнікамі Ван Гога альбо перад палотнамі Магрыта, не істотна, галоўнае, што адчуваеш сакральнае спасьціжэньне гісторыі, мізэрнасьць існаваньня, усё падаецца ня вартым увагі, ня вартым жыцьця, і адначасова ўсе шэдэўры, што так разнастайна прадстаўленыя ў шматлікіх музэях, галерэях і салёнах Лёндана, здаюцца зусім ня вартымі таго, як высока іх ацэньваюць, таго, якую значнасьць ім надаюць, усё абвастраецца, усе пачуцьці перамешваюцца й той самы сум існаваньня становіцца найбольш зразумелым і ясным, мяжа, калі задумваешся пра сваё існаваньне, сьціраецца, і нічога больш няма якрамя асэнсаваньня таго, што ты і увесь сьвет – гэта проста ты і ўвесь сьвет, жывёлы, расьліны, чалавек, вада, зямля… усё адно й адначасова ўсё ёсьць розным і прыгожым, адвечным і нязьменным. Толькі дзеля гэтага варта выдаткаваць пару тыдняў свайго жыцьця каб прайсьціся па галоўным мастацкіх кропках Лёндана: Далі, Пікаса, Магрыт, Мунк, Кало, Мадыльяні, Ван Гог, Клее, Полак, да Вінчы, Рэнуар, Рывера, Манэ, Монэ, Дзюшан, Вэрмеер, Босх, Сыслей…

Першая паездака па горадзе, на сьвежую галаву, з раніцы, з шырока расплюшчанымі вачыма, зь цьмяным адчуваньнем казачнасьці… і адразу я абіраю сабе кропкаю пачатка шпацыру Таўэр оф Лёндан, і на сваім прыпынку Расэл Скўэар я ўпершыню трапляю ў салён чырвонага дзьвюхпавярховага аўтобуса, такога таемнага й адвечна цікавага, аўтобуса, які перасьледуе мяне ад самай першай клясы, з урокаў ангельскай мовы… Я знаходжу вінтавую лесьвіцу й ка-

раскаюся на самы верх, узрадаваны тым, што наперадзе нікога, я займаю месца каля лабавога вакна (месца для пацалункаў, бо гэтая камэра зьверху акурат здольная праглядаць увесь салён, і пярэдняе сядзеньне – сьляпое месца, месца пад камэрай), і маім вачам адкрываецца неверагодны краявід другога паверху Лёндана, яго жыцьцё зьверху, па-іншаму, калі пабы, кнайпы, пірагоўні – усё недзе ўнізе, а зьверху дрэвы, старая архітэктура, сьветлафоры зазіраюць у вакно, рэклямныя расьцяжкі пралятаюць, ажно кранаючыся чырвонага даху… Гэта заварожвае, прыцягвае, горад падаецца магічным, я шчоўкаю кадры на сваю “мыльніцу”… Вакол сонечна, але гэта цяпер, бо праз хвіліну пачынаецца дождж…

Лёнданскія аўтобусы, каб не замінаць руху па такіх вузкіх вулачках, замест таго каб пашыраць дарогі, умешвацца, так бы мовіць, у самую існасьць горада, вырашана было пераставіць на спэцыяльныя шасі, якія на паваротах былі здольныя на дзевяноста градусаў павароту кола… Звонку гэта ня надта заўважна, але калі ты знаходзісься на самым носе аўтобуса, на другім паверсе, то бок на самым ілбе чырвонай машыны, ягоныя рэзкія павароты, крутыя й адчайныя, падаюцца сапраўдным атракцыёнам, і першае падарожжа здаецца ўвогуле экстрэмальным… але ненадоўга, вось ён спыняецца й я пачынаю сваё першае падарожжа праз Лёндаскі мост да Шэксьпіраўскага тэатру, буйной галерэі Тэйт Мадэрн, да Лёнданскага вока, празь якое пехатою да Біг Бэна, адтуль да Трафальгарскай плошчы… і дадому праз Нацыянальны музэй… Часам маршрут заводзіць мяне да Сэнт Пол Кафэдрал альбо да ланцуга паркаў – Сэнт Джэймс парк, Грын і Гайд паркі, празь якія сьцежкаю Лэдзі Дзі я магу дабрысьці й да раёну Кэнсінгтон… Гэта мае звычайныя маршруты, якімі я часта пераадольваю, быццам зьбягаючы ад нявыкруткі, скрушныя думкі. Лёнданскія шпацыры – гэта мая ўласная псыхатэрапія, маё лячэньне, дзе я зазіраю ў галерэі, старыя аблупленыя пабы, якія падаюцца такімі роднымі, спыняюся на розных мастах – Міленіюм, Ватэрлё, Таўэр, Лёндан, Блэкфрайарс, Лямбэт, Ваксхол і іншыя… я самотна ўглядаюся ў Тэмзу, таплю ў ёй выявы, думкі, расчараваньні… я мушу вярнуцца дамоў адноўленым, іншым… на кожным сваім шляху я пакідаю частку ад мяне былога, таго, з кім мне ня хочацца камунікаваць… У парках я падоўгу сяджу й назіраю за качкамі, лебедзямі, за англікамі, эмігрантамі, іншаземцамі, я вучуся глядзець унутр сябе, але пакуль што ў мяне атрымліваецца пісаць толькі скрушныя нататкі й злосныя, брыдкія апавяданьні.

У Акадэміі, акрамя неверагоднага патоку інфармацыі, паскоранага руху часу, шалёных аб’ёмаў кавы й ламаньня галавы, як напісаць гэтую вар’яцкую курсавую па разьвіцьці стылю й моды ангельскага “Тоні энд Гай” за пяцьдзясят год, акрамя сумных featureнакаляровых і размаітых студэнтаў, у мяне ёсьць тры сябры: Алі Аўюн, Сафі Паэт й Кэвін Фостэр.

Алі з Кювэйта, ён дужа падобны да Эдварда Рукі-Нажніцы, толькі ў яго высокі лахматы іракез і ён сам худы й невысокі, джынсы ў яго заўсёды амаль цалкам споўзшыя з заду, ён майстра круціць сапраўдныя ямайскія спліфы, набітыя самым адборным…

Сафі з Францыі, яна мае вялікія, цёмныя, вельмі прыгожыя вочы, кірпаты носік і кудлатыя валасы, якія віюцца па плячох і заўсёды імкнуцца кудысьці ніжэй сьпіны… Праз год я даведаюся, што яна, так і не закончыўшы курс, пакінутая на паўторнае навучаньне, зьехала ў Афрыку й пачала пісаць апавяданьні… Цяпер яна ўжо друкуецца й мае гонар ладзіць свае аўтарскія вечары ў Францыі.

Кэвін – карэнны англік, жыве на ўскраіне Лёндана, у Сіці навучаецца, бачыць яго, Сіці, упершыню… акрамя жартаў – Кэвін у цэнтры горада ўпершыню, бо ехаць зь ягонай ускраіны ажно чатыры гадзіны… Няма чаго рабіць! Падчас вучобы ён здымае жытло побач з Акадэміяй… Кажа, што пазнае большасьць месцаў з урокаў ангельскай мовы й гісторыі… У нас зь ім амаль агульнае ўспрыманьне Лёндана, бо ўпершыню… Кэвін апранаецца ў вельмі шчыльную адзежу, заўсёды здаецца, што яна яму вельмі й вельмі малая, і яшчэ імгненьне й пойдуць ірвацца кашуля, джынсы, саколка па швох, але яму, здаецца, усё падабаецца, асабліва ўсьміхацца.

І вось яны, гэтыя тры зусім розныя й дзіўныя замежнікі, ратуюць мяне ад усяго на сьвеце, дазваляюць мне запамятаваць, адцягваюць маю шалёную засяроджанасьць на дэпрэсіі, на тэлефонных сварках са знаёма-незнаёмай мне дзяўчынаю, якая падабаецца мне ўсяго толькі сваімі грудзямі, але яна, седзячы ў Менску, нават тут мяне дастае. У маёй маці пасьля апэрацыі

не зажывае рана, яна пра гэта не гаворыць, але я ведаю – у тэлефонную слухаўку яна мовіць бадзёра, але я ведаю – скрозь сьлёзы… брат піша на мабільны пра ўсё, што дома… я спрабую выйсьці са сваёго стану праз парэзы, я рэжу сябе… грудзі, жывот, рукі… гэта цяжкае выпрабаваньне – пакінуць столькі ўсяго невырашальным дома, і тут, у ангельскім асяродзьдзі, спрабаваць зазірнуць у сябе так, каб вывернуць усё наадварот, вонкі… у мяне здараюцца гістэрыкі, і таму аўганскі гашыш Алі, гарэлка Сафі й ўіскі Кэвіна мяне ратуюць доўгімі напаўрэальнымі начамі, да самага сьвітаньня… а там раніца, Старбакс, дзе я праз раз удала ўтрымліваю перададзеную мне каву, часьцей разьліваю першы кардонны кубак па стале з касавым апаратам, па падлозе, па стале зь бясплатнымі цукроўніцамі, кубкамі зь вяршкамі й маленькімі чакалядкамі, і вучоба… а потым ізноў падарожжы вуліцамі, завулкамі, паркамі, мастамі…

Люты – месяц, зіма, тут таксама халодна. Але халодна адносна чаго? Адносна Беларусі тут цёпла, адносна Марока – холадна… Мінус, слабенькі мінус, днём, калі сьвеціць сонца, варта пакідаць толькі байку, але ўвечары можа непрыкметна падкрасьціцца халаднеча, і тут ужо толькі сьпяшайся апранаць паліто, шалік і гумовыя пальчаткі… На пачатку XX стагодзьдзя ў ангельцаў была праблема са здароўем, праз такое настабільнае й пахмурнае надвор’е шмат хто хварэў і паміраў ад сухотаў… Было вырашана на Парлямэнцкім узроўні запусьціць доўгатэрміновую мэдычную мадэль закаленьня насельніцтва, і пачалі гэта з самых маленькіх англікаў, амаль немаўлят… Паступова гэтая закаляльная плынь захапіла ўсіх жыхароў, і што мы можам бачыць у наш час, у XXI стагодзьдзі: маладыя мамы й таты гуляюць са сваімі дзеткамі… дарослыя – у саколках, кашулях, лёгкіх штанах, хто радыкальней – шортах, дзеткі разам зь імі, напаўраспранутыя… Такія сем’і зь першага погляду падаюцца зьмерзлымі, але насамрэч шалік на шыі грэе, самі яны ружовашчокія, сьмяюцца… Сапраўды, карэнныя насельнікі гэтага вострава апранаюць ня так шмат на сябе, як прыежджыя, і выглядаюць здаравейшымі… Такім чынам калісьці прыняты закон уратаваў шмат і шмат тысяч сваіх жыхароў.

Аднойчы мы з Алі так добра адпачылі ў нашым бары 101, што былі вымушаныя недалёка ад Пікадзілі, каля будынку, у якім месьціўся МакДоналдс і Піца Хат, сесьці проста на ходнік, на брукаванку, сесьці, каб даць адпачыць целу й галаве… мы сьмяяліся, гутарылі, прымружваліся, быццам бы ў вочы сьвяціла сонца… у тры гадзіны ночы… Мы былі на адной хвалі, якая павольна, ледзь рухаючыся, распушчалася ў паветры, яднаючыся з зэфірам… як раптам на ходнік упаў мэталічны фунт, упаў з характэрным дзынькам, я сфакусаваў зрок, падняў галаву, але тут нават ноччу няспынны паток людзей, я не заўважыў, хто гэта зрабіў, усьміхнуўся, падумаў, што хтосьці згубіў цэлы фунт! Нам пашчасьціла – чатыры бляшанкі піва на раніцу будуць вельмі дарэчы! І тут ізноў упаў фунт, за ім лязгнулі пяцьдзясят пэні… Алі скеміў, у чым справы, і паклаў на ходнік сваю чорную шапку… і… так… за паўгадзіны ўгару й выхаду ў адчынены космас на ходніку мы нажабравалі на літровую пляшку ўіскі й на Макдак-сьняданак са смажаным яйкам… Пасьля накуранай ночы елася й пілося неверагодна смачна…

Кэвін, ты ж, тваю няхай, карэнны лёнданец! І ані разу ня бачыў Сіці? Не. Як так? Бо далёка ехаць да Сіці. І я і так усё бачыў на фотаздымках і на ўроках. Ды ладна табе. Гэта ж розныя рэчы! Лёндан трэба адчуць, увабраць яго сваімі лёгкімі!

І Кэвін сапраўды празь мяне пазнаёміўся зь Лёнданам, не з турыстычным, але з аўтэнтычным. Аксюмаран – замежнік зь Беларусі вадзіў лёнданца й паказваў яму горад: Соха, Чайнатаўн (якраз быў дзень кітайскага Новага года), паркі, пабы й пірагоўні… Кэвін шмат глядзеў па баках, усьміхаўся, дзівіўся і пагаджаўся, што ня ўсё магчыма спасьцігнуць праз фота, тым болей праз падручнік…

А гэтыя мясныя пірагі ў Лёндане, салата Цэзар, белае нефільтраванае піва, сідр, моцны эль, ўіскі… самакруткі зь вільготнага табаку… крэветачныя express кактэйлі, манга… усё гэта трэба абавязкова запомніць на ўсё жыцьцё, а лепей наноў сюды прыехаць, спачатку запамятаваць усе пахі, смакі й колеры, а потым зноў іх для сябе адкрыць!



На мой дзень народзінаў Сафі павяла мяне ў бар, сказала, будзе сюрпрыз… Сафі… Дзіўная дзяўчына, яна настолькі існавала ня тут, ня ў гэтым месцы, асяродзьдзі, яна быццам бы прысутнічала аднечасова ў паралельным сьвеце. Яна часта была сумнаю, у яе шмат рэчаў па жыцьці не атрымліваліся, усё сыпалася скрозь пальцы, яна вельмі хацела быць шчасьліваю, ёй было цяжка ў Лёндане, мы адно аднаго добра разумелі…



*Васіліса Паляніна-Календа*

Сюрпрыз. Сюрпрайз! Бар. Стары падраны стол, скасабочаныя зэдлікі, на сьценах жоўтыя дагератыпы, Сафі кажа, што бару трыста год, я ахвотна веру. Сядзім насупраць адзін аднаго. Нам падносіць афіцыянт (вясёлы хлопец гадоў дваццаці) дзесяць кілішкаў празрыстай вадкасьці й сыходзіць.

Сафі кажа: "Гэта рашн водка, пі! Гэта як у цябе на Радзіме? Так прынята?"

Я кажу: "Дзякуй, мне вельмі прыемна, але мы так ня п'ем!"

Сафі: "Я думала, што ў вас там усе вось так і п'юць, таму вырашыла зрабіць табе ласку, мой рэспект".

Я ўдзячны Сафі за ўсё, настолькі ўдзячны, што за паўгадзіны выпіваю дзевяць кілішкаў гарэлкі, заядаючы іх тытунёвым дымам, сплёўваючы ў попельніцу гідкую гарэлкавую сьліну… Б-р-р-р… Дзякуй, казачная Сафі, я ніколі не забудуся на такі дзіўны пачатак дня нараджэньня!

Дзень нараджэньня скончыўся ў дзікім клюбе "Фабрык", штамп – клюбе для замежнікаў… Там было шматлюдна, была неверагодная колькасьць вельмі п'яных як сьвіньні расейскамоўных людзей, якія толькі мацюгаліся й падалі, і было зашмат малодзі, якая знаходзілася пад сінтэтычнымі наркотыкамі, валялася там на вялікіх ложках і рабіла ўсё, што прыходзіла ім хутчэй не ў галаву, але ў іншае месца. А потым я памятаю, што мы шмат езьдзілі ў кэбе, і хто плаціў за кэб, ня ведаю да гэтага часу, але дамоў я прыехаў, трымаючы ў руках пакет з Макдоналдса, пакунак з пірагоўні, пачатую бутэльку "Грантс", карабель марыхуаны, трымаючыся за плячо маёй беларускай суседкі, якая штосьці мармытала пра "сапраўдных англікаў", але мне было не да гэтага.



Мае суседкі, мае цукерныя сяброўкі, мае пякельныя спадарожніцы, якім, як і мне, пашчасьціла трапіць у Акадэмію, былі нястрымнымі ў пытаньнях сэксу, і, на жаль, гэтая нястрымнасьць мяне не краналася, бо іхныя мэты, кропкі дасягненьняў былі абмежаваныя ангельцамі, на скрайні выпадак замежнікамі, але замежнікі й эмігранты краін Трэцяга сьвету не лічыліся. Так вось і атрымалася, амаль кожным вечарам, ноччу, хтосьці зь іх па чарзе прыводзіў дамоў мужчыну, і адна зь іх вымушаная была саступаць пакой і ночыць са мною. Ня ведаю, на што гэта залічыць, на карысьць маёй джэнтэльмэнскасьці альбо няўдачы, але за ўвесь час я не скарыстаўся такімі гарачымі момантамі. Трэба дадаць, варта было б і скарыстацца, але я вельмі хацеў захаваць між намі сяброўства, амаль сямейныя стасункі, і гэта атрымалася. Пакуль яны шукалі сабе сапраўднага гарачага, але стрыманага ў ложку ангельца, я толькі чуў гукі, грукат і скрып, бяссоннымі начамі апынаючыся дома, ляжаў і глядзеў у цёмныя куты, стараючыся ня думаць, што сплю не адзін.

Адна з суседак, самая старэйшая з нас, правярнула выдатны плян: на ўікэнд да яе прылятаў муж, яна толькі пасьпела прачнуцца, выпхнуць з ложка чорнага ангельца аўстралійскага паходжаньня… менавіта выпхнуць – ногі ў рукі і давай, дапабачэньня!, як ва ўваходныя дзьверы пазванілі. На парозе стаяў муж суседкі, вясёлы, кахаючы, ледзь ня плача ад шчасьця (яны на такі доўгі тэрмін разлучыліся ўпершыню)… Муж відавочна сумаваў – пакамечаная адзежа, сам неахайна паголены, бледны нейкі.

І вось яно – муж на парозе, клясыка, чорны ангелец-аўстраліец сядзіць на кухні, чакае, калі яму другая суседка заварыць гарбаты, я вітаюся з мужам, мне цікава назіраць за ўсім, што зараз адбудзецца. Старэйшая суседка абдымае мужа, цалуе, вішчыць ад шчасьця, мы рукаемся, другая суседка вітаецца крыкам з кухні… чорны мужчына выходзіць у калідор. Старэйшая суседка кажа: "Гэта Ніко, ён сябра Сяргея!"

– Хай!

– Хэло.

Так муж маёй суседкі цяпер ведаў, што я зусім бясшкодны гомік, які любіць чорных мужыкоў. Ну нічога… А што ж я мог зрабіць у той момант?! Зруйнаваць шчасьлівы пятнаццацігадовы шлюб?! Аднабаковае каханьне? Але якое каханьне?! Усім каханьням прыклад!

Праз вучобу я быў сталым наведнікам суседняга з Акадэміяй Ксэракс-Інтэрнэт Цэнтру, дзе ўсё было вельмі танна, з пахам вакзалу і вялікай колькасьцю рознакаляровых прадстаўнікоў чалавечай расы. Я хадзіў у гэты Цэнтар кожную раніцу, а калі заўважыў вельмі прыгожую, ну вельмі-вельмі прыгожую дзяўчыну за касаю, то пачаў завітваць (раздрукаваць тэкст, адксэракапіяваць старонку, фотаздымак, ілюстрацыю, узяць 30 хвілін Інтэрнэту) яшчэ ў дадатак у абед і вечарам. Адсачыў, калі яна перакусвае, а якой гадзіне абедае, колькі разоў выходзіць папаліць… Як яна мне падабалася, неверагодна! Невысокая, страйнюткая, тонкая, з роўнаю асанкаю, быццам танцаўшчыца, яна мела лялечныя ручкі й ножкі, вельмі густыя сьветлыя валасы, блакітныя вочы, пухлыя вусны, носік бульбачкаю… Я ніяк ня мог завязаць зь ёю размову, заўсёды толькі па справах, але й праз гэтыя рэдкія сказы я пачуў, што яна размаўляе зь лёгкім ўсходнеэўрапейскім акцэнтам, а такі акцэнт мне толькі на руку. Хадзіў я вакол яе й сваёй думкі пра знаёмства й запрашэньне на вечар у ангельскай пірагоўні пяць тыдняў, ужо варта было б альбо адважыцца, альбо пакаваць валізы перад адʼездам… І тут я нарэсьце гэта зрабіў – пазнаёміўся й дамовіўся на сустрэчу ўвечары каля мэтро Тотэнхэм Курт Роўд. Аказалася, што завуць яе Даша, і я думаў, што яна якраз такі з Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Расеі, Малдовы, Баўгарыі, Польшчы альбо Чэхіі…



Гэта быў казачны вечар, мы наеліся пірагоў і салатаў, ажно дыхаць было цяжка, сьмяяліся, жартавалі, пераходзілі з ангельскай на расейскую, з расейскай на ангельскую… і тут я даведваюся, што Даша зь Беларусі, зь Менску, і прыехала вучыцца, а паралельна падзарабляе ў Ксэракс Цэнтры, дома жыве на той жа вуліцы, што і я, у тым жа доме, што і я, і нават у тым жа падʼездзе, толькі я на першым паверсе, а яна на трэцім…

Ну што тут скажаш? Самі ведаеце, Лёндан, як і Менск, – вялікая вёска, ад знаёмых і знаёмых знаёмых ня так проста ўцячы, нават калі зьбегчы ў кірунку Англіі. Мне вельмі хацелася пазнаёміцца з ангельскаю дзяўчынай, а ў выніку самаю прывабнай для мяне аказалася беларуска. Цяпер я праз Фэйсбук ведаю, што Даша даўно ўжо ў Маскве, працуе ў Астанкіна, і яна сапраўды танцаўшчыца – усё дзяцінства займалася бальнымі танцамі.

За тыдзень да заканчэньня вучобы мы ўсёй нашай вясёлай кампаніяй пазнаёміліся ў бары з рыскім бізнэсмэнам, прычым пазнаёміліся не без карысьлівых думак. Бізэнэсмэн быў, мякка кажучы, ня вельмі разумным і, як высьветлілася, кіраваў фінансамі, якія

дасталіся яму ад бацькі. Амаль два дні мы елі й пілі за ягоны кошт, у сваю чаргу культурна і нават уважліва слухаючы ўсю тую бязглузьдзіцу, якую ён нёс: у мяне самая вялікая калекцыя спартыўных Паршэ, паглядзіце, у мяне на руцэ гадзіньнік з апошняга фільма "Джэймс Бонд", а дома ўвогуле процьма іншых вельмі каштоўных гадзіньнікаў, у мяне свой аўтапарк, у мяне тры кватэры – у Маскве, Рызе й Лёндане, у мяне, у мяне, у мяне!

На другі дзень пад трэцюю літровую бутэльку "Рускага стандарту" высьветлілася, што ён аматар юнацкіх попак і пастаянны наведнік бара 101, бо там вельмі часта бавяць свае самотныя гадзінкі замежнікі-студэнты, якіх размовы гэтага пухлага маладога бізнэсмэна ўражваюць і яны як мінімум пагаджаюцца на тое, каб паехаць у лёнданскую кватэру глядзець частку гадзіньнікавай калекцыі…

З рыскім бізнэсмэнам у нас атрымалася зафіксаваць неверагодна высокі статус беларусаў праз тое, што ў адзін вечар адначасова было разьліта 250 шорт-дрынкаў з чыстай гарэлкай і кожны ў бары мог пачаставацца. Адна зь японачак, вельмі прыгожая, мініятурная дзяўчынка, падышоўшы да нас, зацікаўленая такім вэрхалам вакол, што нават румынскі мэнэджар бару больш не ўсьміхаўся напружана і піў разам з намі, узяла шорт-дрынк і, прамовіўшы, што ўпершыню частуецца гарэлкай, паднесла вадкасьць да вуснаў, сербанула, як кацяня, пачырванела, вочкі расплюшчыла так шырока, што я нарэсьце ўбачыў анімэшныя вочы ўжывую, і заплакала і зьбегла з бару. Больш я яе ня бачыў. Спадзяюся, яна не крыўдуе на беларусаў і на гарэлку.

Для бару 101 я быў сталым наведнікам, таму, калі ўвечары на вуліцы ўздоўж ходніка пераміналіся з нагі на нагу маладыя людзі й дзяўчыны, лэдзі й джэнтэльмэны, чакаючы, калі падыдзе іх чарга праходзіць праз фэйскантроль, я ішоў проста да чорнага бамбізы ахоўніка, і той, не праводзячы па мне мэталядэтэктарам, вітаўся са мной, паціскаў руку і прапускаў унутр… Зорны час! Анягож! Пасьля рыскага бізнэсмэна мне й маім дарагім суседкам было дазволена бясплатна піць першыя два любыя кактэйлі, жартаваць з галоўнага мэнэджара, голасна сьмяяцца… І на нас, адпаведна, распаўсюджвалася недатыкальнасьць і ахова. Якім чынам? Ну, напрыклад, была такая падзея: я, вельмі п'яны, пачаў прыставаць да дзьвюх чорных дзяўчат, прыставаў нахабна, але не дакранаўся да іх, проста нешта спрабаваў распавесьці й абняцца. Я ня бачыў, што яны прыйшлі зь вялікай кампаніяй хлопцаў, якія ўсе спрэс былі як на адбор у кліп пра гангста-рэпераў, проста вылітыя "Снуп Догі". Я думаў, што мне прыйшоў канец, мяне схапілі два хлопцы і, хутка штосьці тарабанячы, павалаклі на вуліцу, бо ў бары біцца забаронена, я быў упэўнены, што на вуліцы ў іх у машынных бардачках былі пісталеты... Ім перарэзалі шлях да забойства беларускага сьняжка два шкафы-ахоўнікі, прамовілі штосьці пра VIP-пэрсонаў, пра ахову, пра тое, што я замежнік і г. д. І ўсё, гэтая цэлая кампанія чорных "Снуп Догаў" разам са сваімі ярка нафарбаванымі й абвешанымі бразготамі, як навагоднія ёлкі, дзяўчынамі была вымушана пакінуць бар… Мне пашчасьціла, я быў у кіпцюрах чорных рэпераў і застаўся жывым.

Засталіся тры дні… Я пасьпеў пазнаёміцца з жонкаю інвэстара, якая зь дзецьмі жыве ў Оксфардзе ўжо дзесяць год, але так і ня здолела вывучыць мову, бо яе жыцьцё – гэта дом, гатаваньне ежы, гадаваньне дзяцей, мясцовы супэрмаркет, ізноў дом і ежа, зрэдзьчас – муж прыяжджае… Татальная самота, безвыходная, і яна, прыгожая жанчына, сьпіваецца і выглядае значна старэйшай, чым ёсьць… А ехала сюды зь беларускай вёскі, як у казку… Як у самую чароўную казку! Цяпер марыць толькі пра адзінае – родны дом, далёкі родны дом.

Я скончыў Акадэмію, мы гэта добра адзначылі, так добра, што некаторыя моманты вусьцішна ўспамінаць, але бар 101 і галоўны мэнэджар румын Віктор будуць яшчэ доўга памятаць беларускіх выпускнікоў, якія паілі увесь бар і разносілі сталы й крэслы.

Па заканчэньні вучобы, да таго як трапіць у бар, мы спачатку прысутнічалі на ганаровым ушанаваньні: з 50 студэнтаў атрымалі дыплёмы 45, зь іх адзін дыплём з самымі высокімі баламі дастаўся мне, і, нягледзячы ні на што, мне прапанавалі застацца ў Акадэміі яшчэ на пэўны тэрмін, каб вучыцца далей і праз колькі год стаць адным з галоўных чальцоў Арт каманды "Тоні і Гай, Лёндан", але я, на жаль, перад ад'ездам зь Менску пасьпеў падпісаць паперкі, якія бралі мяне ў палон на два гады адпрацоўкі выдаткаваных на маю пэрсону грошай. Было б някепска застацца, тым болей што Арт каманда, акрамя выкладаньня, працуе на Тыднях моды ў Францыі, Англіі, Галяндыі, і мадэлькі там у сваёй большасьці зь Беларусі, Украіны й Расеі, а гэта тое, што мне падабаецца…



**The End**

І вось ён, дзень адлёту. Мы сабралі валізы, запакаваліся, я як мага шчыльней спакаваў тузін францускіх сыроў з высакароднай цьвільлю, каб сабакі ня мяне ўнюхалі й пусьцілі на самалёт. Усё сабрана, і мы едзем у новым чорным мэрсэдэсе, наш інвэстар паклапаціўся аб тым, каб нас пасадзіў на самалёт прадстаўнік Белавіі ў Англіі, бо хто яго ведае, можа мы ўсе разбяжымся ў розныя бакі й застанемся жыць нелегальна ў гэтым казачным горадзе (а такое жаданьне шалёнай думкай пульсавала ў нашых скронях, пакуль мы стаялі ў чарзе на самалёт). Перавага багажу была эпічнаю – 45 кіляграмаў, за такі перавес я б ніколі не знайшоў столькі грошаў, і вось ён, адзіны плюс ад нашага прадстаўніка Белавіі, – нам не залічылі перавагу.

Наш самалёт разганяецца, я толькі пасьпяваю заўважаць, які высокі трафік у аэрапорце Гэтвік, розьніца між пасадкамі самалётаў на адной і той жа паласе мінімальная, а калі ўлічваць, што самалёты штосэкундна сядаюць і ўзьлятаюць, атрымліваецца карціна, як на скрыжаваньні на праспэкце ў абед!

Мне было вельмі цяжка расставацца з сябрамі, з горадам, мне было невыносна, і таму я пакінуў аднаго зь сябе ў кватэры, якая вокнамі выходзіла на невялікі парк, падземны фітнэс, гандлёвы цэнтар, пакінуў там скрушнага, сумнага чалавека, які праз сваю нявыкрутку ціха, мэтанакіравана зьнішчаў сябе. Я яго пакінуў, і ён быў мне ўдзячным, ён прайшоў усе выпрабаваньні і, зачыніўшы за мною дзьверы, сазваніўся з Алі, Сафі і Кэвінам, і яны ўсе разам дамовіліся сустрэцца каля Лёнданскага Вока, акурат а восьмай вечара, калі я ўжо буду ў Менску абдымаць сваю маці, свайго брата, свайго бацьку… а Сяргей толькі выправіцца на начныя падарожжы.

Я лячу, гляджу ў вакно і не магу зразумець, што мае тыдні вучобы скончыліся, гляджу, як гэтыя машыны адна за адной рухаюцца ўніз-уверх, і мне неверагодна самотна й сумна, і я хачу застацца, і я вельмі жадаю вярнуцца.

*Люты–красавік 2008, Лёндан/Студзень–люты 2013, Менск.*




## ДОМ

Каробка ад лядоўні "Атлант" зьявілася ў маладой сям'і Сьнегіровых разам з самой лядоўняй "Атлант" як шлюбны падарунак ад Сашавага дзядзькі Сямёна. Дзядзьку Сямёну ў гэтай гісторыі наканавана сыграць звышэпізадычную ролю, супастаўляльную з роляй эрцгерцага Франца Фэрдынанда ў Першай сусьветнай вайне: мільгануўшы тут, на самым пачатку, ён зьнікне назаўсёды, зьмяніўшы быт, жыцьцё і нават сьмерць маладзёнаў.

Лядоўня была раскошная, двухкамэрная, палепшанай камплектацыі, з функцыяй BioFresh. На яе франтоне царкоўнаславянскім віхрастым шрыфтам было выведзена экзатычнае, раскошнае, гарэзнае: "Холодильник "Атлант". Модель "Лондон". Гэта рабіла саму лядоўню трохі падобнай да гіганцкіх памераў рускай Бібліі. Зрэшты, ва ўсім астатнім лядоўня "Лёндан" нічым не адрозьнівалася ад іншых лядоўняў "Атлант": вялікі белы паралелепіпэд без усялякіх непатрэбных упрыгожаньняў.

Шлюб сьвяткавалі дома, бо, як сказала мама Іркі, у рэстарацыях летам можна атруціцца. Сядзелі шчыльна, плячо ў плячо. Ці то пакойчык быў маленькі, ці то родных шмат. Час ад часу хмельны Саша бачком выцісківаўся з-за стала, падыходзіў да лядоўні, забітай пляшкамі з гарэлкай, і казаў гучна, каб чутно было ўсім:

Вось гэта падарунак! Тут месца столькі, што можна на ўзвод салдат ежы назапасіць!

Выраз павінны быў прадэманстраваць сваякам з боку нявесты, што як быццам бы Саша быў у арміі і ведае, што такое ўзвод салдат і колькі таму патрэбна ежы. Насамрэч адзінай крыніцай Сашавых уяўленьняў пра армію былі кампутарныя гульні. У тым, што адбылося хутка пасьля шлюбу, кожны са сваякоў зразумеў сваё. Адны казалі, што спрацавала тое, што Саша ня быў у арміі. Другія настойвалі на тым, што Сашавы мазгі сапсавалі кампутарныя вірусы з гульняў, у якія ён гуляў, пакуль не сустрэўся зь Іркай. Былі і тыя, што першапачаткова бачылі ва ўсім праклён, які ляжаў на лядоўні "Лёндан".

Калі госьці разьехаліся, а набытую ў крэдыт двухкапаёўку адмылі ад іхніх ванітаў і тых кругоў, якія пакінулі на падлозе трохлітровыя слоікі з саленьнямі (самі салёныя гуркі, памідоркі ды квашаная капустка адправіліся ў сьмецьцеправод яшчэ да сканчэньня вясельля, бо гаспадарам зрабілася зразумелым, што ніхто іх лёсам не заклапоціцца), дык вось, калі орды родных сышлі, пакінуўшы маладых сам-насам, Саша кіўнуў на каробку і прапанаваў:

Давай я каробку вынесу.
Не. – Няўпэўнена адказала Ірка. – Хай пакуль будзе.
Навошта? – Зьдзівіўся Саша.
А раптам лядоўня зламаецца. – Адказала Ірка.

Так велізарны кораб ад двухкамэрнай лядоўні "Атлант. Мадэль "Лёндан" застаўся ў іх кватэры, як труна, якая чакае цяжка хворага, як саркафаг фараона, які паводзіў сябе дрэнна і таму народ адмовіў дынастыі ў пахаваньні (каб растлумачыць гэтую мэтафару тым, хто не ведае гісторыі Старажытнага Эгіпта, трэба болей месца, чым мы можам адвесьці нязначнаму эпізоду з маўклівым стаяньнем каробкі ў калідоры).

Калі сьледчыя пыталіся ў суседзяў, як жылі маладыя, тыя распавядалі: жылі нармальна.

Усё ў іх было: лядоўня, тэлевізар, мікрахвалёвая печ. Ня біліся. Саша ня піў. Ірына не гістэрыла. Па вечарах глядзелі тэлевізар. На кастрычніцкія запрасілі родных. Калі выпаў першы сьнег, Сьнегіроў дысцыплінавана выбіў кілім, які яшчэ нават не пасьпеў толкам запыліцца.

Удалося ўстанавіць, што прыкладна на трэці месяц сумеснага жыцьця Саша прыйшоў дахаты з офісу, дзе працаваў юрыстам-эканамістам, зьняў гарнітур у спальні, пераапрануўся ў турэцкі банны халат, у якім звычайна хадзіў па кватэры, прайшоў у калідор, перакуліў кораб ад лядоўні так, каб той ляжаў гарызантальна, узяў нажніцы і ў тым месцы, дзе быў надпіс "Атлант. Лондон" зрабіў надрэз 70 на 25 сантымэтраў, стварыўшы нешта кшталту вакна. У тое "вакно" ён прасунуў невялікую настольную лямпу і некалькі кніжак.

Пасьля гэтага ён адкрыў кораб з тарца, заслаў коўдрай (на шлюб родныя падарылі шмат коўдраў), паклаў туды падушку (падушак таксама было болей, чым галоў у гэтай кватэры), залез унутр.

Калі Ірка прыйшла з працы (працавала бухгальтаркай у сфэры лягістыкі), ён сядзеў у карабе і, як тая пераказвала сяброўцы, "дыхаў". Першыя хвіліны Ірына была настолькі зьбянтэжаная тым, што пабачыла, што нават не загаварыла з мужам: выйшла зь цёмнага калідора, падсьвечанага зіхаткімі прамянямі лямпы, прайшла ў спальню, пераапранулася з офіснага ў хатняе (трыко, спартыўная кофта на "молніі") і пайшла гатаваць каклеты. Яна ўвесь час прыслухоўвалася да гукаў, што ішлі з калідора, але чутно было толькі Сашава гучнае дыханьне ды гук гартаемых старонак. Калі каклеты былі гатовыя, яна падышла да карабу, ня ведаючы, як камунікаваць з маладым мужам. За тры месяцы шлюбу яны ня надта зблізіліся адно з адным, пэўныя рэакцыі Сашы на яе словы яшчэ былі для яе таямніцай. Яна стаяла перад кардонным паралелепіпэдам,

услыхваючыся ў тое, як дыхае муж. Гук дыханьня быў роўным, час ад часу Саша шморгаў носам, і ёй захацелася запытацца, ці не прастыў ён. Перагарнулася чарговая старонка.

Солнышка, каклеткі гатовыя. – Нарэшце сказала Ірка.

Дыханьне сьціхла, Саша затаіўся.

Солнышка, ідзі есьці, – зноўку пазвала яна і, каб ён яе лепей чуў, пагрукала пальцам па кардоне. Ёй здавалася, што ў дадзенай сытуацыі такое крананьне будзе цалкам дарэчным, гэта як пастукаць чалавека па плячы. Аднак гук ёй не спадабаўся – ён быў сухім і гулкім.

Зараз. – Адказаў Саша. Ён яшчэ нейкі час сядзеў у корабе, быццам вызначаючыся канчаткова, ці можа чалавек, які жыве ў каробцы ад “Атланта”, есьці каклеткі, але хутка вызначыўся і палез на выхад. Ірцы неяк асабліва кінулася ў вочы хударлявасьць ягоных ног і запэцканыя папяровым пылам, якога шмат было ў корабе, шкарпэткі.

Яны елі каклеткі з пюрэ, і Ірцы вельмі хацелася спытацца, што гэта здарылася з мужам, што ён пайшоў сядзець у каробку. Але яна ня ведала, як пра такое спытацца, і, болей за тое, не была ўпэўненая, што пра рэчы гэтага кшталту ў прынцыпе можна пытацца. А таму проста прапанавала яму дабаўкі, Саша дабаўку паслухмяна стаптаў, што замацавала яе ў думцы, што зь ім ўсё добра, ён ня хворы, калі добра есьць. Пасьля вячэры яна пайшла ў залю і глядзела канцэрт зорак эстрады, усё чакаючы, ці не далучыцца да яе Саша. Але Саша палез у кораб і сядзеў там, гартаў старонкі. Калі канцэрт зорак эстрады скончыўся, Ірка выключыла тэлевізар, зьняла макіяж і накіравалася ў спальню, спадзеючыся, што малады муж далучыцца да яе. Але тут, у калідоры, яна пачула разьмераны Сашаў храп: той, дарэчы, ніколі ня хроп, калі яны спалі побач.

Мабыць, мужчыне патрэбна пабыць нейкі час аднаму, – вырашыла яна для сябе і заснула ў спакоі.

Назаўтра гісторыя паўтарылася: яна зноўку прыйшла пазьней за яго, і Саша ўжо сядзеў у сваім месцы. Іра глядзела тэлевізар даўжэй, чым у папярэдні дзень, бо ня трэба было гатаваць каклеткі, яны яшчэ засталіся ад учора. Павячэраўшы і памыўшы посуд за мужам, Іра прапанавала:

Паглядзім тэлевізар?

Не, я дадому пайду, – пахмурна адказаў Саша. – Мне галава баліць. – Так назаўсёды вызначылася, што, акрамя іх агульнага дома, у Сашы ёсьць яшчэ ягоны “дом”, які стаіць у калідоры, ці, як яны гэта называлі, “прыхожай”.

Пасьлязаўтра была субота і на працу ісьці не спатрэбілася. Пакуль Саша прымаў душ, Ірка ўзяла анучку, якой прыбірала пыл з мэблі, і хуценька працерла Сашаву бярлогу, вымела адтуль папяровыя камякі, кардонныя скруткі і маленечкія пупырышкі пенапласту. Яна сьпяшалася, ёй здавалася вельмі прынцыповым зрабіць гэта так, каб Саша не даведаўся, але, калі яна ўжо амаль скончыла, ёй раптам падалося, што характар цішыні ў калідоры зьмяніўся. Яна хуценька выпаўзла з кораба, перакуліўшы лямпу і заблытаўшыся ў яе даўгім кордзе, і тут заўважыла, што Саша стаіць над ёй і ўважліва глядзіць на вымецены з кораба папяровы бруд.

Нічога, што я тут памыла? – Спыталася яна.

Саша нічога не сказаў, мяккім, але нейкім зьмярцьвелым жэстам адхіліў яе ад “уваходу” і нырнуў у кораб.

З часам ягоная манера пранікненьня ў “дом” зрабілася болей дасканалай: калі ў першыя дні ён пыхцеў, коўзаў нагамі па сьценках, доўга варочаўся, дык цяпер ён праходзіў унутр адным




Уладзімір Габідулін

дакладным рухам: выпростваў рукі, хапаўся за кардон усярэдзіне і хутка прасьлізваў у глыбіні ўласнага жытла. Адзін штуршок і пасьля яшчэ лёгкае шапаценьне закасанай коўдры, якую ён разроўніваў ступнямі ног.

Асвоілася тут, у калідоры, і Ірка: заслала кардонны паралелепіпэд фіранкамі з макрамэ, якія сама і зьвязала, уклаўшы ў іх усю ўласную пяшчоту ды імкненьне да простага жаночага шчасьця. Быў час, ставіла на караб вазоны з кветкамі, але тым не ставала сьвету: папараць скукожылася і пачала асыпацца, архідэя пажоўкла і высахла, фікус зрабіўся падобным да хворага пэнсіянэра.

Калі да іх заходзілі суседзі пазычыць дрыль ці на пляшку водкі і калі тым суседзям было цікава, дзе ж гэта Саша, яна навучылася спакойна тлумачыць, што Саша – “у Лёндане”. Калі тыя пачыналі дзівіцца, што як гэта ў Лёндане, калі толькі з мэтро выходзіў, як з працы ішоў, Ірка мэлянхалічна паціскала плячыма і ўздымала вялікія самотныя вочы, пасьля чаго суседзям

ужо не хацелася лезьці ў прыватнае жыцьцё, бо яны адчувалі, што на іх можа раптам абваліцца такое цяжкое бабскае няшчасьце, што шыя ня вытрымае. Суседзі сыходзілі, пакідаючы Ірцы тэлевізар ды зіхаткі калідорны сьвет са скупым гартаньнем лістоў. Дыхаць з часам Саша навучыўся вельмі ціха, так што яго было зусім не чутно.

Яшчэ празь некалькі месяцаў малады муж вырашыў, што яму ня варта выходзіць "з дома" на вячэру, Ірка ела сама і пакідала каклету на талерцы побач з "вакенцам" у Сашаў кораб. Ежа заўсёды зьнікала да раніцы, што зноўку замацоўвала яе ва ўпэўненасьці, што яе мужык цалкам здаровы. А што трохі разладзілася іх інтымнае жыцьцё – дык у каго не бывае. У туалет і душ Саша выходзіў толькі ўначы, калі яна спала.

Ірка яшчэ таму не панікавала, што на працы ў Сашы ўсё было добра, яго зрабілі намесьнікам начальніка аддзела, аб чым сьведчыла назва новай пасады ў паперцы, што ён пакідаў у дзень заробка побач з усімі грашыма на камодзе ў калідоры. Заробак быў вялікі, значна большы за заробак мужыкоў сяброўак, так што час ад часу Ірка знаходзіла ў сабе сілы Сашам ганарыцца. Калі здаралася так, што Саша засынаў раней за момант, калі яна выключала тэлевізар, яна падыходзіла да карабля, прыслухоўвалася да храпу і нават час ад часу пяшчотна гладзіла кардон усёй далоньню. Потым яна прасоўвала руку ў дзірку, што вяла ў дзіўны Сашаў сьвет, і хуткім, дакладным рухам выключала сьвятло, каб не паліць электраэнэргію.

Ёй думалася, што Саша будзе ўдзячны.

На гадавіну шлюбу яна запрасіла да сябе аднагодку Алу, зь якой разам працавала. Яна не тлумачыла, што запрашае яе на гадавіну шлюбу, бо звычайна на гадавіну шлюбу нікога не запрашаюць, праводзяць сам-насам, але яна ведала, што для Сашы гэтае сьвята ня будзе нагодай, каб выйсьці з "дома", а настрой у Іры быў сьвяточны. І таму яна запрасіла Алу, бо тая таксама была замужам. Яны пілі "Савецкае шампанскае" на кухні, Саша далікатна не ўключаў сьвятло ў сваім карабе і наогул паводзіў сябе так, быццам яго не было. І вось пасьля шампанскага Ірцы захацелася распавесьці пра мужа і "Лёндан" хаця б адной жывой душы, хаця б некаму, бо бацькі пасьля іх шлюбу паехалі да сябе і ня лезьлі ў іх справу, ну а тут – ну хаця б каму расказаць! Бывае такі эфэкт у шампанскага. Невядома, што дакладна яна пасьпела расказаць на кухні, але, калі яны разам з Алай падышлі да карабля, адбылася такая размова.

Што, прям тут и живёт? – Спыталася Ала і груба пагрукала па кардоне сваім доўгім пазногцем, на якім стразікамі была намаляваная ружачка.

Ну, так, тут, – Ірцы не спадабалася, як па-свойску Ала абышлася з карабам.

Што он, вообще на всю голову, что ли? – Запыталася сяброўка.

Здаецца, яна не ўсьведамляла, што Ірчын муж быў тут і ўсё чуў. Каб дапамагчы гэта ёй зразумець, Саша паварушыўся і запаліў сьвятло лямпы. Ала прыкметна здрыганулася і выцягнула сяброўку на лесьвічную клетку. Падумаўшы, пацягнула яшчэ далей, да сьмецьцеправода, каб "не слышаў".

Ты вообще понимаешь, что это клиника?! Ирка!

А што рабіць? – Ірына супакойваючы кранула Алу за руку. – Жыцьцё зараз ведаеш якое?

Ала тады накрычала на яе і зьбегла, а Іра вырашыла, што супрацоўніца проста зайздросьціць таму, што ў Іркі болей пасьпяховы муж, двухпакаёвая кватэра і халадзільнік "Атлант" мадэлі "Лёндан". Ала некалькі дзён не размаўляла зь Ірынай, а пасьля паклікала яе з офісу папаліць на вуліцу (Ала паліла) і прамовіла хуткім шэптам: "Тебе по уму, конечно, психушку надо вызывать. Но если своего любишь, ты эту коробку спали".

Ірына прыслухалася да Алінай парады па-свойму: прыйшла ў царкву і замовіла выклік сьвятога айца на дом, "каб асьвяціць кватэру". Поп прыйшоў, хутка пералічыў грошы спрытнымі

пальцамі, і гэты вось галёп пальцаў па банкнотах раптам спыніўся, замёр, калі Іра растлумачыла, што кватэру сьвяціць ня трэба, што ў яе муж вось у каробцы жыве, што добра было б "намаліць", каб "яго адтуль выйшла". Саша, які сядзеў ціха, раздражнёна паварушыўся і хрыпотна ўдакладніў:

Усё нармальна тут. Нічога ня трэба, ідзіце!

Сьвятар замёр, нібы саляны слуп, потым адклаў грошы, кінуў на Ірку такі позірк, быццам тая прыйшла сьпяваць панк-малебен у Божы Храм, і гыркнуў, артыкулюючы кожнае слова:

Экзарцызмам! Руская! Праваслаўная! Царква! Не! Займаецца!

Сьвяшчэньнік сышоў, пакінуўшы па сабе ялейны пах страчанай апошняй надзеі.

Праз два тыдні супрацоўнік бухгальтэрыі Сьцёпка падарыў Ірыне Сьнегіровай белую ружу, сылюэт якой настолькі пераклікаўся са зьзяўшым на пазногцях Алы, што Ірына адразу зразумела: сяброўка ўсур'ёз занялася выратаваньнем яе, Іркі, ад мужа-псыхапата. Яна запрасіла Алу папаліць на вуліцу і ўпэўненым тонам паведаміла, што кораб мужа спаліла, што яны жывуць "як людзі" і плянуюць набыць машыну. Тая машына асабліва моцна пакрыўдзіла Алу, хаця ўсім навокал яна распавяла, што зноў не размаўляе зь Ірай з-за таго, што тая "даже не отблагодарила".

Увечары Ірына прыйшла дахаты і паклала ружу на мужаў "дом". Засынаючы, яна салодка спадзявалася на гучны скандал з раніцы, але муж нічога не сказаў, а можа нават і не заўважыў. У прамянях ранішняга сонца ружа на карабе выглядала дакладнай мэтафарай магілы яе шлюбу, і таму Ірына патэлефанавала на працу, сказала, што бярэ адгул, дачакалася, пакуль муж сыдзе ў свой офіс, узяла нажніцы і меней чым за паўгадзіны акуратна разрэзала кораб на спачатку вялікія, а потым маленькія і ўсё меншыя і меншыя лісты-лісточачкі. Пасьля гэтага ёй раптам зрабілася так страшна, што яна зноўку патэлефанавала на працу і сказала, што бярэ адгул на другую частку дня. Тут на яе напала санлівасьць – дакладна тая санлівасьць, што можа апанаваць чалавека ў час вялікага смутку ці вялікага страху, і яна праваляласяў ложку аж да вечара.

Яна ня ведала, як Саша сустрэне зьнішчэньне "дома", і на ўсялякі выпадак паклала ў лядоўню палоўнік – прыкладаць да сінякветаў на твары, калі муж раптам вырашыць яе біць. Саша прыйшоў у свой звычайны час, пастаяў моўчкі ля парэшткаў разварочанага, зьнішчанага карабу, а потым – гэтакжа моўчкі – пачаў выносіць яго і піхаць касматыя лапікі кардона ў сьмецьцеправод, старанна іх зьмінаючы. Ірына ў такой Сашавай актыўнасьці пабачыла добрую прыкмету, надзею на абуджэньне, а таму хутка нафарбавалася, апранула дзёрзкую сукенку, якую яшчэ ні разу не наважвалася апрануць, і пайшла ў залю глядзець тэлевізар. Тут яе і сустрэў Саша, калі скончыў выносіць рэшткі свайго "дома".

Што і ў якой пасьлядоўнасьці адбылося далей, яшчэ толькі належыць высьветліць сьледзтву. Аднак дакладна вядома, што ў прамежак часу паміж 19.00 і 21.00 Аляксандр Сьнегіроў моўчкі прайшоў на кухню, зьняў усе палічкі з халадзільнай камэры лядоўні "Атлант. Лёндан" і некаторы час выносіў прадукты харчаваньня, якія займалі гэтыя палічкі, у сьмецьцеправод.

Ірына Сьнегірова ў той час глядзела тэлевізар.

Пасьля гэтага Аляксандр Сьнегіроў прыбраў паддоны, у якіх захоўвалася гароднiна, машынальна зьеў два памідоры, кінуўшы іх хвосьцікі ў сьметніцу.

Ірына Сьнегірова ў той час глядзела тэлевізар.

Зрабіўшы гэта, Аляксандр Сьнегіроў уключыў рэжым BioFresh, устанавіў тэмпэратуру ў халадзільнай камэры на 0 градусаў, прайшоў у пакой, дзе Ірына Сьнегірова глядзела тэлевізар, моўчкі ўзяў Ірыну Сьнегірову за шыю (левая рука) і за ногі (правая далонь, пад калені) і панёс яе да лядоўні. Ірына Сьнегірова пачала крычаць і Аляксандру Сьнегірову прыйшлося спыніцца, узяць яе левай рукой пад сьпіну, правай рукой закрыць ёй рот (шматлікія пракусы). Паколькі Ірына Сьнегірова не спыняла крык, ён ударыў яе галавой аб вугал сьцяны, пасьля чаго жанчына страціла прытомнасьць. Ён зьмясьціў цела Ірыны Сьнегіровай у лядоўні, уздоўж задняй сьценкі, закрыў, прыціснуў дверцу, забясьпечыўшы яе поўную гермэтычнасьць, і абматаў кораб халадзільніка "Атлант" шнурам ад настольнай лямпы, завязаўшы на моцны двайны вузел. Праз 7 хвілін Ірына Сьнегірова ачуняла і пачала калаціць па дзьверцы і прасіць выпусьціць, але гук быў ціхім, бо яго скрадала цеплаізаляцыя лядоўні (суседзі ня чулі). Аляксандру Сьнегірову падалося, што ахвяра можа перакуліць лядоўню і тады ён падпёр дзьверы плячыма.

Паказаньні на першым, другім і чацьвёртым допытах падазраванага разыходзяцца: так, спачатку ён казаў, што ён проста моўчкі стаяў ля "Атланта", потым пачаў сьцьвярджаць, што нібыта гаварыў зь Ірынай Сьнегіровай, прасіў яе "трохі пацярпець", пакуль "падзейнічае замарозка". На пытаньне, навошта ён зьмясьціў сваю жонку ў лядоўню, ён патлумачыў, што хацеў увесьці яе ў стан тэмпэратурнага анабіёзу, каб яе разбудзілі ў дваццаць другім стагодзьдзі (насамрэч сьмерць наступіла празь недахоп паветра і атручваньне $CO_2$).

Праз сорак хвілін лядоўня перастала "калаціцца", і ён вырашыў, што Ірына Сьнегірова "заснула" (насамрэч – страта прытомнасьці праз гіпэркапнію, пасьля, прыкладна праз гадзіну, – наступленьне стану сьмерці). Аляксандр Сьнегіроў прайшоў у свой пакой і рэшту вечара праглядаў тэлеканалы. Ён працягваў хадзіць на працу і не выяўляў там ніякіх прыкметаў псыхічнага адхіленьня. Вяртаючыся дахаты, вячэраў: спачатку разагрэтымі каклетамі, потым – сасіскамі, якія набываў у гастраноме. Родным Ірыны Сьнегіровай сказаў, што тая паехала ў "Лёндан".

Апэратыўную групу выклікаў сам праз дванаццаць дзён пасьля забойства, з другога разу. У першы раз, дачакаўшыся адказу апэратара "02", паклаў слухаўку, але набраў зноў праз тры хвіліны і пачаў, румзаючы і задыхаючыся ад сьлёз, захлынаючыся ад незразумелых пачуцьцяў, якія першапачаткова былі прынятыя за стан шоку з-за гвалтоўнага нападу, лямантаваць дзяўчыне-апэратару, што ў яго "скралі дом", што яму "зьнішчылі дом" і як гэта страшна і безвыходна – назаўсёды застацца "бяз дома".




## АНГЛИЯ

Старый “Икарус” с грязными боками выезжает с автовокзала. Утром – Варшава, потом автобус до Лондона, а оттуда – еще один, до Ноттингема. Почти двое суток в пути.

Кроме меня среди пассажиров – еще пятнадцать человек из инязовской группы. Мы едем в Англию по программе обмена по приглашению мэрии Ноттингема.

***

Я увидел объявление в фойе первого корпуса в конце мая. “Желающие поехать в июле в Англию по программе молодежного обмена – обращайтесь в деканат переводческого факультета до конца недели, с 15-00 до 17-00”. Когда я проходил мимо доски объявлений после следующей пары, его уже не было.

В деканате секретарша печатала на машинке, за соседним столом сидел чувак с переводческого – вытянутое лицо, слегка кучерявый, в черной джинсовой куртке. Я много раз видел его в коридорах иняза, но не знал, как зовут.

– Я насчет поездки в Англию.

– Какой курс?

– Второй.

– Английский факультет?

– Да.

– Загранпаспорт есть?

– Есть.

– Сам из Минска?

– Нет.

– А откуда?

– Из Могилева.

– В Минске родственники есть? Это ж все-таки программа молодежного обмена. В смысле, те, кто поедут, должны будут потом принять у себя англичан...

– Родственники есть.

– Близкие? В смысле, тетя-дядя?

– Да.

Я соврал. Родственники были дальние, и я с ними почти не общался. Но мне было плевать: главное – съездить, а там будет видно.

– Поездка будет стоить сто пятьдесят долларов. Это очень дешево: в Англию, на две недели. Жить – в Ноттингеме, а оттуда ездить в Лондон, в Ливерпуль, на море… Первая неделя – по домам у англичан, вторая – международный молодежный лагерь. Деньги найдешь?

-Да, конечно.

-Значит, включаю тебя в список… Имя, фамилия? Да, я сам не представился… Меня зовут Саша Копылов.

***

Автобус стоит на границе в Бресте. Соседняя очередь – легковые машины. Многие набиты товаром "на Польшу". Кто-то кричит:

– Поехали!

Водители прыгают в машины, трогаются, проезжают вперед пару сотен метров.

У автобуса курят Копылов и две девушки, он им что-то втирает, они хохочут. В нашей группе в основном третий-четвертый курс, "перевод" и английский. Со второго – Копылов, хотя он старше меня на год, поступил со второго раза, два или три человека, которых я не знаю, и Оля из двести пятой английской группы. У нас были вместе лекции по психологии во втором семестре, но толком мы не знакомы.

***

Варшава. Восточный вокзал. Пять утра. Мы столпились на платформе: инязовская группа. Курлович – высокий чувак со смешным лицом – рассказывает анекдот:

– Короче, приходит бандит в кабак. Накрыл поляну…

Девушки уставились на него, улыбаются. От здания автовокзала к нам идут три рэкетира. Один – низенький, плотный, стриженый налысо, со сломанным носом, второй – "шкаф" под два метра ростом, третий – мужик за тридцать, усатый, в разноцветных шортах и шлепанцах.

– Доброе утро! – говорит низкий. – Куда направляемся?

– В Англию, - говорит Копылов. – Мы студенты, из минского иняза.

– Денег много с собой везем?

– Откуда? Какие у нас могут быть деньги?

– Бедные студенты, да? – Рэкетир хмыкает. Два других разглядывают девушек. – Ладно, поверю. Но смотрите, если наебали…

***

До отправления автобуса на Лондон – минут пять. Автобус – двухэтажный. Вся наша группа – на втором этаже. Рядом со мной села Оля из "двести пятой".

По проходу идет мужик – “проводник”: высокий, в очках, в белой рубашке, пересчитывает людей, направляя на них палец. Он говорит по-английски:

– Все на месте, можем отправляться.

– Ваш английский великолепен, - говорит девушка из нашей группы, она сидит через ряд перед нами.

– Я – англичанин, – мужик улыбается, спускается в нижний салон.

– И что ж ты тогда делаешь на такой работе? – говорит девушка подруге по-русски. – Под сорок лет, и ничего не смог найти лучшего? Я еще понимаю, если бы студент на каникулах подрабатывал…

– Она из моей группы, – шепчет мне Оля. – Света Сонькина. Терпеть ее не могу, дуру колхозную…

***

Паром через Ла-Манш. Мы с Олей сидим на сиденьях у окна пассажирского салона. В трюме, под нами – автобусы и машины. Прямо на полу разлеглись тинейджеры-немцы, что-то кричат друг другу. Я спрашиваю:

– Ты была в Германии?

– Нет. А ты?

– Да. Еще в школе, в одиннадцатом классе. Мама устроила в группу из Чернобыльской зоны…

– Я тоже в одиннадцатом ездила, только в Данию. Не знаю точно, по какой линии – из всех десятых и одиннадцатых классов выбирали лучших учеников… А на втором курсе, в начале, я подавала документы на программу – работать вожатыми в Америке, в детских лагерях… Но не прошла…

– Работать с детьми, да еще американскими…

– Из нашей группы двое поехали. Вернутся – расскажут…

***

Паб. На экране телевизора – футбол. Финал чемпионата мира, Италия – Бразилия. Меня и Курловича пригласил мужик, у которого мы будем жить, – Питер. Питеру под пятьдесят. Он седой, полноватый, лысый. Холостяк, живет один в двухэтажной квартире, работает доктором в клинике.

– В вашей стране только что выбрали президента, да? – спрашивает Питер.

Мы киваем. Я отпиваю пива.

– И как вы думаете, что изменится?

– Пока неясно, но вряд ли что-нибудь изменится к лучшему, – говорю я. – Мне не нравится Лукашенко, я за него не голосовал…

– А за кого? - спрашивает Курлович.

– За Шушкевича. Это бывший председатель парламента, – поясняю я Питеру.

– А я голосовал за Лукашенко и не стесняюсь этого, – говорит Курлович. – Простой искренний мужик, борец с коррупцией…

На экране закончилось дополнительное время. Игроки готовятся пробивать пенальти.

***

Лондон. Пиццерия. Грег, наш сопровождающий из мэрии Ноттингема, ставит на наш стол три большие пиццы. Перед каждым – еще и по полной тарелке из салад-бара “съешь, сколько хочешь”.

– Не, ну пробки в Лондоне, конечно, – говорит с набитым ртом Калиновский с четвертого курса английского. – Это ж офигеть: сто метров ехали минут пятнадцать… Могу себе представить, кто постоянно здесь живет…

– Ну, а что ты думал? – подкалывает его Копылов. – Это тебе не твоя латвийская деревня…

– Даугавпилс – не деревня, а очень даже большой город…

– По сравнению с Лондоном – все деревня…

За соседним столом Курлович что-то шепчет на ухо Сонькиной. Она хихикает. Грег сидит рядом с ними. Он бросает огрызок пиццы в тарелку, поворачивается, чтобы видеть все три "наши" стола.

– Внимание! Через полчаса мы поедем в музей восковых фигур мадам Тюссо. Если кто-то хочет, можно прогуляться, но не заблудитесь. Собираемся у автобуса!

– Прогуляемся? – спрашиваю я у Оли.

Она кивает. Мы встаем из-за стола. Копылов идет с тарелкой к салад-бару.

***

Среди машин на улице – больше всего двухэтажных красных автобусов и уродливых черных такси. На ступеньках сидят люди в костюмах, едят фастфуд из картонных коробок. Голуби подбирают остатки. Мужик в белом фартуке и белом поварском колпаке стоит с табличкой, на которой от руки написано "Restaurant Italian".

– Как тебе Лондон? – спрашиваю я.

– Масштабно. Парламент, Биг Бен, Тауэр… Масштабно. Но это, наверно, не очень "мой" город.

– А какой тогда твой?

– Из тех, в которых была, пока никакой. Из тех, где хочу побывать, наверно, Нью-Йорк.

***

Автобус останавливается у дома Питера. С нами выходит Сонькина. Автобус отъезжает. Я звоню в дверь. Питер открывает.

– Привет, – говорит он. – Как Лондон?

Курлович кивает на Сонькину.

– Можно, она у нас сегодня переночует? В моей комнате?

Я и Курлович занимаем спальни на втором этаже. Питер спит на диване в гостиной.

– Окей. – Питер оглядывает Сонькину. На ней короткая черная юбка, зеленая майка. Она улыбается ему.

***

Мы сидим на складных стульях в заднем дворе: я, Питер, Сонькина и Курлович. У каждого – по бутылке пива.

– Питер, я, конечно, понимаю, что об этом здесь у вас спрашивать не принято… – Курлович смотрит на Питера. – И все же, сколько ты зарабатываешь в месяц? Я имею в виду, сколько денег ты реально приносишь домой – после всех налогов, страховок и тэ дэ? Около тысячи фунтов?

– Примерно. – Питер отпивает из бутылки.

– А у меня папа получает тридцать долларов – примерно двадцать фунтов, – говорит Сонькина. – Он тоже доктор, хирург в больнице.

***

Северное море. Пасмурно, волны накатывают на берег. Никто не идет купаться, кроме Сонькиной.

Она заворачивается в полотенце. Курлович стоит рядом, держит купальник. Она снимает под полотенцем трусы, протягивает Курловичу. Он берет их в зубы, становится на четвереньки, бегает по песку вокруг нее. Сонькина хохочет, забирает у него купальник – черный, закрытый. Она натягивает его, бросает полотенце, стаскивает через голову платье. Калиновский и Лыков с третьего "перевода" пялятся на ее сиськи. Сонькина натягивает на них купальник, идет к воде.

***

Ливерпуль. Я и Оля стоим на набережной. Позади нас – башни со статуями птиц.

– На меня "Пещера" не произвела никакого впечатления, - говорю я. – Обычный подвальный клуб. Если бы в нем Битлз не играли, то никто бы вообще про него не знал. Хотя я и к Битлз спокойно отношусь…

– Я тоже. Не знаю, что в них находят. Ну, неплохая группа, но таких много. Ну, были они когда-то первыми, или одними из первых, или самыми известными из первых – и что с того?

– Чистая коммерция. Зарабатывают деньги на всем, что с ними связано… Я вообще больше люблю русский рок – Кино, Аквариум, Чайф… А ты?

– К этим нормально отношусь, но слушаю больше западное. U2, The Cure, Depeche Mode.

***

Первый день молодежного лагеря. Кусок территории стадиона заставлен палатками. Меня "заселили" в одну палатку с Курловичем, Лыковым и Калиновским. Мы сидим на траве у нашей палатки.

– Как там сейчас в Латвии? – спрашивает Лыков.

– Говняно. – Калиновский сплевывает. – Особенно русским и белорусам… В смысле, не латышам. У меня мама в школе работает, учительница русского. Ее должны были отправить в Швецию с детьми, но потом отправили латышку. Зарплаты маленькие, а квартплата большая. Родители получают по сто пятьдесят – двести латов, а одна квартплата – сто двадцать латов. Не представляю, как они выживают… Или, например, заходишь ты в магазин – хлеба, там, купить или молока. И если ты заговоришь по-русски, то тебе просто не ответят, притворятся, что не понимают. Хотя все всё понимают, суки…

– А ты что, латышского вообще не знаешь?

– Не, ну что-то знаю. Но я не хочу говорить в магазине с ошибками, понимаешь? Типа, гражданин второго сорта. Не, я лучше буду по-русски.

***

Утро. Я встаю, вылезаю из палатки, тру глаза, натыкаюсь на что-то, чуть не падаю. Это – Лыков в спальном мешке.

– Почему ты здесь, а не внутри?

– Неохота было вас раздвигать. Я поздно пришел, и вы уже всю территорию заняли…

От палаток к туалету и душу движется народ.

– Кстати, ты в курсе, что Копылов нас нагрел немелко, – говорит Лыков. – Вообще, поездка ведь бесплатная. В смысле, все оплачивает принимающая сторона…

– Откуда ты знаешь?

– Я тут общался с ребятами из Словении – их тоже мэрия Ноттингема пригласила, на тех же условиях. Только организацией занимался их универ, поэтому они ни копейки не платили вообще. И мы не должны были платить ни за что, кроме виз. Но это копейки, в принципе. Тем более что в Германию виза коллективная… Ну, да, Копылов, конечно, ездил в Москву, в Киев – делать визы. Но это ж не столько денег стоит…

– И что теперь?

– Хотим с ним побазарить. Ты можешь тоже. Чем больше народу, тем лучше…

***

Большая палатка, в которой кормят и проводят мероприятия. На сцене в углу группа играет нью-вэйв: барабанщик, девушка-басистка и гитарист-вокалист, стриженный налысо. Песня заканчивается. Несколько человек хлопают. Оля шепчет мне на ухо:

– Пойдем отсюда.

Я киваю, мы встаем, выходим из палатки. Группа начинает новую песню.

Мы идем по лагерю.

Я заглядываю в палатку. Никого. Мы с Олей залезаем. В соседних палатках - тишина.

***

– Я бы в Швейцарию съездил, – говорит Копылов. Он, я, Курлович, Лыков и Калиновский сидим на траве между палатками. – Крутая страна. Один чувак с “английского” рассказывал. Правда, посидел там в тюрьме – оружие у него нашли, что ли… Но, говорил, там такая тюрьма, как у нас правительственный санаторий… Можно работать, можно не работать. Он работал – бабки неплохие платили…

– И сколько он отсидел? – спрашивает Курлович.

– Месяц или два.

– То есть, получается, можно поехать, разбить там витрину, сесть и заработать на машину?

– За витрину тебя, скорей всего, не посадят.

– Саш, у нас к тебе разговор есть. – Лыков смотрит на Копылова.

– Да? Ну, говорите…

– Что стало с деньгами, которые ты собрал с нас? Нам тут сказали, что все оплачивает сити-каунсил, кроме виз и билетов до Варшавы…

– А ты знаешь, сколько все это потянуло?

– Немецкая виза двадцать марок, британская десять фунтов, французская около десяти баксов, столько же бенилюкс. Немецкая – коллективная. И где здесь сто пятьдесят?

– А в Киев и в Москву мне не надо было ездить – визы оформлять? Билеты, гостиница… Это что, ничего не стоит?

– Сколько ты на нас наварил? – спрашивает Лыков.

– Я восемьдесят пять процентов ваших денег на вас же и потратил, а где-то пятнадцать процентов наварил. И я этого не скрываю. Мне что, за всю эту работу ничего не полагается? Куда бы вы без меня поехали за такие деньги, а? Хуй куда. А ты бы вообще, блядь, молчал… – Он смотрит на Курловича. – Забурился с Сонькиной в постель, и все вас полчаса ждали. Короче, тема закрыта, больше к ней не возвращаемся…

Копылов встает, уходит.

– Сколько вижу здесь дурных всяких англичан – просто пиздец какой-то, – говорит Курлович. – Живут, бля, в нормальной стране, а какие-то, бля, идиоты.

– Да, не говори. – Калиновский чешет подбородок. – Вот что значит – в жирной стране живут, на всем готовом…

***

Автобус едет по скучному польскому шоссе. За окнами темнеет. Изредка мелькают аляповатые разноцветные вывески придорожных кафе и магазинов. Мы с Олей сидим на предпоследнем сиденье верхнего салона. Все остальные – впереди, мы от них откололись. Через проход от нас – компания молодых поляков. Мы поняли, что они ездили в Лондон учить английский.

Я гляжу на часы.

– Мы опаздываем. Больше, чем на час…

– Так можно и автобус на Минск пропустить…

– Ну, вряд ли он уедет. Подождут. Шестнадцать человек все же – почти половина.

***

За окном мелькает “Икарус” с белорусскими номерами.

Копылов вскакивает с места.

– Бля-а-а-адь!




Sakuma Shigeru

С Т Р О Ў Б Е Р Ы   Ф І Л Д С   Ф О Р Э В А

Он спускается в нижний салон. Слышно, как он по-английски пытается объяснить водителю: надо остановиться. Водитель не реагирует.

Автобус подъезжает к Восточному. Копылов поднимается по ступенькам.

– Выйдете из автобуса – и ждите. Я попробую догнать его на такси и вернуть.

***

Мы стоим на платформе. Подъезжает такси. Выпрыгивает Копылов.

– Не догнал.

– Ну и что теперь делать? – выкрикивает Калиновский. – Ты – руководитель группы, ты должен был позаботиться…

– Все остаемся здесь, на платформе, – говорит Копылов. – В здание вокзала не идем: там рэкетиры. Я пойду звонить в посольство и в автобусную фирму. Дайте телефоны родителей – сообщить, что этим автобусом мы не выехали…

***

Ночь. Мы сидим на лавках на платформе. Я и Оля прижались друг к другу, укрылись моей курткой. Рядом – две девушки с третьего курса английского, Вера и Аня.

– Я звонила этому своему знакомому, – говорит Вера. – Он не отвечает. Странно, у него телефон в машине…

– И что это за знакомый такой у тебя с телефоном в машине? – спрашивает Аня.

– Рэкетир, кто же еще? – Вера пожимает плечами. – Они здесь все друг друга знают, территория поделена. Если эти к нам пристанут…

– Ну, да, они, конечно, понимают, что денег ни у кого уже нет на обратном пути. Но если начнут лазить по сумкам… Особенно им понравится сумка Копылова.

Обе хихикают.

– А мне плевать, если и начнут лазить по сумкам, – шепчет мне Оля. – Я купила только джинсы и пару маек. Ну, и несколько компактов. На это они не позарятся…

– И у меня тоже – майка и компакты, – говорю я. – Так что нам нечего волноваться.

Мы целуемся.

***

Утро. Почти все еще спят, скрючившись на лавках на платформе. Низкий рэкетир, который подходил к нам в прошлый раз, разговаривает с Сонькиной и Купченко. Разговор кажется дружелюбным. Девушки улыбаются. Рэкетир оглядывает платформу, замечает Копылова.

– Э, слушай, иди-ка сюда.

Копылов подходит.

– А что это ты говорил мне тогда, что никто ничего не вывозит, а? А я, по типу, видел декларацию, в которой пятьсот баксов. Откуда это, а?

– Не знаю.

– А кто знает? Дядя?

– Давай отойдем в сторону – а то здесь люди спят.

Они отходят. Разговора не слышно. Рэкетир слушает Копылова, потом бьет его ногой по яйцам, кулаком в подбородок. Копылов падает на платформу. Рэкетир бьет его ногами в живот.

Подъезжает черный “мерседес” с польскими номерами. Из него выходят два парня в кожаных куртках. Вера подходит к одному, они о чем-то разговаривают. Рэкетир продолжает пинать Копылова.

Парни подходят к нему, здороваются за руку, улыбаются. Копылов медленно приподнимается.

***

Мужик из посольства – в джинсах Levi's, футболке Lacoste и черных туфлях-мокасинах.

– …Ребята, я понимаю вашу проблему, но формально я не очень понимаю, как вам помочь. Вы имеете полное право потребовать компенсации от автобусной компании за опоздание рейса из Лондона… Плюс, они обязаны вас отправить в Минск ближайшим автобусом, то есть сегодня вечером…

– А как с ними разговаривать? – спрашивает Копылов. У него рассечена губа и синяк под глазом. – Они ни по-русски, ни по-английски не говорят…

– Ну, в этом мы вам безусловно поможем. – Мужик улыбается. – Вы ж инязовцы – и как это польского никто не знает?

– Зачем нам польский? – говорит Сонькина. – Мы ж не собираемся сюда челноками ездить…

***

Я и Оля идем по улице в центре. Дома узнаваемо советские. Впереди торчат несколько современных небоскребов.

– В Минске скоро тоже такие построят, – говорю я.

– Не построят. После выборов президента у нас ничего уже не построят.

Мы заходим в сквер, садимся на лавку. Оля кладет голову мне на колени.

Мимо проходит компания местных подростков. Они что-то оживленно обсуждают.

***

Вечер. "Икарус" едет по Варшаве. Над домами – громадина Дворца культуры и науки. Оля кладет голову мне на плечо. Через восемь часов мы будем в Минске.




## ЛІСТ НІГЛЯ

Жыў некалі маленькі чалавек, якога звалі Нігль, і яму трэба было выпраўляцца ў доўгую вандроўку. Ён не хацеў ісьці, адна думка пра тое была яму непрыемнай, але ён ня мог адмовіцца. Бо ведаў, што аднойчы давядзецца ўсё ж пайсьці, ды не сьпяшаўся з падрыхтоўкай.

Нігль быў мастаком. Ня вельмі пасьпяховым. Часткова таму, што рабіў шмат іншых справаў, бальшыня якіх былі невыноснымі яму, але ён спраўляўся зь імі досыць добра, калі ня мог ад іх пазбавіцца, што, на ягоную думку, здаралася занадта часта. Законы ў ягонай краіне былі даволі строгімі. Былі таксама іншыя перашкоды. Па-першае, ён час ад часу ленаваўся і не рабіў зусім нічога. Па-другое, ён па-свойму быў добры. Але добрае сэрца ў яго было асаблівае: яно часцей прымушала яго пачувацца няўтульна, чым нешта рабіць. І нават калі ён нічога не рабіў, усё адно працягваў бурчэць, выходзіў зь сябе і лаяўся (збольшага на сябе самога). У любым выпадку ўсё тое ж добрае сэрца прыводзіла Нігля да выканання выпадковай працы для ягонага суседа, містара Пэрыша, які кульгаў на адну нагу. Часам Нігль нават дапамагаў іншым людзям, што жылі далей, калі тыя прыходзілі да яго. А яшчэ ён зноў і зноў узгадваў пра сваю вандроўку, пачынаў складваць некаторыя рэчы, але безвынікова. У такія часы ён мала маляваў.

Ён меў карціны, большасць зь якіх былі надта вялікімі і амбітнымі для ягоных здольнасьцяў. Ён быў з тых мастакоў, хто лепш малюе лісты, чым дрэвы. Ён мог шмат часу прысьвяціць аднаму лісьціку, спрабуючы злавіць ягоныя абрысы, зьзяньне і мігценьне

кропляў расы на краёчках. Але ён хацеў намаляваць цэлае дрэва з усімі лісьцікамі ў адным стылі і ўсё ж рознымі.

Была адна карціна, якая асабліва непакоіла яго. Усё пачалося зь ліста, злоўленага ў ветры, і стала дрэвам, дрэва расло, выпускала бясконцую колькасьць галінак і неверагодныя карані. Дзіўныя птушкі прыляцелі і пасяліліся на галінах, іх трэба было таксама дадаць на карціну. А потым вакол дрэва і за ім, у прагалах паміж лісьця і сукоў, адкрыўся краявід, там былі лясы, якія цягнуліся за далягляд, і горы з засьнежанымі вяршынямі. Нігль губляў цікавасьць да іншых сваіх карцінаў альбо прымацоўваў іх да краёў сваёй цудоўнай карціны. Ужо хутка палатно стала такім вялікім, што мастаку давялося абзавесціся лесвіцай, ён бегаў па ёй уверх і ўніз, дадаючы нейкі штрых тут, прыбіраючы мазок там. Калі да яго прыходзілі людзі, ён паводзіўся дастаткова ветліва, хаця нэрвова круціў алоўкі са свайго стала. Нігль слухаў, што яны мелі сказаць, але пры гэтым думаў аб сваім вялікім палатне, для якога ў садзе быў пабудаваны высокі навес-майстэрня (на тым месцы некалі расла бульба).

Нігль ня мог пазбавіцца свайго добрага сэрца. “Як бы я хацеў быць больш рашучым!” – часам казаў ён сам сабе, маючы на ўвазе, што жадаў бы ня так моцна пераймацца празь беды іншых людзей. Але ўжо доўгі час ён не абураўся. “Што б там ні было, я мушу скончыць гэтую карціну, маю сапраўдную карціну, перад тым як выпраўлюся ў тую клятую вандроўку”, – так ён часцяком казаў. І ўсё ж Нігль пачынаў разумець, што ня зможа бясконца адкладаць гэтую справу. Ягоная карціна мусіць спыніцца ў росце і завяршыцца.

Аднойчы Нігль стаяў крыху воддаль ад сваёй карціны і разглядаў яе надзвычай уважліва і крытычна. Ён ня мог зразумець, *што* думае пра яе, і яму хацелася мець сябра, які мог бы выказаць сваё меркаваньне. Увогуле, карціна не задавальняла яго, і ўсё ж здавалася прыгожай, адзінай насамрэч прыгожай карцінай у свеце. У той момант мастаку вельмі хацелася б убачыць, як ён сам уваходзіць і пахлопвае сам сябе па сьпіне са словамі (вельмі шчырымі): “Неверагодна цудоўна! Я бачу, што ты хацеў сказаць. Працягвай маляваць і ні пра што ня думай! Мы зможам дамагчыся пэнсіі для цябе, і ў цябе ўсё будзе”.

Тым ня менш не было аніякае пэнсіі. І Нігль ведаў адну важную рэч: яму трэба засяродзіцца, працаваць, працаваць шмат і беспярапынна, каб скончыць карціну нават цяперашняга памеру. Ён закатаў рукавы і пачаў засяроджвацца. Ён спрабаваў цягам некалькіх дзён не займацца больш нічым. Але зьявілася неверагодная колькасць перашкодаў. Не было ладу ў ягоным доме, давялося быць прысяжным у горадзе, далёкі сябра захварэў, містар Пэрыш зьлёг з болем у сьпіне, а наведвальнікі працягвалі прыходзіць. Была вясна, і ўсім хацелася выпіць гарбаткі на сьвежым паветры, а ў Нігля быў маленькі ўтульны дом, які стаяў у некалькіх мілях ад горада. Мастак кляў усіх у думках, але ня мог адмовіць, таму што сам запрасіў іх яшчэ ўзімку, калі зусім ня думаў пра “перашкоды”, якія ходзяць па крамах і п’юць у горадзе гарбату са знаёмымі. Нігль спрабаваў зрабіць сваё сэрца больш жорсткім, але безвынікова. Было шмат рэчаў, ад якіх ён ня мог адмовіцца, незалежна ад таго, ці былі яны абавязковымі. Былі таксама рэчы, якія ён проста вымушаны быў рабіць, не зважаючы на свае думкі. Некаторыя наведвальнікі зьвярталі ягоную ўвагу на тое, што сад выглядае даволі закінутым, таму варта чакаць Інспэктара. Мала хто зь іх ведаў пра ягоную карціну, але каб і ведаў, не было б вялікае розьніцы. Сумняюся, што гэта падалося б ім важным. Я нават скажу, што тая карціна сама не была добрай, але мела добрыя вобразы. Дрэва, у любым выпадку, было займальным. Нават якімсьці ўнікальным. Такім быў Нігль, хаця ён быў вельмі звычайным і крыху дурнаватым маленькім чалавекам.

І вось час стаў для Нігля вельмі каштоўным. Ягоныя знаёмыя ў далёкіх гарадах пачалі ўспамінаць, што маленькаму чалавеку трэба зьдзейсніць пэўную цяжкую вандроўку, і некаторыя нават падлічвалі, наколькі доўга ён яшчэ зможа адцягваць момант сыходу. Яны ўсё думалі, хто ж будзе займацца ягоным домам і ці будзе сад больш дагледжаны.

Прыйшла восень, вельмі вільготная і халодная. Маленькі мастак быў у сваёй майстэрні. Ён стаяў на лесьвіцы, спрабуючы злавіць на вяршыні засьнежанай гары сонца на захадзе, якое вызірала толькі ля кончыка аднаго лісціка на галінцы дрэва. Ён ведаў, што хутка давядзецца сысьці, можа нават у пачатку года. Часу было толькі каб скончыць карціну, і тое не зусім, бо былі яшчэ пэўныя моманты, для якіх ён мог толькі зрабіць накіды, каб акрэсліць, што ён хацеў сказаць.

Раптам у дзверы пагрукалі. “Уваходзьце!” – рэзка адказаў Нігль і спусьціўся зь лесьвіцы. Стаў на падлозе і пачаў круціць свой пэндзлік. Тое быў сусед, Пэрыш, ягоны адзіны сапраўдны сусед, бо ўвесь іншы люд жыў досыць далёка адсюль. Насамрэч Нігль ня вельмі любіў Пэрыша, часткова за тое, што ў яго заўсёды нешта здаралася і яму трэба была дапамога, а яшчэ таму, што ён не цікавіўся мастацтвам, але шмат крытыкаваў усё, што тычылася садоў. Калі Пэрыш глядзеў на сад Нігля (што здаралася часта), ён бачыў збольшага пустазельле, а калі глядзеў на Нігглевы карціны (што здаралася рэдка), ён бачыў толькі зялёныя і шэрыя плямы і чорныя лініі, якія ня мелі для яго аніякага сэнсу. Ён часта выказваўся пра пустазельле (суседзкі абавязак), але замоўчваў сваё меркаваньне пра карціны. Ён думаў, што гэта ветліва зь ягонага боку, але не разумеў, што хоць гэта і было ветліва, аднак недастаткова. Дапамога з пустазельлем (і, магчыма, захапленьне карцінамі) была б нашмат лепш.

“Ну, Пэрыш, што здарылася?” – спытаў Нігль.

“Я не павінны замінаць табе, ведаю, – сказаў Пэрыш (нават не зірнуўшы на карціну). – Упэўнены, што ты вельмі заняты”.

Нігль і сам зьбіраўся сказаць нешта такое, але страціў гэты шанец. Таму адказаў толькі: “Так”.

“Але мне няма да каго зьвярнуцца”, – сказаў Пэрыш.

“Разумею”, – адказаў Нігль, уздыхнуўшы. Такі ўздых робіцца нібыта пра сябе, але і так, каб яго пачулі. – Што я магу зрабіць для цябе?”

“Мая жонка ўжо некалькі дзён хварэе, і я пачынаю хвалявацца, – сказаў Пэрыш. – І вецер сарваў палову чарапіцы з майго даху, і вада ліецца ў спальню. Думаю, мне трэба запрасіць доктара. І будаўнікоў таксама, але ж яны прыедуць няхутка. Я падумаў, можа, у цябе ёсць крыху дошак і палатна, каб дапамагчы мне, я змог бы пратрымацца так дзень-два”. І цяпер ён зірнуў на карціну.

“Ох-ох-ох! – сказаў Нігль. – Бедны! Я спадзяюся, што ў тваёй жонкі толькі прастуда і нічога страшнага. Я хутка прыйду і дапамагу табе перанесьці хворую ўніз”.

“Дзякуй вялікі, – адказаў даволі халодна Пэрыш. – Але ў яе не прастуда, а гарачка. Я б не прыйшоў да цябе, каб была толькі прастуда. І мая жонка ўжо ўнізе. Я ня змог бы хадзіць з падносам уверх і ўніз, не з маёй нагой. Але я бачу, што ты заняты. Прабач, што панепакоіў. Я вельмі спадзяваўся, што ў цябе знойдзецца крыху часу, каб паклікаць доктара, калі ты зразумееш маё становішча, і яшчэ каб паклікаць будаўнікоў, калі ў цябе насамрэч няма матэрыялаў, каб пазычыць мне”.

“Канечне, – адказаў Нігль, хоць у ягоным сэрцы былі зусім іншыя словы, і сэрца ў той момант было проста спакойным, а не добрым. – Я магу схадзіць. Я пайду, калі ты так хвалюесься”.

“Я хвалююся, вельмі. Хацеў бы я ня быць кульгавым”, – адказаў Пэрыш.

І вось Нігль пайшоў. Самі разумееце, было няёмка. Пэрыш быў ягоным суседам, а да ўсіх іншых далёка ісьці. У Нігля быў ровар, а ў Пэрыша не было, ён і ня змог бы на ім езьдзіць. Пэрыш кульгаў на адну нагу, сапраўды кульгаў, і нага пры гэтым балела. Пра ўсё трэба было памятаць, як і пра ягоны кіслы твар і піскслявы голас. Канечне, у Нігля была карціна і вельмі мала часу, каб яе скончыць. З гэтым мусіў у першую чаргу лічыцца Пэрыш, а ня Нігль. Але Пэрыш не лічыўся з карцінамі, і Нігль ня мог паўплываць на гэта. “Кінь гэта!” – сказаў ён сам сабе, калі сядаў на ровар.

Было вільготна і ветрана, дзённае сьвятло згасала. “Больш ніякай працы сёньня!” – думаў Нігль, і ўвесь час, пакуль ехаў, ён кляўся сабе ці ўяўляў, як кранае пэндзлем гару і россып лісьця побач, які ён упершыню ўявіў увесну. Ягоныя рукі сьціскалі стырно ровара. Зараз ён за межамі майстэрні, аднак яскрава бачыць, як зрабіць той бліскучы россып, што абрамляе абрысы гары ўдалечыні. Але сэрцам мастак адчуваў страх, што ўжо ня будзе магчымасьці гэта зьдзейсьніць.

Нігль знайшоў доктара і пакінуў цыдулку будаўніку. Кантора была зачыненая, той ужо пайшоў дадому, да сваёй сям’і. Нігль і сам прамок наскрозь і яго прадзьмула. Доктар выправіўся не адразу па прыезьдзе Нігля. Ён быў у Пэрышаў толькі на наступны дзень, што было яму вельмі зручна, бо цяпер доктар атрымаў ужо двух пацыентаў у суседніх дамах. Нігль ляжаў у ложку, з высокай тэмпературай, дзівосныя вобразы лісьця і галінак ствараліся ў ягонай галаве і на століі. Яму ня стала лягчэй ад навіны, што ў місіс Пэрыш была звычайная прастуда і жанчына ўжо магла ўзнімацца. Нігль павярнуўся тварам да сьцяны і паглыбіўся ў думкі пра лісьце.

Мастак правёў пэўны час у ложку. Вецер працягваў дзьмуць. Ён сарваў добрую частку чарапіцы Пэрыша і крыху Ніглевай таксама, дах пачаў працякаць. Той будаўнік не прыехаў. Дзень ці два Ніглю было ўсё адно. Потым ён асьцярожна падняўся, каб паесьці (у Нігля не было жонкі). Пэрыш не заходзіў: дождж уплываў на ягоную нагу і яна пачала балець, а жонка была занятая тым, што вымаківала ваду і абуралася, што "гэты містар Нігль" забыўся паклікаць будаўніка. Каб ёй раптам спатрэбілася пазычыць нешта, то яна адправіла б містара Пэрыша і здаровага, і хворага, але ёй нічога не спатрэбілася, і Нігль заставаўся адзін.

У канцы тыдня Нігль прыцягнуўся ў сваю майстэрню. Ён паспрабаваў ускараскацца па лесьвіцы, але ў яго закруцілася галава. Мастак сеў і паглядзеў на карціну, але ў гэты дзень у ягонай галаве не было зьзяньня лістоты і выяваў гор. Ён мог бы намаляваць далёкі краявід пясчанай пустэльні, але ў яго не было моцы.

На наступны дзень Нігль пачуваўся нашмат лепш. Ён залез на лесьвіцу і пачаў маляваць. А толькі паглыбіўся ў працэс, як зноў нехта пагрукаў у дзьверы.

"Чорт!" – сказаў Нігль. Але дзверы адчыніліся, нібыта ён ветліва сказаў "Уваходзьце!" На гэты раз тое быў нейкі высокі мужчына, зусім незнаёмы.

"Гэта прыватная студыя, – сказаў Нігль. – Я заняты. Ідзіце прэч!"

"Я Інспэктар дамоў", – адказаў мужчына і паказаў сваю візітоўку так, каб Нігль на лесьвіцы мог яе бачыць.

"Вой!" – сказаў Нігль.

"Дом вашых суседзяў зусім у кепскім стане", – сказаў Інспэктар.

"Ведаю, – адказаў Нігль. – Я пакінуў цыдулку будаўніку ўжо даўно, але ён так і не прыйшоў. А потым я хварэў".

"Разумею, – сказаў Інспэктар. – Але цяпер вы ня хворы".

"Але ж я не будаўнік. Пэрыш мусіць падаць заяўку ў Гарадзкі Савет і атрымаць дапамогу ад Аварыйнай службы".

"Яны займаюцца зараз горшымі пашкоджаньнямі, чым тут, – сказаў Інспэктар. –У даліне была моцная паводка, і многія сем'і засталіся без жытла. Вы мусілі дапамагчы вашаму суседу зрабіць часовы рамонт і перадухіліць павелічэньне пашкоджаньняў і затратаў на іх рамонт. Гэта закон. Тут мноства матэрыялаў: палатно, дошкі, водатрывалая фарба".

"Ды дзе?" – абурыўся Нігль.

"Вось тут!" – адказаў Інспэктар і паказаў на карціну.

"Мая карціна!" – усклікнуў Нігль.

"Так, яна, – сказаў Інспэктар. – Але дамы ў першую чаргу, гэта закон".

"Але я не магу…" Нігль больш нічога не сказаў, бо ў гэты момант увайшоў яшчэ адзін чалавек. Вельмі падобны да Інспэктара, як ягоны двайнік: высокі, апрануты ва ўсё чорнае.

"Хадземце! – прамовіў той. – Я кіроўца".

Нігль ледзь зьлез зь лесьвіцы. Яму здалося, што ягоная гарачка вярнулася, галава ўзмакрэла, ён адчуў холад.

"Кіроўца? Кіроўца? – мармытаў ён. – Кіроўца чаго?"

"Ваш і вашага экіпажа – адказаў чалавек. – Экіпаж быў замоўлены ўжо даўно. І вось ён прыбыў. І чакае. Памятаеце? Сёння дзень пачатку вашае вандроўкі".

"Гэтага яшчэ не хапала! – сказаў Інспэктар. – Вам давядзецца паехаць, але гэта кепска – пачынаць вандроўку, пакідаючы недаробленыя справы. У любым выпадку, мы ўсё яшчэ можам выкарыстаць гэтае палатно".

"Ох, Божухна! – усхліпнуў бедны Нігль. – Але ж яна… яна яшчэ нават ня скончаная!"

"Ня скончаная? – спытаў Кіроўца. – Думаю, зь ёй у любым выпадку ўжо ўсё скончана. Хадземце!"

Нігль пайшоў сьцішаны. Кіроўца ня даў яму часу, каб сабрацца, кажучы, што той мусіў зрабіць усё раней і што яны спозьняцца на цягнік. Адзінае, што мог зрабіць Нігль, гэта схапіць маленькую торбу ў калідоры. Ён знайшоў там толькі скрыню з фарбамі і нататнік з накідамі: ні табе ежы, ні вопраткі. Яны акурат пасьпелі на цягнік. Нігль пачуваўся вельмі стомленым і сонным, ён амаль не разумеў, што адбываецца, калі заваліўся ў сваё купэ. Яму было ўсё адно, куды трэба ехаць і навошта. Цягнік амаль адразу заехаў у цёмны тунэль.

Нігль прачнуўся на вялікай цьмянай станцыі. Дзяжурны ішоў па плятформе і крычаў, але крычаў ня назву станцыі, а “Нігль!”

Нігль хутка выйшаў і зразумеў, што забыў сваю маленькую торбу. Ён хацеў вярнуцца, але цягнік ужо сыйшоў.

“Вось вы дзе! – выгукнуў Дзяжурны. – Сюды! Што? Ніякіх рэчаў! Вам давядзецца пайсьці ў Працоўны дом”.

Ніглю было блага, ён страціў прытомнасьць на плятформе. Яго забрала хуткая дапамога і прывезла ў шпіталь Працоўнага дома.

Мастаку не падабалася, як зь ім абыходзяцца. Лекі, якія яму давалі, былі горкімі. Чыноўнікі і служкі былі грубымі, маўклівымі і строгімі, і ён ня бачыў нікога, акрамя вельмі суровага доктара, што час ад часу заходзіў да яго. Было такое адчуваньне, што ён у турме, а не ў шпіталі. Ніглю даводзілася шмат працаваць у прызначаныя часы, ён быў землякопам, цесьляром, фарбаваў дошкі адной і той жа змрочнай фарбай. Яму не дазвалялася выходзіць на двор, а вокны вялі толькі ў памяшканьні. Яго трымалі ў цемры шмат часоў запар, “каб мог падумаць”, казалі яны. Ён згубіўся ў часе. Яму нават не станавілася лепш, ён не адчуваў аніякага жаданьня рабіць нешта, нават класьціся спаць.

Цягам першага стагодзьдзя ці каля таго (я толькі перадаю ягоныя ўражаньні), Нігля ўсё яшчэ хвалявала мінулае, але дарэмна. І толькі адну рэч ён паўтараў сабе, лежачы ў цемры:

“Лепш бы я зайшоў сам да Пэрыша, як толькі ўзняўся моцны вецер. Я мусіў. Першыя адарваныя чарапіцы было б лёгка замацаваць. Тады б місіс Пэрыш не захварэла. І я б не захварэў таксама. І ў мяне было б на цэлы тыдзень больш часу”. Але паступова ён забыў, навошта яму быў патрэбны тыдзень. Цяпер Нігль пераймаўся толькі наконт сваёй працы ў шпіталі. Ён думаў, як хутчэй адрамантаваць рыпучую падлогу, як перавесіць дзьверы ці падправіць ножку стала. Пэўна, Нігль стаў больш карысным, але ніхто не казаў яму пра гэта. Аднак тое наўрад ці магло быць прычынай таго, што маленькага чалавека трымалі там так доўга. Можа, яны чакалі, што яму палепшае, мераючы гэтае “лепш” нейкімі сваімі мэдычнымі стандартамі.

У любым выпадку, бедны Нігль ня ведаў таго прыемнага жыцьця, зь якім ён раней звыкся. Нічога яго ня радавала. Але нельга адмаўляць таго, што ў Нігля зьявілася, скажам так, пачуцьцё задаволенасьці: хлеб лепшы за варэньне. Ён мог цяпер пачынаць працу, як толькі пачуе званок, і адкладаць яе, як толькі празьвініць наступны; усё было акуратна і гатовае да працягу ў патрэбны момант. Цяпер шмат чаго адбывалася зь Ніглем за дзень, ён заўсёды даводзіў да канца ўсе свае маленькія справы. У яго не было “часу для сябе” (за выключэньнем сну ў спальні-каморцы), і ўсё ж ён станавіўся майстрам свайго часу, ён стаў разумець, як трэба абыходзіцца зь ім. Ня варта спяшацца. У ягонай душы быў спакой, Нігль навучыўся адпачываць па-сапраўднаму.

Раптам увесь ягоны расклад быў зьменены, Ніглю амаль не дазвалялі спаць. Яго забіралі зь цясьлярскай майстэрні і штодня адпраўлялі капаць. Ён пераносіў гэта даволі добра. Шмат часу прайшло, пакуль у Ніглевай галаве пачала ўзьнікаць лаянка, на якую ён даўно забыўся. Ён працягваў капаць, спіна здавалася яму зламанай, рукі сталі шурпатымі, ён адчуваў, што ня можа больш падымаць рыдлёўку. Ніхто ня дзякаваў. Але прыйшоў доктар і паглядзеў на Нігля.

“Досыць! – сказаў доктар. – Адпачынак у цемры”.

Нігль ляжаў у цемры, цалкам адпачываючы. І паколькі ён зусім нічога не адчуваў і ня думаў, ён мог бы праляжаць так гадзіны ці гады, як ён сам казаў. Але цяпер Нігль чуў галасы, якія ніколі ня чуў раней. Пэўна, тое была Мэдычная Камісія, ці, магчыма, Сьледчая Камісія, яны былі зусім побач, можа, у суседнім пакоі, куды былі адчыненыя дзьверы, хаця Нігль ня бачыў сьвятла адтуль.

“Цяпер справа Нігля”, – сказаў Голас, суровы, яшчэ суравейшы за доктараў.

“Што там зь ім?” – спытаў Другі Голас, які можна было б назваць спакойным, але ня мяккім, – аўтарытэтны голас, у ім аднача сна чуліся надзея і смутак. “Што там з тым Ніглем? Ягонае сэрца на правільным месцы”.

“Так, але яно не зусім правільна працавала, – адказаў Першы Голас. – І ягоная галава была кепска прыкручаная, ён увогуле ледзь думаў. Уявіце, колькі часу ён згубіў, нават калі не забаўляўся! Ён ніяк ня мог сабрацца ў сваю вандроўку. Ён быў даволі забясьпечаным, і ўсё ж

прыбыў сюды з пустымі рукамі, мы мусілі пасяліць яго сярод беднякоў. Баюся, гэта складаны выпадак. Яму лепей яшчэ крыху пабыць тут".

"Магчыма, горш яму ад гэтага ня стане, – сказаў Другі Голас. – Канечне, ён проста маленькі чалавек. Ён ня быў прызначаны для нечага вялікага, і ён ніколі ня быў моцным. Давайце зірнем на Запісы. Вось некалькі важных пунктаў".

"Так, але мала што з гэтага дапаможа дасьледваньню", – адказаў Першы Голас.

"Вось яшчэ, – сказаў Другі Голас. – Па натуры ён мастак. Ня тое каб добры, але Ліст Нігля па-свойму зачароўвае. Ён шмат пакутаваў дзеля сваіх лісьцяў. Але ён ніколі ня думаў, што гэта робіць яго важным. У Запісах няма ніводнага слова пра тое, што ён наўмысна ігнараваў законы".

"Але таму ён не павінны быў ігнараваць так шмат законаў", – сказаў Першы Голас.

"Тым ня менш ён адгукнуўся на шмат просьбаў".

"Невялікая заслуга, большыню зь іх лёгка было выканаць, і ён называў іх Перашкодамі. У Запісах шмат разоў сустракаецца гэтае слова разам з мноствам скаргаў і дурной лаянкі".

"Маеце рацыю, але яны ўсе былі перашкодамі для яго, ён жа проста маленькі чалавек. І вось яшчэ: ён ніколі не чакаў нічога ў Адказ, як гэта называюць іншыя, такія, як ён. Ёсьць справа Пэрыша, якая прыйшла пазней. Ён быў суседам Нігля, ні разу нічога для яго не зрабіў і вельмі рэдка выказваў хоць якую ўдзячнасьць. Але ў Запісах няма ніводнага слова пра тое, што Нігль чакаў Пэрышавай удзячнасьці, здаецца, ён нават ня думаў пра гэта".

"Так, гэта аргумэнт, – сказаў Першы Голас. – Але вельмі нязначны. Думаю, Нігль шмат чаго ня памятае. Тое, што ён мусіў рабіць для Пэрыша, ён выкідаў з галавы, як непрыемныя абставіны, зь якімі даводзілася лічыцца".

"Усё ж вось яшчэ паведамленьне, – сказаў Другі Голас. – Тая мокрая роварная вандроўка. Гэта мне хацелася б падкрэсьліць асобна. Падобна да сапраўднай ахвяры: Нігль падазраваў, што губляе свой апошні шанец скончыць карціну, і таксама падазраваў, што клопаты Пэрыша былі беспадстаўнымі".

"Думаю, вы занадта чапляецеся за гэта, – адказаў Першы Голас. – Але апошняе слова за вамі. Канечне, гэта вашая задача, правільна інтэрпрэтаваць факты. Часам яны таго вартыя. Вашыя прапановы?"

"Мне падаецца, што гэты выпадак патрабуе вельмі акуратнага вырашэньня", – сказаў Другі Голас.

Ніглю падумалася, што Голас прагучаў як ніколі высакародна. Таму Акуратнае Вырашэньне падалося яму незьлічонымі багатымі падарункамі і запрашэньнем на каралеўскі баль. І раптам Ніглю стала сорамна. Акуратнае Вырашэньне ягонай справы захлынула яго, ён пачырванеў у цемры. Гэта было падобна да адчуваньня, калі ты атрымліваеш публічную ўзнагароду, і пры гэтым ты і ўсе навокал ведаюць, што ўзнагарода незаслужаная. Нігль схаваў свой сорам у грубай прасьціне.

Стала ціха. Потым Першы Голас, вельмі блізкі, звярнуўся да Нігля:

"Ты ўсё чуў", – сказаў ён.

"Так", – адказаў Нігль.

"Ну, і што ты маеш сказаць?"

"Можаце распавесьці мне пра Пэрыша? – спытаў Нігль. – Я хацеў бы зноўку пабачыць яго. Спадзяюся, ён ня вельмі хворы? Вы можаце вылечыць ягоную нагу? Я дрэнна клапаціўся пра яго. І, калі ласка, не перайма йцеся наконт мяне і яго. Ён быў вельмі добрым суседам і прадаваў мне вельмі танна добрую бульбу, што эканоміла мне шмат часу".

"Няўжо? – сказаў Першы Голас. – Рады чуць гэта".

Зноў стала ціха. Нігль чуў, што Галасы аддаляліся. "Добра, я згодны, – ён здалёк пачуў Першы Голас. – Няхай пяройдзе на наступны этап. Заўтра, калі хочаш".

Нігль прачнуўся і ўбачыў, што ягоныя фіранкі рассунутыя, а маленькая каморка поўніцца сонечным сьвятлом. Ён падняўся, знайшоў зручную вопратку, якую пакінулі для яго; тое была ўжо не шпітальная форма. Пасля сьняданку доктар агледзеў ягоныя параненыя рукі, намазаў іх адмысловым бальзамам, ад якога яны ўмомант загаіліся. Ён даў Ніглю парачку добрых парадаў і пляшку тоніка (на ўсялякі выпадак). Позьнім ранкам Ніглю далі печыва і келіх віна, а яшчэ прынесьлі квіток.

“Вы можаце хоць зараз ісьці на станцыю, – сказаў доктар. – Дзяжурны прыгледзіць за вамі. Да пабачэньня”.

Нігль выйшаў з галоўнага ўваходу, крыху паміргаў. Сонца было вельмі яркае. Ён думаў, што трапіць у вялікі горад, адпаведна памеру станцыі, але памыліўся. Ён быў на вяршыні ўзгорка, зялёнага, пустога, вымеценага моцным ветрам. Навокал нікога не было. Далёка ўнізе ён убачыў ззяючы дах станцыі.

Нігль рэзка рушыў убок станцыі, але не сьпяшаючыся. Дзяжурны адразу яго заўважыў.

“Сюды!” – сказаў той і правёў Нігля на плятформу, дзе ўжо стаяў прыемны маленькі цягнік мясцовага прызначэньня, адзін вагон і маленькі лакаматыў, абодва яркія, чыстыя і нядаўна пафарбаваныя. Усё выглядала так, нібыта гэта самы першы выезд цягніка. Нават рэйкі, што ляжалі перад цягніком, здаваліся новымі, яны блішчэлі. Сядзеньні былі зялёнымі, ад іх сыходзіў прыемны пах сьвежай смалы ў цёплых сонечных промнях. Вагон быў пусты.

“Дзяжурны, а куды ідзе гэты цягнік?” – спытаў Нігль.

“Ня думаю, што ўжо прыдумалі назву, – сказаў Дзяжурны. – Але вам мусіць спадабацца”. Ён зачыніў дзьверы.

Цягнік адразу ж паехаў. Нігль адкінуўся ў сваім сядзеньні. Маленькі лакаматыў пыхаў праз глыбокі танэль з высокімі зялёнымі сьценамі і блакітным небам замест даху. Здалося, што няшмат часу прайшло, калі лакаматыў засьвісьцеў, прытармазіў і цягнік спыніўся. Тут не было аніякае станцыі, ніякіх знакаў, толькі прыступкі ўверх па зялёных сьценах. Наверсе была брамка ў акуратнай агароджы. Каля брамкі стаяў Нíглеў ровар, ці ён выглядаў як ягоны, і там была жоўтая шыльдачка, прымацаваная да дошчачкі, на якой вялікімі чорнымі літарамі было напісана: НІГЛЬ.

Нігль штурхнуў брамку, ускочыў на ровар і пакаціўся ўніз, насустрач вясноваму сонцу. Перш чым ён заўважыў, што сьцяжынка, зь якой ён выехаў, зьнікла, ягоны ровар ужо ехаў па цудоўнай траўцы. Яна была зялёнай і блізкай, можна было разгледзець кожную асобную травінку. Ніглю здавалася, што ён ужо недзе бачыў ці марыў пра гэты травяны луг. Чамусьці ўсе павароты сьцежкі былі яму знаёмыя. Канечне, яна то апускалася, то ўздымалася, усё было правільна. Вялікі зялёны цень ляжаў паміж Ніглем і сонцам. Нігль падняў вочы і зваліўся з ровара.

Перад ім стаяла Дрэва, ягонае Дрэва, скончанае. Яно было як жывое, кожны лісьцік раскрываўся, галінкі расьлі і схіляліся ад ветру, акурат гэтак, як Нігль шмат разоў уяўляў іх, але так і ня змог перадаць. Ён глядзеў на Дрэва, а потым павольна падняў рукі і разьвёў іх у бакі.

“Гэта падарунак!” – сказаў Нігль. Ён радаваўся свайму мастацтву і выніку таксама, але лічыў Дрэва сапраўдным падарункам.

Ён глядзеў на Дрэва. Усё лісьце, што ён рабіў, было хутчэй такім, якім ён яго ўяўляў, а не намаляваў, і тут было шмат іншага, што ён бачыў толькі ва ўласнай фантазіі, і шмат таго, што ён мог бы прыдумаць, калі б меў на тое час. На іх нічога не было напісана, гэта былі выкшталцоныя лісьцікі, але яны былі датаваныя так дакладна, як каляндар. Найбольш прыгожыя зь іх, самыя характэрныя, найлепшыя ўзоры стылю Нігля, былі створаныя пры дапамозе містара Пэрыша – не было іншай магчымасці замацаваць іх.

На Дрэве гнездаваліся птушкі. Неверагодныя птушкі, як яны сьпявалі! Яны стваралі сем’і, гадавалі дзяцей, распраўлялі крылы і ляцелі сьпяваць у Лес, нават калі Нігль глядзеў на іх. Цяпер маленькі чалавек убачыў Лес, які прасьціраўся ў іншым баку і сыходзіў удалячынь. Далёка-далёка зьзялі Горы.

Празь некаторы час Нігль павярнуў да Лесу. Не таму, што яму надакучыла дрэва, проста мастаку здалося, што ягоная галава праясьнілася, ён бачыў, што дрэва расьце, нават калі ён не глядзіць на яго. І Нігль пайшоў. Ён адкрыў для сябе дзіўную рэч: Лес, канечне, быў далёка, але ён мог дайсьці да яго і нават увайсьці ў яго, а той ня згубіць сваёй прыгажосьці. Раней Нігль ня мог проста наблізіцца да нечага далёка, бо тады яно станавалася звычайным навакольлем. Цяпер жа ён адчуваў вялікае жаданьне хадзіць па зямлі, таму што калі ты ідзеш, табе ўвесь час адкрываецца нешта новае. Падвоеная, патроеная і нават пачацьвераная адлегласьць азначалі падвоенае, патроенае і пачацьверанае хараство. Ты можаш ісьці і ісьці, і мець цэлы сьвет у межах свайго саду ці нават на карціне (калі табе так больш падабаецца). Ты можаш ісьці і ісьці, але, пэўна, не бясконца. Вунь Горы ўдалечыні. Яна набліжаюцца, вельмі павольна. Яны нібыта не належаць да карціны, рыхтык шлях да нечага іншага, слабы ўсполах паміж дрэваў ці зусім іншае, наступны этап – іншая карціна.

Нігль гуляў, але ня проста так. Ён старанна вывучаў асяродзьдзе. Дрэва было скончанае, але ня скончаныя Ніглевы справы: "Проста гэта нешта іншае, ня тое, што было раней", – падумаў Нігль. Але ў Лесе яшчэ мноства няскончаных прастораў, над якімі трэба было працаваць і думаць. Больш нічога ня трэба мяняць, усё як трэба, але ўсё трэба давесьці да завяршэньня. Нігль вельмі дакладна ўяўляў гэтае завяршэньне.

Ён сядзеў пад прыгожым далёкім дрэвам, падобным да Вялікага Дрэва, але своеасаблівым, калі ўважліва прыгледзецца, і разважаў, дзе пачаць працу, дзе яе скончыць і колькі яшчэ засталося часу. Але ён ня мог скласьці дакладны плян.

"Канечне! – усклікнуў Нігль. – Мне патрэбны Пэрыш. Ён ведае нашмат больш за мяне пра зямлю, расьліны і дрэвы. Гэтае месца ня можа быць маім уласным паркам. Мне патрэбная дапамога і парады, трэба было адразу падумаць пра гэта".

Нігль падняўся і накіраваўся да таго месца, дзе вырашыў распачаць працу. Ён зьняў паліто. Потым ён убачыў, што з прыхаванай ад людзкіх поглядаў западзіны на яго са зьдзіўленьнем глядзіць нейкі чалавек. Той абапіраўся на рыдлёўку ды ня ведаў, што рабіць. Нігль прывітаў яго: "Пэрыш!"

Пэрыш паклаў на плячо рыдлёўку і падышоў да яго. Ён усё яшчэ крыху кульгаў. Яны не размаўлялі, толькіківалі галавой, калі трэба было ісьці адзін за адным, але цяпер яны ішлі поруч. Моўчкі Нігль і Пэрыш вырашылі, дзе дакладна будзе маленькі дом і сад, які таксама быў патрэбны.

Пакуль яны разам працавалі, Нігль зразумеў, што цяпер зь іх дваіх ён лепш умеў разьмяркоўваць час і завяршаць усе справы. Цяпер Нігль больш захапляўся будаўніцтвам і садоўніцтвам, а Пэрыш часьцей глядзеў на дрэвы, асабліва на Дрэва.

Аднойчы Нігль быў заняты тым, што садзіў кусты для агароджы, а Пэрыш ляжаў на траве побач, уважліва глядзеў на прыгожыя і маленькія жоўтыя кветачкі, што расьлі на зялёным лузе. Нігль ужо даўно пасадзіў шмат такіх пад сваім Дрэвам. Раптам Пэрыш падняў вочы, ягоны твар зьзяў на сонцы, ён пасьміхаўся.

"Гэта цудоўна! – сказаў ён. – Я павінны быць тут. Дзякуй, што папрасіў за мяне".

"Глупства. Я ня памятаю, што казаў, але ў любым выпадку таго было недастаткова", – адгукнуўся Нігль.

"Не, дастаткова, – сказаў Пэрыш. – Яны адпусьцілі мяне раней. Той Другі Голас, ты ж памятаеш, ён адправіў мяне сюды. Сказаў, што ты жадаеш бачыць мяне. Я абавязаны табе гэтым".
"Не. Гэтым ты абавязаны Другому Голасу. Мы абодва абавязаныя", – адказаў Нігль.

Так яны жылі і працавалі разам, ня ведаю, як доўга. Варта сказаць, што спачатку яны час ад часу разыходзіліся ў меркаваньнях, асабліва калі стамляліся. А стамляліся яны толькі ў першыя дні. Яны заўважылі, што кожнаму зь іх далі пляшку з тонікам. На іх былі цэтлікі з надпісам: *Прыняць некалькі кропляў зь Веснавой вадой перад сном.*

Яны знайшлі Вясну ў сэрцы Леса, некалі даўно Нігль уяўляў яе, але не наважыўся маляваць. Цяпер ён зразумеў, што гэта была крыніца, якая блішчэла ўдалечыні і давала сілы ўсяму, што расло на зямлі. Ад некалькіх кропляў вада рабілася нясмачнай, нават горкай, але яна давала моц і праясьняла галаву. Яны адпачывалі ў адзіноце, прыняўшы ваду, а потым узьнімаліся і радасна браліся за справы. У такія часы Нігль марыў пра новыя кветкі і расьліны, а Пэрыш заўсёды дакладна ведаў, як і дзе іх лепш пасадзіць. Яшчэ да таго, як тонік скончыўся, яны пераcталі адчуваць патрэбу ў ім. Пэрыш больш не кульгаў.

Іхняя праца ўжо набліжалася да заканчэньня, і яны дазвалялі сабе даўгія шпацыры, глядзелі на дрэвы, на кветкі, на сьвятло, абрысы і на краявіды. Часам яны разам сьпявалі, але Нігль адчуваў, што ўсё часьцей і часьцей глядзіць у бок гор.

Вось прыйшоў час, калі дом у западзіне, сад, трава, лес, возера і ўсё навокал было скончанае, у сваім уласным стылі. Вялікае Дрэва патанала ў квецені.

"Мы мусім скончыць сёньня ўвечары, – аднойчы сказаў Пэрыш. – А потым мы выправімся ў сапраўды даўгую вандроўку".

Яны выйшлі на наступны дзень і ішлі, пакуль не дайшлі да самага Краю. Ён быў нябачны, канечне, не было лініі, плота ці сьцяны, але яны ведалі, што дайшлі да мяжы краіны. Яны ўбачылі чалавека, які быў падобны да пастуха. Ён ішоў да іх, спускаўся па парослым травой схіле, што вёў у Горы.

“Вас правесьці? – спытаў ён. – Ці жадаеце вы ісьці далей?”

На імгненьне цень прабег паміж Ніглем і Пэрышам. Нігль ведаў, што ён яшчэ ня хоча туды ісьці, але падсьвядома разумеў, што мусіць зрабіць гэта. Але Пэрыш не хацеў і ня быў гатовы да гэтага.

“Я пачакаю сваю жонку, – сказаў Пэрыш Ніглю. – Ёй будзе самотна. Я спадзяюся, што яны прышлюць яе ў свой час пасьля мяне, калі яна будзе гатовая і калі ў мяне ўсё будзе падрыхтавана. Цяпер дом збудаваны, мы зрабілі яго настолькі добрым, якім маглі, і я хацеў бы паказаць яго ёй. Яна зможа палепшыць яго, думаю, зможа зрабіць яго больш утульным. Спадзяюся, ёй спадабаецца гэтая краіна”. Пэрыш павярнуўся да пастуха: “Ты праваднік? Ты можаш сказаць мне назву гэтай краіны?”

“А ты ня ведаеш? Гэта краіна Нігля. Гэта карціна Нігля збольшага. Хіба што тут яшчэ ёсьць сад Пэрыша”.

“Карціна Нігля? – зьдзіўлена ўскрыкнуў Пэрыш. – Гэта ты ўсё прыдумаў, Нігль? Ніколі б не падумаў, што ты такі разумны. Чаму ты не сказаў мне?”

“Ён даўно спрабаваў сказаць табе, але ты не глядзеў. Некалі ў яго былі толькі дошкі і палатно, а ты хацеў адрамантаваць імі дах. Гэта тое, што ты і твая жонка называлі Бязглузьдзіцай Нігля, ці Гэтага Доўбня”.

“Але ж гэта ўсё зусім не падобнае…” – сказаў Пэрыш.

“Не, гэта толькі імгненьне, – сказаў чалавек. – Але ты мог бы заўважыць тое імгненьне, калі б толькі паспрабаваў”.

“Я не даваў табе сапраўдны шанец, – сказаў Нігль. – Я ніколі не спрабаваў патлумачыць. Я раней называў цябе Старым Землякопам. Але што з таго? Мы жылі і працавалі разам. Справы маглі быць лепшымі, але не былі. Нам трэба яшчэ раз сустрэцца, я думаю. Мы можам зрабіць яшчэ шмат рэчаў разам. Да пабачэньня!” Ён сардэчна пацісьнуў руку Пэрышу, рука была добрай, мяккай, шчырай. Нігль адвярнуўся на хвіліну. Квецень на Вялікім Дрэве зіхцела, нібы полымя. Птушкі лёталі ў паветры і сьпявалі. Нігль пасьміхнуўся, кіўнуў Пэрышу і сышоў з пастухом.

Ён зьбіраўся даведацца больш пра авечак і горныя лугі, паглядзець на шырокае неба, ісьці далей і далей да Гор, заўсёды ўверх. Ня ведаю, што зь ім здарылася. Маленькі Нігль са свайго старога дома мог глядзець на Горы ўдалечыні і маляваць іх на сваёй карціне, але якія яны насамрэч і што знаходзіцца за імі, ведае толькі той, хто на іх падняўся.

“Думаю, ён быў дурным маленькім чалавечкам, – сказаў дарадца Томпкінс. – Нікчэмны, ніякай карысьці для Грамадзтва”.

“Хм, ня ведаю, – адказаў Аткінс, які быў ня вельмі важнай асобай, проста школьны дырэктар. – Я не настолькі ўпэўнены. Залежыць ад таго, што вы разумееце пад словам *карысьць*”.

“Ніякай практычнай ці эканамічнай карысьці, – адказаў Томпкінс. – З такім жа посьпехам ён мог бы стаць звычайным служкам, калі вы, школьныя дырэктары, разумееце сваю справу. Але вы не разумееце, таму ў нас шмат такіх непатрэбных людзей. Каб я мог кіраваць гэтай краінай, то даў бы такім, як ён, адпаведны занятак, мыцьцё посуду ў грамадзкай кухні ці нешта такое, і я б сачыў, як яны робяць сваю справу. Ці прыбраў бы іх. Я даўно прыбраў бы яго”.

“Прыбраць яго? Маеце на ўвазе, што адправілі б яго ў тую вандроўку раней за прызначаны час?”

“Так, калі вам падабаецца ўжываць стары бессэнсоўны выраз. Адправіў бы яго праз тунэль акурат у вялікую Кучу Сьмецьця, вось пра што я”.

“Вы лічыце, што мастацтва ня вартае нічога, ні захаваньня, ні ўдасканаленьня, ні карыстаньня ім?”

“Канечне, ад мастацтва ёсьць карысьць, – адказаў Томпкінс. – Але няма карысьці ад ягонага мастацтва. Існуе шмат магчымасьцяў для сьмелых маладых людзей, якія не баяцца новых ідэяў і новых мэтадаў. Але не для гэтай старызны. Асабістыя мары-фантазіі. Ён нават ня здолеў зрабіць плякат, каб ўратаваць уласнае жыцьцё. Вазіўся зь лісьцікамі і кветачкамі. Аднойчы я спытаў у яго, чаму. Ён адказаў, што яны здаюцца яму *прыгожымі!* Вы можаце ў гэта паверыць? Ён сказаў *прыгожымі*! Што, расьлінныя органы для харчаваньня і размнажэньня? Так я сказаў яму, а ён нічога ня змог адказаць. Дурніла!”

“Дурніла, – уздыхнуў Аткінс. – Так, бедны маленькі чалавек, ён нічога не давёў да канца. Хіба што ягонае палатно выкарысталі зь іншымі мэтамі, калі ён сышоў. Але я ня ўпэўнены ў гэтым, Томпкінс. Памятаеце, тую вялікую карціну, якой залаталі дах суседняга дома пасьля ўрагана і паводкі? Я знайшоў кавалачак яе, ён ляжаў у полі. Малюнак быў пашкоджаны, але на ім можна было ўбачыць вяршыню гары і россып лісьцяў. Я не магу выкінуць гэта з галавы”.

“З чаго ня можаш выкінуць?” – спытаў Томпкінс.

“Вы пра каго гаворыце?” – запытаўся Пэркінс і тым самым дапамог пазьбегнуць непрыемнасьцяў: Аткінс моцна пачырванеў.

“Ён не заслужыў, каб ягонае імя паўтаралі, – сказаў Томпкінс. – Я ўвогуле не разумею, навошта гаварыць пра яго. Ён не жыве ў горадзе”.

“Не, – запярэчыў Аткінс. – Але вы хацелі ягоны дом, усё адно. Вось чаму вы хадзілі туды, пілі ягоную гарбату і сьмяяліся зь яго. Цяпер у вас ёсьць ягоны дом і яшчэ адзін у горадзе, што вам зь ягонага імя. Мы гаворым пра Нігля, калі табе цікава, Пэркінс”.

“А, бедны маленькі Нігль! – сказаў Пэркінс. – Нават ня ведаў, што ён маляваў”.

Пэўна, тое быў апошні раз, калі ў размове ўзгадалі імя Нігля. Хаця Аткінс захаваў той кавалачак карціны. Большая частка яго раскрышылася, але адзін прыгожы ліст застаўся некранутым. Аткінс зрабіў для яго рамку. Потым ён пакінуў лісьцік Гарадзкому Музэю, дзе доўгі час “Ліст Нігля” вісеў у аддаленым кутку, мала хто яго заўважаў. Аднойчы Музэй быў спалены, і ліст і Нігль былі канчаткова забытыя ў той старой краіне.

“А гэта насамрэч карысна, – сказаў Другі Голас. – Як вакацыі і каб асьвяжыцца. Гэта прыемнае аздараўленьне, і ня толькі. Для многіх гэта будзе найлепшым знаёмствам з Гарамі. Тут адбываюцца цуды. Я адпраўляю ўсё больш людзей сюды. І мала каму трэба вяртацца”.

“Так, так, – сказаў Першы Голас. – Але я думаю, што варта даць імя гэтай мясцовасьці. Вашыя прапановы?”

“Дзяжурны ўжо зрабіў гэта ня так даўно, – сказаў Другі Голас. – *Цягнік для Ніглевага Пэрыша на плятформе*! – ён так цяпер крычыць. Ніглеў Пэрыш. Я даслаў ім абодвум паведамленьне, каб распавесьці пра гэта”.

“І што яны?”

“Абодва засьмяяліся. Засьмяяліся – Горы адгукнуліся ім!”

***Пераклала з ангельскае мовы Натальля Рудак.***
***Паводле выданьня John Ronald Reuel Tolkien “Leaf by Niggle” (1964),***
***http://www.ae-lib.org.ua/texts-c/tolkien__leaf_by_niggle__en.htm*** 




**ШЛЯХАМ НА САТЫЁ**

– Да Сатыё падвязеце, калі Вам будзе зручна?

– Сядай, – ён махае рукой, перакідвае на заднюю сядушку зялёную куртку.

Яна асцярожна прыкрывае дзверы, кладзе на калені джынсавы заплечнік, шырока ўсміхаецца белымі зубкамі і працягвае руку для поціску.

– Хелена, – пшанічная пасма валасоў рассыпаецца па выразна акрэсленым падбародку. Белыя гетры, клецістая спадніца.

Доўга яе шукаў.

– Віктар, – ён паціскае яе гнуткую далонь, усміхаецца ў адказ і цісне на гашэтку. Здараецца, цэлы тыдзень круцішся каля з'езду на трасу, шукаеш, але дарэмна: усе парамі ці ўтрох, едуць стопам на выходныя дахаты. А мне патрэбен адмысловы тып, такая, як яна. Лёгкая, светлая, нязмушаная, чарлідар з выдатнай паспяховасцю.

Дарога танчыць гарачым асфальтам, цягнецца стужкай за гарызонт.

Хелена папраўляе заплечнік. Заўважыўшы погляд на сваіх ножках, абцягвае ніжэй спадніцу. Ножкі – гэта перш за ўсё! Скура празрыстая, з блакітнымі прытокамі вен.

– Дахаты едзеш? - запытваецца Віктар.

– Да бацькоў у Сатыё, - нязмушана адказвае Хелена і высоўвае руку ў акно. Вецер раздзімае валасы, здаецца, яны напаўняюць ўсю прастору. Хелена гуляе далонню, імітуе скачкі дэльфіна.

– А ў Сатыё табе што трэба?

– Там мама працуе.

– Вось яно што, – Віктор абцірае лоб, цёмныя завіткі валасоў змакрэлі, па патыліцы да клецістага каўнерыка з фланэлі сцякае кропля поту. – А то там няма жылых будынкаў. – Ён усміхаецца, мімаходам чапляе Хелену позіркамі.

– У даследчую асацыяцыю псіхіятраў, – прыбраўшы валасы вольнай рукой, Хелена крыху спаўзае з сядушкі і прыхінаецца скронню да дзвярэй. Побач, а пасля ў люстэрку задняга выгляду, – станцыя па вытворчасці кухарскай солі. Аднатонныя краявіды ды соннае запаўдзённае сонца.

Віктор дастае пакамячаную цыгарэту, жэстам запытваецца дазволу запаліць, – Хелена ўхваляе кіўком. Трохі памарудзіўшы, расшпільвае заплечнік, дастае касметычку з намаляванымі на ёй героямі коміксаў. Дым вырываецца ў адкрытае акно, Віктор заціскае цыгарэту паміж пальцаў, кладзе далонь на руль.

– Будзеш? – Хелена працягвае ладна згорнуты касяк.

– Нее, – махае цыгарэтай Віктор, – горача, вады няма, можа крыху пазней.

– Дай запальнічку. – Хелена паказвае тонкім пальчыкам на панэль, пасля глыбока зацягваецца. Дым забіваецца ў поры адзежы, зліваецца з вільготнымі кроплямі парфумы “Масакі”. Дапаліўшы да сярэдзіны, працягваеа касяк Віктору.

“Больш зачароўвае нават не яна сама, а сінэргія яе мяккага напору, віхлістая дарога і нібы трохгадзінная атмасфера прыбярэжнй вандроўкі”, – думае Віктор.

– Ды кінь ты, заедзем па дарозе ў кафэ, – Віктор усміхаецца, расшпільвае верхні гузік клецістай кашулі. На срэбным ланцужку боўтаецца сталёвы кулончык. Хуценька адчапляе яго. Заўважыўшы цікаўнасць на твары Хелены, нагінаецца і адчыняе сховак, дасте невялікае сколатае люстэрка. – Трохі кокі, сеньярыта?!

– Ух-хуў! – Праз секунду надзьмутасць Хелены выбухае добразычлівасцю і ветлівасцю, дзяўчына тупае нагамі і круціць галавой.

– Горача ж, кажу, – дырыжуе Віктор, склаўшы разам ўказальны і вялікі палец, – толькі кокі, ну ці касяк з кокі, гэта выдатна ахалодзіць у гэтую спёку.

Хелена раздушвае два невялікія шарыкі, збірае кулончык у трубачку. Удыхае. Працягвае Віктору. Машыну падкідвае на выбоіне, Віктор упіраецца ў руль каленам. Удыхае. Твар маментальна дранцвее, прыемны холад расчэсвае валасы да самай патыліцы, нібы пальцы выбітнага цырульніка. Зацягваецца касяком з рук Хелены.

У выходныя Віктор прачынаецца рана, апранае свежую бялізну, заўсёды чыстую клецістую кашулю, джынсы, расчэсвае кучары, нацягвае кепку і сядае за руль. Ён называе сябе шопліфтэрам, ці лайфліфтэрам, як калі.

Дом застаўся ў спадчыну ад бацькі, некалі ўдалага, а зараз мёртвага фермера. Пабудаваны да 20-х, не прызнае эканоміі і ўвесь час патрабуе сродкі на сваё класічнае апакаванне. Але Віктору пляваць, начуе ён у ім зрэдку, жыве пераважна на заднім двары ў майстэрні, дзе вырабляе на замову валізкі для музычных інструмэнтаў. Трохі грошай з арандатараў зямлі, трохі з валізак, максімум дзве замовы ў тыдзень. На рэчывы, выпіўку і пару бакаў бензіну. І нават бухі сусед – стары кансерватар, які з раніцы да вечара сядзіць на ганку з дубальтоўкай ля ног – не напружвае.

– Гэй! Не заліпай, Віктор! Ты ўжо дзве кавярні прапусціў, – бліскае вачыма Хелена, прыпадняўшы сонечныя акуляры. Віктор збочвае да запраўкі, паркуецца побач з кафэ. Жалюзі напаўспушчаны, на ўсю працуе тэлевізар. Некалькі мужыкоў – уздутае пуза, паверх кашуля – расплываюцца па барнай стойцы. Спакуслівы прагарклы подых ільсняных твараў. Яны сядаюць ля акна насупраць адзін аднаго. Афіцыянтка прыносіць заварнік кавы і два кавалкі шакаладнага пірага.

– Яшчэ? – цікавіцца Віктор, перабіраючы ў пальцах пакуначак.

– Мг, – Хелена ўсміхаецца. Яе крэмавыя вусны сціскаюцца, Хелена перажоўвае пірог, аблізвае пальцы. Раздушыўшы вялізны камяк на стале паміж талеркамі, кожны робіць па ўдыху. Зверху кава.

– Выдатна! – шэпча Хелена, шморгаючы носам!

– Выдатны чарлідар, – паціраючы рукі, шыпіць Віктор.

Два глыткі кавы, дробязь за пірог і гарачы напой. Дзве колы з сабой.

– Нам, пэўна, трэба ісці? – абапёршыся на спінку канапы, Хелена выплывае з-за століка. Яна скрыжвае каленкі, яе правая нага блытае левую. Непаслухмяныя дзверы збіваюць раўнавагу.

Вочы мярцвеюць, павекі склейваюцца, і чорная прастора з пульсуючымі зорамі змяняе карціну свету. Ізаляцыя без гарызонту. Мы ўдыхаем музыку Балівіі. Я замініраваны. Адзін неасцярожны крок, падкос нагі, шалёны камень пад ступню, – і ўсё падарвецца, рассыплецца квяцістымі шарамі сонца.

– Ды мы ў дупу абдаўбліся, – няздатна ўсміхаецца Хелена. – Мне трэба ў прыбіральню, хачу пісаць, я хуценька.

Віктор абапіраецца аб капот. Адчыняе заднія дзверы, намацвае пад сядушкай паляроід.

– Сёння я, мабыць, лайфліфтэр: узяў – вярнуў, – крэкча, завальваецца на бок, мармыча Віктор.

– Скраў, вярнуў. Дакладней, скраў – сфатаграфаваў – аддаў, дакладней, скраў – сфатаграфаваў – сцапалі! Спакушаны спакуснік. Трэба ж!

Хелена спрабуе адчыніць дзверы ў салон аўтамабіля, узбуджаная чырвань пульсуе на яе шчоках павуціннем капіляраў, пальцы падламваюцца ад тугой ручкі.

– Пачакай я зараз зраблю здымак. – Выбліск шчыпле вочы, асляпляе, – і яшчэ раз.

Хелена адкідвае галаву назад, абапіраецца аб капот, усміхаецца, потым цягне Віктора за рукаў, і ля самай мочкі распаляецца:

– Трахнеш мяне? Наўпрост, вось тут.

Віктор папраўляе кепку, зашчыплівае непадатлівы гузік кашулі:

– Ды я ж рыба, калі толькі пальцам, – смяецца Віктор.

– А я б цябе трахнула, прама ў гэты зад, – Хелена падцягвае да сябе Віктора за пятліцу джынс, – у гэтую тваю дупу, вялікім, велізарным дылда! Яе пах вышмараваў сухую глытку.

– Трэба было спыніцца на адным шарыку кокі, сеньярыта!

Віктор аблізвае яе шыю. Адчыняе дзверы і сядае за руль. Хелена валіцца побач і ўключае радыё. Какетліва выпускае дым свежазгорнутага касяка ў твар Віктора, крыўляецца, разглядае сябе на фатаздымках.

– Ты заўсёды ездзіш адна? – пытаецца Віктор, павольна ўздымаючы спадніцу Хелены.

– Не, – адказвае, – толькі выпадкова з кімсці. Палюю, – смяецца выгінае спіну і прыціскае мацней яго далонь да сябе. Віктор уздрыгвае ад здзіўлення.

– І на каго палюеш?

– Ды так, – знарочыста сур'ёзна, – на ўсялякіх Віктораў.

Яны паварочваюць з трасы на ўказальніку – "Сатыё – тры кіламетры". Сонца паварочвае ў процілеглы бок і хутка коціцца за гарызонт.

– Можа, падвезці дахаты?

З-за гары падаецца закутаная рабіцай тэрыторыя асацыяцыі са шматлікімі карпусамі. Галоўны будынак з дзясяткамі паверхаў угару, акружаны паркам і мудрагеліста-абстрактнымі скульптурамі. За асацыяцыяй у некалькіх кіламетрах пачынаецца навуковае мястэчка, так яго звала Хелена. Яе бацькі пераехалі, пасля таго як атрымалі тут працу.

– Спыні на ўездзе. – Хелена бярэ заплечнік і зачыняе дзверы. Потым напалову пралазіць ў акно і кладзе на панэль здымак з нумарам свайго тэлефона.

– Гэй, – клікае яе Віктор, – ці ўбачымся мы яшчэ, бо ты магла б і не даехаць, але сёння я іншы! Бяру і вяртаю!

Хелена азіраецца:

– Ты таксама мог бы не даехаць, бо я не вяртаю!

***

У Віктора была дзяўчына Мары. Жыла каля года ў пакоі яго маці. Перыядычна знікала і зноў з'яўлялася. Віктор моцна хваляваўся, нават праца не спыняла карагод думак. Калі Мары адсутнічала больш двух дзён, то Віктор выпраўляўся ў рандэву па прылеглых барах.




– Такіх аншлягаў нават у нас на прэм'ерах не бывае! – уражана канстатуе пасьля спэктаклю дзяўчына, раскладаючы банкноты па наміналах. – І адкуль у гэтай Індыі столькі гледачоў?

– Як гэта адкуль? – хлопец лянотна сёрбае піва. – А “Камасутра” ім нашто?

Наступным днём староста суседняе вёскі прапануе вагантам выступіць у іх. Там паўтараецца тое ж самае, толькі цяпер акторы разнастаяць спэктакль з рознымі дэталькамі ў сада-мазахічнай стылістыцы. У руках хлопца невядома адкуль зьяўляецца пуга-сяміхвостка, рыхтык як у парнафільмах БДСМ; не стае толькі латэкса, пірсінгаў і ўніформы! А дзяўчына перад сцэнічнае сьмерцю прымае позу славянскай цнатлівіцы напярэдадні фашысцкага згвалтаваньня і ўзьнёсла чытае “Верш пра камсамольскі білет”, прытым паглядае на старасту вёскі, які пасквапіўся даць грошы, бы геройскі юнак на ворага-жандара.

На трэці дзень акторы становяцца пераборлівымі: маўляў, манга з папаяй больш не бярэм, грошы нясіце! Патрабуюць асабісты транспарт з кіроўцам, унітаз у трысняговы гатэль і абавязкова – боя з апахалам.

На чацьверты валацужныя акторы ўжо ня згадваюць пра духоўныя практыкі, па якія адмыслова прыехалі ў Індыю, а вывучаюць мапу штата Махараштра: дбайна пракладаюць гастрольны тур, цынічна рахуюць, колькі яшчэ грошай можна злупіць з даверлівых і наіўных індусаў. Спакваля абрастаюць сцэнічным рыштункам: самапальнымі стройчыкамі з падраных цэляфанавых пакетаў і бамбукавымі муляжамі пісталетаў…

А праз тыдзень пра іх здымае сюжэт мясцовая тэлевізія. Журналіст з павагай пытаецца – адкуль вы, маўляў, індыйскі эпас так добра ведаеце? Ды які там эпас, зьдзіўляецца хлопец, гэта ж фінальная частка п'есы “Зіна Партнова”, мы яе ў ЦЮГу ставілі! Была такая піянэрка-гераіня… хіба ня чулі, як гестапа яе закатавала і свастыку на лобе выпаліла!

Індыйскі журналіст уражаны сьціпласьцю белых. Якія людзі! Як яны добра ведаюць клясычны індыйскі сюжэт “Рамаяны”! Як пераканаўча данесьлі да гледача сцэну, дзе ўладар дэманаў Равана прапануе прыўкраснай каралеўне Сіце багацьце і ўладу, малючы на яе лобе сакральны сымболь свастыкі!



По хуткім часе стомленая трупа, нагадаваная індыйскім вясковым харчам і разбэшчаная шалёным посьпехам, нарэшце прыбывае ў Мумбай. Шукаць зьніклыя чамаданы з сакральнымі тэкстамі не сьпяшаюцца. Засяляюцца ў гатэль, замаўляюць у нумар лобстэраў пад сухое віно. Паглядаюць з гаўбца на панараму начнога горада і прасьветлена пасьміхаюцца адзін адному. Віза заканчваецца, днямі ў Менск, а так ня хочацца зьяжджаць з чароўнай краіны, спрэс населенай такімі ўдзячнымі, а галоўнае – шчодрымі тэатраламі! Але ж усяму рана ці позна надыходзіць край, у тым ліку і ўсходнім казкам.

Зрэшты, казка толькі пачынаецца…

У дзьверы далікатна грукаюць. На парозе – гэткі сярэднявечны раджа ў сучасным індыйскім фармаце: элегантны стройчык ад Valentino, міліянерская цыгара ў зубах, дыямантавыя пярсьцёнкі на пальцах. Я, маўляў, прадусар адной з тутэйшых кінакампаній, бачыў пра вас сюжэт у тэленавінах, надта мне спадабаліся ваш адметны твар і экспрэсіўная манера выкананьня, хочам прапанаваць вам, малады чалавек, прайсьці кастынг. Што значыцца, дзе? У Балівудзе!

Так актор зь менскага Тэатру юнага гледача стаў ці не самым запатрабаваным выканаўцам роляў другога пляну на індыйскай фабрыцы мрой. Аказваецца, удзел белых у тамтэйшых кінастужках надзвычай падвышае іх рэйтынгі. Індусу надта прыемна глядзець на эўрапейца ў ролі лёкая ці падмятальшчыка, бо гэта дае псыхалягічны рэванш за доўгі каляніяльны прыгнёт. Вядома, Балівуд – не Галівуд, але нават за адзін дзень наш хлопец намайстрачыўся зарабляць значна больш, чым яму штомесяц плацілі ў менскім Тэатры юнага гледача.

А вось дзяўчыне кантракт не прапанавалі з прычыны яе хударлявасьці, бо індусы любяць пераважна вялікіх і тлустых жанчын з мажнымі цыцкамі і магутнымі сьцёгнамі. У выніку акторка пакрыўдзілася і на прадусара, і на актора, і на Індыю і вярнулася на радзіму, дзе, па чутках, цяпер спэцыялізуецца на ролях Сьнягуркі і практыкуе тантрычны сэкс.

І ўсё гэта натуральным чынам наводзіць на думкі пра неспасьцігальнасьць чалавечых лёсаў і непрадказальнасьць тэатральных рэінкарнацый.




## МЯСНИК

Меня зовут Карл. Странное имя, правда? Какое-то устаревшее, что ли. Да ладно, имя – это не самое важное. Важно то, что я мясник, и вот это, по-моему, на самом деле необычно. Какой нормальный человек станет работать мясником? Все мои бывшие одноклассники, встретив меня случайно в городе, делают вид, что рады мне, и вечно спрашивают что-нибудь о мясе, как будто поговорить больше не о чем. Хотя, может быть, на самом деле не о чем. Вообще, мне, наверное, не стоит говорить всем, что я мясник – люди, услышав это, воспринимают меня как ненормального, хотя многие из них съедают на завтрак яичницу с сочным беконом, который вышел из-под моей руки. Мясник в представлении общества – полный парень с неприступным лицом, толстыми детскими пальцами и вообще замкнутый, закрытый. Мне же кажется, что я не такой, хотя бы потому, что я тощий и низкий, как прыщавый подросток, брюки иногда даже в детском отделе покупаю. Нормальную одежду мне найти нелегко. Но вот насчет замкнутости и закрытости – я с вами полностью согласен. Наверное, это все-таки профессиональное: когда работаешь с трупами, не важно, люди это или животные, то и поговорить-то особо не с кем. К тому же, как я уже говорил, люди воспринимают меня как психа, и мне тяжело с ними общаться.

Я говорил, что я вегетарианец? Нет? Так вот, я никогда не ел мяса – родители мои вроде как хипповали в молодости и от мяса отказались, это тогда модно было. А когда я родился, то они и меня мясом не кормили – не будут же они мне в рот венские сосиски совать, когда сами против них активно выступают.

Как так получилось, что я стал мясником? Не знаю, может, просто дело в том, что я к мясу отношусь, как любой нормальный человек к дереву или металлу – для меня это не еда и не живое существо, это материал. Я просто хладнокровно режу мясо, так же, как столяр хладнокровно режет доски.

Мне 24. За всю свою жизнь у меня была только одна девушка, звали ее Мария. Она была немного старше меня, и познакомились мы, естественно, в мясной лавке, где я работаю. Она тогда только поступила в университет, съехала от родителей и стала снимать квартиру в Бексли, пригороде Лондона. На первом этаже ее дома находилось мое рабочее место.

Она приходила два-три раза в неделю и всегда покупала одно и то же – два стейка из говядины. Я ее сразу заметил – она была стройная, но не такая тощая, как я, и немного выше меня. Наверное, это меня в ней и привлекло.

Я полюбил ее сразу же. Мы еще не были знакомы, но в те дни, когда она должна была прийти, с говядиной я работал намного тщательней, чем обычно. В те дни мои стейки были лучшими в городе, в этом я абсолютно уверен.

Познакомилась она со мной сама – я был слишком нерешителен и замкнут. В тот же вечер я пил чай у нее дома. Утром, пока я спал, она поджарила два стейка, которые купила в моей лавке, разбудила нежным поцелуем и позвала на кухню. Еще не совсем проснувшись, я принялся объяснять ей, что я вегетарианец несмотря на то, что работаю мясником. В то утро она меня и полюбила. Наверное, я все-таки необычный.

Мы были вместе почти два года, я все время проводил у нее – благо, идти далеко не надо было – всего три этажа вверх по лестнице. Она жарила себе стейки, а я готовил себе хумус, и мы вместе смотрели телевизор или играли в скрабл. Из дома мы почти не выходили, нам хорошо было вдвоем, в обществе мы оба терялись и вели себя неестественно, даже друг с другом.

В университете у нее было несколько подруг, которые иногда заходили к нам в гости. Они сидели с Марией на кухне и обсуждали профессоров и то, что не понимают, зачем они вообще в этом университете учатся. Я же сидел в спальне и читал, пока они, наконец, не уходили, как всегда опаздывая на последнее метро. Сначала Мария пыталась влить меня в их компанию, но я понимал, что мешаю им, поэтому потом, когда они приходили, я даже не выходил поздороваться – просто сидел, пытался читать и ждал, когда Мария отправит их, наконец, домой и придет ко мне.

Был ноябрь. Однажды вечером я пришел после работы домой, и Мария в слезах сообщила мне, что переспала с одногруппником с курса философии, пока я навещал родителей в Саутгемптоне на выходных. Я ей ответить ничего не смог – понимал, что все равно люблю ее и не смогу с ней расстаться, к тому же я встречал бы ее постоянно, она ведь регулярно покупала стейки в моей лавке. Мария что-то говорила, долго и в ожидании наказания, а я не мог даже оскорбить ее или обвинить в чем-то. Она плакала и просила прощения, я же молчал и почему-то думал о чем-то совершенно постороннем, а именно о единственном школьном друге, которого убили какие-то кретины типа скинхедов. У нас тогда по всей школе траур был, и учителя не могли вести уроки, потому что ни им, ни нам было не до этого.

Мария без сил пошла в душ. Я встал с кровати, вышел из квартиры и спустился на три этажа вниз, в свою лавку. Открыл стеклянную дверь, включил свет и прошел за прилавок. Там, в отдельной шуфляде, лежали мои инструменты – разделочные ножи, молотки для отбивания мяса… Я взял свой любимый нож – среднего размера, с частыми зубцами. Затем достал лист бумаги и написал на нем, что в связи с отпуском магазин будет на неделю закрыт.

Поднимаясь в квартиру, я зачем-то держал нож за пазухой, хотя в подъезде никого не было – все давно спали.

Я зарезал ее в душе, разделал и положил части тела в ванну с холодной водой. В первый день я съел почти всю ее левую руку, на следующий – голень. За неделю я съел все – осталась только голова и несъедобные мелочи, о которых промолчу. Кости и все, что не смог съесть, я сложил в голубой пакет для мусора и просто выбросил в контейнер во дворе.

Пожалуйста, не рассказывайте моим родителям обо всем этом – они меня убьют, если узнают, что я ел мясо.






## ПАМІЖ НАМІ

*Брытанскія нататкі небрытанскай студэнткі*

**13/10/2011**
**“Ўэлкам ту Юнайтэд Кіндам!”**

Тры – гэта мінімальная колькасьць чакана-нечаканых падзеяў, якія здараюцца са мной штодзень, пачынаючы з 30-га верасьня, калі я, разам зь сяброўкай Аленай і дзьвюма валізамі, прызямлілася ў аэрапорце “Хітраў”.

– Ўэлкам ту Юнайтэд Кіндам! Зь якой мэтай прыбылі? Оў! Навучацца пісьменству ва ўнівэрсытэце Варвіка? А што, Вы ня ўмееце пісаць? – бліснуў дасьціпнасьцю працаўнік пашпартнага кантролю. Нягледзячы на тое, што мне ўжо абрыд гэны жарт, я хіхікнула – бо цягам апошніх тысячагодзьдзяў з жартаў працаўнікоў пашпартнага кантролю прынята сьмяяцца.

Ночыць мы зьбіраліся ў маёй грэцкай сяброўкі Джоаны, якая жыла на паўднёвай ускраіне Лёндана – у Саттане. Дабіраліся туды з аэрапота гадзіны дзьве. Сышоўшы з аўтобуса ў цемру, Алена скептычна аглядала Лёнданскія прыгарадныя сутоньні, насьцярожана прыслухоўвалася да віскату дзікіх лісаў і няўхвальна пазірала на мясцовых тынэйджэраў, якія а першай ночы выпаўзьлі на прамэнад са сваімі(?) скейтамі.

Да дзьвярэй Джоанінага дому мы падыйшлі а 1:14. Празь фіранкі першага паверху прабівалася сьвятло.

– Чакаюць! – задаволена падумала я й пагрукала ў дзьверы.

Цішыня. Я пагрукала грамчэй – няма адказу. Я пагрукала вельмі, ВЕЛЬМІ настойліва. Лена нэрвова пераступіла з нагі на нагу. У глыбіні дома пачуўся шоргат.

– Ура! – з палёгкай падміргнула я Лене і расплылася ў шырачэзнай усьмешцы, гатовая кінуцца ў гарачыя грэцкія абдымкі.

Дзьверы адчыніліся. На парозе стаяў цёмны-цёмны негр гадоў шасьцідзесяці. Насуперак клясычнаму сцэнару, ён не трымаў у руках стрэльбу. Вельмі ветліва (як для чалавека, якога патурбавалі а 1:14 ночы) ён запытаўся: “Чым я магу Вам дапамагчы?” Задушыўшы ў сабе жаданьне сказаць “Пакарміце нас!”, я інтэлігентна мовіла: “Ай бэг ё пардан, мы, верагодна, памыліліся домам!”

Ну канешне! Як я магла пераблытаць? Джоанін дом наступны!

Мы наблізіліся да суседняга дому. Ні на першым, ні на другім паверсе сьвятло не гарэла. Я зглытнула. Лена адчайна захуталася ў шалік.

Я пагрукала. І другі раз. І трэці… А потым безупынку пачала калаціць у дзьверы, стогнучы ў шчыліну для пошты на дзьвярах: “Джоана, Джоаааанаааа!..”

У доме нічога не зварухнулася. Лена глыбока ўздыхнула і працягнула мне свой мабільны. Пасьля доўгіх, дооооўгіх гудкоў пачулася заспанае “Алё?”

– Джоана, Джоаначка, адчыні нам, калі ласка! Мы прыехалі! – экстатычна закрычэла я ў слухаўку.

– Цудоўна, зараз!.. А дзе вы?

– Ды стаім ужо на тваім ганку!

– Эээ… Мой ганак пусты!

– Ды вось жа мы, пад тваімі вокнамі. Я грукаю ў тваe дзьверы!

– Ня ведаю, у чые дзьверы вы грукаецеся, аж на маім ганку нікога няма! Дар'я, ты ўвогуле дзе?

– Стаю ля твайго прыўкраснага дома, у якім я ня раз частавалася запечанай куркай!

– Дар'я, я ўжо два гады як пераехала!

Як карысна часам праўдзжваць адрэсу сяброў, у якіх зьбіраешся ночыць. Балазе, сям'я Джоаны перасялілася ў дом паблізу, у тым жа раёне. Яе муж падабраў нас на машыне ля аўтобуснага прыпынка.

Лежучы на Джоанінай канапе, я думала, што гэта цудоўны пачатак Англіі-2011/2012. І я не памылялася.

**17/10/2011**
**Лёндан дачакаўся, а сок – не**

“Пакуль цудоўна-сіні кастрычнік, пакуль такая дзіўная справа, што няма дажджу, і пакуль ёсьць юнацкі запал – трэ' ехаць!” – вырашылі мы зь Ленкай і выправіліся ў пятніцу ўвечары ў Лёндан. Даехаўшы з нашага ўнівэрскага кампуса да суседняга горада Ковэнтры, мы горда й упэўнена ўвайшлі ў будынак вакзалу, зь якога мусіў адпраўляцца аўтобус на Лёндан. Білетная каса сустрэла нас зачыненымі дзьвярыма і вясёлым падміргваньнем.

– Скажыце, калі ласачка, – упала я ў ногі палісмэнам, якія прагульваліся па станцыі, – а квіточкі, квіточачкі дзе я магу набыць?

– Гоў онлайн… – пачаў адзін з палісмэнаў. Пры гэтых словах мне захацелася ўчапіцца яму ў лытку. Але я хутка перадумала. Бо ўцяміла, што гэты палісмэн у жоўтай камізэльцы падвышанай бачнасьці наўрад ці вінаваты ў тым нана-тэхналягічным хаосе, што апошнім часам творыцца ў Англіі. Ён зусім не вінаваты ў тым, што каб далучыцца да студэнцкага тэатра, каб атрымаць картку зьніжак у супэрмаркеце “Тэско”, каб хадзіць у басэйн пры ўнівэрсітэце, каб трапіць на праслухоўваньне ў Варвіцкі хор, каб зацьвердзіць абраныя табой унівэрсытэцкія прадметы і каб набыць сабе аўтобусны квіток, трэ' зарэгістравацца анляйн. З пачатку майго навучаньня ў Варвіцкім унівэрсытэце, то бок на працягу двух апошніх тыдняў, я чула фразу “Гоў онлайн”

мінімум 354 разы. Ад людзей (асабліва ў галіне абслугоўваючага пэрсаналу) пазбаўляюцца, як ад непатрэбнага элемэнту. А я люблю жывых людзей як клясу. І пагаварыць. Таму калі каардынатарка майго курса кажа мне пры сустрэчы: "Давайце сьпішамся па электроннай пошце і вызначымся з часам для нашай пасьлязаўтрашняй сустрэчы…", я заміраю ў зьдзіўленьні. Аднак у яшчэ большае зьдзіўленьне ўпадае каардынатарка, калі я кажу: "А ці можам мы дамовіцца цяпер – мы ж ужо сустрэліся?" Пасьля дваццаці сэкундаў рэфлексіі, каардынатарка вырашае: "І праўда. То давайце пасьлязаўтра а трынаццатай?.."

Аднак тое, што я люблю жывых людзей, Англію не цікавіць. Таму я дзякую спадару палісмэну ды іду ў Інтэрнэт-кафэ, дзе мы зь Ленкай "гоў онлайн", абіраем маршрут, запаўняем формы, чакаем, пакуль квіткі прыйдуць мне на электронную пошту, я іх выдрукоўваю і…

***

У Лёндане нас сустрэў Олівэр – францускі сябар Лены. Ну, ці дакладней сказаць, мы сустрэлі яго, бо, прыехаўшы, чакалі хвілінаў дзесяць ("Мы чакаем насупраць дзясятай плятформы! Дакладна дзясятай! Тут апроч нас амаль нікога больш няма! Нас немагчыма не заўважыць! Так, дзясятая… Не, НЕ!! НЕ ЧЫГУНАЧНАЙ СТАНЦЫІ "ВІКТОРЫЯ"! НА АЎТОБУСНАЙ!" – тлумачыла Алена слухаўцы).

Нам пашчасьціла трапіць на апошняе мэтро лініі "Пікадылі", і а другой мы пераступілі парог дома Олівэра. Ён прыкладна год працуе ў Лёндане мастаком-дызайнэрам. Верагодна, менавіта ягонае бурлівае творчае жыцьцё замінала яму на працягу ўсяго гэтага году прыбіраць у хаце. Жабаедзік дастаў два апошнія чыстыя кубкі з кухоннай шафкі і, пакуль закіпаў імбрык, правёў для нас невялічкую экскурсію па сваіх апартамэнтах, расчышчаючы вузенькія сьцежачкі ў гарах, горачках і ўзгорках векавога пылу. "Галоўнае, запомніце: пасьля таго як будзеце спускаць ваду ў туалеце, паўтарайце наступны магічны рытуал!" – сказаў Аліўе і, дэманстратыўна спусьціўшы ваду і дачакаўшыся, пакуль бачок зноўку напоўніцца да сярэдзіны, узяў з палічкі расчоску ды элегантна націснуў на нейкую плястыкавую штуку ўнутры бачка." Інакш вада будзе цячы безупынку," – патлумачаў ён.

Пасьля расьпіцьця гарбаты ветлівасьці, мы распаўзьліся ўладкоўвацца спаць. У гасьцявым пакойчыку нас зь Ленкай чакаў надзіманы гумовы матрац.

– Мы ў Ольлі ня першыя!? – зь ціхім жахам у голасе прашаптала Алена, падымаючы з падушкі даўгі каштанавы волас.

– Хутчэй за ўсё, нават не другія, – рэзюмавала я, абцярушваючы з прасьціны нейкае… я-ня-стала-прыглядацца-што.

– Але чаму, чаму б не зьмяніць бялізну для новых гасьцей?! – заламала рукі Алена і пабегла ў душ, наіўна думаючы, што ванная чысьцейшая за ўсе астатнія пакоі ў доме.

Як толькі ў ваннай палілася вада, з шафкі на сьцяне ў гасьцявым пакойчыку пачулася радаснае вуркатаньне. Апынулася, што там замаскаваны бойлер. Ну што ж – ласкава вітаем вас у нашай маленькай кацельнай!

Калі Алена павярнулася, я ўжо ляжала на нашым цудоўным гасьцявым матрацы, спрабуючы знайсьці правільны балянс, каб адтуль не зваліцца. Матрац дробна трымцеў, нібы жэле. Алена, раскладаючы свае рэчы, раптам запытала:

– Гэта твая расчоска на тумбачцы?

– Так.

У паветры павісла напружаная цішыня.

– Лена, дай-ка я агучу твае думкі: "Як яна магла пакласьці сваю расчоску на гэтую агідную пыльную тумбачку?" Так, Алена. Паклала. Акурат у пыл. Але ты не хвалюйся, лепей выключай сьвятло (так не відаць, колькі людзей да нас спала на гэтых навалках) ды кладзіся на наш матрац-жэле. Проста ўяві, што ты ў Спарце.

Сяброўка паслухмяна забралася пад коўдру, мы яшчэ нейкі час падрыжэлі матрацам-жэле, сьмеючыся і прыладжваючыся (давялося падсьцілаць пад сябе плед, бо нашыя дупы, адчуваючы праз прасьціну холад ад матрацу, пачуваліся нібы ў гумовым сапажку). А потым нечакана заснулі.

І прачнуліся ўжо ў субоце. Выпіўшы кавы з круасанам на рагу вуліцы, дзе жыве Олівэр, паляцелі ў сэрца Лёндана – па месцах турыстычнай поп-славы. Нам пашэньціла з надвор'ем: сонца бессаромна зьзяла, неба сінела, дзеці зарываліся ў сухое лісьце, а сабакі пасьміхаліся. Мы пачалі з плошчы Пікадылі, спусьціліся да Рыджэнтс-парку, прайшлі скрозь яго сьцежкаю прынцэсы Дыяны. Збочылі на нейкую невядомую вулку і ўрэшце выйшлі па ёй да Ўэстмінстэрскага Абацтва.

Ня трапілі ў Парлямэнт на экскурсію, бо Аленіну картку чатыры разы не прынялі ў касе і сяброўка падумала, што гэта лёс і ня трэба ёй маіх грошай і ня хоча яна ўжо ні ў які Парлямэнт. Тады мы рушылі далей, сфоткаліся ў абдымку зь Біг Бэнам і па беразе Тэмзы дабраліся да Энбанкмэнта, дзе кінулі свае целы ў малым італійскім рэстаранчыку і “адкушалі” смачнага – печанай сёмгі ды рызота з грыбамі. Потым мы ўдыхнулі паболей кіслароду (пасьля візытаў у італійскія рэстаранчыкі кісларод жыцьцёва неабходны) і сьмела выправіліся на параходны круіз па Тэмзе. Капітан, ён жа гід, шчыраваў брытанскім гумарам: ”Зараз мы будзем праязджаць пад мастом. Калі вы ўбачыце, што вам нехта махае з маста, – гэта добрая прыкмета… бо гэта значыць, што ў гэтага чалавека занятыя рукі і ён ня можа нічым у вас кінуць… Паглядзіце налева – вы ўбачыце галэрэю сучаснага мастацтва Тэйт Модэрн. Уваход у галерэю вольны, што даволі яскрава характарызуе якасьць карцінаў, якія ў ёй выстаўляюцца…”

Пасьля круізу мы зь Ленай выправіліся на шопінгавую Оксфард-стрыт, каб нічога там не набыць. Мы былі адзінымі людзьмі, хто, выйшаўшы з крамы “Праймарк”, не трымаў у руках ніводнага пакету. А потым мы сустрэліся з Олівэрам. Ён, канечне, спачатку згубіўся, зблытаўшы нумар дому і пайшоўшы ня ў той бок…

Затое дома нас чакаў новы надзіманы матрац–апгрэйдэд: высокі, амаль двухпавярховы. Які не зьдзьмуваўся (першы матрац фактычна ператварыўся ў блін пад раніцу). Бялізна, што праўда, засталася старая, аднак ідэал – гэта так нудна, ці ня праўда? Олівэр і так стараўся: бегаў набываў матрац, надзімаў яго... Я ажно пранікласся нейкай цеплынёй да жабаедзіка. Ну нарадзіўся чалавек французам, з кім не бывае? Проста крыху не пашэньціла.

***

Нядзельнай раніцай мы разьвіталіся з Олівэрам, падарылі яму беларускія журавіны ў цукры (не сказаўшы яму, што гэта, і даручыўшы здагадацца) і зноўку выправіліся ў цэнтар. На Пікадылі. Яна была апанаваная а-ля шатляндзкімі хлопцамі-валыншчыкамі. Мне было вельмі халодна глядзець на іх голыя ногі ў гольфах. На Пікадылі мы зь Ленкай удалі зь сябе дасьведчаных турыстаў і сфоткаліся з Эрасам і ў чырвонай тэлефоннай будцы, зь якой вельмі, вельмі сьмярдзела ўрынай. Але на фотках мы будзем усьміхацца.

А потым мы нават пахадзілі па сувэнірных крамах. У адной зь іх я прымерыла баечку. У працэсе прымеркі да мяне падбег прадавец-індус і затараторыў: “Бай іт, бай іт!” – “Але я ў ёй выглядаю, нібы цяжарная”. – “Оў, ну то набудзьце яе на будучыню!.. Вы, дарэчы, адкуль?” – “Зь Беларусі”. – “Мммм, Беларууусь!... Жонка майго брата з Масквы!” – “Але Масква – гэта ў Расеі”. – “Я ведаю, я ведаю… Я неяк сказаў свайму брату: “У цябе такая прывабная жонка!” А ён мне: “Паязджай ва Ўсходнюю Эўропу, там усе такія. Знойдзеш сабе жонку!” – мовіў прадавец і з надзеяй паглядзеў на мяне. Я зьняла байку, пажадала індускаму джэнтэльмэну ўдалага паляваньня на славянскіх жанчынаў і выйшла з крамы ў вір турыстаў.

Напрыканцы мы зь Ленай завіталі на паўгадзінкі ў Нацыянальнаю Галерэю. Я стаяла перад “Парасонамі” Рэнуара і думала, што ўсё-ткі харошыя людзі гэтыя імпрэсіяністы, ведаюць яны смак жыцьця. Імпрэсіяністаў мы заелі грыбным супчыкам у адной з кавярняў на Трафальгарскай плошчы і пешкі выправіліся да аўтавакзала.

На “Вікторыі” мы ўскочылі ў свой аўтобус і – “гудбай, май лав, гудбай!” Гледзячы праз вакно на лёнданаўскую эмульсію жоўта-хрусткай лістоты, адкормленых вавёрак і нечаканых цэркваў сямнаццатага стагодзьзя, Лена задумліва мовіла: “Мне здаецца, гэта горад, якога шмат не бывае”. – “Не, не бывае”, – пагадзілася я.

…А тым часам у халадзільніку інтэрнату Варвіцкага ўнівэрсітэту, не вытрымаўшы журботнай самоты, скіс апэльсінавы сок. Шкада хлопца.

**18/10/2011**
**Не саломка, малакафілы і тайванская салідарнасьць**

Сёньня мне раптоўна захацелася смажанай бульбы. Смажанай саломкай. Тонкай, элеганцкай саломкай – і ніяк інакш. І абавязкова салату з памідораў, анягож.

Я склала шопінг-ліст і выправілася ў краму па прадукты. Мой кошык паступова напоўніўся даверху: пакет бульбы, пакунак памідораў, пакунак зялёнай салаты, алей; малако, ёгурты, хлеб, джэм, рыс, яблыкі… Я ўжо ледзь цягалася пад гэткім цяжарам. Аднак без чакалядачкі з гарэхамі я сысьці ніяк не магла. Таму, пакінуўшы кошык на падыходзе да касаў, каб не насіць сюды-туды цяжкое, я пабегла ў кандытарскі аддзел. Выбрала там асабліва сымпатычную чакалядку й вярнулася да касаў. Падняўшы з падлогі кошык, я ў чарговы раз адзначыла пра сябе, што чакаляд – крыніца непаўторнай магіі: кошык пачуваўся лягчэйшым, чым быў дагэтуль.

Ужо выкладаючы прадукты на стужку ля касы, я зразумела, дзе хавалася магія: нехта папросту стырыў з майго кошыку малако ды ёгурты. Варвікшырскія малакафілы, халера. Мне давялося скакаць праз увесь супэрмаркет, каб зноўку ўсё гэта ўзяць. Аднак хутка я ўжо была дома і рыхтавала на нашай інтэрнацкай кухні плятформу для сваёй кулінарнай фэерыі.

…Толькі абабраўшы бульбу, я ўсьвядоміла, што малакафілы апынуліся яшчэ і зелянінафіламі: памідорчыкаў з салаткаю і сьлед прастыў. У краме я гэтага не заўважыла.

– Ёпт! – ціха, але з душой мовіла я.

– Што-што? – ветліва перапытала тайванка Тыянь-Чы, якая завіхалася ля пліты, варачы ў малым рондалі нешта загадкавае.

Я ёй распавяла трагічную гісторыю пра малаказелянінафілаў. Тыянь-Чы, нядоўга думаючы, залезла ў халадзільнік і дастала адтуль дзьве свае апошнія памідорыны: “Трымай, Дар'я!” Я ледзь не прасьлязілася ад такой тайванскай салідарнасьці.

Я прынялася наразаць бульбу. Тыянь-Чы, бачачы, як я спрабую ажыцьцявіць гэты працэс на талерцы, далікатна працягнула мне сваю дошку. Але нават на добрай дошцы мой нож, які я радасна набыла за адзін фунт, тварыў… нядобрае. Дакладней кажучы, ён якраз не тварыў нічога. Але ў нас і на бязьдзейнасьць артыкул маецца, так што віна нажа відавочная ў любым разе.

Пасьля некалькіх маіх красамоўных “Ёпт!” Тыянь-Чы асьцярожна перадала мне свой вялікі нож. Смажачы бульбу, я пераварочвала яе лапатачкай Тыянь-Чы – чаго ўжо там. Сама Тыянь-Чы стаяла побач і зь непрыхаванай цікавасьцю назірала за працэсам. Па ейных словах, у Кітаі бульбу ядуць дужа рэдка. “Цю, а ў нас бульба – што ваш рыс!” – горда мовіла я, пяшчотна пераварочваючы розных памераў паралелепіпэды, трапецыі і пірамідкі на патэльні. (Так, на жаль, нават вялікі нож Тыянь-Чы ня справіўся з наразаньнем ангельскай бульбы саломкай… Як ня справіліся і два іншыя нажы, якія я знайшла ў кухні. Хоць, помніцца, мой дзед нешта казаў пра “рукі з …”. Карацей, не выключаю, што гэта нейкім чынам зьвязана з антысаломкай.)

Я ела паралелепіпэдную, месцамі падгарэлую бульбу, зажоўвала яе памідорчыкамі, запівала сокам і частавала Тыянь-Чы. У працэсе да нас далучыліся два нашых індускіх суседа па паверсе – Вікас і Тайтус. Учацьвярох мы цудоўна пасьмяяліся на дэсэрт.

Зрэшты, усё склалася не саломкай, а пірамідкамі... І можа, менавіта ў гэтым – неўміручая прыўкраснасьць быцьця.

**25/10/2011**
**Мятныя чакалядачкі**

Сёньня Тыянь-Чы ладзіла мне лікбез па колерах. Яна распавяла, што на Ўсходзе белы – гэта колер жалобы, жоўты – колер уладароў, а чырвоны – сьвяточна-карнавальны колер. За гэта я накарміла яе мятненькімі чакалядачкамі ды сьлівамі. І сказала, што ў нас белае апранаюць нявесты (а іронія-такі ёсьць) і што мой тата ненавідзіць чырвоны за ягоную камуністычнасьць. А пра жоўты нічога не сказала, толькі крыху напела “Жолтые цюльпаны! – ооооо! – весьнікі разлукі...”

І яшчэ з наяўных у мяне засталося шэсьцьдзесят сем пэнсаў. На крэдытцы – каля васьмі фунтаў. Калі мне пералічаць стыпэндыю – невядома. Некаторыя думаюць, што чым галаднейшы літаратар, тым адчайнейшыя і прыўкрасьнейшыя ягоныя творы. Праверым, анягож.

**25/10/2011**
**Яна насьмяшыла канцартмайстара**

Я набыла ўчора ў краме востры кухонны нож (цяпер я кажу "Не!" згвалтаваным пальцам!). Прадавачка на касе, пабачыўшы нож, ласкава папрасіла мой пашпарт: "Разумееце, мы абавязаныя спраўджваць, ці споўніўся 21 год асобам, якія набываюць нажы". Які вытанчаны кампліман для амаль-дваццаці-шасьці-гадовай дзевачкі.

Мне перавялі на картку стыпендыю. Не бываць мне галодным і адчайным літаратарам. Буду сытым і задаволеным. Прынамсі, бліжэйшым часам.

Учора ўвечары ў нашым інтэрнацкім будынку ў чарговы раз спрацавала пажарная сыгналізацыя. Пакуль яна вапела, кітайска-індускія студэнты паслухмяна й апэратыўна згуртаваліся ў дворыку інтэрната, хутаючыся ў свае фланэлевыя піжамкі і варушачы пальчыкамі, якія вытыркаліся са шлёпак; нехта выціраў мокрую галаву ручнікам. Я таксама згуртавалася – але непаслухмяна. Першыя тры хвіліны звону сыгналізацыі я спрабавала праігнараваць увесь кіпіш, не выходзячы з пакою, аднак урэшце зразумела, што трэба абіраць: ці мае вушы – ці гонар нацыі. Я абрала вушы. Праўда, папярэдне апранула зімовую куртку. І ваўняныя шкарпэткі. І зашнуравала боты. І пальчатачкі нацягнула. І капюшон зашпіліла. То бок, крыху рэабілітавала нацыю. Бо беларусы шмат якіх касякоў перажывалі, але каб адмарожваць ж… душу з-за таго, што ў нейкага харошага чалавека выкіпелі макарошкі, – гэта відавочны перабор. Бравыя ўнівэрскія сэк'юрыцi адключылі сыгналізацыю-мацюгальнік хвілінаў празь сем. Увесь гэты час мы тапталіся на двары. Калі я выдыхала, з майго роту йшла пара. Ня ведаю, ці дажылі да сьвітаньня кітайцы ў піжамках.

Яшчэ па чацьвярговых вечарох я сьпяваю ва ўнівэрсытэцкім хоры. У ім чалавек сто, ня меней. Прычым далёка ня ўсе – студэнты. Дужа шмат тутэйшых бабулек-дзядулек з наваколля. Сьпяваем ад душы араторыю Мэндэльсона "Ілія". У сьнежні мае быць канцэрт на шырокую нагу.

Падчас перапынку да мяне падышоў наш харавы дырыжор Пол і зьвярнуўся да мяне: "О, я Вас памятаю! Вы падчас праслухоўваньня насьмяшылі бабулю-канцартмайстара!" (Калі я прыйшла на праслухоўваньне ў хор, у камісіі сядзелі чалавекі чатыры, а за раялем – маленькая бабулька-канцартмайстар. Дык вось, яна запытала, якую партыю я сьпявала ў сваім студэнцкім хоры ў Беларусі. Я адказала, што калі я была маладая й прыгожая, то сьпявала першае сапрана. Бабулька мовіла: "Ох, толькі не кажыце мне, што зараз Вы не маладая і не прыгожая!" – "Ды не, канечне… Гэта я проста спрабую быць іранічнай, як брытанцы", – адказала я. Камісія на чале з бабулькай усьцешана зарагатала. Дарэчы, цудоўная эпітафія атрымалася б: "Яна насьмяшыла канцартмайстара…")

А, і сёньня, ня вытрываўшы сілы піяру, якую выпраменьвалі разьвешаныя па ўсім кампусе плякаты "А ТЫ прышчапіўся ад мэнінгіту?!", я прыйшла на кансультацыю да ўнівэрсытэцкай мэдсястры. Абмеркаваўшы зь ёй надвор'е ("Хммм… Такі дождж". – "Анягож, дождж. Восень". – "Так, восень".), я мовіла: "Я ня ўпэўненая, ці рабілі мне ў Беларусі такую прышчэпку. Што будзе, калі Вы мяне зараз прышчэпіце паўторна? Я памру?" – "Ні-ні, – упэўніла мяне мэдсястра. – А вось калі ня зробіце прышчэпку і раптам захварэеце – хутчэй за ўсё памрэце, так". І шырока, па-добраму ўсьміхнулася. Я закатала рукаў.

А заўтра з ложку я накіруюся наўпрост у басэйн. Віват, добраахвотна аддадзеныя мной пяцьдзясят фунтаў за сяброўства ў Варвіцкім спартовым клюбе! Я іду вас адпрацоўваць!

**31/10/2011**
**Паміж намі**

У Беларусі ўжо валадарыць лістапад. А тутака ён наступіць яшчэ толькі праз сямнаццаць хвілінаў. Паміж намі цяпер тры гадзіны.

Я рыхтуюся да зімы – я шмат сплю. Я прачынаюся а дванаццатай і часам мне нават шэньціць засьпець сонца. Я вяртаюся ў свой пакой з параў-непараў увечары і маю дзьве опцыі: ці сесьці на крэсла, ці легчы на ложак. Бо іншай "сядзельнай" мэблі ў пакоі няма. Не, можна, канечне, пры жаданьні на стол ушчыміцца. Ці ў шафу залезьці. Але пакуль я прытрымліваюся больш-менш традыцыйных стасункаў з мэбляю.















*Натальля Гарачая*

Зазвычай абіраючы ложак, я ўладкоўваюся на ім, раскрываю цікавую кніжку... і засынаю. Прачынаюся а дзявятай вечара, ем чакалядку зь перцам чылі і злуюся на сябе, што зноўку не засну да позьняй пазнаты.

А яшчэ я ўчора зьела цэлы манга. Сама.

**8/11/2011**
**Тысяча мяне-справаў**

Я схадзіла на пробы і атрымала ролю ў спэктаклі "Слабейшы пульс".

Я напісала малую п'есу.

Я схадзіла на пастаноўку "Фаўста", у якой рэжысэр перанёс дзеяньне ў сучаснасьць і ў якой Мэфістофэля грала шалёнай прыгажосьці дзяўчына, якая, апроч апошняй хвіліны спэктакля, ані разу не зьявілася на сцэне, а прамаўляла з двух вялізных экранаў.

Я паўдзельнічала ў майстар-клясе "Адукацыя праз тэатар", разыгрываючы сцэнкі з жыцьця эмігрантаў. Я была ў групе з двума кітайцамі. Адзін зь іх, Джун, граў майго мужа, другі – сына. І вось, нібыта муж эміграваў у пошуках лепшай долі, а мы з сынам заставаліся. Мы з "сынам" мусілі напісаць нашаму "бацьку" на разьвітаньне ліст. Джун дужа сьмяяўся, чытаючы наш ліст, і казаў, што ягоная сапраўдная жонка напісала б тое ж самае – слова ў слова, асабліва пра "Еш, калі ласка, рэгулярна!" Апроч кітайцаў, тайванцаў і мяне, на майстар-клясе была гаваркая амэрыканка і штук шэсьць грачанак, якія пад канец уголас плакалі. "Ох, гэтыя сярэднеземнаморскія народы такія чульлівыя!" – канстатаваў выкладчык.

Сёньня я ўпершыню пакаштавала маракую – кусала яе і так, і гэтак; з маракуі цёк жоўтыжоўты сок.

Нехта, у сваю чаргу, пакаштаваў чызкейк, які я сёньня набыла ў краме: неакуратна распакаваў яго і вельмі акуратна зьеў. Хай жа ж гэтаму харошаму чалавеку ў бліжэйшыя дні сьняцца апакаліптычныя сны. І пякотка яму не зашкодзіць таксама.

Я атрымала паштоўку з бульбяной радзімы ад таго, ад каго найболей за ўсё жадала яе атрымаць.

Я з асалодай слухала, як па-сэрбску лаецца мая сэрбская каляжанка Андрэа, выцяўшы каленку аб кут стала, і як яна ж, палячы на ганку ўнівэрсытэта, задаволена прышчоўквае языком і адпускае камэнтары наконт "маленькай сымпатычнай задніцы" аднаго з будаўнікоў, якія працуюць ля нашага корпуса. Андрэа распавядае мне пра Сэрбію. Кустурыца нічога не прыдумаў – там усё так і ёсьць.

Тыянь-Чы ды Вікас хітрыкамі зазабілі мяне ў кухню і мне давялося піць зь імі мятную гарбату, есьці печыва і сьмяяцца. Яны не да канца вераць у тое, што дрэвы ў інтэрнацкім парку са мной размаўляюць.

Мая суседка па блёку, індуска Кіні, дадала мяне надоечы на Фэйсбуку ў сябры, і цяпер мы, седзячы праз сьценку адна ад адной, перапісваемся анляйн.

...Гэта я ўсё да таго, што апошні тыдзень відавочна задаўся.

**16/11/2011**
**Жанравы месяц**

Мая суседка Кіні крычыць: "Ты заўжды ўсім незадаволеная!! Я таксама маю далёка не ідэальнае жыцьцё, але, нягледзячы на гэта, я пачуваюся шчасьлівай! Бо чалавек сам вырашае, шчасьлівы ён ці не!"

Кіні ў сваім пакоі гутарыць са сваёй маці па скайпе. Я заўжды зьяўляюся віртуальным удзельнікам гэтых размоваў, бо ў Кіні добра пастаўлены звонкі голас. Спачатку я хацела далікатна намякнуць суседцы, што не жадаю настолькі паглыбляцца ў ейнае прыватнае жыцьцё... Але потым вырашыла: я юны пісьменьнік ці дзе?! Буду запісваць.

Нядаўна раскрылася таямніца забойства майго чызкейка. На наступны дзень я напісала "Ліст ананімнаму сябру", у якім, адзначыўшы факт паяданьня майго чызкейку, абвесьціла, што я заўжды радая падзяліцца ежаю з бліжнім, калі бліжні мяне пра гэта просіць... ці хоць

папярэджвае. Напрыканцы я заклікала зьвяртацца да мяне "энітайм". Ліст я павесіла на лядоўню. На наступны дзень да мяне ў пакой пагрукаўся ганіец Чылі, які жыве на нашым паверсе, і сумна сказаў: "Дар'я, я прачытаў твой ліст... Ай эм вэры соры: гэта быў я. Учора, калі я адчыніў лядоўню, чызкейк выпаў з бакавой паліцы, пакунак трэснуў і ён цалкам размазаўся па падлозе – мне давялося яго выкінуць". Ах ты ж халера, вось яно як: "Дык не даставайся ж ты нікому!.."

У суботу мы накіраваліся на ўнівэрсытэцкую паездку ў Кардыф, каторы сталіца Ўэльса. Ягонае насельніцтва – 350 тысячаў чалавек плюс авечкі. Там ёсьць Палац, у які мы не пайшлі, і Нацыянальная мастацкая галерэя, у якую мы пайшлі. У галерэі была карціна Рэнуара "Парыжанка", за што я даравала ўсе свае пакуты беларускім і казахскім сябрам-мастацтвалюбам.

А ўчора мяне накрыла чарговая хваля кулінарнага натхненьня і я запекла бульбу з сырам, якою, апроч сябе, накарміла Алену ды індыйскую сяброўку-аднакурсьніцу Апекшу. Пра відавочны посьпех мерапрыемства сьведчыць той факт, што ўсе мы дагэтуль жывыя і, не пабаюся сказаць, задаволеныя.

Сёньня ў мяне была першая рэпэтыцыя спэктакля "Слабейшы пульс". Усё арганізавана, зладжана, і ніхто не спазьніўся ні на сэкунду. Я люблю брытанцаў.

А ўвогуле, гэты Лістапад выдаўся нейкі жанравы: усе мае калегі-аднакашнічкі ўпалі ў хорар-стайл ды пішуць пра забойствы, зомбі, зданяў, экзарцызм – нават на занятках па дзіцячай літаратуры. Шмат хто дэпрэсуе, пакутуе ад саманерэалізаванасьці, рве на сабе кашулі, плачучы над лёсамі плянэты...

А я зараз пайду і зьем чакалядачку.

**2/12/2011**
**Сьнегу бы**

Дык сьнежань ужо. Харошы такі месяц, але. Я на тыдні здала сваю апошнюю працу і ў мяне ўжо, фактычна, канікулы.

А ў большасьці студэнтаў усё толькі пачынаецца: эсэі, іспыты, праекты. Тыянь-Чы надоечы спаліла свой рондаль – так глыбока прызадумалася над сваёй цяжкой студэнцкай доляю, гатуючы вячэру. Пліта была залітая рэштками былой ежы. Тыянь-Чы стаяла над ёй і ціха сьмяялася.

Заўчора мяне ў калідоры сустрэў Чылі. Ён даволі нармалёва абыходзіўся без кампаніі, размаўляючы сам з сабой. Але, пабачыўшы мяне, запытаўся:

– Калі ў цябе іспыты?

– У мяне няма іспытаў, – кажу.

– Лакі бастард! – пяшчотна мовіў сусед і, зьнікаючы ў сваім пакоі, дадаў: – Прэй фор мі, Дар'я!

Вікас зрэдзьчас прыходзіць са сваёй бізнэс-школы дамоў.

У панядзелак мы рэпэтавалі "Ілію" з аркестрам. Экспрэсіўна атрымліваецца! І нават не бяда, што часам ня ў рытм. Галоўнае брывом эпатажна павесьці ды вус падкруціць, калі што якое. У нядзелю ўжо канцэрт.

Учора я ўпершыню ў гэтым зімна-вінным сэзоне расьпіла глінтвэйну. Тры шклянкі. Лёгка! Мы зь сябрамі-тэатральшчыкамі пасьля рэпэтыцыі закаціліся на прэзэнтацыю студэнцкіх тэатральных праектаў. Было цікава і глінтвэйна.

А яшчэ я дагэтуль не дарэшты змыліла суровае беларускае дзіцячае мыла, якое сябры падарылі мне з сабой у пуць-дарогу, хоць карыстаюся ім штодзень. Добрае такое мыла.

Ну і, канечне, паўсюль валадарыць Каляды: усе больш-менш вольная прасторы кампуса акупаваныя ялінкамі, агеньчыкамі, сьнегавікамі, анёламі ды іншымі ненавязьлівымі намёкамі на сьвята. Калядная радасьць бескампрамісна бярэ за горла.

Але я трымаюся цьвёрда, я кажу ёй: "Радасьць, ты прабач, але я без мандарынак і хурмы не магу. Пачакай яшчэ. Адзінаццаць дзён".

**30/01/2012**
**Студзеньскі вір**

Як толькі я вярнулася зь Белаурсі, з салодка-канікульнага адпачынка, там паваліў сьнег. Мяне там няма, а сьнег ёсьць – бывае нават такое. Верагодна, каб сьцішыць маю скруху па сапраўднай зіме, у Варвікшыры нечакана аб’явіліся халады: рукі ў бокі, з прэтэнзіяй. Мясцовую сажалку зацягнула лёдам: качкі ходзяць па замерзлай вадзе, як маленькія Езусікі, дзівуюць. Часам мацюгаюцца пры няўдалых спробах даць нырца ў лёд. Я сёньня вырашыла падкарміць качкава-лебядзінае брацтва батончыкам – ледзь здолела потым уцячы: за мной бегла, ляцела, клекатала, пішчэла, патрабавала “Даеш яшшшшшшэээ!!” Мімаволі ўзгадаўся стары нядобры Хічкок.

Брытанцы і некаторыя мясцова-ўнівэрсітэцкія нацменшасьці (ці большасьці?), у адрозьненьне ад качак, выгляду, што ім халодна, не падаюць. Не бяда, што ўдзень мінус два градусы: мы будзем хадзіць па вуліцы ў майках, сандаліках на бескалготную нагу і, пажадана, з мокрымі пасьля басэйну валасамі. І, што самае галоўнае, у брытанцаў пры гэтым нават насы не чырванеюць.

У мяне ў гэтым трымэстры два прадметы: воркшоп па доўгай прозе і пераклад. Воркшоп вядзе ангелец Ўіл Іўз (ён жа мой т’ютар) – апублікаваў тры кнігі, піша паэзію і паігрывае ў музычнай групе. Пачынае кожны занятак са словаў: “Оў, усе працы, якія мы сёньня будзем абмяркоўваць, – прыўкрасныя!” І аддае назад цалкам перааробленыя ўрыўкі.

Зь першага занятка па перакладзе я выйшла з думкаю: “Калі я пераажыла адзінаццаць год матэматыкі, я пераажыву і дзесяць заняткаў перакладу!” У маёй групе чатыры чалавекі (што, безумоўна, сьведчыць пра высокую папулярнасьць абранага мною курса). Трое зь іх – кітайскія дзевачкі. Чацьвёртая – я. Першую палову занятку дзевачкі зачытвалі свае пераклады ангельскіх вершаў на кітайскую. Брытанскі прафэсар Джон Гілмар уважліва слухаў, ухвальна хітаў галавою і раз-пораз пытаўся: “Вы адчуваеце розьніцу ў гучаньні розных кітайскіх перакладаў, Дар’я?..” Дар’я нэрвова сьціскала пад партаю рукі. Другую палову занятку Джон душэўна чытаў сярэднявечныя вершы на латыні і свае пераклады гэтых вершаў. У мяне ад нудоты анямелі пальцы ног.

Пасьля занятку дзевачкі распытвалі, адкуль я, такая некітайская, узялася, і дружна лезьлі ў свае кампутары, каб прачытаць пра загадкавую Беларусь. Я пачувалася бульбай сярод маракуяў – экзатычным, адным словам, фрухтам.

У мінулую пятніцу падалі першыя чарнавікі сваіх твораў для анталёгіі нашага курсу, якую плянуем друкаваць. Галасавалі за назву зборніка. Нашую з Апекшай прапанову назваць анталёгію “Lazy Mofos” (aka “Lazy Motherfuckers”) ніхто не падтрымаў. Давялося пагаджацца на душу-не-вярэдзячае “Papercuts”.

Яшчэ ў мяне ў пакоі пасялілася была божая кароўка Сафія. Даўно, яшчэ ў сьнежні. Тулілася сабе на ваконнай шыбе. Я зь ёй віталася шторанку, сьпінку казытала. Сярожа выгугліў, што кароўкі могуць да года жыць, а ўзімку ўпадаюць у сьпячку, бы мядзьведзі. І вось тыдні два таму я прыбіраю пакой, перасоўваю свае боты, а пад імі – о, жах! – труп Сафіі! Я ў журбе, думаю: ад маёй-та любячай нагі загінула, якая жорсткая іронія… Ну, праз ваконца ейныя рэшткі разьвеяла над травічкай. А праз некалькі дзён сяжу за сталом, гляжу: па шыбе паўзе Сафія – жывёханькая, здаравёханькая, ажно блішчыць. Я на радасьцях заабдымала яе. Пэўна, гэта я з вуліцы труп нейкай іншай кароўкі на ботах прынесла… Ну, ці ў маім пакоі жыве сямейны клян – адно з двух.

А ўчора зьезьдзіла з Тыянь-Чы ды чатырма ейнымі аднакурсьніцамі ў Бірмінгэм, паглядзець на вулічнае сьвяткаваньне кітайскага Новага году. З-за натоўпу я такі нічога ня ўбачыла (а там былі традыцыйныя танцы дракона пад барабаны), але затое пакушалі смачна ў кітайскай рэстарацыі. Прагуляліся па горадзе, зазірнулі ў мастацкі музэй. Там якраз была выстава дзесяці эскізаў Леанарда да Вінчы. Мы прастаялі ў чарзе, каб туды трапіць, сорак хвілінаў, прагледзелі ўсе эскізы за чатыры хвіліны і, задаволеныя сабой і Леанарда, сышлі. У шопінг-мол. Прадказальны маршрут. Па прыезьдзе дадому я загугліла танец кітайскага дракона. Нічога так.

І зусім нядаўна я зьела падараванага мне сябрамі хэнд-мэйд чакаляднага мядзьведзіка. Ела і плакала, ела і плакала – шкада было, сымпатычны зьвер быў. Ну, што ж паробіш: цэзару цэзарава, мядзьведзіку – мядзьведзікава…

**13/02/2012**
**Люты люты**

Гудбай, партфоліё! Я здала сёньня свае дзесяць тысячаў і сорак два словы. Трыццаць тры старонкі, трыццаць тры старонкі!..

За папярэдні месяц натхнёнай пісаніны паднакапілася кіляграмаў дваццаць бялізны для праньня. Сёньня я кінулася зь ёй у бой. Ну, дакладней, кінула яе ў пральную машыну, і там унутры разгарнулася вайна з брудам. Вайна працягнулася ў сушылцы. Большая частка вопраткі пасьля гадзіны адчайнай сушкі засталася вільготнай. Таму зараз увесь мой пакой абвешаны-абкладзены-абкручаны адзеньнем рознай ступені макраты. Відовішча даволі пагрозьлівае.

Прыйшоў мэйл ад мамы з пытаньнем ад бабулі: як я зьбіраюся сьвяткаваць Дзень Сьвятога Валянціна і хто мне ўжо даслаў паштоўкі зь віншаваньнямі. "Нет повесьці пічальнее на сьвеце...", чым аповед пра тое, як мы з грузінкамі на мінулым тыдні набылі сабе квіткі на трэшавую пастаноўку "Рамэа і Джульеты" (Рамэа з абсэсіўна-кампульсіўным сіндромам, хіпстэрская Джульета – усё як я люблю...). Пастаноўка мусіла адбыцца чатырнаццатага лютага ў Стрэтфардзе-на-Эване. Аднак на выходных высьветлілася, што трупе адмовілі ў памяшканьні (відаць, палітычна некарэктны спэктакаль быў). Таму нікуды мы заўтра ня едзем. Давядзецца сьвяткаваць Валіка ў лепшых традыцыях: чакаляд, чакаляд, чакаляд. Толькі тады незразумела, чым Дзень Валіка будзе адрозьнівацца ад усіх астатніх маіх дзён у Варвіку.

На маё пытаньне, як яны з бойфрэндам плянуюць сьвяткаваць, аднакурсьніца Джэма паглядзела на мяне па-над акулярамі і асуджальна мовіла:

– Ніяк. Гэта ж будзе аўторак. Хто што сьвяткуе ў АЎТОРАК?!

Я вінавата замоўкла.

Сёньня адпраўляла бабулі, у якой хутка Народзіны, каляндар. Працаўнік пошты падазрона агледзеў вялізную капэрту, патыцкаў у яе пальцам і запытаўся:

– Што там?

– Каляндар.

– Вялікі каляндар... Дакладна калянадр?

– Дакладна каляндар.

– А чаму такі вялікі?

– Такі надрукавалі.

– Хм. Ну, ладна. Так і напішам на цэтліку: "Падарунак".

А ўчора па дворыку нашага інтэрната езьдзіў вагончык з марозівам. Такі, як у фільмах: рознакаляровы, з музыкай. Магістранты з асьпіратнамі радасна высыпалі на двор ды будаваліся ў чаргу па смакату.

Мяне ўсё часьцей пачала наведваць Тыян-Чы. Збольшага, каб зайсьці ў прыбіральню. Ейная суседка Вів'ен (якой мы зь Вікасам далі кодавае імя "Какос", бо жанчына не ўсьміхаецца Ў ПРЫНЦЫПЕ; чаму мы вырашылі, што какосы не ўсьміхаюцца, – ня ведаю, але як ёсьць), дык вось, Вів'ен і ейны бойфрэнд, які практычна ў ейным пакоі прапісаўся, відавочна любяць ванны пакой. Пакуль кожны зь іх прыме душ, мінаюць стагодзьдзі (прынамсі, так сьцьвярджае Тыян-Чы). А стрымліваць простыя чалавечыя патрэбы Тыян-Чы ня любіць, таму часьцяком завітвае да мяне. На мінулых выходных і сяброўку сваю, якая ў яе гасьцявала, да мяне накіравала. Што тут скажаш, апроч "Філ ёрсэлф эт хоўм"?..

Дарэчы, адзін ліст з бульбоўна-марозных гушчароў да мяне ўжо дайшоў, так. Але на ім напісана "Да 14-га – ні-ні!" І я ні-ні. Толькі аблізваюся. Але ўжо заўтра...

**21/02/2012**
**Бяз Кафкі**

Падкраўся чарговы аўторак. Гэтым разам ён безрэпэтыцыйны. Бо ў нядзелю мы адыгралі ў Лемінгтане свой спэктакаль – у тры заходы: а 11.30, а 14.00 і 16.30. З кожным паказам мы ўсё больш раздухараліся. Апошні сэанс атрымаўся экстатычны. Пасьля яго да мяне падышла

блакітнавокая брытанская Мальвіна і дрыжачым голасам мовіла: "Вы былі прыўкрасная! Як Вы здолелі вывучыць увесь гэты тэкст?" Цю! Што не давучыла, то прыдумала па ходзе.

Напрыканцы Джош раздаваў усім акторам былы рэквізыт: фрукты – гранат, ананас і дыня – радасна беглі насустрач сваім новым гаспадарам. Мне Джош урачыста працягнуў какос.

Потым на вырučаныя за квіткі грошы мы наляглі на вінішча ў італійскай рэстарацыі. Заядалі яго сырамі-кальмарамі-рызотамі. А дзясятай выкаціліся прэч і пабрылі па лемінгтанскім "прашпэкце" да прыпынку, каб ехаць назад на кампус. І вось ідзем мы, я абарочваюся, бачу патрэбны нам аўтобус... І з крыкам "Нумар дванааааацццаааааааааць!!" стартую да прыпынку. За мной падхопліваюцца астатнія, але па дарозе слабейшыя з магіканаў рассыпаюцца і аўтобус урэшце даганяем толькі я ды наш трубач, Мэт.

Першыя хвіліны чатыры "на борце" мы спрабуем узнавіць у сабе запас кісларoду, а потым заводзім сьвецкую размову. Высьветлілася, што Мэт на першым курсе, вывучае генэтыку – ну, спрабуе вывучаць паміж канцэртамі. Дазнаўшыся, што я вучуся ў магістратуры, ён падазрона мовіў: "Дык, атрымліваецца, табе ўжо пад дваццаць чатыры?!" – "Мне дваццаць шэсьць", – кажу. На што Мэт, паляпаўшы мяне па плячы, цалкам шчыра адказаў: "It's ok, don't worry!"

Затое ў мяне цяперака ёсьць какос. Дрылі ў мяне, праўда, няма, так што будзе ён ляжаць на маёй паліцы, нагадваючы пра сьветлыя тэатральныя часы... "і гніць знутры" (Сярожа). Хоць, можа, я яго-такі расчляню аб сьцяну ці дзьверы пакоя таленавітага гітарыста, які жыве нада мной і па выходных грае адну і тую ж песьню па адзінаццаць разоў запар.

Тата на мінулым тыдні быў у Стразбургу. Гасьціў у нашых сяброў – француажанкі Тацяны ды брытанца Джэрэмі. Тацяна распавяла бацьку, што надоечы іх шасьцігадовы сын раптам запытаўся ў яе: "Як гэта бывае, калі два дзядзі жэняцца паміж сабой?" Тацяна, якая працуе ў Радзе Эўропы і нясе сьветлае ды вечнае, праматуючы суцэльную памяркоўнасьць ды талеранцыю, глыбока, па яе словах, задумалася і ўрэшце размыта адказала, што ў некаторых краінах гэта ёсьць, а ў некаторых забаронена... "Але ў яго ёсьць дзяўчына, яны разам вучацца!" – напрыканцы запэўніла Тацяна майго бацьку.

...А ў панядзелак зьнік дрот ад нашага электрычнага імбрыка ў кухні. Імбрык застаўся, а дрот зьнік. Столькі новых цудоўна-абсурдных сюжэтаў для Кафкі, а ён, небарака, памёр.

**26/02/2012**
**Пацеркі**

Удзень пахне квеценьню, сонца прыпякае (асабліва калі замерці і прыляпіцца да якой лавы) і ва ўсяго жывога абвастраецца пачуцьцё прыўкраснага. Часам гэтае пачуцьцё абвастраецца настолькі, што засьціць жывому розум: сёньня я зрабілася сьведкам таго, як селязень гвалціць іншага селезьня. Пераблытаў, відаць, у парыве жарсьці. Згвалтаваны потым доўга ныраў і чысьціў свае пёркі – верагодна, не падзяліў запалу свайго нечаканага каханка.

Уначы паветра зьвініць і з роту валіць пара. Надоечы я ўпершыню ў жыцьці ўбачыла месяц, павернуты абодвума канцамі дагары, – нібы рожкі.

На сьцяне майго пакоя красуецца сьвежая ўвагнутасьць. Какос, па-ранейшаму цэлы, фамільярна раскінуўся на паліцы ды час ад часу іранічна паводзіць брывом.

У чацьвер рэпэтавалі "Рэквіем" Вэрдзі з аркестрам. Я ўжо казала, што італійская музыка найпрыгажэйшая ў сьвеце, так? Па сканчэньні рэпетыцыі, калі я ўжо апранулася і сабралася сыходзіць, мяне паклікала жанчына-харыстка, побач зь якой я сядзела: "Выбачайце, гэта ня Вы згубілі значак?" І працягнула мне прывезены з Парыжу Ленкай "I love safe sex!" "Мой, дзякуй!" – піскнула я, забрала значак і, зьзяючы пунсовым, пасьпяшалася да выхаду. "Мы вельмі за Вас радыя!" – крыкнула наўздагон кабета і памахала мне з дзьвюма іншымі спадарынямі бальзакаўскага ўзросту.

У суботу зьезьдзілі з грузінскімі сяброўкамі ў Бас – горад, у якім захавалася шмат будынкаў ад рымскіх часоў. Бас трапіў, сам таго ня хочучы, у сьпіс маіх улюбёных гарадоў: ён няроўны, з даўжэзнымі ланцугамі дамоў, сонечны і нейкі хітраваты. Мы дасьледавалі мясцовае абацтва (адзінаццатае стагодзьзе стаіць сабе сярод горада, нібыта так і трэба!); схадзілі ў музэй рымскіх купальняў (там гарачыя крыніцы дагэтуль бурбуляць). Яшчэ наведалі Музэй

моды (я б ні за што два музэі ў адзін дзень не паклала на сваю нэрвовую сыстэму, але была зьніжка, калі набываць адразу два квіткі). Вырваўшыся з музэйных кіпцюроў, мы пабрылі ў Royal Victoria Park. Ангельцы ды інтурысты абляпілі паркавыя рэльефы, кідаліся футбольнымі мячамі, бегалі босымі ножкамі па зімовай зямлі за фрысбі... Малодшая Ніно торгала за рукаў Ніно старэйшую і шаптала: "Сфатаграфуй жывых брытанцаў, калі ласка!"

Так і зьбягаюць дні: басэйн, панядзелкавая йога, на якую мяне завабіла Ніно, качкі, кніжкі, чакалядныя мафіны, пранізьлівае неба, чакана-нечаканыя паштоўкі, зь якіх высыпаюцца пацеркі любові, непакорлівы какос і паслухмяныя шампіньёны (напхала ў іх сёньня феты зь пятрушкаю, запекла – і з рысам іх, з рысам!).

На носе сядзіць вясна, боўтае ножкамі і есьць марозіва.

**6/03/2012**
**Драма і не**

Усе вакол жэняцца і ражаюць, жэняцца і ражаюць... Спыніцеся! Я не пасьпяваю на ўсе вясельлі!

А пакуль усе спыняліся, я набыла ў краме пакунак клубніцаў. Сярэдні памер кожнай – з мой кулак. Яны ня пахнуць і ня маюць смаку. Загадкавыя.

А какос мой адышоў у лепшы сьвет. Я надоечы знайшла ў ім расколіну. Калі раскалупала болей, какос унутры апынуўся пяшчотна-зялёнага колеру і малако было ўжо газаванае.

Нядаўна лівануў моцны дождж. На двор высыпала некалькі кітайцаў у піжамках і экстатычна пачалі скакаць пад дажджом. Увогуле, у Кітаі, пэўна, туга з натуральна-прыроднымі радасьцямі. Калі ў студзені выпаў сьнег, чалавек восем кітайцаў поўзала па замерзлай сажалцы. То бок, літаральна, на пузе. Я так разумею, у іх адбывалася гульня "Хто далей прапаўзе і не праваліцца пад лёд". Іншая купка кітайцаў гулялася ў сьнежкі: шэсьць хлопцаў абстрэльвалі сьнежкамі адну дзяўчынку. Кітайцы былі апранутыя ў спартовыя штонікі, кофты і жоўтыя гумовыя пальчаткі – пэўна, каб не прамоклі ручкі.

Мая суседка па-ранейшаму гадзінамі размаўляе па тэлефоне і скайпе. Заўчора да мяне даляцела ейнае суворае "It's YOUR mistake that you like me!"

У нядзелю мы адсьпявалі "Рэквіем" Вэрдзі. На ранішняй рэпэтыцыі перад канцэртам недаспаныя скрыпачкі ранялі смыкі, харыстка побач са мной вязала шалік, у барабаншчыка на вялікім барабане ляжаў разгорнуты часопіс "Newsweek", клярнэтыст пытаўся, ці ёсьць у каго лішняя пара чорных ботаў сорак другога памеру, а я чытала кніжку канадзкіх кароткіх аповедаў. Канцэрт адыгралі ліха!

Надоечы маёй сяброўцы Юлі прысьнілася, нібы я зьнялася ў порна.

Я была ўлешчаная.

Віншавала нядаўна баўгарскага сябра Мішу, зь якім мы ў часіны шалёнага лёнданскага юнацтва глушылі ў працоўны час грапу за стойкай бара ды тэрарызавалі боса ўсходнеэўрапэйскім чорным гумарам. Напісала яму, маўляў, Хэппі Бёздэй, як справы, як сям'я пажывае? На што ён адказаў, што ўсё нармалёва, сям'я квітнее, дачка расьце. Заключнай фразай яго была: "Thanks god my daughter doesn't know you!" Калі прыгадаць Юлін сон, магчыма, Міша мае рацыю.

Бацькі, як заўжды, радуюць прыўкраснымі гісторыямі. Мама нядаўна напісала: "Сёньня йшла з крамы і чую за сабой ціхую гаворку па-беларуску.

Жаночы голас: "Дык як яго прозьвішча?"

Хлопчык адказвае не адразу: "Багушэвіч".

Жанчына: "А якую ён кніжку напісаў?"

Маўчаньне.

Жанчына: "Успамінай!"

Хлопчык: "Дудка..."

Жанчына: "Правільна, "Дудка беларуская". А што ён нам запавёў?"

Хлопчык: "Каб мову сваю шанавалі".

Нашыя сьцяжынкі разыходзіліся за домам быта. Жанчына і хлопчык, які ўцягнуў галаву ў плечы, пайшлі да школы. Я – дахаты. І яшчэ пасьпела пачуць:

Жанчына: "А якая наша мова беларуская?"
Хлопчык вельмі ціха нешта адказаў – я не пачула.
Жанчына: "Правільна, дзяржаўная"".

Яшчэ я надоечы набыла сабе драматычную чырвоную памаду. А раптам што.

**13/03/2012**
**Жоўтыя нарцысы**

Жоўтыя нарцысы паўсюль: абступаюць кампус, падбіраюцца да ходнікаў, уважліва сочаць за людзямі, падазраюць – нешта задумалі. Ці мо' гэта проста непазьбежная вясна. Хоць так, зь першага погляду, і ня скажаш: сонца эксгібіцыянуе нячаста, а ўначы дык увогуле рука цягнецца па капюшон.

У пятніцу я зьезьдзіла ў Лемінгтан на канцэрт: выконвалі мэсу Брукнэра № 2 ды сэрэнаду Моцатра № 10. Канцэрт задаўся. Мяне, у прыватнасьці, асабліва парадаваў клярнэтыст, на нагах якога зьзялі align рознакаляровыя шкарпэткі: вырві-вока-чырвоная на правай і глыбока сіняя – на левай назе.

Пасьля канцэрту я наведалася ў госьці да сваёй сэрбскай аднакурсьніцы Андрэі. Яна, як заўжды, сыпала гісторыямі а-ля Кустурыца. Адначасова даючы свайму хлопцу, харвату Міколе, інструкцыі, як правільна адкаркаваць віно, мыючы сьлівы, палячы і спрабуючы ўсунуць мне ў кішэню грошы за цыгарэты, якія я набыла па яе просьбе, Андрэа тараторыла: "...І вось прыязджджаю я на выходных дадому, у Лёндан, а бацька сядзіць у гасьцёўні са стрэльбай і цэліць у адчыненае вакно. Я яму: "Тата, ты што?!" А ён мне: "Ціха, я спрабую падстрэліць суседзкіх катоў!" Я яму: "Тата, мы ў Англіі, тут так ня робяць!" А ён: "Чхаў я на іхныя правілы, суседзкія кашакі-сволачы дзяруць нашага ката! Я ім бошкі паадстрэльваю!" Але не пацэліў урэшце... А яшчэ тата злаваў, што я кінула свайго сэрбскага хлопца і пачала сустракацца з харватам – ён абяцае і яго падстрэліць. Я хвалююся, бо Мікола ж большы за ката, тата можа і пацэліць... О, а мінулым панядзелкам я моцна напілася на працы і сказала босу, што ён гаўно... Не, мяне ня звольнілі – ім складана знайсьці працаўнікоў, бо гэта самы адстойны бар у Лемінгтане... Чаму я п'ю на працы? А ў нас усе п'юць... А бос нюхае какаін... І ў прыбіральні ў нас – нелегальныя CCTV-камэры, і пры жаданьні можна дзівіцца на чужыя пісюны хоць цэлы дзень... У нас тры бармэны: адзін дужа сымпатычны, другі – так сабе, а трэці – альбанец... Ды не, я не расістка, але Альбанія экспартавала ў сьвет толькі дзьве харошыя рэчы: маці Тэрэзу і какаін. Ну, што я ўсё пра сябе? Як ты?.."

– А што, маці Тэрэза – албанка? – здолела праз гарачыя сьлёзы сьмеху выдыхнуць я.

У суботу мая аднакурсьніца Джэма запрасіла да сябе ў госьці ўсіх сваіх аднагрупнікаў на movie-night. Нечакана прыйшлі абсалютна ўсе. Джэма паўтарала: "Калі вы пральеце на крэмавы кілім маіх бацькоў сідр ці піва – гэта нічога, бо яны празрыстыя... Але вось ты, Лора, п'еш чырвонае віно – і я цябе апрыёры падазраю!" Джэме дапамагаў падтрымліваць парадак кот Арчы. Ён гэтакага ж крэмавага колера, як і кілім, мо' таму, з пачуцьця салідарнасьці, Арчы хваляваўся за ягоны лёс.

Калі мы, дарэчы, з аднакурсьнікамі Сэмам і Крысам, толькі ехалі да Джэмы, з нашага аўтобуса на чарговым прыпынку высыпала пяць адзінаццаці-дванаццацігадовых хлопцаў. Ужо на вуліцы, яны пачалі нешта крычэць ды махаць рукамі. Я памахала аднаму хлопцу ў адказ. Ён паказаў мне "фак". "Як карысна часам паглядзець у вочы жывога чытача, для якога мы пішам свае гісторыі, праўда?" – зьвярнулася я да Сэма, зь якім мы ў мінулым трымэстры разам праходзілі прадмет "Дзіцячая літаратура". Сэм хіхікнуў.

...А кілім Джэмы, між іншым, перажыў нашу сустрэчу. Сідр і піва ня лічацца, бо яны ж празрыстыя.

Мой аднакурсьнік, Німа, пасьля чарговага занятку запытаўся:

– Дар'я, ты ж зь Беларусі?

– Так, – кажу.

– Я тут надоечы прачытаў кароткі аповед Кэвіна Барры, у якім ён апісвае жыцьцё

ірляндзкага нэа-рабаўладальніка. Дык вось, у рабаўладальніка ўся прыслуга – беларусы, якія па начох ладзяць сэксуальныя оргіі. Мне цікава, што аўтара натхніла на гэтую ідэю. Што, так шмат беларусаў эмігруюць у Ірляндыю?

– Ды не, здаецца.

– Значыць, і пра оргіі няпраўда?.. – крыху расчаравана мовіў Німа.

Дарагі Кэвін Барры, дзякуй табе за элеганцкую прамоцыю маёй краіны!

А на днях я зайшла ў кавярню "Curiositea", замовіла сабе капучына на вынас. Зазвычай у "Curiositea" шмат народу і трэба доўга чакаць на сваю замову. Аднак гэтым разам мне пашчасьціла: была нядзеля і наведвальнікаў амаль не было. "Цудоўна! – падумала я. – Хутка спраўлюся!" Але ж дзяўчына-бармэнка нешта доўга поркалася з маёй замовай: сюды-туды хадзіла, малако марудна разагравала, потым цэлую хвіліну залівала яго ў кубак, выграбала лыжачкай пенку... Я ўсё болей раздражнялася, нецярпліва прытопвала нагой, цокала пазногцямі па прылаўку, няўхвальна паводзіла брывом.

Падаючы мне, урэшце, капучына, дзяўчына ўсьміхнулася і мовіла: "Enjoy your day!"

На пене была намаляваная пыса мядзьведзіка. Ён таксама ўсьміхаўся.

**18/05/2012**
**Вясновая матрыца**

Калі я зьязджала зь Менску на пачатку красавіка, там яшчэ падаў сьнег. Я прыехала ў партугальскі Авэйра ў сярэдзіне красавіка – там было +14 і беспрабудны дождж. Цяпер ва ўсім сьвеце +20 (ну, у сярэднім так), каштаны, сарафанчыкі і вафлі. Тут, у Варвіку – стабільныя +13. У чэрвені плянуецца пацяпленьне да +16. Мая гардэробная матрыца ў Англіі круглы год уключае ў сябе зімовую куртку і пальчаткі.

Затое ў нас зьявіліся дзеці! Варвіцкая сажалка цягам апошняга месяцу літаральна ператварылася ў дзіцячую пляцоўку: гусі вывелі гусянятаў, качкі – качанятаў, чорныя-птушкі-з-жоўтымі-нагамі-ня-ведаю-як-называюцца – сваіх... ня-ведаю-як-называюцца. Цяпер трэба насіць удвая больш хлеба. Але ж дзеці – кветкі жыцьця.

Зь іншых радасьцяў – тэатры, кіно, вечары ўкраінскіх страваў, няўдалыя спробы напіцца зь Ніно гарлачом кактэйля "Woo-woo", цікаўныя назіраньні за суседкай-Какосам, якая завяла сабе ў гэтым трымэстры другога бойфрэнда і бадзёра чаргуе яго зь першым (мне цікава, у яе вісіць расклад на сьцяне?), заняткі аццкай жабаедзкай мовай і ружовае віно ў пеннай ваньне (не ў самой ваньне... ну, вы зразумелі канцэпцыю).

І я дапісала партфолiё, да. Мушу ў панядзелак здаць чарговыя 10 тышш словаў па прадмеце "Дзіцячая літаратура". Зь мяне пёрла столькі гісторыяў, што я пераваліла, таго не заўважыўшы, праз максімальны ліміт словаў. Аж рукапісы, як вядома....

Карацей, жыцьцё адчайна імкнецца ў лета. То бок, у +16. І гэта невымоўна добра.

**30/05/2012**
**Жопарль**

Па мне патапталася гусь – на чаравіку застаўся сьлед гусінае лапы. Яна патрабавала ў мяне хлеба (і відовішчаў) і яе не абыходзіла, што на двары +27 і аб'ядацца ў такое надвор'е ня варта.

Так, Англію тыдзень таму апанавала сьпёка. Панядзелкавым вечарам я прахажвалася ў сваёй зімовай куртцы, а на наступны дзень цокала па сьцежках сандалікамі і расьпівала мятна-марозіўны кактэль. Вакол на ўсіх травічна-кветкавых паверхнях былі раскіданыя целы людзей і качак.

Трэба адзначыць, што піла я ня толькі мятныя кактэлі. Калі апоўдні ў пятніцу я стаяла ў чарзе ў кавярні па каву, мне ў бок раптам нешта ўторкнулася. Нечым апынуўся Джош (рэжысэр нашага зімовага спэкту). Да яго прыхіналіся Лоўрэнс і Алан (калегі-акторы). На плячы Джоша вісела вялікая торба, у якой зьвінела.

– Штопар дайце, калі ласка! – зьвярнуўся Джош да дзяўчынкі за прылаўкам. Тая паслухалася і праз 14 сэкунд у маёй руцэ апынулася адкаркаваная пляшка "Кароны".

– Ты ж ведаеш, што кава і піва цудоўна спалучаюцца? – запытаў Джош і крыху нахіліўся ўлева; разам зь ім нахіліліся Лоўрэнс і Алан.

А потым мы разам рушылі на "open-air" спектакаль "As You Like It" па Шэкспіры. Мае тэатральныя калегі адужалі толькі першую дзею. У антракце, разыграўшы сцэнку спаленьня Лоўрэнса на вогнішчы, троіца зьнікла ў накірунку леса.

Павярнуўшыся ўвечары з "пост-шэкспіраўскага" басэйну, я прачытала смс ад Джоша: "Прыходзь жа ў сквер, мы тут!" На месцы мяне сустрэлі "тыя ж" і іх сябар Джэймс. Лоўрэнс кульгаў на забінтаваную нагу (вайсковая траўма, якую ён, па ягоных словах, атрымаў падчас бойкі з драконам у мясцовай сажалцы); Джош стаяў без штаноў, абгорнуты ў ручнік з выявай амэрыканскага сьцяга (штаны, мяркую, пацярпелі ў той жа бойцы). У бяздоннай торбе сяброў па-ранейшаму зьвінела.

Хлопцы ў якасьці дывэртысмэнту падрыхтавалі для мяне паказ "Караля Льва" ў сваім выкананьні – зь песьнямі, танцамі і эмацыйнымі ўсьплёскамі сідру. Потым яны пайшлі па рэпэртуары "The Queen" і "Beatles". То бок, пайшлі літаральна – нагамі. Недзе паміж восьмай "Хэй, Джжжуд!" і трэцяй "Багемскай рапсодыяй" я здолела ўцячы.

Проста брытанцы здалі летнюю сэсію.

У мяне ж наступны дэдлайн – напрыканцы чэрвеня, здаю працу па перакладзе. З такой лінгвістычнай нагоды я ўзяла ў бібліятэцы кнігу на гішпанскай "Як вада з чакалядам" мэксіканскае аўтаркі Лаўры Эсківэль. Сёньня яе дачытаю і выдыхну. А то ў мяне такое адчуваньне, што я аб'елася бразільскага сэрыялу. "Ён убачыў яе плячо і закахаўся… Але ажаніўся зь яе сястрой, бо маці-тыраніха не дазваляла малодшай дачцэ схадзіць замуж… Потым маці памерла, але яе здань перасьледвала дзеўку… Але праз 22 гады закаханыя ўзьядналіся – фээрыя! Чытач, сатры з аблічча соплі радасьці!" Неяк у мяне, карацей, не задалося з лацінаамэрыканскай літаратурай, яшчэ з Маркэса.

І я па-ранейшаму клацаю французскую. Узяла два падручнікі. Адзін напісаны брытанскімі аўтарамі. У разьдзеле "Pronunciation" – тлумачэньне: "All French words sound different from English ones even when they look the same." Па-мойму, вычарпальна.

А спраўдзіць, як мне далася фрэнч пранансэйшн, я змагу ўжо ў пятніцу: аўтобус прывязе мяне ў Парыж, потым Антвэрпэн і ўрэшце Брусэль. Там будуць чакалядачкі, імпрэсіяністы, капучыны і Эсмэральды.

І, спадзяюся, чарговы парыжскі кельнэр ня плюне мне ў каву, пачуўшы маё тужлівае "Жопарль…"

**8/06/2012**
**Пост-жабаедзкае**

І вось я вярнулася ў Варвікшыр. Да мяне з парога кінулася мая зімовая куртка, прыгаворваючы: "Ой, як ты своечасова! А ў нас акурат +13!"

У Парыжы я насіла чырвоны сарафанчык і чырвоны пэдзікюр. Яшчэ я шмат цалавалася, піла розныя алькаголі, каштавала жабіны лапкі (у мэню яны, дарэчы, былі пазначаныя як "морапрадукты" – вось жывуць нашыя жабы ў балотах і ня ведаюць...), поўзала па Музэі Арміі (у ім нават дасьпехі воінаў Рэчы Паспалітай былі), не плявала з Эйфелевей вежы, спазьнялася на цягнікі, шукала вачыма Квазімоду на даху Нотр-Дама, глядзела сэмі-бурлеск, прымяралася да ролі стуардэсы, аб'ядала Лену зь Лёшам і замілавана назірала, як Сярожа ўпершыню ў жыцьці сьмела есьць запечаных сьлімакоў.

Потым быў Антвэрпэн зь вішнёвым пірагом, залевай, раёнам армянска-габрэйскіх ювэлірных крамаў, непаслухмяным парасонам і паслухмяным надзіманым матрацам дома ў гасьціннага Алега, прылегшы на які пасьля расьпіцьця 8-градуснага бэльгійскага піва, Сярожа мовіў: "Зараз я пайду памыюся, пераапрануся і..." Гэта былі ягоныя апошнія словы тым вечарам.

На дэсэрт быў Брусэль. Ён – як Парыж, але сімпатычней ды ўтульней. У Брусэлі былі Віка з Алешам, якія правялі нам экскурсію па Эўрапарлямэньце, дзе працуюць. "Увогуле, экскурсіі тут ладзіць забаронена... Але ўсе гэта робяць", – патлумачылі яны. Потым яны выгулялі нас зь Сярожам па начным горадзе, ціхім і анты-турыстычным. Мы пакланіліся хлопчыку і дзяўчынцы,

якія сікаюць (расьпіяраны чамусьці толькі хлопчык, а насамрэч іх двое – але ў розных месцах Старога горада). Я цалкам пранікласся канцэпцыяй сікуноў пост-фактум: у Брусэлі (як і ў Антвэрпэне) усе публічныя прыбіральні каштуюць 40 цэнтаў (нават у Макдональдсе), так што ня дзіва, што хлопчык зь дзяўчынкай не стрывалі. Затое Брусэль падкарміў нас найсмачнейшымі вафлямі з марозівам, узьбітымі вяршкамі і чакалядным соўсам... Але, як прадэманстравала практыка, іх лепш не пераядаць.

А цяпер я дома. Вецер скручвае рукі дрэвам і хціва паглядае на наш інтэрнацкі буданчык, плянуючы перанесьці яго ў Смарагдавы горад. Я п'ю імбірную гарбату і асьцярожненька, з-за фіраначкі, паказваю ветру ў вакно язык.

ПС: Нібыта нават філязофская гісторыя-бонус. Нейкім вечарам мы рушылі зь Ленай-Лёшам-Сярожам у бар. Перад гэтам я неабачліва наелася кавуна і несла ў сабе шмат сьветлага і добрага, таму, толькі ўвайшоўшы ў бар, я кінулася да прыбіральні. Аднак яна апынулася занятай, я, дробна падскокваючы, ціха-злосна пачала лаяцца на падступнасьць лёсу... Тут мой погляд упаў на шыльдачку на дзьвярах прыбіральні: “WC. У выпадку экстраннай сытуацыі захоўвайце спакой”. Я засьмяялася і мне палягчэла (на душы).

**26/06/2012**
**Іф тумораў эвэр камс**

У мяне застаўся заўтрашні дзень, каб:
- адыграць наш спэктакаль;
- схадзіць на дзевяць мерапрыемстваў у рамках Варвіцкага Мастацкага Фэсту;
- даесьці пачак тарцеліні, апэльсінкі, грыбочкі і выпіць літар малака;
- вярнуць Апекшы яе чорныя чаравікі;
- разьвітацца з качкамі;
- сабраць чамаданы;
- магчыма, паспаць.

Мне расклад падаецца ня надта насычаным, бо цягам апошняга тыдня я перайшла на рэжым “Экстравэрсійны +”.

Пачалося ўсё зь мінулай серады, калі мы адзначылі народзіны Ніно – з хачапуры, абцасамі, ружовым вінам (бутэлька на нос) і нечаканай сустрэчай з вожыкам (адкрыцьцё: тутэйшыя вожыкі ня скручваюцца ў клубок, калі да іх дакранаесься – капіталізм-такі разьбэшчвае).

У суботу езьдзіла ў Ковэнтры на дзень народзінаў да Нікі: мы махалі рукамі, разьлівалі сідр-піва і рок-н-ролілі пад жывую музыку ў пабе 1850 года “Whitefriars”.

У нядзелю, адсьпяваўшы харавы канцэрт, выправілася ў Лемінгтан на сьвяткаваньне дня народзінаў Джоша: рызота з грыбамі, кельнэры, якія апдэйцілі нас наконт матча Англія–Італія, і копія “Таемнай вячэры” на стале. Сёньня, падчас спэктаклю “Мізантроп”, у мяне адбылося дэжа вю, бо ўсе ўчорашнія госьці Джоша выйшлі на сцэну. І прафэсійна пілі фальшывае(?) шампанскае. Ну, прынамсі, я заўтра падчас нашага спэктаклю буду піць сапраўднае ружовае віно – маленькую бутэлечку ўжо прыпасла.

Апроч іншага, я хадзіла на канцэрт афрыканскай-азіяцкай музыкі; разам з натоўпам у бары экстатычна равела “Гоооооооооооол!”, хоць ня мела ўяўленьня, хто з кім гуляе; піла імбірнае піва і чакала ў госьці Лену, якая так і не прыехала. А яшчэ на маім стале зараз ляжаць майткі. Яны белыя, мужчынскія, і на іх напісана “Giordano”. Ні па якіх прыкметах не мае, хоць знайшла я іх у пакеце са сваімі сьвежаадпранымі рэчамі. Разважаю над далейшай тактыкай: аднесьці іх назад у laundry room ці ўдаць, нібыта так і трэба.

Мне раптоўна падумалася, што я зусім ня буду сумаваць па тутэйшых занудных дажджах, нерэгулярным дарагім транспарце, вечна бруднай інтэрнацкай кухні і гумовых чарніцах з супэрмаркэту. Але, магчыма, часам мне будзе бракаваць тонкай павуцінкі (чорт яе ведае, зь якога стагодзьдзя) у куце паба; вожыкаў, якія ня скручваюцца ў клубок, і палісмэнаў, якія існуюць збольшага для таго, каб адказаць, дзе знаходзіцца бліжэйшы аўтобусны прыпынак.

Але мне ёсьць да каго вяртацца – і гэта адно зь лепшых адчуваньняў у сьвеце. І я, насалоджваючыся гэтым адчуваньнем, пішу пра яго ў свой ЖЖ замест таго, каб пачаць пакаваць валізы.




## АСІНАЯ ФАБРЫКА

*(Працяг, пачатак у Макулатуры нумар 2 – Скотская і 3 – Без Галавы)*

**7: Касьмічныя Захопнікі**

Да таго як я ўсьвядоміў, што часам птушкі могуць быць маімі саюзнікамі, я паступаў зь імі даволі жорстка: лавіў, страляў у іх, прывязваў да слупоў перад самым прылівам, падкладваў у іх гнёзды бомбы з электрычным дэтанатарам, ну й гэтак далей.

Мая любімая гульня зводзілася да таго, каб злавіць – сеткай, на прынаду – дзьвюх птушак і зьвязаць іх разам. Звычайна гэта былі чайкі, і я прывязваў іх нага да нагі тоўстай аранжавай нэйлёнавай лёскай, а потым сядзеў на выдме й назіраў. Часам я браў чайку і варону, але былі ахвяры аднаго віду ці не, яны хутка разумелі, што ня могуць лётаць як сьлед – хаця тэарэтычна вяроўка была даволі доўгая, – і заканчвалася ўсё (пасьля некалькіх нумароў пацешна-нязграбных рухаў паветранай акрабатыкі) бойкай.

Калі адзін з супернікаў гінуў, то пераможца – як правіла, паранены – выяўляў, што цяжкі труп нічым ня лепш за жывога суперніка. Я бачыў некалькі мэтанакіраваных птушак, якія адклявалі нагу пераможанага ворага, але большасьць былі на гэта няздольныя ці не маглі дадумацца й ноччу даставаліся пацукам.

Я гуляў і ў іншыя гульні, але гэтая заўсёды ўяўлялася мне адной з найбольш сталых маіх забаваў – у чымсьці сымбалічная, з тонкім спалучэньнем іроніі й бяздушнасьці.

Птушка спаражнілася на Жвір, калі я круціў пэдалі па дарозе ў горад раніцай у аўторак. Я спыніўся, акінуў спапяляючым позіркам чаек і пару драздоў, сарваў прыгаршчу травы й выцер жоўта-белы бруд з рамы. Дзень быў ясны й сонечны, дзьмуў лёгкі брыз. На бліжэйшы тыдзень прагноз быў таксама спрыяльны, і я спадзяваўся, што добрае надвор’е пратрымаецца да прыбыцьця Эрыка.

Мы з Джэймі сустрэліся ў бары паба “Колдхэйм-Армз” і селі за адзін з гульнявых аўтаматаў.

– Калі ён настолькі ненармальны, не разумею, чаму яны дагэтуль яшчэ не злавілі яго.

– Я ж казаў, ён псіх, але вельмі хітры. Зусім ня дурань. Ён заўсёды быў вельмі кемлівы, з самага дзяцінства. Чытаць пачаў вельмі рана, і ўсе дзядзькі й цёткі вечна вохкалі ды ахкалі – разумны, маўляў, не па гадах і гэтак далей. Гэта яшчэ да майго нараджэньня.

– Але ён жа ўсё роўна вар’ят.

– Ну, так кажуць. Хаця я ня ўпэўнены.

– А як жа сабакі? А чарвякі?

– Ладна, гэта выглядае даволі па-вар’яцку, прызнаю, але часам я думаю: а раптам тут нешта ня так і ніякі ён ня псіх наогул? Мо яму проста абрыдла паводзіць сябе нармальна, вось ён і стаў рабіць зь сябе псіхапата, а ў вар’ятню яго ўпяклі, таму што ён зайшоў занадта далёка.

– І цяпер ён на іх страшэнна злы, – ашчэрыўся Джэймі ды сербануў піва, пакуль я зьнішчаў снуючыя туды-сюды рознакаляровыя касьмічныя караблі на экране.

– Ну, магчыма й так, – засьмяяўся я. – Ох, ня ведаю. Мо ён сапраўды псіх. Можа й я. Магчыма, усё вакол. Прынамсі ў маёй сям’і.

– Вось гэта іншая размова.

Я глядзеў на яго некалькі сэкунд, потым усьміхнуўся:

– Часам я пра гэта разважаю… Мой бацька дзівак. Я, зрэшты, таксама. – Я паціснуў плячыма ды зноўку засяродзіўся на касьмічнай бітве. – Але мяне гэта не хвалюе. Вакол поўна куды больш ненармальных псіхаў.

Джэймі нейкі час сядзеў моўчкі, а я граміў у экраннай завірусе мітусьлівыя, вісклівыя караблі. Нарэшце ўдача мне здрадзіла, і яны мяне злавілі. Я ўзяў сваю пінту, а Джэймі ўзяўся разносіць дашчэнту няхітрыя абарончыя рэдуты. Я глядзеў на макаўку яго галавы, калі ён нахіліўся, засяродзіўшыся на гульні. Ён пачынаў лысець, хаця я ведаў, што яму толькі дваццаць тры. Ён зноў нагадаў мне марыянетку, з гэтай сваёй непрапарцыянальна вялікай галавой, кароткімі тоўстымі ножкамі й ручкамі, якія напружваліся ад намаганьня, зь якім Джэймі націскаў на кнопку “агонь”, арудуючы джойстыкам.

– Так, – сказаў ён праз некаторы час, не перастаючы адстрэльвацца, – і многія зь іх палітыкі й прэзідэнты, і гэтак далей.

– Што? – спытаў я, не зразумеўшы, пра што гэта ён.

– Яшчэ большыя шызафрэнікі. Здаецца, многія зь іх стаяць на чале краін, рэлігій альбо войскаў. Сапраўдныя крэйзанутыя.

– Ага, напэўна, – задуменна прамовіў я, назіраючы за ходам бою на экране, – ці можа яны – адзіныя нармальныя людзі. У рэшце рэшт, гэта ў іх уся ўлада й грошы. Гэта яны прымушаюць усіх скакаць пад сваю дудку – паміраць за іх, працаваць на іх, галасаваць за іх, абараняць іх, плаціць падаткі й купляць ім цацкі; толькі яны й выжывуць пасьля наступнай вялікай вайны ў сваіх бункерах ды тунэлях. А пры такім раскладзе – ды хто наогул сказаў, што яны псіхі, калі дзейнічаюць ня так, як трэ было б на думку якога-небудзь Джо Пэнтэра? Думай яны, як Джо Пэнтэр, ну й былі б гэтымі Джонамі Пэнтэрамі, а ўсе радасьці жыцьця дасталіся б каму-небудзь іншаму.

– Выжываньне найбольш прыстасаваных.

– Ага.

– Выжываньне… – Джэймі са сьвістам уцягнуў паветра й так моцна тузануў джойстык, што ледзьве не зваліўся з крэсла, але змог вывесьці свой карабель з-пад жоўтых маланак, якія загналі яго ў кут экрана, – найбольш агідных. – Ён зірнуў на мяне й хуценька ўсьміхнуўся, потым зноў згарбаціўся над пультам. Я кіўнуў, адсярбнуў піва.

– Можна й так, калі заўгодна. А паколькі выжываюць найбольш агідныя, вось мы ўсе й сядзім у такой срацы…

– “Мы” – у сэньсе Джоны Пэнтэры, – сказаў Джэймі.

– Ага, прычым пагалоўна. Увесь род чалавечы. Калі мы й на самай справе настолькі злыя й тупыя, што гатовы закідаць адзін аднаго ўсімі гэтымі цудоўнымі вадароднымі й нэйтроннымі бомбамі, тады мо яно й да лепшага, калі мы сапраўды зьнішчым сябе, перш чым лезьці ў космас зьдзекавацца зь якіх-небудзь іншаплянэтнікаў.

– Ты маеш на ўвазе, што мы будзем касьмічнымі захопнікамі?

– Ага, – засьмяяўся я й пачаў разгойдвацца на крэсле. – Сапраўды. Гэта мы! – зноў зарагатаў я, тыцкаючы ў экран па-над строем чырвона-зялёных крылатых херовін, адна зь якіх залапатала крыламі, аддзялілася ад зграі ды нырнула ўніз на караблік Джэймі, страляючы з усіх ствалоў – кулі прайшлі міма, але яна зачапіла яго крылом, перш чым схавалася за ніжнюю частку экрана, і караблік Джэймі зьнік у асьляпляльным чырвона-жоўтым выбліску.

– Бля, – сказаў ён і пакруціў галавой.

Я падаўся наперад, чакаючы зьяўленьня свайго карабля.

Зьлёгку ап’янеўшы ад трох выпітых пінт, я круціў пэдалі, вяртаючыся на выспу. Мне заўсёды даспадобы нашыя з Джэймі гутаркі за ланчам. Па суботах увечары мы таксама, вядома, размаўляем, але ня чуем адзін аднаго падчас выступу гуртоў, а пасьля я альбо занадта накіданы для размоў, альбо магу падтрымліваць гутарку, але ўсё роўна нічога потым ня памятаю. Зрэшты, калі падумаць мо яно й да лепшага – мяркуючы па тым, як даволі разумныя людзі ператвараюцца ў невыразна гаворачых, грубых, самаўпэўненых і напышлівых ідыётаў, варта малекулам алькаголю ў іх крыві перавысіць лік нэйронаў, ці неяк так. На шчасьце, гэта можна заўважыць толькі застаючыся цьвярозым, так што рашэньне праблемы гэтак жа прыемна (прынамсі, непасрэдна ў той момант), як і відавочна.

Калі я прыйшоў дамоў, бацька спаў у шэзлонгу ў садзе. Я паставіў ровар у хлеў ды трохі паназіраў за бацькам пад прыкрыцьцём дзьвярэй; калі ён прачнецца, то падумае, быццам я толькі-толькі зьявіўся й зачыняю дзьверы. Яго галава крыху нахілілася ў мой бок, рот быў зьлёгку адкрыты. Ён быў у цёмных акулярах, але я бачыў скрозь шкло яго заплюшчаныя вочы.

Мне трэ было тэрмінова адліць, так што стаяў я там нядоўга. Ня тое каб у мяне была нейкая асаблівая прычына за ім назіраць; проста мне гэта падабалася. Прыемна было думаць, што я магу яго бачыць, а ён мяне не, й што я напагатове ды ў поўнай сьвядомасьці, а ён не.

Я ўвайшоў у дом.

Увесь панядзелак, сьпехам праверыўшы зранку Слупы, я займаўся рамонтам і ўдасканаленьнем Фабрыкі, працаваў, пакуль не стаміліся вочы, і спусьціўся, толькі калі бацька паклікаў абедаць.

Увечары ішоў дождж, я застаўся дома й глядзеў тэлевізар. Спаць лёг рана. Эрык не тэлефанаваў.

Калі я разьвітаўся з прыкладна паловай піва, выпітага ў “Армз”, я падняўся глянуць на Фабрыку. На гарышчы было цёпла й сонечна, пахла старымі цікавымі кніжкамі, і я вырашыў трохі прыбрацца.

Я рассартаваў старыя цацкі па скрынках, паставіў на месца рулоны дыванoў ды шпалераў, прысабачыў некалькі карт назад на нахіленую драўляную столь, прыбраў інструмэнты й запчасткі, якія засталіся пасьля рамонту Фабрыкі, і зарадзіў тыя яе кампаненты, якія мелі патрэбу ў падзарадцы.

Пакуль я ўсім гэтым займаўся, раскапаў шмат чаго цікавага: самаробную астралябію, якую я калісьці выразаў, скрынку з часткамі мадэлі ўмацаваньняў вакол Бізантыі, рэшткі маёй калекцыі ізалятараў з тэлеграфных слупоў ды старыя нататнікі, якія засталіся ад часоў, калі бацька вучыў мяне францускай. Прагартаўшы іх, я не знайшоў відавочнай хлусьні; ніякіх табе лаянак замест “Выбачайце” або “Не падкажаце, як прайсьці да чыгуначнага вакзалу?” – хаця падазраю, устаяць перад такой спакусай было ня так проста.

Я скончыў прыбіраньне, некалькі разоў чхнуў з-за бліскучых пылінак, што віселі ў залатой прасторы гарышча. Яшчэ раз паглядзеў на адрэстаўраваную Фабрыку, проста таму што я люблю глядзець на яе, перарабляць яе, дакранацца да яе, націскаць на яе маленькія рычагі, адчыняць дзьверы ды іншыя прылады. Нарэшце я адцягнуў сябе ад яе, у думках кажучы сабе, што даволі хутка ў мяне будзе магчымасьць выкарыстаць Фабрыку па прызначэньні. Удзень я злаўлю асу й наступнай раніцай пушчу яе ў справу. Я хацеў яшчэ раз выпрабаваць Фабрыку да вяртаньня Эрыка: хацелася б мець больш дакладнае ўяўленьне аб тым, чаго чакаць.

Вядома, было трохі рызыкоўна задаваць адно й тое ж пытаньне двойчы, але я падумаў: надзвычайныя абставіны патрабуюць гэтага, ды й, у рэшце рэшт, гэта мая Фабрыка.

Асу я займеў без асаблівых цяжкасьцяў. Яна, можна сказаць, добраахвотна прайшла ў цырыманіяльны слоік з-пад сочыва, у якім я заўсёды трымаю вязьняў для Фабрыкі. Я сунуў ёй крыху лісьця, а таксама кавалачак памяранцавай лупіны й закрыў адмысловым вечкам зь дзірачкамі. Прыладзіў у цяньку на рачным беразе й заняўся будаўніцтвам плаціны.

Я працаваў ды пацеў у сьвятле дня й раньняга вечара, пакуль бацька фарбаваў заднюю частку дома, а аса дасьледавала зьмесьціва слоіка, варушачы вусікамі.

Калі я напалову пабудаваў плаціну – ня лепшы час для пераменаў, – мне падумалася, што было б прышпільна ўзарваць яе, таму я дазволіў вадзе пераліваццa, а сам пабег у хлеў за Вайсковай Торбай. Вярнуўшыся, выбраў з бомбачак з электрычнымі дэтанатарамі самую маленькую. Прыматаў аголеныя канцы правадоў дэтанатара, што тырчалі з прасьвідраванай у чорным мэталёвым корпусе адтуліны, да правадкоў ліхтарыка й загарнуў усё ў пару поліэтыленавых мяшкоў. Я заклаў бомбу ў падмурак галоўнай дамбы, вывеў провад за плаціну, за нерухомую ваду ззаду яе, амаль да таго месца, дзе поўзала ў сваім слоіку аса. Для большай натуральнасьці закідаў правады пяском і працягнуў будаваць плаціну.

Сістэма дамбаў атрымалася вельмі вялікай і складанай, там была не адна, а дзьве вёсачкі, адна паміж плацінамі, другая – ніжэй па цячэньні за апошняй плацінай. Там былі масты й маленькія дарогі, замак з чатырма вежамі й два дарожныя тунэлі. Якраз перад вячэрнім чаяваньнем я вывеў апошні правадок зь ліхтарыка й перанёс слоік з асой на вяршыню бліжэйшай выдмы.

Я бачыў, як бацька фарбаваў вакол вокнаў хола. Я магу ўспомніць, як быў калісьці выфарбаваны фасад дома, зьвернуты да мора; ужо тады малюнкі былі пабляклыя – хай другарадная, але безумоўная клясыка кіслотнага мастацтва, калі, вядома, памяць мне ня здраджвае: велізарныя сьпіралі й мандалы, раскіданыя па фасадзе, нібы яркія татуіроўкі, што выгінаюцца над вокнамі й дзьвярыма. Рэлікт, які застаўся ад часоў, калі бацька быў хіпі, цяпер яны ўжо зьніклі, сьцёртыя ветрам і морам, і дажджом, і сонечным сьвятлом. Засталіся толькі вельмі невыразныя контуры, ледзьве прыкметныя разам зь некалькімі каляровымі плямамі, падобнымі да скуры, якая лушчыцца.

Я ўскрыў корпус ліхтарыка, уставіў батарэйкі, надзейна іх замацаваў і толькі тады націснуў кнопку. Ток пацёк пасьлядоўна зь імпульсам ад дзевяцівольтавай запакоўкі батарэек, прылепленай ізастужкай да ліхтарыка; правады выходзілі з адтуліны, дзе калісьці была лямпачка, і вялі, закіданыя пяском, да ўмураванай у плаціну бомбачкі. Дзесьці ля цэнтра бомбы сталёвая вата разгарэлася спачатку няярка, потым асьляпляльна й пачала плавіцца, белая крышталёвая сумесь выбухнула, разрываючы мэтал – я ледзьве змог яго сагнуць, што каштавала мне шмат поту, часу і сіл, – нібы паперу.

Бах! Пярэдняя частка галоўнай плаціны вывалілася наперад і ўверх, брудная сумесь пары й газу, вады й пяску падскочыла ў паветра й пачала дробна асыпацца. Выбух прагучаў магутна й глуха, а за імгненьне да яго я адчуў азадкам вібрацыю глебы, рэзкую й выразную.

Падкінуты выбухам пясок з плёскатам асыпаўся ў ваду, купкамі падаючы на дарогі й дамы. Вызваленая вада вырвалася праз расколіну ў пясчанай сьцяне й пакацілася ўніз, усмоктваючы пясок з краёў шчыліны, і абрынулася карычневым патокам на першую вёску, прайшла скрозь яе, натыкнулася на другую плаціну, адкацілася назад, руйнуючы пясчаныя дамы,

нахіліла замак і раскідала разбураныя вежы. Апоры моста ня вытрымалі, драўляны насьціл споўз і ўпаў набок, затым вада пачала пералівацца цераз плаціну, і хутка ўся верхняя частка яе была пад вадой і размывалася патокам, які нёсься зь першай дамбы, паўсотні метраў пад ухіл. Замак зьнік, разваліўся.

Я пакінуў банку й, узрадаваны, зьбег па схіле выдмы, а паток каціўся, падзяляючыся на галінаваныя ручаі, змываў дамы, імчаўся па дарогах і тунэлях і, дасягнуўшы апошняй плаціны, хутка расправіўся зь ёй – ды кінуўся на другую вёску. Плаціны руйнаваліся, дамы сасьлізгвалі ў ваду, масты й тунэлі складваліся й падалі, цудоўнае пачуцьцё захапленьня паднялося хваляй са страўніка й дайшло да горла, я быў рады воднаму хаосу.

Я бачыў, як правады былі змыты й адкінуты патокам убок, потым я праводзіў поглядам хвалю, што хутка рухалася да мора па ўжо даўно высмаглым пяску. Сеў на зямлю насупраць месца, дзе была першая вёска, там, дзе рухаліся, павольна наступаючы, карычневыя гарбы вады, і чакаў, пакуль шторм супакоіцца: скрыжаваўшы ногі, упёршыся лакцямі ў калені, а падбародзьдзем у далоні. Мне было цёпла, я быў шчасьлівы й трохі галодны.

Нарэшце, калі ручай амаль супакоіўся і ад некалькіх гадзін маёй працы амаль нічога не засталося, я прыкмеціў тое, што шукаў: чорны й срэбраны, разарваны й пагнуты корпус бомбы, які выглядваў зь пяску крыху ніжэй па цячэньні ад падарванай плаціны. Не здымаючы чаравікаў, я апусьціўся на кукішкі, упёрся наскамі ў сухі бераг і, перабіраючы па дне далонямі, дасягнуў цэлі – выцягнуўшыся пры гэтым над вадой ледзьве ня ў поўны рост. Вырваў рэшткі бомбы зь пяску, асьцярожна заціснуў у зубах, стараючыся не парэзацца, і пахлюпаў на руках у зваротны шлях; нарэшце рэзка адштурхнуўся ды ўстаў на ногі.

Я выцер амаль плоскі кавалак мэталу анучай з Вайсковай Торбы, схаваў былую бомбу ў яе, потым забраў слоік ды пайшоў дадому піць гарбату, пераскочыўшы цераз ручай крыху вышэй за тое месца, да якога даходзіла замкнутая плацінамі вада.

Усё нашае жыцьцё складаецца з сымбаляў. Кожны ўчынак укладваецца ў сістэму, якая хаця б збольшага залежыць ад нас саміх. Моцныя будуюць свае ўласныя сістэмы ды ўплываюць на чужыя, тады як слабыя скачуць пад чыю-небудзь дудку. Слабыя, нешчасьлівыя й дурныя. Асіная Фабрыка – таксама частка сістэмы, паколькі самым цесным чынам зьвязана з жыцьцём і – нават у большай ступені – са сьмерцю. Падобная да жыцьця, яна складаная й зьмяшчае мноства кампанентаў. Яна ўмее адказваць на пытаньні, таму што кожнае пытаньне – гэта пачатак пошуку канца, а Фабрыка – увасабленьне Канца зь вялікай літары: сьмерці, ні больш ні менш. Пакіньце сабе вашыя вантробы, посахі і косткі, і кнігі, і птушак, і галасы, і ўсё астатняе гаўно: у мяне ёсьць Фабрыка, яна прысьвечана будучыні й цяперашняму, а не мінуламу.

Той ноччу я ляжаў у ложку, ведаючы, што Фабрыка была гатовая й чакала асу, якая поўзала ў слоіку ля майго ложка ў пошуках свайго шляху. Я думаў пра Фабрыку на гарышчы й чакаў, калі зазвоніць тэлефон.

Асіная Фабрыка цудоўная, сьмяротная й чароўная. Яна падкажа мне, чаго чакаць, дапаможа зразумець, як паступіць, параіўшыся зь ёю, я паспрабую зьвязацца з Эрыкам пры дапамозе чэрапа Старога Сола. У рэшце рэшт, мы ж браты, нават калі толькі напалову, і абодва мужчыны, нават калі я – толькі напалову. Мы разумеем адзін аднаго на ўзроўні падсьвядомасьці, хаця ён вар’ят, а я нармальны. І вось яшчэ што нас аб’ядноўвае – раней я пра гэта ня думаў, а цяпер гэта можа стацца вельмі дарэчы: мы абодва забівалі, і, як у яго, так і ў маім выпадку, гэта патрабавала інтэлектуальнага напружаньня.

Мяне раптам апанавала ідэя (хоць і не ўпершыню), што мужчыны дзеля таго й створаны. Кожны пол можа рабіць адну справу добра: жанчыны – нараджаць, а мужчыны – забіваць. Мы – сябе я лічу пачэсным мужчынам – моцны пол. Мы йдзем напралом, праштурхоўваем і захопліваем. Мяне зусім не бянтэжыць той факт, што сам я здольны толькі на аналёгіі з усёй гэтай сэксуальнай тэрміналёгіяй. Гэта ў мяне ў крыві, у маіх некастрыраваных генах. Эрык павінен адгукнуцца.

Прабіла адзінаццаць, потым поўнач і сігналы дакладнага часу, так што я выключыў радыё й заснуў.

**8: Асіная Фабрыка**

Раньняй раніцай, калі бацька яшчэ спаў й халоднае сьвятло сачылася скрозь заслону сьвежых аблокаў, я ціха ўстаў, старанна ўмыўся й пагаліўся, вярнуўся ў свой пакой, павольна апрануўся, узяў слоік з соннай асой і занёс яго на гарышча, дзе чакала Фабрыка.

Я паставіў слоік на маленькі алтар пад акном і зрабіў апошнія падрыхтоўкі, якія патрабавала Фабрыка. Пасьля таго як яны былі скончаныя, я ўзяў трохі зялёнага геля для ўмываньня з бутэлькі побач з алтаром і добранька уцёр у рукі. Зазірнуў у "Графік прыліваў ды адліваў" – чырвоную кніжачку, якую трымаў з другога боку алтара, – і адзначыў час поўнай вады. Зьмясьціў дзьве асіныя сьвечкі на тыя дзяленьні цыферблата Фабрыкі, дзе стаялі б стрэлкі ў мясцовы час поўнай вады, затым адкаркаваў слоічак з-пад джэма, дастаў лісьце й памяранцавую скарынку й пакінуў асу адну.

Я паставіў слоік на алтар, упрыгожаны рознымі моцнымі рэчамі: чэрапам зьмяі, што забіла Блайта (знойдзена й расьцятая напалам садовай лапатай ягоным бацькам – пярэднюю частку зьмяі я падняў з травы й схаваў у пяску да таго, як Дыгз забраў яе як доказ); аскепак бомбы, што разарвала Пола (самы маленькі, які я толькі мог знайсьці; іх там было шмат); кавалачак тканіны брызэнта ад зьмея, які ўзьнёс Эсмэральду (вядома, не ад самога зьмея, а абрэзак); і спадачак са старымі сьцёртымі зубамі Старога Сола (выцягнутыя без асаблівай цяжкасьці).

Я ўхапіўся за свой пах, заплюшчыў вочы й прамовіў свой таемны катэхізіс. Усе пытаньні й адказы я даўно ведаў назубок і мог бы паўтарыць іх на аўтамаце, але я стараўся ўдумвацца ў сэнс. У іх былі мае прызнаньні, мае мары й спадзяваньні, страхі й нянавісьць – мяне да гэтага часу калоціць, калі я прамаўляю ўсё гэта, нават машынальна. Апыніся магнітафон паблізу – і жудасная праўда аб трох маіх забойствах выплыла б на паверхню. Ужо з адной гэтай прычыны малітва небясьпечная. У дадатак там зьмешчана праўда пра тое, хто я такі, чаго хачу, што адчуваю, і было б жудасна пачуць, як пра цябе кажуць менавіта ў тых выразах, у якіх ты сам думаеш пра сябе, у самым сумленным і паскудным настроі, – роўна як было б ганебна пачуць тое, што ты думаеш пра сябе, калі поўны надзей і лунаеш у аблоках.

Як толькі з гэтым было скончана, я бязь лішняй мітусьні паднёс асу да ніжняй часткі Фабрыкі ды ўпусьціў яе ўнутр.

Асіная Фабрыка займае плошчу ў некалькі квадратных мэтраў й уяўляе сабой бязладнае на першы погляд нагрувашчваньне celрознага жалезнага, драўлянага, шклянога й плястмасавага ламачча. Асновай усяму служыць цыферблат старога гадзіньніка, які вісеў калісьці над дзьвярыма Портнэйльскага аддзяленьня Шатляндзкага каралеўскага банка.

Цыферблат – самая істотная рэч, якую мне ўдалося дастаць на гарадзкім сьметніку. Я знайшоў яго там у Год Чэрапа й прыкаціў дадому па дарозе на выспу, прагрукацеў ім па мосьце. Схаваў у хляве, дачакаўся, пакуль бацька зьедзе, і потым цэлы дзень напружваўся й пацеў, зацягваючы яго на гарышча. Цыферблат быў жалезны, каля мэтра ў дыямэтры, і амаль непад'ёмны; лічбы – рымскія, а выраблены ён быў, як і ўвесь мэханізм, у Эдынбургу ў 1864 годзе – роўна за сто гадоў да майго нараджэньня. Гэта ніяк не магло быць выпадковым супадзеньнем.

Так як гадзіньнік глядзеў на два бакі, павінен быў існаваць яшчэ адзін цыферблат, якога я так і не знайшоў, хаця не адзін тыдзень кешкаўся на сьметніку, і гэта таксама частка містыкі Фабрыкі – маленькая легенда аб Граалі. Стары Камерон са скабяной крамы сказаў мне, што чуў, быццам мэханізм быў прададзены на мэталалом гандляру з Інвернэса; то бок ня выключана, што другі цыферблат даўным-даўно расплаўлены, а мо, і дагэтуль упрыгожвае сьцяну якога-небудзь элегантнага дома на Блэк Айл, пабудаванага на прыбытку ад пабітых аўтамабіляў й хістаньняў цэнаў на сьвінец. Я аддаю перавагу другому варыянту.

На цыферблаце было некалькі дзірак, якія я залітаваў, але цэнтральную дзірку, празь якую мэханізм злучаўся са стрэлкамі, пакінуў; менавіта праз гэтую адтуліну аса запускаецца ў Фабрыку. Апынуўшыся там, яна можа поўзаць па цыферблаце ў сваё задавальненьне, дасьледуючы сьвечкі зь мёртвымі родзічамі або ігнаруючы іх, калі захоча.

Аднак на краі цыферблата (па пэрымэтры якога цягнецца фанерны борцік вышынёй у дзьве цалі, па-над якім замацавана круглае шкло дыямэтрам адзін мэтар, зробленае ў горадзе

па маім заказе) аса можа ўвайсьці ў адзін з дванаццаці калідораў праз маленечкую, велічынёй з асу, дзьверцу насупраць велізарных, з пункту гледжаньня асы, лічбаў. Калі Фабрыка палічыць неабходным, асіная вага прывядзе ў дзеяньне пускавы мэханізм, які дзейнічае па тыпу арэляў й выраблены зь нітак, шпілек і тонкіх палосак кансэрвавай бляшанкі; тады дзьверы зачыняцца, і аса апынецца замкнёнай у абраным калідоры. Я не забываю рэгулярна змазваць, адладжваць і балянсаваць усе мэханізмы дзьвярэй, каб для спрацоўваньня было дастаткова найлягчэйшага штуршку (я вымушаны ступаць вельмі асьцярожна, пакуль Фабрыка выконвае сваю нетаропкую сьмяротную справу), але часам Фабрыку не задавальняе першапачатковы выбар асы, і яна дазваляе той выпаўзьці з калідора зноў на цыферблат.

Часам аса лётае або поўзае ўверх нагамі па шкляным крузе, часам яна доўга сядзіць ля закрытай цэнтральнай дзіркі, праз якую ўпаўзла, але раней ці пазьней усе яны выбіраюць той уваход, дзьверцы якога спрацуюць, і іх лёс вырашаны.

Большасьць сьмерцяў, якія прапануе Фабрыка, аўтаматычныя, але некаторыя патрабуюць майго ўмяшальніцтва для coup de grace <удар міласэрнасьці (фр.)>, і гэта, вядома ж, уплывае на пасланьне Фабрыкі. Я павінен націснуць на спускавы гаплік старой духавой стрэльбы, калі аса запаўзе ў яе ствол; павінен уключыць ток, калі яна зваліцца ў Кіпячы Вадазбор. Калі аса запаўзе ў Гасьцёўню Павука, ці Грот Вэнэры, ці Мурашнік, тады я магу сядзець спакойна й назіраць, як прырода бярэ сваё. Калі шлях асы ляжыць у Кіслотную Бездань альбо ў Лядовы Палац, або ў жартаўліва названую Мужчынскую Прыбіральню (дзе сродкам забойства выступае мая ўласная мача, як правіла, даволі сьвежая), тады я зноў жа магу абмежавацца назіраньнем. Калі яна зваліцца на электроды Вольтавай Камеры, я магу бачыць, як яе спапяліць разрад току; калі яна закране нітачку, што ўтрымлівае Забойную Вагу, я магу бачыць, як яе плюшчыць у аладку; а калі яна пойдзе у Брытвавы Калідор, я ўбачу, як лёзы крамсаюць яе ў капусту. Назіраньні за прадстаўленымі асе альтэрнатыўнымі сьмерцямі ўключаюць відовішча асы, якая перакульвае на сябе расплаўлены воск, есьць атручаны джэм ці пранізваецца шпількай, запушчанай з гумкі; казурка нават можа запусьціць ланцуг падзей, які завершыцца ў цеснай каморцы, куды паступае пад ціскам вуглякіслы газ з балёнчыка, але, калі яна абярэ гарачую ваду ці наразны ствол Скажонасьці лёсу, я буду вымушаны прыняць непасрэдны ўдзел у яе сьмерці. Калі аса накіроўваецца да Вогненнага Возера, я цісну на рычаг, які пстрыкае запальнічкай, што падпальвае бэнзін.

Сьмерць у агні заўсёды была на дванаццаці, і гэта адзін з тых Канцоў, якія нельга замяніць Альтэрнатывамі. Агонь заўсёды сымбалізаваў сьмерць Пола, які памёр апоўдні; сьмерць Блайта ад яду прадстаўлена Гасьцёўняй Павука ў чатыры гадзіны. Эсмэральда, мяркуючы па ўсім, патанула (Мужчынская Прыбіральня), і для сымэтрыі я вырашыў, што час яе сьмерці – восем.

Я глядзеў, як аса выпаўзла з банкі пад фатаграфіяй Эрыка, якую я паклаў на шкло выявай долу, – і, не губляючы часу дарма, праз некалькі сэкунд яна была ўжо на цыферблаце Фабрыкі. Казурка прапаўзла па імені вытворцы гадзіньніка, цалкам праігнаравала асіныя сьвечкі й больш-менш прамым курсам накіравалася да лічбы XII. Дзьверцы за ёй нячутна зачыніліся, і аса мэтанакіравана папаўзла па калідоры цераз варонку ад пасткі для лоўлі лобстараў, нітка ў якой не дазволіць ёй вярнуцца назад, затым увайшла ў адпаліраваную да бляску сталёвую трубку й сасьлізнула ў шкляную камеру, дзе й сустрэне сьмерць.

Я сеў, пераводзячы дых. Пачухаў патыліцу й зноўку нахіліўся наперад, назіраючы за зьнясіленай асой, якая кружылася па месцамі пачарнелым, афарбаваным усімі колерамі вясёлкі сталёвым падсітку, які прызначаўся для працэджваньня гарбаты, але тут вісеў над ёмістасьцю з бэнзінам. Я сумна ўсьміхнуўся. Камера добра вентылявалася, у ёй было мноства дзірачак – у мэталёвым дне й верхавіне шкляной трубкі – каб аса не задыхнулася ад пароў бэнзіну, слабы пах якога звычайна адчуваўся, калі Фабрыка была падрыхтавана да працы. Назіраючы цяпер за асой, я адчуваў гэты водар, а таксама ледзь улоўна пахла сьвежай фарбай, хаця, магчыма, мне гэта толькі здавалася. Я паціснуў плячыма й клацнуў на кнопку, кавалачак жалеза сасьлізгнуў па накіравальнай з алюмініевага калка ад палаткі й шоргнуў па колцы аднаразовай запальніцы, усталяванай збоку над сподкам з бэнзінам.

Не спатрэбілася нават другой спробы: паўпразрыстыя вогненныя язычкі, яшчэ даволі яркія ў ранішнім паддашкавым змроку, віліся вакол падсітка. Полымя не даставала да асы,

але гарачыня прымусіла яе ўзьляцець, злосна гудучы, яна ўзьляцела над бязгучным агнём, стукнулася аб шкло, павалілася, зачапіла край падсітка, пачала падаць у полымя, выправілася й зноўку ўзьляцела, некалькі разоў ударылася аб сталёвую трубку й зноўку звалілася ў сеткаватую пастку. Аса падскочыла ў апошні раз, безнадзейна замахала крылкамі, але яны, мусіць, былі абпаленыя, таму што яе палёт быў хаатычны, як у вар'яткі, і неўзабаве яна павалілася ў падсітак, дзе білася некалькі сэкунд у пакутах, потым выпнулася дугой і нарэшце зьнерухомела, зьлёгку дымячыся.

Я сядзеў й глядзеў, як абгарэлая казурка сьпяклася да хрусту, як спакойнае полымя ўзьнялося да падсітка й абняло яго, нібыта рукой, як адлюстраваньне язычкоў полымя дрыжэла на задняй сьценцы шкляной трубкі. Потым нарэшце пацягнуўся, адшпіліў падмурак трубкі, падцягнуў да сябе сподак з бэнзінам, накрыў металёвым вечкам і задзьмуў полымя. Адкрыў камэру й выняў зь яе цела пінцэтам. Труп я паклаў у запалкавую скрынку, якую затым паклаў на алтар.

Фабрыка не заўсёды расстаецца са сваімі мерцьвякамі: кіслата й мурашы не пакідаюць пасьля сябе нічога, а Венерына мухалоўка й павук – у лепшым выпадку сухую абалонку. Але цяпер я зноў меў на руках абгарэлы труп, ад якога ізноў жа патрабавалася пазбавіцца. Я ўткнуў падбародзьдзе ў далоні й нахіліўся наперад на нізкім зэдліку. Мяне атачала Фабрыка, за сьпінаю быў алтар. Я агледзеў шматлікія прыбудовы Фабрыкі, яе разнастайныя шляхі да сьмерці, яе пераходы, калідоры й камэры, лямпачкі ў канцы тунэляў, кантэйнеры, спускавыя гаплікі, батарэі ды ніткі, апоры й стойкі, трубкі ды правады. Я пстрыкнуў парай выключальнікаў, і маленечкія прапелеры зашумелі ў калідорах, гонячы паветра ўздоўж напарсткаў з сочывам і далей па цыферблаце. Я прыслухоўваўся да іх, пакуль не адчуў пах сочыва, які прызначаўся для таго, каб завабліваць нерашучых восаў на пагібель, а зусім не для мяне. Я выключыў маторы.

Я пачаў выключаць усё запар – дзесьці адключаў, дзесьці зьліваў, а дзесьці й падліваў. За акном разгаралася раніца, чуліся крыкі некалькіх раньніх птушак. Калі рытуал выключэньня Фабрыкі быў завершаны, я вярнуўся да алтара, агледзеў усё, што стаяла на ім: набор мініятурных слоічкаў, сувэніры ўсяго майго жыцьця, каштоўнасьці, якія я знайшоў й вырашыў захаваць. Фотаздымкі ўсіх маіх мёртвых сваякоў – і тых, каго забіў я, і тых, якія памерлі самі па сабе. Фотаздымкі жывых – Эрыка, майго бацькі, маёй маці. Фотаздымкі рэчаў – BSA 500, на жаль, не таго самага матацыкла, думаю, бацька ўсе іх зьнішчыў; нашага дома, калі ён быў яшчэ яркім ад фарбаў, ды нават фотаздымак самога алтара.

Я правёў запалкавай скрынкай з асіным трупікам над алтаром, пакруціў ёй перад ім, перад слоічкам зь пяском з пляжу, бутэлечкамі з маімі каштоўнымі вадкасьцямі, габлюшкамі ад кія майго бацькі, перад іншай запалкавай скрынкай зь некалькімі малочнымі зубамі Эрыка, пракладзенымі ватаю, перад флаконам з валасамі майго бацькі й бурбалкай зь іржой і фарбай, якія я саскроб з моста на Вялікую Зямлю. Я запаліў асіныя сьвечкі, заплюшчыў вочы, трымаючы скрыначку-труну перад ілбом, каб адчуць асу ўнутры маёй галавы – казытлівае адчуваньне ўнутры чэрапа. Пасьля таго як я задзьмуў сьвечкі й накрыў алтар, я падняўся, строс пыл са штаноў, узяў са шкла над цыферблатам фотаздымак Эрыка й загарнуў у яго асіную труну, замацаваў гумкай ды схаваў у кішэню курткі.

Я нясьпешна брыў уздоўж пляжу да бункера, засунуўшы рукі ў кішэні, панурыўшы галаву, гледзячы на пясок і ногі, але ня бачачы іх. Куды б я ні глядзеў, усюды быў агонь. Фабрыка сказала пра яго двойчы, я інстынктыўна ўжыў яго, калі злосны самец атакаваў мяне, агонь маячыў ва ўсіх пустых кутках маёй памяці. І Эрык набліжаў яго з кожным днём.

Я падставіў твар сьвежаму ветру, пастэльна-блакітнаму, пачынаючаму ружавець ранішняму небу, удыхнуў халаднаватае паветра, адчуваючы вільготны брыз, чуючы шыпеньне далёкага адліву. Дзесьці забляяла авечка.

Я павінен быў выкарыстаць Старога Сола, павінен быў паспрабаваць наладзіць кантакт з маім вар'яцкім братам, пакуль не падняўся вогненны віхор і ня зьнішчыў Эрыка ці маё жыцьцё на высьпе. Я спрабаваў пераканаць сябе, што ўсё ня так ужо сур'ёзна, але нутром я адчуваў адваротнае: Фабрыка ня хлусіць, нарэшце яна выказалася параўнальна недвухсэнсоўна. Мне было неспакойна.

У Бункеры, калі труна асы была ўскладзена перад чэрапам Старога Сола, а з вачніц яго даўно высмаглых вачэй зыходзіла сьвятло, я ўстаў на калені, схіліўшы галаву перад алтаром у востра пахкай цемры. Я думаў пра Эрыка, успамінаў яго такім, якім ён быў да таго непрыемнага здарэньня, калі, пакідаючы выспу, ён усё роўна заставаўся яе часткай. Я ўспамінаў яго як разумнага, добрага, вясёлага хлапчука й падумаў пра тое, кім ён стаў цяпер: вестуном агню й разбурэньня, што ляціць да мірных пяскоў нашай выспы, быццам звар'яцелы анёл, чыя галава расколваецца ад бясконцага рэха ляманту шаленства й расчараваньня.

Я нахіліўся ўперад і, не адкрываючы вачэй, паклаў правую далонь на чэрап старога сабакі. Сьвечка гарэла нядоўга, і косьць была ледзьве цёплай. Нейкая непрыемная, цынічная частка майго мозгу сказала мне, што я падобны на містара Спока з "Зорнага шляху" падчас зьліцьця розумаў ці чагосьці гэткага, але я яе праігнараваў: якая, уласна кажучы, розніца. Я глыбока дыхаў й быў пагружаны ў яшчэ больш глыбокія разважаньні. Твар Эрыка – рабаціньне, сьветлыя валасы й сарамлівая ўсьмешка – зьявіўся перада мной. Малады твар, тонкі й інтэлігентны, такім я памятаў яго, калі ён быў шчасьлівы й калі мы разам праводзілі на высьпе летнія месяцы.

Я засяродзіўся, затрымаў дыханьне й напяўся, нібы пры зацьвердзе; у вушах зашумела кроў. Вялікім і ўказальным пальцамі левай рукі я зь сілай націснуў на павекі, правая ляжала на чэрапе, які награваўся. Перад вачыма выблісьнулі агні, хаатычныя ўзоры, быццам кругі на вадзе ці адбіткі велізарных пальцаў.

Мой жывот міжвольна сьціснуўся, я адчуў хвалю гарачага ўзбуджэньня, што паднялася зь яго. Проста кіслоты й залозы, ведаю, але адчуў прарыў, перанос са свайго чэрапа ў другі й зноў у іншы. Эрык! Ёсьць кантакт! Я адчуваў яго; адчуваў боль у нагах, мазалі на падэшвах, дрыготкія мускулы, пакрытыя потам брудныя рукі, сьверб у нямытай галаве; я чуў яго пах як свой уласны, глядзеў на сьвет яго пачырванелымі, налітымі крывёю вачыма, якія ня ведалі сну. У жываце мёртвым грузам ляжалі рэшткі нядаўняй вусьцішнай вячэры, язык яшчэ адчуваў смак гарэлага мяса, костак і поўсьці: я быў там! Я быў...

На мяне абрынуўся шквал агню. Я адляцеў ад алтара, быццам жывы аскепак мяккай шрапнэлі, адскочыў ад прысыпанай зямлёй бэтоннай падлогі й спыніўся ля дальняй сьценкі. Галава гудзела, у руцэ пульсаваў боль. Я паваліўся на бок і скруціўся ў клубок.

Нейкі час я ляжаў, пераводзячы дыханьне, абхапіўшы рукамі бакі й трохі хістаючыся з боку ў бок, скрабучы галавой па падлозе Бункера. Здавалася, мая правая рука распухла да памераў баксёрскай пальчаткі, ды й колеру стала такога ж. З кожным ударам сэрца, якое патроху супакойвалася, кісьць пасылала ўверх па руцэ імпульс болю. Ціха мармычучы нешта сабе пад нос, я павольна прыўзьняўся, пацёр вочы й зьлёгку захістаўся, асьцярожна падцягнуў калені да галавы й адхіліўся назад. Я паспрабаваў падлячыць сваё кантужанае эга.

Калі невыразная выява сфакусавалася, я ўбачыў чэрап, усярэдзіне якога ўсё яшчэ працягвала гарэць полымя. Злосна гледзячы на яго, я пачаў залізваць руку. Ніякага ўрону па маршруце свайго сьпешнага адступленьня я ня выявіў, усё засталося на сваіх месцах; толькі я пацярпеў. Я сутаргава ўздыхнуў ды расслабіўся, прыхінуўшы патыліцу да халоднага бэтону сьцяны.

Празь некалькі хвілін я нахіліўся наперад і апусьціў руку, якая ўсё яшчэ пульсавала, на падлогу Бункера – астыць. Пазьней абтрос яе ад зямлі і паднёс да вачэй, спрабуючы разгледзець, ці ёсьць на ёй якое-небудзь пашкоджаньне, але сьвятло было занадта цьмяным. Я павольна падняўся на ногі й рушыў да алтара. Запаліў дрыготкімі рукамі бакавыя сьвечкі, паклаў асу да іншых восаў у плястмасавы стэлаж ды спаліў яе часовую труну на мэталёвай пліце перад Старым Солам. Фота Эрыка загарэлася, хлапечы твар зьнік у агні. Я дзьмухнуў у вачніцу Старога Сола й загасіў сьвечку.

Я пастаяў, зьбіраючыся з думкамі, потым падышоў да мэталёвых дзьвярэй Бункера й адчыніў іх. Шаўковае сьвятло хмарнай, але яркай раніцы ўварвалася ўнутр і прымусіла мяне паморшчыцца. Я вярнуўся ўнутр, загасіў астатнія сьвечкі ды яшчэ раз агледзеў руку. Далонь пачырванела й распухла. Я зноў лізнуў яе.

Амаль атрымалася. Ніякіх сумневаў: Эрык быў ужо ў маіх руках, яго розум быў тут, пад маёй далоньню, і я быў яго часткай, бачыў сьвет ягонымі вачыма, адчуваў рух крыві па сасудах у яго галаве, адчуваў зямлю пад яго нагамі, чуў яго пах і смак яго апошняй ежы. Але

гэта было занадта для мяне. Полымю, што бушуе ў галаве Эрыка, ня дасьць рады ні адзін нармальны чалавек. У ім была лунатычная моц усёпаглынальнага захапленьня, на якую здольныя толькі вар'яты, а самыя апантаныя салдаты й самыя агрэсіўныя спартсмэны могуць імітаваць яе кароткі час. Кожная часьцінка мозгу Эрыка была сканцэнтравана на яго місіі – вярнуцца ды падпальваць – і аніводзін нармальны мозг (нават мой, далёкі ад нармальнага, куды мацнейшы за большасьць іншых) ня мог нічога супрацьпаставіць сіле настолькі пераважнай. Эрык прысьвяціў сябе Татальнай Вайне, джыхаду; Боскі Вецер нёс яго да сьмерці, прынамсі ўласнай, і ўсе мае звыклыя мэтады не падыходзілі.

Я замкнуў Бункер й пабрыў уздоўж берага назад да хаты – зноў панурыўшы галаву й яшчэ больш задуменны й заклапочаны, чым па дарозе сюды.

Рэшту дня я правёў дома: чытаў кнігі й часопісы, глядзеў тэлевізар і ліхаманкава разважаў. Узьдзейнічаць на Эрыка знутры я ня мог, значыць, трэ было зьмяніць напрамак атакі. Мая асабістая міталёгія, падмацаваная Фабрыкай, была дастаткова гнуткай, каб я прызнаў сёньняшнюю паразу й выкарыстаў яе як адпраўны пункт для дасягненьня правільнага рашэньня. Перадавыя атрады з боем адступілі, але ў мяне былі й іншыя рэсурсы. Я атрымаю перамогу, хоць і ня шляхам выкарыстаньня сілы. Прынамсі, не ўжываючы нічога іншага, акрамя сілы творчага ўяўленьня, якая, як ні круці, ляжыць у аснове ўсяго. Калі я не змагу адказаць на выклік Эрыка, значыць, я заслугоўваю быць зьнішчаным.

Бацька працягваў фарбаваць, узыходзячы па прыстаўных сходах са слоікам фарбы й пэндзлем, заціснутым у зубах. Я прапанаваў яму сваю дапамогу, але ён настаяў, што зробіць усё сам. Я некалькі разоў карыстаўся сходамі, спрабуючы прабрацца ў бацькаў габінэт, але ён паставіў на вокны спэцыяльныя замкі й трымаў жалюзі апушчанымі, а шторы задзёртымі. Я быў рады бачыць, зь якой цяжкасьцю ён караскаўся па лесьвіцы. Ён ніколі ня зможа залезьці на гарышча. Я падумаў, добра яшчэ, што дом менавіта такой вышыні, інакш бацька змог бы залезьці па сходах на дах і зазірнуць у паддашкавае акно. Але ў бліжэйшай будучыні мы маглі не турбавацца, нашыя цытадэлі заставаліся ў недатыкальнасьці.

На гэты раз бацька дазволіў мне заняцца абедам; я прыгатаваў кары з агародніны – варыянт, які задаволіць нас абодвух, пакуль мы будзем глядзець лекцыю Адкрытага ўнівэрсытэта па геалёгіі на пераносным тэлевізары, які я адмыслова прынёс на кухню. Я вырашыў: калі разьбяруся з Эрыкам, трэ будзе аднавіць кампанію апрацоўкі бацькі на прадмет набыцьця відэамагнітафона. Занадта лёгка прапусьціць добрую праграму ў пагодлівы дзень.

Пасьля абеду бацька адправіўся ў горад. Гэта было незвычайна, але я не стаў яго пытацца, навошта ён ідзе туды. Бацька выглядаў стомленым пасьля цэлага дня караскаsuccessfully ньня й выцягваньня рук, але ён падняўся ў свой пакой, пераапрануўся ў гарнітур для горада й прыйшоў, кульгаючы, у хол, сказаць "да пабачэньня".

– Ну, я пайшоў, – прамовіў ён і агледзеў гасьцёўню, нібыта разьлічваў знайсьці сьведчаньні таго, што я прыступіў да сваіх гнюсных шкодніцтваў, нават не дачакаўшыся яго сыходу.

– Давай, – кіўнуў я, не адрываючыся ад экрана.

– Доўга не затрымаюся. Можаш не замыкацца.

– Добра.

– Справісься адзін?

– Ну, канешне, – я паглядзеў на яго, скрыжаваў рукі й глыбей сеў у старое мяккае крэсла.

Ён адступіў назад, так што абедзьве яго нагі былі ў калідоры, а тулава ў холе, рука на дзьвярной ручцы ўтрымлівала яго ад падзеньня. Ён зноў кіўнуў – характэрны рух брылём кепкі.

– Ну ладна. Да сустрэчы. І вядзі сябе добра.

Я ўсьміхнуўся й зноў утаропіўся ў экран.

– Вядома, тат. Пакуль.

– Хннх, – хмыкнуў ён і ў апошні раз абвёў вачыма пакой, нібыта шукаючы зьніклае сталовае срэбра, зачыніў дзьверы, і я пачуў стук кія па прыступках ды рыпеньне ўваходных дзьвярэй. Я правёў яго позіркам уздоўж сьцяжынкі, пасядзеў крыху, затым падняўся наверх і тузануў дзьверы габінэта, якія, як заўсёды, былі непахісныя, нібыта частка сьцяны.

Я заснуў. За вакном цямнела, па тэлевізары йшоў нейкі жудасны амэрыканскі дэтэктыўны сэрыял, галава гула. Я міргнуў паўзакрытымі вачыма, пазяхнуў, каб раскрыць вусны й праветрыць рот, у якім пасьпеў пасяліцца вельмі затхлы прысмак. Пазяхнуў, пацягнуўся, потым зьнерухомеў – я пачуў званок тэлефона.

Я ўскочыў з крэсла, спатыкнуўся, ледзьве не зваліўся, дабраўся да дзьвярэй, да пярэдняга пакоя, да лесьвіцы й, нарэшце, да тэлефона – ляцеў з усіх ног. Схапіў слухаўку правай, хворай, рукой. Прыціснуў слухаўку да вуха.

– Алё, – сказаў я.

– Здароў, Фрэнкі, як яно? – спытаў Джэймі.

Я адчуў сумесь палёгкі й расчараваньня. Уздыхнуў.

– А, Джэймі. Ды нармуль. Ты як?

– У мяне працоўная траўма. Кінуў ранкам дошку на нагу – уся распухла.

– Нічога сур'ёзнага хоць?

– Не-а. Калі пашанцуе, буду на бальнічным да канца тыдня. Заўтра пайду да ўрача па даведку. Уласна, тэлефаную сказаць, што днём я дома. Так што можаш прынесьці вінаграду, калі будзе настрой.

– Добра. Мо заўтра й зайду. Але патэлефаную яшчэ, калі што.

– Крута. Што-небудзь чуваць ад сам-ведаеш-каго?

– Не-а. Я падумаў, гэта ён і тэлефануе.

– Ага, я так і зразумеў. Не хвалюйся. Ні пра што дзіўнае ў горадзе ня чуў, яго, відаць, тут яшчэ няма.

– Ага, але я хацеў бы яго пабачыць. Проста не хачу, каб ён зноў пачаў дурыць, як тады. Я ведаю, ён павінен вярнуцца туды, адкуль зьбег, нават калі ён нічога такога ня зробіць, але ўсё роўна хацелася б яго пабачыць. Хочацца й таго й другога, разумееш?

– А то. Усё будзе ціп-топ. Вось пабачыш. Не хвалюйся за гэта.

– Я й не хвалююся.

– Вось і добра. Я тут, дарэчы, сабраўся ў "Армз" прыняць пінту-іншую болесуцішальнага. Ня хочаш за кампанію?

– Не, дзякуй. Я нешта стаміўся. Рана ўстаў сёньня. Пабачымся заўтра.

– Крута. Ну, будзь здаровы ды ўсё такое. Пакуль, Фрэнк.

– Добра, Джэймі, пакуль.

– Пакуль, – сказаў Джэймі.

Я павесіў слухаўку й спусьціўся ўніз, пераключыць тэлевізар на што-небудзь больш асэнсаванае, але толькі дайшоў да ніжняй пляцоўкі, калі зноў зазваніў тэлефон. Я стаў падымацца й раптам падумаў, што гэта можа быць Эрык, але калі ўзяў слухаўку, то не пачуў характэрных таксафонных гудкоў.

– Ну, – з ухмылкай пацікавіўся я, – і чаго забыўся?

– Забыўся? Нічога я не забыўся! Я памятаю ўсё! Усё!!! – залямантаваў знаёмы голас на тым канцы.

Я аслупянеў, зьдзіўлена зглынуў.

– Эр... – пачаў я.

– Чаму ты вінаваціш мяне ў забыўчасьці? Што я, па-твойму, забыўся? Га? Нічога я не забыўся! – хрыпеў ды надрываўся Эрык.

– Эрык, даруй! Я думаў, ты – гэта хтосьці іншы!

– Я – гэта я! – закрычаў ён. – Я табе ня "хтосьці іншы"! Я – гэта я! Я!

– Я думаў, гэта Джэймі! – прастагнаў я, закрыўшы вочы.

– Гэты карузьлік? Ты пашавэлак!

– Прабач, я... – і тут я асекся ды задумаўся. – Гэй, ты што сабе дазваляеш? У якім сэньсе "карузьлік" і наогул, што за тон? Ён мой сябар. І ён не вінаваты, што маленькі, – сказаў я яму.

– Ды ну! – адгукнуўся Эрык. – А ты адкуль ведаеш?

– Што значыць "адкуль ведаю"? Ён жа не вінаваты, што такім нарадзіўся! – разьюшыўся я.

– Гэта ж ён табе так сказаў.

– Сказаў мне што?

– Што ён ліліпут! – выплюнуў Эрык.

– Што?! – закрычаў я, ня верачы ўласным вушам. – Я ж бачу, ён – карузьлік, ты, ідыёт!

– Ён хоча, каб ты так думаў! Мо ён на самай справе прышэлец! Мо астатнія прыхадні яшчэ ніжэй ростам, чым ён! Адкуль ты ведаеш, што ён на самай справе не гігант зь вельмі нізкарослай расы іншаплянэтнікаў? Га?

– Ня будзь ідыётам! – залямантаваў я ў адказ, балюча сьціскаючы слухаўку абпаленай рукой.

– Потым не гавары, што я цябе не папярэджваў! – крыкнуў Эрык.

– Ня бойся, не скажу! – гыркнуў я ў адказ.

– Ладна, – раптам сказаў Эрык нечакана спакойным голасам, і сэкунду або дзьве я думаў, ці не падключыўся да нашай гутаркі нехта іншы; я быў зьбянтэжаны, калі ён працягнуў звычайным роўным голасам. – Як сам?

– Га? – разгубіўся я. – А... Выдатна. Выдатна. А ты?

– Нядрэнна. Ужо амаль там.

– Што? Тут?

– Не тут, а там. Божа, ну на такой ужо адлегласьці ня можа быць дрэннай сувязі, га?

– Якой адлегласьці? Э? Што ня можа? Не зразумеў, – я паклаў руку на лоб, адчуваючы, як губляю ніць размовы.

– Я ўжо амаль там, – стомлена растлумачыў Эрык, спакойна ўздыхнуўшы. – Не амаль тут. Тут я ўжо й так. Інакш як бы я мог табе адсюль тэлефанаваць?

– Адкуль “адсюль”? – пацікавіўся я.

– Ты што, хочаш сказаць, што зноў ня памятаеш, дзе знаходзісься? – зьдзіўлена ўсклікнуў Эрык. Я зноў заплюшчыў вочы й застагнаў. – І ты вінаваціш мяне ў забыўчасьці. Ха! – працягваў Эрык.

– Слухай, ты, чортаў вар’ят! – залямантаваў я ў слухаўку, з усяе сілы сьціскаючы зялёны плястык; руку працяў востры боль, і я адчуў, як перакрывіўся мой твар. – Ты мне надакучыў, тэлефануеш сюды й знарок нічога не разумееш. Хопіць мне мазгі парыць! – я зь цяжкасьцю перавёў дыханьне. – Ты цудоўна ведаеш, пра што я кажу, калі пытаюся пра “тут”! Я пытаюся, дзе ты, блядзь, знаходзісься! Я ведаю, дзе я, і ты ведаеш, дзе я. Хопіць мяне заблытваць, так?

– Хм. Канечне, Фрэнк, – абыякава адгукнуўся Эрык. – Прабач, калі што ня так.

– Дык вось... – пачаў я зноў на падвышаных танах, але пачакаў ды пару разоў глыбока ўздыхнуў. – Дык... вось... ты... ты мяне дастаў. Я ж проста пытаўся, дзе ты.

– Ды ладна, Фрэнк, усё я разумею, – разважліва прамовіў Эрык. – Але ж я не магу сказаць табе, дзе я. Раптам хто-небудзь падслухае? Пагадзіся.

– Ну так, ну так, – выдыхнуў я. – Але ж ты ня ў будцы?

– Зразумела, я ня ў будцы, – сказаў ён з ноткамі былога раздражненьня, але ўзяў сябе ў рукі. – Угадаў, адгадаў. Я ў чыімсьці доме. У катэджы, калі ўжо быць дакладным.

– Што? – спытаў я. – Хто? Чый?

– Паняцьця ня маю, – адказаў ён, і я амаль пачуў, як ён пацiснуў плячыма. – Хаця, напэўна, мог бы высьветліць, калі табе праўда цікава. Табе насамрэч цікава?

– Што? Не. Так. То бок не. Якая розьніца? Але дзе... у сэньсе як... то бок... ну, хто цябе...?

– Паслухай, Фрэнк, – стомлена прамовіў Эрык, – гэта проста нечы маленькі летні катэджык для адпачынку, правядзеньня выходных, ці чаго там яшчэ. Ня ведаю, чый ён, але як ты пранікліва заўважыў, якая, уласна кажучы, розьніца. Праўда?

– Ты хочаш сказаць, што ўзламаў чыйсьці дом? – спытаў я.

– Ага. І што? Ды мне нават і не прыйшлося яго ўзламваць. Я знайшоў ключ ад задніх дзьвярэй за трубой. Што ня так? Вельмі ўтульнае мястэчка.

– І ты не баісься, што цябе могуць там злавіць?

– Не асабліва. Сяджу сабе ў пакоі, гляджу на дарогу. Няма праблем. Тут ёсьць ежа, ванна, тэлефон, маразілка – Ісусе, ды ў яе можна аўчарку ўпіхнуць – ложак ёсьць і ўсё такое. Раскошна.

– Аўчарку! – усклікнуў я.

– Ага, ну, гэта калі б яна ў мяне была. Яе-та няма, але калі б была, я б яе там трымаў. Пакуль жа...

– Не, – перабіў я, заплюшчваючы вочы й падымаючы руку, як быццам ён быў тут, у адным пакоі са мной. – Не расказвай.

– Ладна... Ну, проста хацеў патэлефанаваць табе, сказаць, што ўсе са мной у парадку, даведацца, як ты там...

– Ды нармальна ўсё са мной. А ты ўпэўнены, што ў цябе таксама ўсё ў парадку?

– Больш чым. Ніколі не адчуваў сябе лепш. Проста выдатна. Мабыць, уся справа ў дыеце...

– Слухай, – у роспачы перабіў я яго, і вочы мае пашырыліся, калі мяне ахінула, пра што трэба спытаць. – Ты нічога не адчуў сёньня ранкам? На досьвітку? Нічога? То бок зусім нічога? Раптам што-небудзь там варухнулася... э-э, усярэдзіне дзе-небудзь, га? Нічога не адчуў?

– Што ты там мармычаш? – зьлёгку злосна сказаў Эрык.

– Ты што-небудзь адчуў сёньня раніцай, рана раніцай?

– Што, чорт пабяры, я павінен быў адчуць??

– Ну... у сэньсе, у цябе якога-небудзь асаблівага адчуваньня сёньня раніцай не ўзьнікала, дзесьці на досьвітку?

– Ну, – сказаў Эрык павольна й разьмерана. – Ты падумай, якое супадзеньне...

– Ну ж, ну? – узбуджана перапытаў я, так блізка прыціскаючы да сябе слухаўку, што зубы бразнулі аб яе.

– Ні чорта. Сёньняшні ранак быў адным зь нямногіх, калі я шчыра магу сказаць, я нічога не адчуў, – ветліва паведаміў Эрык. – Я спаў.

– Але ж ты сказаў, ты ніколі ня сьпіш! – абурыўся я.

– Ісусе, Фрэнк, ніхто не ідэальны, – я пачуў, як ён засьмяяўся.

– Але ж... – пачаў я, закрыў рот і зарыпеў зубамі. І зноўку заплюшчыў вочы.

– Ну добра, Фрэнк, – сказаў ён. – Шчыра кажучы, мяне гэта пачынае стамляць. Мо я яшчэ ператэлефаную пазьней, але ў любым выпадку да хуткай сустрэчы. Пакуль-пакуль.

Тэлефон адключыўся да таго, як я пасьпеў што-небудзь сказаць, я быў агрэсіўны й увесь кіпеў, трымаў слухаўку й глядзеў на яе так, быццам яна была ва ўсім вінаватая. Я хацеў стукнуць ёю аб што-небудзь, але вырашыў, што гэта было б кепскім жартам, таму проста кінуў слухаўку на рычаг. Яна бразнула разочак, я гнеўна зірнуў на яе, потым павярнуўся й пайшоў уніз, там пагрузіўся ў крэсла й ціснуў на кнопкі пульта кіраваньня тэлевізарам, пераскокваючы з канала на канал раз за разам цягам дзесяці хвілін. У рэшце рэшт я зразумеў, што даведаўся столькі ж з адначасовага прагляду трох праграм (навін, яшчэ аднаго жудаснага амэрыканскага дэтэктыўнага тэлесэрыяла й праграмы аб археалёгіі), колькі я б даведаўся, паглядзеўшы чортавы праграмы паасобку. З гідлівасьцю я адкінуў пульт падалей, выбег з хаты ў зьмярканьне й накіраваўся да мора шпурляць камяні ў прыбой.

**9: Што здарылася з Эрыкам**

Я спаў значна даўжэй, чым звычайна. Вярнуліся мы адначасова – бацька з гораду, я з пляжу, – і я адразу пайшоў спаць, таму мой сон быў доўгім і моцным. Раніцай я патэлефанаваў Джэймі, пагаварыў зь яго маці й даведаўся, што ён пайшоў да доктара, але хутка вернецца. Я сабраў заплечнік і абяцаў бацьку вярнуцца ўвечары, але ня позна, і адправіўся ў горад.

Джэймі быў дома, калі я прыйшоў туды. Мы выпілі пару бляшанак старой добрай “Чырвонай Сьмерці” і ўдосталь памяньцілі; гадзін у адзінаццаць зьлёгку перакусілі сьпечаным яго мамай печывам і выпілі гарбаты, а потым я разьвітаўся й рушыў з гораду ў напрамку да пагоркаў.

Высока над узьлесьсем, на зарослай верасам вяршыні пакатага скаліста-землянога адхону я аблюбаваў сабе вялікі валун, уладкаваўся на ім і еў свой ланч. Я глядзеў на нагрэтае паветра над Портнэйлам, на пашы, усеяныя плямкамі авечак, на выдмы, звалку, выспу (зрэшты, тое, што гэта выспа, было не разабраць; адсюль яна здавалася часткай сушы), пяскі ды мора. На небе, колер якога паступова бялеў у напрамку гарызонта, было некалькі маленькіх аблокаў; неба кідала блакітны водбліск на пейзаж, на спакойную паверхню заліва й мора. Сьпявалі жаўрукі, я бачыў завіслага ястраба, які шукаў рух у траве, верасе, хвашчы ды жаўтазельлі ўнізе.

Жамяра гула, танцавала, а я абмахваў твар веерам з папараці, каб трымаць іх на адлегласьці, пакуль я еў сэндвічы й піў памяранцавы сок.

Зьлева ад мяне вяршыні ланцуга пагоркаў, што ідзе ў паўночным кірунку, паступова станавіліся вышэй, пакуль не зьнікалі ў шэра-блакітнай смузе. Я глядзеў у бінокаль на горад унізе й бачыў грузавікі, што ехалі па галоўнай дарозе, я сачыў за цягніком, які зрабіў прыпынак у горадзе, а потым зноўку адправіўся далей на поўдзень, выгінаючыся па прыморскай раўніне.

Мне падабаецца час ад часу пакідаць выспу. Не занадта далёка; мне падабаецца па магчымасьці бачыць яе здалёк, часам карысна адысьці й паглядзець на ўсё збоку. Вядома, я ведаю, наколькі малы мой кавалачак зямлі, я ж ня дурань. Я ведаю памер нашай плянэты й наколькі маленечкая вядомая мне частка. Я бачыў занадта шмат тэлевізійных праграм аб прыродзе ды падарожжах, каб не разумець, наколькі абмежаваныя мае веды з пункту гледжаньня ўласнага вопыту наведваньня розных месцаў, але я не хачу зьяжджаць далёка, мне ня трэба бачыць замежныя краіны ці знаёміцца зь іншымі людзьмі. Я ведаю, хто я, і ведаю мяжу сваіх магчымасьцяў. Я абмяжоўваю свой кругагляд зь вядомых мне прычынаў: страх – так, бадай што – і патрэба перастрахавацца й забяспечыць сабе абарону ў сьвеце, які па чыстай выпадковасьці абышоўся са мной так жорстка – ва ўзросце, калі я ня меў аніякай магчымасьці сам на яго паўплываць.

У дадатак у мяне перад вачыма прыклад Эрыка.

Эрык зьехаў. Эрык, з усімі яго здольнасьцямі, інтэлектам, чуласьцю й абяцаньнямі, пакінуў выспу й паспрабаваў жыць па-свойму: абраў сабе шлях і йшоў ім... Шлях прывёў да разбурэньня большай часткі таго, кім ён быў, ператварыў яго ў зусім іншую асобу, у якой рысы ранейшага звычайнага мужчыны здаваліся абразьлівымі.

Але ён мой брат, і я да гэтага часу па-свойму люблю яго. Люблю насуперак зьменам, якія адбыліся, гэтак жа як, напэўна, і ён любіць мяне, нягледзячы на маё калецтва. Гэтае пачуцьцё падобнае да жаданьня абараніць, якое жанчыны адчуваюць да дзяцей, а мужчыны – да жанчын.

Эрык зьехаў з выспы яшчэ да таго, як я нарадзіўся, прыяжджаючы толькі на вакацыі, але мне здаецца, духоўна ён заўсёды заставаўся тут, і калі ён вярнуўся па-сапраўднаму, праз год пасьля майго маленькага здарэньня і бацька вырашыў: мы з Эрыкам дастаткова дарослыя, каб ён змог глядзець за намі, то я зусім не пярэчыў супраць яго прысутнасьці. Наадварот, мы з самага пачатку добра зь ім ладзілі, і я ўпэўнены, што яму было сорамна, калі я як прывязаны хадзіў за ім і пераймаў яго, хаця Эрык быў настолькі ўважлівы да пачуцьцяў іншых, што ні словам не абмовіўся мне пра гэта, баючыся пакрыўдзіць.

Калі яго адсылалі ў прыватныя школы, я сумаваў, а калі ён прыяжджаў на вакацыі, я бурна радаваўся: скакаў і захлынаўся словамі. Лета за летам мы праводзілі на высьпе, запускаючы зьмеяў, робячы мадэлі з дрэва й плястмасы, “Лега” і “Меккано”, з усяго, што траплялася пад руку, будуючы дамбы, канструюючы хаціны й канавы. Мы запускалі й мадэлі аэраплянаў, спускалі на ваду мадэлі яхт, будавалі зь пяску яхты зь ветразямі, прыдумлялі сакрэтныя супольнасьці са сваімі таемнымі кодамі й мовамі. Ён расказваў мне гісторыі, выдумляючы іх на хаду. Мы гулялі, уяўляючы некаторыя зь іх: адважныя салдаты змагаюцца ў выдмах, перамагаюць і ваююць, змагаюцца й часам гінуць. Толькі тады, калі яго ўласныя гісторыі патрабавалі яго гераічнай сьмерці, ён сьвядома прычыняў мне боль, і я ўсур’ёз хваляваўся, гледзячы, як ён памірае, лежачы на траве або на пяску, падарваўшы плаціну, мост ці канвой ворага, заадно ратуючы мяне ад гібелі: я каўтаў сьлёзы й дубасіў яго кулачкамі па плячы, спрабуючы зьмяніць фінал на свой лад, а Эрык адмаўляўся, высьлізгваў ад мяне й паміраў – занадта часта паміраў.

Калі яго мучыла мігрэнь – часам цэлымі днямі – я круціўся побач, прыносіў яму халодныя напоі ды ежу ў пакой з завешанымі вокнамі на другім паверсе, уваходзіў на дыбачках і ціха стаяў, а калі ён пачынаў стагнаць ці варочацца на ложку, мяне біла дрыготка. Пакуль ён пакутаваў, я адчуваў сябе няшчасным, нішто ня мела сэнсу: гульні й гісторыі здаваліся недарэчнымі й непатрэбнымі, і толькі кідаць камянямі па бутэльках й чайках здавалася цікавым. Я шукаў чаек, пераканаaны, што іншыя жывыя істоты таксама павінны пакутаваць, а калі ён здаровы, гэта было як быццам ён зноў вярнуўся, і я станавіўся няўрымсьлівым.

Але ў рэшце рэшт яго паглынула й разлучыла з намі імкненьне выйсьці ў вонкавы сьвет, у шырокі сьвет з усімі яго фантастычнымі магчымасьцямі ды жудаснымі небясьпекамі, як зда-

раецца з усімі сапраўднымі мужчынамі. Эрык вырашыў пайсьці шляхам бацькі й таксама стаць доктарам. Ён сказаў мне тады, што ўсё застанецца па-ранейшаму: бо ў яго зноў будуць летнія адпачынкі, нават калі нейкі час адбярэ бальнічная практыка ў Глазга; ён сказаў, што, калі мы сустрэнемся, усё будзе як раней, але я ведаў, што гэта ня так, і бачыў, што ў глыбіні душы ён таксама ведае. Яго выдавалі вочы, выдаваў голас. Ён пакідаў выспу, пакідаў мяне.

Я ня мог крыўдаваць на яго, нават тады, калі мне было цяжэй за ўсё. Гэта быў Эрык, мой брат, ён рабіў тое, што павінен быў, як адважны салдат, які гінуў за справу ці за мяне.

Як я мог сумнявацца ў ім ці крыўдаваць на яго, калі ён ніколі нават не намякнуў аб крыўдзе ці сумненьні ўва мне? Божа, а ўсе тыя забойствы, трое дзяцей забітыя, адзін зь іх мой брат. І ён нават уявіць сабе ня мог, што я прыклаў руку хаця б да аднаго зь іх. Я б ведаў. Ён ня змог бы паглядзець мне ў вочы, калі б падазраваў, ён быў няздольны на падман.

І вось ён адбыў на поўдзень, спачатку на адзін год (раней за іншых, паколькі бліскуча здаў іспыты), потым на другі. Улетку ён вярнуўся, але гэта быў зусім іншы чалавек. Ён спрабаваў сябраваць са мной па-ранейшаму, але я адчуваў – ён прымушаў сябе. Ён быў далёка, яго сэрца пакінула выспу. Ён больш думаў аб унівэрсытэцкіх сябрах, аб сваіх каштоўных занятках; быць можа, домам яго душы стаў цяпер увесь сьвет. Але на высьпе яе больш не было, са мной – не было.

Мы працягвалі гуляць, запускаць паветраных зьмеяў, будаваць плаціны й да таго падобнае – але ўсё зьмянілася: цяпер ён быў дарослы, які дапамагаў мне гуляць, а ня іншы хлопчык, што радуецца разам са мной. Гэта быў нядрэнны час, я быў шчасьлівы, бо ён быў са мной, але ён з палёгкай зьехаў праз месяц, каб сустрэнецца са сваімі сябрамі, якія адпачывалі на поўдні Францыі. Я аплакваў сыход сябра й брата, якога ведаў раней, і вастрэй, чым калі-небудзь, адчуваў сваё калецтва – тое, што назаўсёды пакіне мяне падлеткам, не дазволіць вырасьці й стаць сапраўдным мужчынам, які йдзе па жыцьці сваім шляхам.

Я хутка пазбавіўся гэтых эмоцый. У мяне быў Чэрап, Фабрыка й пераможнае адчуваньне мужчынскай задаволенасьці ў выдатных посьпехах Эрыка, а я станавіўся непадзельным гаспадаром выспы й зямель вакол яе. Эрык пісаў мне лісты й распавядаў аб сваім жыцьці, ён тэлефанаваў і размаўляў са мной і з бацькам і часта сьмяшыў мяне па тэлефоне – як гэта ўмеюць разумныя дарослыя, нават калі табе зусім не да сьмеху. Ён ніколі не даваў мне адчуць, што пакінуў выспу, пакінуў мяне.

Потым зь ім адбыўся няшчасны выпадак, які наклаўся на шматлікае іншае, невядомае нам з бацькам, і які стаў апошняй кропляй, зьнішчыўшы й без таго зьмененую асобу Эрыка, якога я ведаў. У выніку выйшла сумесь Эрыка ранейшага (але па-д'ябальску вывернутага) і больш дасьведчанага, прымудронага, але ў той жа час небясьпечнага й недасканалага, дэзарыентаванага, у чымсьці чульлівага й цалкам шалёнага. Накшталт разьбітай галяграмы – калі аскепак зьмяшчае малюнак цэлага, але драбней ды ня ў фокусе.

Здарылася гэта на другім годзе яго вучобы, калі ён стажыраваўся ў вялікім шпіталі пры ўнівэрсытэце. У той дзень Эрык не павінен быў быць там, у нетрах шпіталя, побач зь безнадзейнымі ды адрынутымі; ён дапамагаў у свой вольны час. Пазьней мы з бацькам даведаліся, што ў Эрыка былі праблемы, пра якія ён нам не распавядаў... Ён закахаўся ў нейкую дзяўчыну, і закаханасьць скончылася дрэнна, дзяўчына сказала, што не кахае яго і пачала сустракацца зь іншым. У Эрыка была нейкі час асабліва моцная мігрэнь, якая замінала яго працы. Ён неафіцыйна працаваў у шпіталі, дапамагаючы мэдсёстрам падчас начной зьмены, сядзеў у цемры на варце, чытаў свае кнігі, а вакол стагналі ды кашлялі маладыя, старыя й хворыя.

Так было й у тую ноч, калі зь ім адбыўся няшчасны выпадак. Ён знаходзіўся ў палаце, дзе ўтрымлівалі дзяцей ды немаўлят з такімі цяжкімі прыроджанымі недахопамі, што за сьценамі шпіталя малятам пагражала б дакладная пагібель, ды й шпіталь даваў толькі нядоўгую адтэрміноўку. Мы даведаліся аб тым, што здарылася, зь ліста мэдсястры, якая працавала ў тую зьмену й добра ставілася да майго брата, і, мяркуючы па тоне ліста, яна лічыла, што захоўваць жыцьцё самым безнадзейным з гэтых дзяцей няправільна, што яны толькі служаць наглядным дапаможнікам для студэнтаў, дактароў ды кансультантаў.

У адну сьпякотную, душную ліпеньскую ноч Эрык знаходзіўся ў жудаснай палаце ля бальнічнай кацельні ды складзкіх памяшканьняў.

Увесь дзень у яго балела галава, і пакуль ён сядзеў на варце, боль перайшоў у жорсткую мігрэнь. Вентыляцыя кепска працавала ўжо два тыдні, і рабочыя спрабавалі яе адрамантаваць; ноччу было горача, а мігрэнь Эрыка заўсёды мацнела ў такіх умовах. Хтосьці павінен быў падмяніць Эрыка праз гадзіну ці, думаю, нават Эрык прызнаў бы паразу й адправіўся б спаць у свой пакой у інтэрнаце. Як бы там ні было, ён абыходзіў палаты, мяняў падгузнікі ды супакойваў равучых немаўлят, рабіў перавязкі, ставіў кропельніцы ды што там яшчэ, а ўвесь гэты час яго галава трашчэла, перад вачыма раз-пораз успыхвалі маланкі й яркія агні.

Дзіця, якім ён тады займаўся, было фактычна "гароднінай". Сярод іншых дэфэктаў той пакутаваў нетрыманьнем, з усіх гукаў выдаваў толькі гарлавое булькатаньне, ня мог як сьлед кантраляваць свае цягліцы – галаву яго й тое ўтрымліваў штатыў з адмысловым клямарам – і насіў на галаве жалезную латку, таму што косткі яго чэрапа не зрасліся на макаўцы й нават скура над мозгам была тонкая, як папера.

Яго трэ было карміць асаблівай сумесьсю кожныя некалькі гадзін, і Эрык якраз рабіў гэта. Ён заўважыў, што дзіця было спакайней, чым звычайна, – проста млява сядзела ў сваім крэсьле, утаропіўшыся ў прастору перад сабой, неглыбока дыхала, вочы яго былі ашклянелыя й на яго звычайна нерухомым твары быў бадай што супакоены выраз. Зрэшты, да прыёму ежы ён аказаўся няздольны, хоць гэта было адно зь нешматлікіх дзеяньняў, якое яму ня толькі падабалася, але ў якім ён нават удзельнічаў. Эрык быў цярплівы, ён правёў лыжкай перад несфакусаванымі вачыма дзіцяці, затым паднёс ежу да яго вуснаў; у звычайнай сітуацыі дзіцёнак высунуў бы язык ці схіліў галаву, спрабуючы ўзяць лыжку ў рот, але той ноччу ён сядзеў не хрыпячы, не ківаючы галавой, не круціўся, не махаў рукамі й не закатваў вочы, а толькі вытарашчыўся прама перад сабой з выразам, які можна было памылкова прыняць за шчасьлівы.

Эрык настойліва спрабаваў прымусіць яго есьці, сеў бліжэй, спрабуючы не зьвяртаць увагі на боль у сваёй галаве: мігрэнь паступова мацнела. Ён ласкава гаварыў зь дзіцем – звычайна той вадзіў вачыма й паварочваў галаву ў напрамку гуку, але ў тую ноч голас ня меў ніякага эфэкту. Эрык праверыў ліст прызначэньняў за крэслам, але ніякіх дадатковых лекаў дзіцяці не давалі. Ён схіліўся яшчэ бліжэй – ласкава буркуючы, трасучы лыжкай, насілу ігнаруючы боль, які пагражаў раскалоць чэрап.

І тут ён нешта ўбачыў, нібы нейкае варушэньне, ледзьве прыкметнае на паголенай галаве дзіцяці, якое загадкава ўсьміхалася. Што б гэта ні было, яно было невялікім і павольным.

Эрык міргнуў, патрос галавой, спрабуючы адагнаць трымценьне агеньчыкаў перад вачыма. Ён устаў, не выпускаючы лыжкі з кашкай. Схіліўся бліжэй да макаўкі дзіцяці, угледзеўся пільней. Так нічога й ня ўбачыў, аднак яму памроілася нешта дзіўнае ля краю жалезнага клямара, і ён лёгка зьняў яго з галавы дзіцяці й зазірнуў унутр.

Працоўны кацельні пачуў лямант Эрыка й уварваўся ў палату, размахваючы гаечным ключом; у куце ён заўважыў Эрыка, той напалову сядзеў, напалову ляжаў у позе зародка з галавой, заціснутай між каленямі, і галасіў на ўсе жылы. Крэсла разам з прышпіленым да яго дзіцем было перавернута й ляжала на падлозе ў некалькіх футах ад Эрыка, прычым дзіця працягвала ўсьміхацца.

Працоўны скалануў Эрыка, але адказу не атрымаў. Потым ён зірнуў на дзіця ў крэсьле й наблізіўся да яго, верагодна, каб перавярнуць крэсла, але, крыху не дайшоўшы, кінуўся да дзьвярэй, дзе яго й званітавала.

Калі мэдсястра з аддзяленьня паверхам вышэй спусьцілася паглядзець, з-за чаго ўвесь гэты шум, яна знайшла працоўнага ў калідоры, той усё яшчэ спрабаваў задушыць сухія ванітавыя спазмы. Да таго часу Эрык перастаў крычаць і заціх. Дзіця працягвала ўсьміхацца.

Медсястра падняла крэсла, паставіла на месца. Ня ведаю, як яна здолела справіцца з млоснасьцю – мо ёй даводзілася бачыць і не такое, – але яна сьцяміла, у чым справа, выклікала па тэлефоне дапамогу й здолела выцягнуць Эрыка з кута. Яна пасадзіла яго ў крэсла, прыкрыла галаву малога ручніком і супакоіла рабочага. Выняла лыжку з адкрытага чэрапа ўсьмешлівага дзіцяці, якую туды ўторкнуў Эрык у першую секунду свайго вар'яцтва, верагодна, спрабуючы неяк выграбці тое, што ўбачыў.

У аддзяленьне заляцелі мухі, напэўна, калі барахліў кандыцыянер. Запаўзьлі пад нержавелую сталь капялюшыка дзіцяці й адклалі там яйкі. Вось што Эрык убачыў, прыпадняўшы яго,

вось што ён убачыў, адчуваючы над сабой паверхі чалавечых пакутаў, вось што ён убачыў, калі яго ўласны чэрап расколваўся ад мігрэні: клубок тлустых лічынак, што нясьпешна зьвіваліся ў лужыне стрававальнага соку й паглыналі мозг дзіцяці.

Здавалася, Эрык ачуняў пасьля таго, што здарылася. Яму калолі заспакаяльныя, пратрымалі некалькі сутак на бальнічнай койцы, потым яшчэ некалькі дзён пасьцельнага рэжыму ў пакоі інтэрната. Праз тыдзень ён зноў пачаў вучыцца і, як звычайна, хадзіў на заняткі. Некалькі чалавек ведалі, што штосьці адбылося, але яны заўважылі толькі, што Эрык стаў менш гаваркі. Мы з бацькам наогул нічога ня ведалі, акрамя таго, што ён прапусьціў некалькі дзён заняткаў з-за мігрэні.

Пазьней мы даведаліся, што Эрык пачаў шмат піць, прапускаць лекцыі, блытаць расклад, ён крычаў у сьне й будзіў студэнтаў, якія жылі на яго паверсе, прымаў наркотыкі, не прыходзіў на экзамены й практычныя заняткі... Нарэшце Унівэрсытэт прапанаваў яму ўзяць акадэмічны адпачынак да канца года, таму што ён занадта шмат прапусьціў. Эрык успрыняў гэта даволі цяжка: сабраў усе свае кнігі, склаў іх у калідоры ля пакоя свайго куратара й падпаліў іх. Яму пашанцавала, што справе не далі ход; адміністрацыя Унівэрсытэта паблажліва аднеслася да дыму й невялікіх пашкоджаньняў старадаўніх драўляных панэляў, і Эрык вярнуўся на выспу.

Але не да мяне. Ён адмовіўся ад любога кантакту са мной, замкнуўся ў сваім пакоі, уключаў вельмі гучную музыку й амаль ніколі не выходзіў, хіба што ў горад, дзе яму хутка забаранілі зьяўляцца ва ўсіх чатырох пабах з-за боек, крыкаў і лаянкі, якія ён там ладзіў. Калі ён заўважаў мяне, ён пільна глядзеў на мяне сваімі вялізнымі вачыма або пастукваў пальцамі па носе й падступна падміргваў. Пад вачыма ў яго залеглі цені, потым мяшкі, а кончык носа часта дрыжэў. Аднойчы ён згроб мяне ў ахапак ды пацалаваў у вусны, што напалохала мяне па-сапраўднаму.

Бацька стаў амаль такім жа негаваркім, як Эрык. Ён увесь час быў у дрэнным настроі, шмат прагульваўся й маўчаў, думаючы аб сваім. Пачаў паліць цыгарэты ды ў нейкі момант стаў заўзятым курцом. На месяц ці каля таго наш дом ператварыўся ў пекла, я доўга прагульваўся ў выдмах альбо сядзеў у сваім пакоі й глядзеў тэлевізар.

Потым Эрык пачаў палохаць гарадзкіх хлопцаў, сьпярша шпурляў у іх чарвякамі, потым запіхваў іх за каўнер хлапчукам, якія вярталіся са школы. Калі ён стаў спрабаваць карміць іх чарвякамі, піхаючы ў твар поўныя прыгаршчы лічынак, то на выспу прыбыла цэлая дэлегацыя – некалькі бацькоў, настаўнік і Дыгз. Я сядзеў у сваім пакоі ўвесь спатнелы, а ўнізе ў гасьцёўні гэтыя бацькі крычалі на бацьку. З Эрыкам размаўляў доктар, Дыгз і нават сацыяльны работнік зь Інвернэса, але Эрык амаль нічога ім не адказваў, толькі ўсьміхаўся ды час ад часу паўтараў, што чэрві багатыя бялком. Аднойчы ён прыйшоў дадому зьбіты, увесь у крыві, і мы з бацькам вырашылі, што яго падпільнавалі й пакалацілі старэйшыя хлопцы ці хто-небудзь з бацькоў.

Пра тое, што ў горадзе сталі зьнікаць сабакі, загаварылі за пару тыдняў да таго, як нехта зь дзяцей заўважыў Эрыка зь ёркшырскім тэр'ерам: Эрык abліў сабаку бэнзінам і падпаліў. Бацькі паверылі дзецям і адправіліся на пошукі Эрыка, якога злавілі ў момант, калі той рабіў тое ж самае са старым сабакам, якога прывабіў ласункамі з анісам. Бацькі перасьледавалі Эрыка ў лесе за горадам, але таму ўдалося ўцячы.

Дыгз прыйшоў на выспу ўвечары й сказаў, што прыйшоў арыштаваць Эрыка за парушэньне грамадзкага парадку. Ён прачакаў да позьняй ночы, выпіў прапанаваныя бацькам пару кілішкаў уіскі, але Эрык не вярнуўся. Дыгз пайшоў, бацька застаўся чакаць, але Эрык так і не зьявіўся. Ён прыйшоў дадому праз тры дні й пяць сабак, стомлены, нямыты, пахкі бэнзінам і дымам, з парваным адзеньнем, худым і брудным тварам. Бацька пачуў, як Эрык прыйшоў на досьвітку, зрабіў набег на лядоўню, праглынуў адразу некалькі абедаў, пратупаў па лесьвіцы й лёг спаць.

Бацька пракраўся да тэлефона, набраў Дыгза, які прыехаў яшчэ да сьняданку. Напэўна, Эрык нешта бачыў ці чуў, таму што ён вылез праз вакно свайго пакоя, спусьціўся па вадасьцёкавай трубе на зямлю ды ўцёк на ровары Дыгза. Злавілі яго нарэшце праз два тыдні й яшчэ дзьве сабакі – ён зьліваў бэнзін з чыёйсьці машыны. У працэсе грамадзянскага арышту яму зламалі сківіцу, і ў той раз ён ужо не ўцёк.

Празь некалькі месяцаў Эрыка прызналі шалёным. Яго выпрабоўвалі й так і гэтак, незьлічоную колькасьць разоў ён спрабаваў бегчы, нападаў на санітараў, сацыяльных работнікаў ды дактароў, пагражаў зацягаць па судах альбо забіць іх на месцы. Мэдкамісіі працягваліся,

пагрозы словам і дзеяньнем таксама, і паступова Эрыка пераводзілі ва ўстановы ўсё больш і больш строгага рэжыму. Мы з бацькам чулі, быццам ён стаў значна цішэй, калі яго перавялі ў шпіталь на поўдзень ад Глазга, і новых спроб уцёкаў ён не прадпрымаў, але, як высьветлілася, ён проста ўсыпляў іх пільнасьць – і, мяркуючы па ўсім, цалкам пасьпяхова.

А цяпер ён вяртаўся дадому пабачыць нас.

Гледзячы ў бінокль, я павольна абвёў вачыма панараму ад поўдня да поўначы, ад марыва да марыва; я бачыў горад, дарогі й рэйкавыя шляхі, лугі й пяскі, і я пытаўся ў сябе, ці не трапляе цяпер у поле майго зроку месца, дзе хаваецца Эрык, ці не падабраўся ён ужо так блізка. Я адчуваў, што ён недалёка. У мяне не было ніякага рацыянальнага тлумачэньня гэтаму пачуцьцю, але часу ў яго было дастаткова, голас падчас званка мінулай ноччу гучаў больш выразна й… я проста адчуваў. Цалкам можа быць, што да яго рукой падаць: ляжыць дзе-небудзь у хованцы ды чакае, пакуль сьцямнее, каб рушыць далей, альбо крадзецца па лесе, ці скрозь зараснікі жаўтазельля, а мо лагчынай між выдмамі ў напрамку да хаты ці ў пошуках сабак.

Я прайшоў па градзе ўзгоркаў уздоўж грэбня й спусьціўся ў некалькіх мілях на поўдзень ад горада, пятляючы між цяністымі ялінамі й хвоямі, і цішыню парушала толькі далёкае гудзеньне бензапіл. Я перасёк лінію чыгункі, некалькі палёў раскалыханага ячменю, дарогу, авечую пашу й выйшаў да пяскоў.

Я брыў уздоўж берага па шчыльна ўтрамбаваным пяску, у нагах гула стома. З мора падзьмуў брыз, і я быў гэтаму рады, таму што аблокі ўсе зьніклі, а сонца, хоць і йшло на захад, паліла даволі моцна. Я дайшоў да ракі, якую аднойчы ўжо перасёк ва ўзгорках, перайшоў яе ў другі раз каля мора і стаў падымацца ў выдмы, туды, дзе павінен быў быць вісячы мост. Перада мной разьбягаліся авечкі, стрыжаныя ды яшчэ калматыя, адбягалі подскакам, з хрыплым блекатаньнем і спыняліся, мяркуючы, што цяпер яны ў бясьпецы, і зноў прымаліся шчыпаць траву з раскіданымі там і тут кветкамі.

Памятаецца, калісьці я пагарджаў авечкамі за іх фенаменальнае глупства. Я глядзеў, як яны жаруць, жаруць і жаруць. Я бачыў, як адна сабака можа перахітрыць цэлую чараду, я сам ганяў іх і рагатаў над іх нязграбным бегам, я бачыў, у якія дурныя сітуацыі яны трапляюць спрэс і побач па ўласнай добрай волі, і думаў, што баранінаю яны заканчваюць цалкам заканамерна, а эксплюатацыя іх у якасьці хадзячых камбінатаў па вытворчасьці воўны – гэта яшчэ занадта гуманна. Спатрэбіліся гады й доўгія роздумы, пакуль я змог ўсьвядоміць, што на самой справе авечкі праяўлялі ня ўласную тупасьць, а нашу сілу й ганарлівасьць.

Пасьля таго як я даведаўся пра эвалюцыю й трохі пра гісторыю жывёлагадоўлі, я зразумеў – дурныя белыя жывёлы, над якімі я сьмяяўся, таму што яны хадзілі сьледам адзін за адным і блыталіся ў хмызах, былі настолькі ж вынікам працы пакаленьняў фермераў, наколькі й вынікам размнажэньня пакаленьняў авечак; мы стварылі іх, мы вылепілі іх зь дзікіх ды разумных жывёл, якія былі іх продкамі, каб яны сталі пакорлівымі, дурнымі, смачнымі вытворцамі воўны. Мы не хацелі, каб яны былі кемлівымі, а інтэлект і агрэсіўнасьць у пэўнай ступені ўзаемазвязаныя. Бараны, вядома, разумнейшыя, але нават іх абражае грамадства бязмозгіх самак, якіх яны павінны апладняць.

Той жа прынцып выкарыстоўваецца ў дачыненьні і да курэй, і да кароў, і амаль да ўсяго, да чаго змаглі надоўга дацягнуцца нашыя прагныя, галодныя рукі. Часам я думаю: падобнае магло стацца і з жанчынамі, але, якой бы прывабнай ні была гэтая тэорыя, баюся, што я памыляюся.

Вярнуўся я акурат да вячэры, галодны як воўк; праглынуў яечню, мяса, смажаную бульбу з бабамі й рэшту вечара глядзеў тэлевізар, запалкай выкалупваючы з рота кавалачкі мёртвай каровы.

***Пераклаў з ангельскае мовы Віталь Латыш.***
***Паводле выданьня THE WASP FACTORY Iain Banks, Abacus, 1987, ISBN 0349102145***